*Калісьці ў Бацькаўшчыне*
*Пад шэпт дажджу*
*Заснуў я глыбокім  сном...*

UDK 882. 6-4
РА 454

*Мілай дарагой каханай жонцы*
*гэтую кнігу ахвярую.*
*Зянон*

# Р А З Ь Д З Е Л Ы



П а д т р ы м к а.
Кніга аддрукаваная пры грашовай падтрымцы „Беларускай Фундацыі імя Рамуальда Траўгута” ў Варшаве (асноўны фундатар), а таксама на сродкі аўтара.

Фота на першай вокладцы: Скульптура на франтоне Віленскай катэдры. (Зьнята ў 2012 г. Кмпкт 1/2,3. Sony DSC-HX100V)
Фота на другой вокладцы: Сьвятло з-за хмар. (Зьнята ў 2012 г. Sigma SD14, RAW)

ISBN 978-9955-578-06-2

# ФАТАГРАФІІ І ВЕРШЫ



*2. Дождж.*

Гэтая кніга напісана і выкладзена з пазыцыі нашага народнага бачаньня сьвету. Традыцыйны беларус зыходзіць са здаровага сэнсу, існаваньня Бога і павагі да ўсіх людзей. Для яго важна, каб было хараша і добра. Першая частка кнігі – гэта «Фатаграфіі і вершы» – сымбіёз вершаў і аўтарскіх фатаграфіяў, зьнятых апошнім часам, і некаторых ранейшых. Тут погляд лірычны і суб’ектыўны, засяроджаны на простых рэчах і адчуваньнях, над якімі, звычайна, людзі не задумваюцца, але сьвет (наш народны сьвет) напоўнены гэтымі рэфлексіямі і духам.

Другая частка – «Апавяданьні» (тут апавяданьні, выказваньні, эсэ, успаміны), пасьвечана той жа тэматыцы штодзённых рэчаў жыцьця, дзе выяўлена імкненьне паказаць звыклыя вобразы і тыпажы простых беларусаў у звыклых для іх абставінах.

Трэцяя частка – «Народная філасофія (дэфініцыі, артыкулы, нарысы)» – гэта ў большасьці тэрміналагічны слоўнік па асобных пытаньнях палітыкі і грамадзкага разьвіцьця, зроблены з мэтай народнай асьветы і доступу да інфармацыі пра надзённыя тэмы. Гэта ня ёсьць тэксты па філасофіі, але вольнае асэнсаваньне зьяў з гледзішча народнага падыходу. Некаторыя артыкулы слоўніка пашыраныя да выкладу праблематыкі, якая ёсьць актуальнай для грамадзкага разуменьня.

*Аўтар*

# *Кветкі і дрэвы*

## Боскасьць

Хараство Зямлі,
З чым цябе параўнаць?
А ні з чым,
Бо нават самае багатае ўяўленьне
Не сягае вышэй
за зямную красу.

*4. 02. 2007*

## Маланка

Над летняй Гаўёй
Засьпеў мяне дождж у начы.
Калі бліснула маланка,
На імгненьне ўбачыў,
Што ад кропляў вада бурліць.

*III. 2013*

## Разьліў

Як прыгожа!
Ад летніх дажджоў разьлілася Гаўя.
А некаму ж поле затопіць.

*15. 03. 2013*



*3. Акацыя.*

## Страказа

У плыні Гаўі
                    зьвіваецца пасма травы.
Фіялетавая страказа
Калышацца разам з травой.

*24. XI. 2012*

# *Акіян-мора*

## Вакно

Бывае стане вельмі кепска,
І думкі апануюць
Непатрэбныя, цяжкія,
І патрабуюць адказаць
Там, дзе няма адказу.
Гляну ў вакно –
Акіян відаць
Без канца і краю,
Вялікі, як сьвет.
Губляюцца хвалі ў бязьмежжы.

*10. 04. 2013*

## Коцяцца воды

На другім канцы сьвету,
Дзе я,
Зелянее платан.
А там, як некалі, пэўна,
Коцяцца воды Гаўі ў акіян.

*10. 07. 2007*



*17. Жоўтыя воблакі над сінім марам.*

## Воблакі

*(З цыклу „Жоўтыя воблакі")*

Воблакі над вадой,
Як некалі.
І часам здаецца:
Вось яна, Айчына,
За небаспадам.

*11. 04. 2012*

## Вецер

Сьвежы вецер з акіяна
Ўздымае ня толькі чайку,
Але і мой дух.

*6. 04. 2013*





*22. Хмара над акіянам.*

## Бэй-стрыт

Зірнуў у вакно
                    на сьвітаньні –
Над жоўтай зарою,
                          над морам
Адзінокая чайка ляціць.

*19. XI. 2008*




*25. Белая ноч над залівам.*



*26. Карабель, асьветлены сонцам з-за хмар.*

## Карабель

Ноччу ў тумане,
Як жывы,
Карабель плыве,
Нібы нейкі сусьвет.
Акіян без канца.
Цішыня.
І халодныя хвалі.

*12. 05. 2013*



*27. Вечар над залівам.*

## Небаспад

Карабель у тумане,
На кромцы вады
Сплывае за небаспад.
Ну хіба ж не відаць,
Што круглая наша Зямля?!

*22. X. 2011*



*28. Сьвітаньне над акіянам.*

## Цень карабля

Ледзь-ледзь затрымцела сьвітаньне.
Здаецца, сьпіць яшчэ цэлы сусьвет,
А цень карабля ў акіяне плыве.

*29. 08. 2012*

* * *

Карабель у тумане,
Як жывая істота,
Цямнее ў начы.

*19. 04. 2012*



*29. Начны круіз.*

* * *

Ноччу агнямі
Зіхціць карабель –
цэлы сьвет.
А навокал – адна вада.

*19. 04. 2012*

## Жыцьцё карабля

На раніцы, ледзь сьвет,
Калі ўсё яшчэ сьпіць,
Гляджу праз вакно:
Вялікі карабель, нібы дом,
Ціха плыве па заліве.

*14. 05. 2013*

# *Пірс*

## Пірс

Разьбіваюцца хвалі аб пірс.
Пырскі лятуць.
Лямант чаек зьліваецца з шума вады.

*29. X. 2012*

## Хвалі

Нават гэты пірс
Разламалі высокія хвалі.
Вось табе і бэтон!

*14. 03. 2013*

## Паходка

Чорная жанчына,
Як на парадзе ідзе,
Пакідаючы сьлед на пяску.

*(З цыклу „Пірс”)*



*30. Паходка.*

# *Воблакі*

## Вечарэе
*(З цыклу „Жоўтыя воблакі")*

Канчаецца дзень,
І лета канчаецца.
І жоўтыя воблакі над вадой.
Як шкода,
Але што зробіш.

*11. 04. 2012*

## Воблака

З вышыні бачу,
Як апусьцілася воблака на акіян,
Нібы лава, на бераг імкне.
А нехта падумае:
Гэта туман.

*12. 05. 2013*



*38. Воблакі па дарозе ў Вільню.*

# *Съвятло Месяца*

*44. Першая квадра. (Зьнята: кмпкт Sony DSC-HX100V; $^{1}/_{2,3}$)*





*45. Марская ракавіна на пяску, асьветленая сонцам.*

## Начное неба

Месяц на небе
І Месяц ў небе –
Не адно і тое ж.
У Космасе шмат месяцаў.
І нават на дне марскім
Месячка ёсьць.
Толькі хто тое бачыць?

*X. 2013*

* * *

Зьледзянелае гольле бяроз.
І месяц над гаем
Вісіцьу марозную ноч.

*4. 02. 2007*



*46. Месяц між хмар.*

## Месяц на небе

Ці бачылі вы,
Як з-за хмар
Выплывае над морам
лiпеньскi Месяц?

* * *

Месяц за хмарамі,
нібы жывы.
Зьмяняе аблічча,
Плыве і плыве
над Зямлёй.

* * *

Вецер сьвішча.
Пад пірсам прыбой.
Як зграя, варон
набягаюць на Месяц
чорныя хмары.

* * *

Даўно-даўно,
калі ехалі мы
ў начы,
Успамінаю,
Як выплыў з-за хмараў
ліпеньскі Месяц.

*28. 08. 2012*



*47. Платан, асьветлены Месяцам.*



*49. Поўня.*

## Сьвятло месяца

Месяц абуджае пачуцьцё таемнай прысутнасьці.
А яркае сонца – не.
Сьвятло Месяца ўцягвае,
А сонца – грэе.
Месяц – містыка. Сонца – рэальнасьць.

*13. 03. 2013*

## Рама

Хмара сплыла
І выглянуў Месяц.
Адбітак ад рамы вакна
На стале
Павольна спаўзае на край.

*4. XI. 2012*



*50. Ракавіна.*

## Бор

Вечарам у прыцемку
Над чужым горадам
Я ўбачыў жнівеньскі месяц.
Як даўно я не глядзеў на яго
Над нашай зямлёй,
Там, у Ворах,
Дзе шэры валун,
Там, над Гаўёй.
Дзе вечны бор,
Якога няма...
Ён стаўся маёй істотай.
І, як некалі,
Стаю над ракой,
Вечнай таксама,
Пад воблакамі, як вата,
Як сьнежныя горы...
Пад ветрам
Мае верхавіны шумяць...

*9. VIII. 2008*

## Начны дождж

Дождж прашумеў.
Ліхтар у бярозавым лісьці,
Нібы захмараны Месяц сьвеціць.

*28. 08. 2012*

## Месячка

(Дзіцячы вершык)
Месяц – палавінка,
Месяц – гарбузок
Сьвеціцца ў ваконца,
У малады садок.
Яблычак зваліўся,
Стукнуў аб зямлю.
Месячка хіснуўся –
І плыве сабе.

*2. 05. 2012*

## Месяц у вакне

Месяц, Месячка,
Ты наш прыгожы,
Сто гадоў цябе ня бачыў
У сваім вакне.
Ізноў ты сьвеціш мне
Праз белыя фіранкі.
І ўспамінаю я Айчыны дом,
Калі над вішнямі даўно-даўно
Блішчэла ўсім твая краса.
Недзе там, за Гаўёй,
За сінім лесам і небаспадам,
Далёка-далёка,
Дзе нас не было,
Дзе толькі звон касьцельны
Зьвініць
над вячэрнім
полем.

*1. 05. 2012*



*55. Чайкі лунаюць.*

## Вее вецер

Чайкі пад ветрам
На крылах вісяць нерухома.
Дыхае акіян.

*6. 04. 2013*

## Кармаран

Сушыць крыльцы кармаран.
І слата, і вецер золкі.
А наперадзе йшчэ й нуркаваць.

*22. 07. 2013*



*56. Кармараны золкім днём.*



*57. Чайка над вадой.*

## Чайка над берагам

Праляцела чайка
Блізка, нібы матыль.
Дзівіцца на мяне, глядзіць.
А я ж ведаю – хоча есьці,
Каб што-небудзь даў.

*6. 04. 201*



*58. Крыльлі Анёла.*

## Крылы

– Будзьце, як птушкі нябесныя, –
Сказаў Гасподзь.
І падумаў я:
Вольны той, хто лятае.
І Анёл – вольны.

*IX. 2012*



## Чайка над залівам

Калі я расплюшчыў вочы,
У небе ляцеў анёл...
Аж гэта чайка
Асьветлена ранішнім сонцам.

*28. 01. 2012*

## Ікар

Хлопчык пайшоў да сонца.
Ішоў-ішоў,
А яно ўсё далёка.
І тады думае:
Эх, быў бы я птушкай!

*III. 2013*



*60. - 61.Чайкі лятаюць.*



*62. Палёт гусей.*

## Лёт

Калі я ляжаў і глядзеў у неба,
Прасьвісталі ў паветры імкліва
Дзікія гусі.

*2013 г.*

## Фатаграфую птушак

Зьняў – і чую крыльляў сьвіст.
Вось і ў кніжцы маёй
Птушкі лятаюць.

*12. 05. 2013*



## Гусі

Закацілася сонца за мора.
Засьцілаецца змрок.
Шэрыя гусі лятуць над вадой.

*18. 05. 2013*



## Птушкі

Назіраючы, падумаў
Пра нялёгкае жыцьцё птушак.
Але ж – лятаюць.

* * *

Галубы шчэ й варкуюць.
А чайкам дык толькі паесьць.
(Часам, як людзі).

* * *

Птушка ў фас,
Дык нейкі дух містычны,
Нават галуб, як сакол.

* * *

Лятаньне, як свабода.
Таму і кажам:
„Вольны, як птушка”.

*10. 09. 2012*

## Галуб

І ты б тут зьвіў гняздо, галуб,
Пад гэтым пірсам.
Але ж людзі
і буйныя хвалі.

*(З цыклу „Пірс”).*

## Галубка

А галубка, як самотная каралева,
Узіраецца ўніз
На прыбой.

*(З цыклу „Пірс”). 6. 04. 2013*

*66. Палёт над кадрам.*



*67. Чайка ў фас.*



*68. Галуб наўпрост.*

* * *

Чалавека пазнаеш у твар,
Птушку – ў профіль.



*72. Драпежная чайка ляціць на фоне воблакаў.*

## Чайка

Усе кажуць, сьпяваюць, пяюць:
„Чайка” ды „чайка” –
Птушка нябесная,
Мара ўзьнёслая...
З гледзішча рыбы, аднак, –
Жудасьць драпежная
Гэтая чайка!
Бандзюга марскі
Ды ляцячая сьмерць.
Але ж рыба маўчыць.

*16. 05. 2013*

# *Сьвятло Айчыны*

* * *

Жыцьцём мы павязаны з маці,
А духам з Айчынай.
Як добра, што Айчына ёсьць!

*XI. 2012*

## Сьвет

Жывучы ў харастве,
Здаецца, што гэта звычайна
І недзе ёсьць іншы далёкі і лепшы сьвет.
І толькі паехаўшы ў сьвет, разумееш:
Нічога няма лепшага за сваё.

*25. 03. 2013*

## Род

Найвялікшы твор
Кожнай жанчыны –
Гэта калі яна падорыць
                    для нацыі
Новага чалавека.
Найвялікшая праца мужчыны –
Гэта калі ён
Выхавае гэтага чалавека,
Які будзе разам з бацькамі
Шанаваць мову, Айчыну
І свой народ.

*24. V. 2013*

## Беларусь

Тая Беларусь,
Да якой імкнуўся зь юнацтва,
Відаць, зіхціць на гарызонце.
Ці гэта мираж?
Госпадзе,
            шчэ б толькі
                        адно жыцьцё!

*4. 02. 2007*

## Айчына

Раздумляючы над жыцьцём у канкрэтных вымярэньнях,
Прыходжу да высновы,
Што нарадзіўся ў найлепшым месцы на Зямлі.



*81. Кроплі на шкле.*

## За мяжой

Куды ні глянь –
Усюды сьвет чужы.
Але жыве мая Айчына.

*22. 07. 2013*

## Патрыя этэрна

Дваццаць гадоў вынішчэньне і зьдзек.
Але мы жывем і пераможам
Там, дзе пасеяна сьмерць.

*20. 03. 2013*



*82. У засені дрэў.*

## Можна б было...

Можна б было
Зусім па-іншаму жыць,
Калі б любоў ды воля,
Калі б свой народ,
Калі б свая мова,
Калі б Беларусь
Была Беларусяй.

*12. 01. 2013*

* * *

Стаць у праломе мура.



*83. Старасьвецкая студня ў Браславе. (Псэўдасалярызацыя. Зьнята ў 1968 годзе. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Браслаўшчына»).*



*84. Абразок Айчыны.*

* * *

О, Радзіма!
Ты ў памяці
Ветрам у полі,
За хатай, за плотам,
Дзе далёка віднеецца бор
І пахне маркотай
Шэры асеньні дождж.

*1. 04. 2006*

* * *

Калісьці ў Бацькаўшчыне
Пад шэпт дажджу
Заснуў я глыбокім сном.

*10. 01. 2013*

## Рацыё

За Радзіму
                ня страшна памерці.
Страшна толькі,
Калі з гэтага
Нічога ня стане,
Акрамя тваёй сьмерці
Ворагам на пацеху.

*16. 01. 2013*

## Ноч пасьля дажджу

Гром прагрымеў уначы.
Калі я выйшаў на двор,
Пахла мокрай травой,
І далёка гудзеў матор.

*28. 08. 2012*

*85. Дождж над вячэрняй сажалкай.*



* * *

Хай будзе моцным
І шчасьлівым
Наш шлях!

*2011 г.*

## Цёмная ноч

У Беларусі
не бывае цёмных начэй.
А гэтая, нібы сажа,
Доўгая, чорная і чужая
У душу запаўзае.
Але й яна праміне.

*28. 08. 2012*

## Ноч на чужыне

На Бацькаўшчыне і ноч таямніца.
Ноч на Радзіме –
Гэта шэпт Сусьвету,
Пранікненьне ў яго душу.
Тут – проста цёмна ў чужыне.
І нічога ня бачна
ў сьвятле ліхтароў.

*16. 01. 2013*

## На Беларусі

*(Любай жонцы)*

Бяжыць час –
І не старэе дух.
Жыла б Беларусь,
І мы пераможам
Любую нядолю.
Была б толькі воля,
Айчына і Неба,
І вецер у полі.

Хай згарым,
Хай разьвеемся дымам над Краем,
Толькі б слова гучэла,
І песьня сьпявала
Як родныя гоні,
Чырвоныя коні
З нашай даўняй Літвы пpыляцелі
І лебедзі-гусі...

На Беларусі
Аблокі сплываюць,
У даль адлятаюць.
Плывуць і плывуць
Над Зямлёй...

*10. 03. 2009*

## Вечны Курган

*(Памяці Каліноўскага*
*паводле выпадку)*

Было іх дванаццаць –
Увесь іх аддзел,
Што застаўся жывы.
Ім трэба на Вечны Курган.
А там – адпачнуць.
І сілы адновяць,
І порах прасушаць.
Загояцца раны,
Свая ж бо зямля.

Вясковая вуліца –
Доўгі прасьцяг
І хаты, бярозы, дубы.
– Дзе Вечны Курган?
Вочы ў дол.
– Дзе Вечны Курган?
Як ісьці?
Маўчанка.
І вочы адводзяць у бок.
– Каго баецёся?

Маўчаць.
Толькі дзеткі ўсьлед,
Што бягуць чарадой,
З захапленьнем на стрэльбы глядзяць.
(На стрэльбы – адна на дваіх.)
– Гэй, дзеці, дзе Вечны Курган?
– А там, дзядзка, там.
За вёскай, паночку.
За дубам – туды,
А потым – сюды
І проста балотам
Далёка да лесу ісьці.

І тупаюць боты ў пыл.
І веецца прапар.
І словы ў крок:
– Дзеля вас.
Дзеля вас і ваюем, малыя.
Для вас.
Хай прышласьць за вамі ідзе.

*9. 06. 2013*




*86. Памятны камень у Залесьсі. (1994 г.).*



*87. Брамка ў Малых Салечніках. (2012 г.).*



*88. Бледны месяц над касьцёлам. (Вільня, 2012 г.).*

## Вяртаньне

Ізноў я ўбачыў
Жніўеньскі месяц
Над Вільняй
Паміж белых
касьцельных веж.
І, як некалі, зноў
Шчасьліва
мая душа
жыве.

*30. 07. 2012*



*89. Ганна і Бэрнардынец. (Вільня, 2012 г.).*



*90. Брама ў Дзявенішках. (2012 г.).*

## У лесе пад Вільняй

Няўжо я тут ізноў,
Дзе хвойны водар і спакой,
І пах знаёмы ў цішыні.
Адвечны час...
І дзесь далёка,
Між гэтым Небам і Зямлёй,
Мой дом віднее адзінока,
Як замак-Дух над галавой.
І чую шэлест той лістоты
Адтуль...
        адтуль здалёку...
Грукочуць жорны ў млыне.
Лунае замак мой высока,
І майскі бэз, як сіні дым,
Цьвіце,
      квітнее
            без мяне...

*2008 г.*



*91. Нарвілішкі. Позірк на замак.*

## Мяжа каля Нарвілішак

Чую галасы за лесам.
Тут могілкі і касьцёл,
І родная зямля.
Мілая Айчына,
Ты ўжо за мяжой.

*28. X. 2009*

## Мерачанка

Мерачанка нясьпешна плыве.
Як знаёмая мне яе плынь
І альховыя берагі!

*2012 г.*



*92. Рэчка Мерачанка каля Паўлава. (2012 г.).*



*93. Краявід на Віленшчыне.*

## Запусьценьне ў сьвятым месцы

Я еду здалёк.
Ізноў мая Вільня на гарызонце.
Але ня б'ецца маё сэрца,
Не займае дых..,
Сам ня ведаю чаму.
Пустыя вуліцы,
Плошчы пустыя
І нікога няма.
Я адзін у маёй сталіцы.
– Гэй, шляхта, гэй!
Гэй, хто ёсьць?
Адбіваецца голас у сутарэньнях
Над галовамі перасяленцаў,
Якія нічога не разумеюць.
І толькі муры, як калісьці, стаяць,
І толькі Вяльля, як некалі,
Ў Нёман цячэ.

*28. 09. 2013*

* * *

І Антокаль разбудаваўся.
Таёта, Нісан, Опэль-Бэнц.
А Вяльля сабе ціха плыве.

*28. X. 2009*

## Восень-2009

Калі я восеньню
Ішоў па Вільні,
Сьнегам дыхнула зь нябёс.
Ізноў я тут,
Амаль на радзіме.

*28. X. 2009*



*97. Першы сьнег на хутары пад Вільняй. (2009 г.).*



*98. Вільня надвячоркам. Катэдральны пляц. (2012 г.).*

## Вільня-2009

Штосьці зьнікла,
Зьмянілася ў гэтых мурах.
Быццам нехта памёр.
Адчужэньне.
Мо' мяжа вінавата?
Мо' мовы чужы «шэратон»?
Мо' – хіба,
Што ад'ехалі ў вечнасьць
Мае сябры?
Мо сьцямнелыя вокны
За сэрца бяруць,
Дзе сьвяціўся
Знаёмы агонь?

*28. X. 2009*





*102. Брамка і касьцёл у Каменцы. (2012 г.).*



*104. Партальны фасад касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы. (Вільня, 2009 г.).*



105. *Вежа касьцёла сьвятога Яна. (Вільня, 2012 г.).*



106. *Дзьверы касьцёла Уваянясеньня Гасподняга і кляштару місіянераў. (18 ст. Вільня, фота 2012 г.).*

# *Быцьцё*

## Асеньні цягнік

Кроплі на шкле.
Пустыя палі за вакном,
Як лента
жыцьця,
бягуць.

*22. 08. 2008*

## Нядзеля

Поўная цішыня на сьвітаньні,
Потым моўчкі ўздымаецца сонца.
І толькі калі на вежы касьцельнай
Зазьвініць нядзельны звон,
Адчуваеш, што сьвет жывы.

*22. 03. 2013*

## Звычайны быт

Бачу здалёк:
Жонка з дому ідзе.
Спатыкае суседку:
Усклікі, вітаньне і сьмех.
Як гэта прыемна!

*X. 2012*

## Ноччу прачнуўся

За сьцяной панэльнага дома
Ноччу глыбокай чую
Адзінокай жанчыны плач.

*III. 2013*

## Лавачка

Скажы мне, брат,
Калі змораны, па дарозе
Ты лавачку збоку ўбачыш,
Чаму яна будзе зламана,
Каб ніхто не прысеў?

*9. 04. 2013*

## Даўно было

Ноччу шэлест мяне разбудзіў.
Мама шые пры лямпе
Мой дзіравы заношаны плашч.

*2. 03. 2013*



*107. Асеньні хутар на Валожыншчыне. (Зьнята ў пач. 1970-х гг., «Іскра» 6х6).*

## Станцыя

Седзячы на пэроне, бачу,
Як імчыцца цягнік цераз ноч.
Людзі ў вокнах, сьвятло.
Прамільгнуў – і вярнулася цемра ізноў.
Конікі шалясьцяць.

*17. 03. 2013*

## Рэальнасьць восені

Цікае гадзіньнік
                    у цішыні,
У чужым доме,
У чужой краіне.
Сьвішча за шыбамі
Вецер асеньні.

*X. 2012*

## Дачасны быт

І ўсё ж такі,
Як бы ні было тут цяжка жыць,
Ёсьць дах над галавой.
І цяпло.
І вакно ў акіян.
Але не маё гэта вакно.
Ня мой гэта дах.
І акіян чужы.

*4. XI. 2012. Нью-Ёрк*

## Індзеец

Падышоў індзеец і сказаў:
– Я індзеец.
Як даехаць да Бэргэн-стрыт?

*14. X. 2011*

## Мудрасьць

Ёсьць рэчы,
Якія раптам
Разумееш з гадамі,
Усьведамляючы,
Што нікому пра тое
Ужо нельга казаць.

*12. 06. 2013*



*108. Акно ў Брукліне. (2008 г.).*



*109. Дом часовага пражываньня. (2010 г., Бруклін).*

## Сьвятло і цемра

Сьвет жыве ў цемры,
Але разьвіваецца ў сьвятле.

*25. XI. 2010*

## У дарозе зімой

Белая сьцюжа
Вее ўсьлед цягніку
над дарогай.
І халодны пусты вагон.

*6. 01. 2008*

## Старыя сябры

Ізноў я ўбачыў
Вашыя аблічча.
Узіраюся моўчкі.
Як даўней – галасы.
Шукаю сваю маладосьць.

*28. X. 2009*

## Ратуйма нашы душы

У часы войнаў і генацыду
Мы трацілі людзей.
Цяпер, сутыкнуўшыся
З п'яным Усходам
І ўпадкам Эўропы,
Мы трацім душы.

*4. V. 2013*

## Прагматызм

Яны сталі поўзаць,
Думаючы, што потым
Будуць лятаць.

*2000 г.*

## Аб мудрасьці чытаньня

Той, хто піша, – тварэц.
Але хто чытае – таксама творца,
Пражывае ў сабе
Ілюзорны сьвет,
Які робіцца часткай
Яго душы.

*10. XII. 2008*

## Дно

Трапіўшы на дно,
Раблю выгляд, што на паверхні,
Каб не ўтапілі свае.

*110. Прадметы амэрыканскага быту. (2010 г.).*

## Памяць роду

Нараніцы выйшаў
на дымны Брадвэй.
На секунду
Пачуўся мне
пах Гаўі.

*VII. 2007*



*111. Бруклінскі бадзяжны кот.*



*112. Вакно на «Ошэн эвеню».*

## Сонца

Таму, хто чакае,
Што загляне сонца
У яго ваконца,
Сонца не загляне ніколі.
Сонца сьвеціць таму,
Хто да яго імкнецца.

*8. 02. 2013*

## У абліччах сяброў сябе пазнаў

Як даўно вас ня бачыў, сябры юнацтва!
Як вы ўсе пастарэлі!
А я думаў: нязьменна жыву.

*13. 03. 2013*

## Сьвята ў Вязынцы

Прайшла жанчына ў народным строі,
Падтрымліваючы падол.
Далёка ў натоўпе відаць яе намітка.

*5. 04. 2013*



*113. Асеньняя Гаўя ў Куце. (Зьнята ў пач. 1970-х гг.).*

## Вакзал

Даўняга сябра
З былога жыцьця
Я спаткаў на варшаўскім вакзале.
– Я ўвесь час – за цябе, –
Мне гаворыць.
– Дзякуй, сябра, – кажу. –
Падымай нашу Мову і Сьцяг,
Падымай нашу Веру й Пагоню,
Падымі маё імя з зямлі.
– Я б падняў, вер мне, вер,
Але выганяць з працы мяне.
За што жыць?
Табе лёгка ў сьвеце.
Цябе не дастаць.
І ў арышт цябе не пасадзяць.
– Ты прабач мяне, сябра былы, ты прабач.
Засмуціў незнарок цябе ў скрусе.
Я гатоў без імя існаваць.
Без імя.
Толькі ў роднай маёй Беларусі.

*20. 08. 2013*




*114. Укрыжаваньне са збору Габсбургаў. (Зьнята ў музэі ў Вене. 2010 г.)*

# *Бог*

## Бог спаміж нас

Пабуджэньне да творчасьці – гэта ўсьведамленьне таго,
што ёсьць людзі, якія адчуваюць жыцьцё тваёй душы.
Адзінства душ – гэта прысутнасьць Бога.

*30. X. 2008*

## Тэрра Дэй

Рэфлексіі прыходзяць,
Калі адзін
і прыродная цішыня.
І, незалежна ад волі,
Раптам усьведамляеш,
Што ўвесь гэты час
Падсьведама,
Як засьмяглы вады,
Як мора марак,
Як ветру млын у полі чыстым,
Як вадапою конь,
Шукаю гэтак
На Беларусі Бога я.

*27. XI. 2009*



*115. Касьцёл ў Еленяй Гуры (Гіршбэрг). Зьнята ў 2008 г.*

* * *

Чалавек не адзінокі,
Бо ёсьць Бог.

*15. 03. 2011*

* * *

Сям'я – гэта
Маленькая царква.

## Жыцьцё

Сэнс жыцьця ёсьць у самым жыцьці,
Бо жыць добра.
І таму – чалавеку хацелася б жыць вечна.
У імкненьні да вечнасьці
Ёсьць найвышэйшы сэнс існаваньня.
Але гэты сэнс недасягальны бяз Бога,
Бо толькі Бог – вечны.



*116. Скульптура перад уваходам у Францішканскі касьцёл у Новым Ёрку. (Зьнята ў 2012 г.)*



*117. Галоўны нэф сабора сьвятога Патрыка ў Нью-Ёрку. (Зьнята ў 2005 г.)*



*118. Інтэр'ер касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы ў Вільні. (Зьнята ў 2008 г.)*



*119. Галоўны алтар драўлянага касьцёла вікінгаў XII-XIII ст. (Карпач каля Еленяй Гуры. Польшча. Зьнята ў 2008 г.)*



*120. Кніга, уратаваная з агню.*

## Філосафы

Яны мяркуюць пра магчымасьць Бога
Ды першапрычыны Сьвету,
Не разумеючы,
Што Бог усё, што трэба, сказаў пра Сябе Сам.
Ну, ці ж не сьляпыя яны?

## Вера і розум

Чалавечае разуменьне справядлівасьці
Не заўсёды супадае з справядлівасьцю Божай.
Тады адны сумняваюцца і ўсё адмаўляюць,
Іншыя – вераць і далучаюцца да праўды,
Якую людзям пазнаць не дадзена.

## Мэта

Мэта, дзеля якой на Зямлі існуе чалавецтва,
Ажыцьцёвіцца, нават калі вымруць усе людзі,
Бо гэта мэта Божая,
Пра якую мы здагадваемся, што яна вечная.



*121. Летні заліў.*

## Лета над залівам

Калі я летам убачыў
Гэты сонечны бляск над залівам,
Я адчуў тут прысутнасьць Бога
І зразумеў:
Бог там, дзе цёплае хараство.

*6. 04. 2013*

## Дзяўчынка

Дзяўчынка ў белым
сур’ёзна
Вершык чытае
пра Бога.
Як гэта прыгожа!

*28. 06. 2013*

## Школа

Зямное жыцьцё –
Гэта Боская школа чалавека
Дзеля яго душы,
Дзе трэба быць вельмі ўважлівым вучнем,
Каб навуцыцца і пражыць не дарма.

# *Зямля*



* * *

Якая прыгожая Зямля!
І жыць – добра!

*15. XI. 2010*



## Жыццё, як сон

Падарожжы, карціны зямлі
І сны аб Беларусі:
Дзе рэальнасьць,
Дзе сон –
У памяці
ўсё зьлілося ў адно.

*28. X. 2009*



*122. Вясеньняе ворыва на Сакольшчыне (зьнята ў 2010 г.).*

*123. Чырвоная зямля. Сувальшчына. (2010 г.).*



*125. Поле перад заходам сонца каля Ломжы.*

## Бацькаўшчына далёка

Тут час спыніўся.
А там –
Ляціць,
                як асеньнія хмары.

*4. 02. 2007*

## Еду цягніком

Расплываецца дым
                                над палямі.
Столькі сілы ў душы,
А жыцьцё прамінае
                                хутка.

*6. 01. 2008*



*126. Ворыва на Сакольшчыне.*

## Сьвежы дзень

За паўдня
з поля зьбег
Сьнег вясеньні.
Ходзіць грак
Па адталай ральлі.
І ты ў памяці маёй, вандроўнік.

*5. IX. 2007*

## Далёка

Ад чужое краіны
Ні радасьці, ні натхненьня.
А Радзіма далёка.

*11. 04. 2012*



*127. Вясеньні эцюд пад Аўгустовым. (2008 г.).*

## Настае сакавік

Ручаінкі цякуць,
Тае сьнег,
І між белі
Чарнеецца ў полі ральля.
І дуб разгалісты, шырокі,
Як рыцар збройны
Без папроку,
Стаіць над вешняю зямлёй
Далёка там, у Беларусі.

*10. 03. 2009*

## Соль чужыны

На чужыне,
Калі ляціць жыцьцё,
Галоўнае не азірацца:
Толькі наперад.
І коней гнаць.
Гнаць, пакуль бягуць,
Каб не сканаць у снах –
У днях, што прамінулі.

*27. 06. 2012*



*128. Нарвілішкі. Не было тут ніколі мяжы. (2008 г.).*

## Сакавік на чужыне

*(жонцы)*

Ізноў вясна і сакавік,
Ізноў у Беларусі
Сьцякаюць кроплі зь ледзяшоў,
Спаўзае з даху сьнег
Пад сьпеў шпачыны.
І грак на бярозе сядзіць,
Чакае сваіх гракоў.
Толькі нас там яшчэ няма,
Бо надта цяжкі
Наш шлях.

*10. 03. 2011*

# *Згукі памяці і Айчыны*

## Гэты сьвет

Памятаю дрэва,
Якога няма.
Над Гаўёй вярба ніцая.
Серабрыстае лісьце ў вадзе –
Не напіцца мне.
Плоткі гуляюць,
І пахне аер.
Хмель шурпаты
Па вольсе паўзе.
Летні дзень і спакой.
Сіні бор
Нерухома адбіўся ў вадзе:
Перакулены сьвет,
Як званковы валет.
Цішыня-цішыня...
І шуменьне вады ля млына.
Там, далёка,
За бродам,
За згібам ракі,
Там жыве,
Там пульсуе
Мая далячынь.
Пыркі ў мора плывуць.
Напаўняецца хвалямі плынь.

*10. XII. 2008*

## Далёкі сьвет

Даўно ў дзяцінстве
Я йшоў каля поўнай,
Плывучай і чыстай Гаўі,
Назіраючы,
Як гуляе чародамі рыба,
І не ўяўляў,
Што гэтага
Можа ня быць.

*10. 01. 2013*

## Страчаны рай

Кожную весну ў раньні
Я йшоў у цьвітучы наш сад.
У белым хораме хор пчаліны,
А над вішнямі воблакі праплывалі
Штодзень
Над маім Сусьветам.
Але ж ёсьць людзі,
Што жылі без Сусьвету.
Як расказаць ім
Пра страчаны Рай?!

*2. 03. 2013*

## Сьвет далёкі

У раньні ветразь адзінокі
Усплывае рыбкаю са дна.
І што мне гэты сьвет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!
Усплывае ветразь адзінокі.
Мне далячынь – мая труна.
Мінаюць дні, гады, імгненьні,
Ня вып'ю мора я да дна.
І што мне гэты сьвет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Вось над вадою чарадою
Ляцелі гусі – сьвіст крыла.
Можа хоць гусі зь Беларусі,
Мо' не прывід, мо' не мана?
Ах, што мне гэты сьвет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма!

Ужо зоркі ў небе заблішчэлі.
Над акіянам зноў зіма.
Вакол Зямлі плыве тытанік:
Налійце моцнага віна!
Ім лёс, як песьня пра капусту,
Як келіх, выпіты да дна.
Дык што мне гэты сьвет далёкі,
Калі ўжо блізкага няма.
Дык што мне гэты сьвет далёкі..!

*22. X. 2011*

## Там

Бываюць мамэнты,
Калі так добра,
Што ня думаеш ні аб чым.
Ніякіх думак у галаве.
Сузіраеш ваду ў Гаўі,
Седзячы пад хвояй,
І сонца летні адсьвет
На тым беразе,
Дзе вольха й зялёны аер
Адбіваюцца ў плыні ракі,
І я, нібы частка яе,
Існую ўжо тысячу год
І буду вечна быць.
Але гэта ўсё там,
Далёка ў Беларусі.

*31. 03. 2013*

## Чаканьне

Той, хто чакае, –
Дачакаецца,
калі ўмее чакаць,
Бо ўсяму свой час.
Але чакаць трэба,
робячы,
Каб час прыйшоў.

*20. 04. 2013*



*130. Платаны ў горадзе.*

## Платан

А гэты платан,
Нібы плямісты зьвер
Ці як зьмяя заморская,
Чужы, як горад,
Што ляжыць
Ля цёплага сіняга мора.

*14. X. 2011*



*132. Сукаватае дрэва.*

## Чытаю паэзію кітайцаў

### Мудрасьць

Пачытаўшы кітайцаў,
Зразумеў мудрасьць:
Добра, калі жонка добрая.
Але калі жонка дрэнная,
То тады дрэнна.

### П’е, ледзьве ацьверазеўшы

Пачытаўшы гэтага Сінь-Цы-Цзі,
Падумаў: «Ну і кітайцы –
П’яніцы-прапойцы.
П’юць, халера на іх,
І пішуць, што п’юць».

### У нэфрытавай спальні сумна сумуе

Кітайка ў вежы
Глядзіць на раку ў далячынь.
Апошні прамень над вадой.
Лямантуе дзяркач.
Адплываюць чаўны.
Так сэрца стукае ў грудзях.
І дзе той Цьзя ўткнуўся!?

*23. XII. 2012*



*133. Вясеньні, шэры, мокры дзень. (Беласточчына, 2003 г.).*

## Любай жонцы на Каляды

Таго сьнегу на Бацькаўшчыне
Ўжо няма.
Як няма яго на чужыне.
Але мы знойдзем яго зноў
У Каляднай Беларусі,
У радасных днях,
У сьвежым ветры,
Што будзе гучэць
Аб нашай будучыні.
І стануцца пакуты сном.

*19. XII. 2006*

## Сьпеў

Чым далей жыву,
Тым больш мне гучыць
Маладосьці сьпеў.
І міжволі
Сьпяшаюся я.

*22. 07. 2006*

## Усход

Ужо днее над залівам.
Бляск адбіўся насупраць
У шыбах вакна,
Як некалі ў Беларусі.
Але гэта чужы ўсход.

*2. VIII. 2008*

## Памяць

Не зьмяніцца б мне
У слуп салявы.
Пра страчаны рай,
Пра жоўты далёкі час
Уяўленьні мае шчымяць
Кожны дзень, кожны час...
Бацькаўшчына недасягальная.

*18.XII. 2009*

## Насарог

*(З цыклу „Насарогі")*

А ў заказьніку бачу:
Вялікі насарог
Пад дзьве тоны вагой
Пасецца сабе, як карова,
Адну толькі траўку скубе.
А чалавек, людцы мае,
Нейкіх 70 кіль,
І тое яму, і гэта падай.
Ну дзе ж тут парадак!

*14. 05. 2013*

## Паляваньне на насарога

Насарог – гэта вялікая сьвіньня,
Якой Бог даў рогі.
Трэба мець добры вінчэсьцер
І цэліць у рог.
Бо калі ў лэб –
Толькі кулю змарнуеш.
Лэб у насарога самы моцны.
Мацней за жалеза,
І нават за дуб.
Вось у тым-та і справа.

*14. 05. 2013*



*134. Гэта не насарог, гэта жырафа.*

## Чарада

Калі чарада насарогаў прэ,
То страляць – няма толку.
Трэба ўзяць доўгую пугу
І запыніць чараду назад,
Бо чарада да пугі прывычная.

*14. 05. 2013*

## Насарогі

Насарогі бываюць
Зялёныя, чырвоныя і рудыя.
Найгоршыя – гэта чырвоныя,
Бо падобныя на карову.
А ведама – карова!
Людзі думаюць,
Што малака дасьць.

*14. 05. 2013*



## Час

Ніяк не ўтрымаць час,
Хаця ўмоўна можна яго дагнаць.
Гэтак думаючы, разумееш:
Найвялікшая добрасьць у сьвеце –
Вечнасьць.

*4. 02. 2007*

## Жонцы пішу

Хваля на моры – імгненьне часу,
Што ў вечнасьць плыве.
Каханьне ж маё
плыве да цябе,
Нібы хваля ў моры,
да вечнасьці.

*10. 03. 2008*

## Раздумляю пра бягучы час

Крок за крокам
У лепшы сьвет
Паволі
зыходзяць
сябры.
Каб жа мне
мінуць тое кола,
Каб жа мне
ў яго не патрапіць,
Кола ізаляцыі,
Кола самоты,
Калі сьвет
становіцца
чужым.

*5. XI. 2009*

## Будучыня

Тыя, хто ў цяжкі час
Змагаюцца дзеля будучыні народа
Забудзьце пра сваё імя.
Будучыня для наступных.

*28.09. 2013*

*135. Драўляная скульптура каля касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы. Вільня 2008 г.*

## Народ

Мова ствараецца і жыве
У нізах.
Як гэта ня дзіўна
Для навучаных і разумных.
Беражыце
простыя
народ.

*29. 09. 2013*

## Вымярэньне

Час гісторыі ёсьць лінейны.
Але ўсе мы жывем у цыклічным Космасе.
Таму былое вяртаецца.

*8. 02. 2013*

## Зорка

Куды вы ляціце ў разнос,
Дарагія мае гады?
Усё жыцьцё
Мне наперадзе
Зорка блішчыць.

*6. 04. 2013*

## Фрагмэнт мёртвага духу

Назіраю бясконцую ноч.
Вось душы паэтаў
Над цемрай лятуць.
А мо' зоркі блішчаць?
– Ці бачыце бляск?
– Не.
І мёртвая ціш
Над бяздоньнем.

*8. 08. 2006*

## Пражыты час

Як малады – гаворыш,
Кажаш, чуеш,
Глядзіш і думаеш:
Тут – што?
Цяпер бывае
Вокам кінеш –
Як на далоньцы чалавек.

*10. 04. 2013*

## Бясконцасьць

Ёсьць цяперашчына,
Мінулае,
Будучае
І вечнае.
Што важнейшае?
Ну, пэўна ж, вечнасьць.
Але яна
Якраз і складаецца
З цяперашчыны,
Будучага
І мінулага,
Што існуюць разам.

*IV. 2013*

# Здаровы сэнс

## Аднойчы падумаў

*Назіраючы за людзкой псіхалогіяй,*
*я заўважыў і сабе запісаў:*

Не тыраны
Робяць рабоў,
Але рабы
Ствараюць тыранаў.
Дзіўная праўда на сьвеце:
Чалавек гіне ад нястачы,
Але горшыцца ад багацьця.
Ён марнее ад зла,
Але дурэе ад незаслужанай дабрыні.
Ён не беражэ здароўя,
Пакуль не зруйнуе.
Ён заўсёды хоча жыць,
Але не цікавіцца, дзеля чаго.

*5. VIII. 2008*

## Зоркі

Паэт творыць
з сваёй душы.
Прыглядаецца да сябе,
Каб убачыць сьвет,
Які толькі яго уяўленьне.
Але зоркі гараць
бяз нас.

*28. X. 2009*

## Шчасьце

Цытую вясковага беларуса па памяці:
– Шчасьце – гэта калі добра ажаніцца, і жонка, і дзеці харошыя.
Хтосьці, вядома, мог бы круціць адукаваным носам,
Пачуўшы такую “прозу”.
Але калі жонка дрэнная,
Ці муж п’яніца ды дзеці непуцёвыя,
То шчасьця няма
(Незалежна ад адукацыі, славы, прэтэнзіяў і багацьця).



*136. Успамін пра Вялікае Княства.*

## Чужая ўлада

Нельга паважаць закон
Чужой улады
На роднай зямлі.
Чужую ўладу
Трэба ліквідаваць
Разам зь яе законам.

*IV. 2012*

## Шызафрэнія

Па вуліцы
ішла вялікая дрэнь.
Усе праходзілі
і рабілі выгляд,
Што не заўважаюць.
Тады вялікая дрэнь
Узьлезла на стол,
Задрала спадніцу
І паказала фігу.
Усе сталі глядзець
У фігу вялікай дрэні,
Пакуль дрэнь
ня села ўсім на галаву.
Тады сталі насіць дрэнь па горадзе
І выстаўляць напаказ.
У выніку
дрэнь пачала расьці,
Пашырацца і множыцца,
Разьбягацца па сьценах,
Нібы машкара,
пацукі,
тараканы.
Адбываліся шэсьці мышэй,
фэміністак,
гібонаў.
Грымелі талеркі і бубны.
Брыда запаўзала ў дамы,
Апанавала кампутары і патэльні,
Прысвойвала дзяцей,
Пэцкала піцу,
Хапала жанок за лыткі
І іншыя месцы,
Груба парушала канвэнцыю і дэклярацыю,
Чхала на ўбікацыю і правы сабак,
Арганізавала патоп.
Аж пакуль, нарэшце,
Ні прыйшоў дворнік Цімох
І ні пагнаў усіх
К чортавай мацеры.

*14. X. 2012*



*137. Стравус.*

## Ушэсьце

Калі па могілках ходзіш адзін,
Душа напаўняецца
                    прысутнасьцю іншых,
Тых, што рукамі нашчадкаў
Пакінулі нам
                напамін аб сабе.
Навошта яны
                ўсё гэта зрабілі?
Стэлы і абеліскі.
Кругом ходзяць жывыя.
Чытаюць, маўчаць...
І тут разумееш:
Нэкропаль палоніць
І цягне цябе да сябе,
Нібы брама,
Бо за брамай
Ня можа нічога ня быць,
Нешта ёсьць,
А інакш –
Навошта ж была б тая брама?

*14. X. 2012*



*138. Вакно ў сад.*

## Што не напісана рукой

А на паперу просяцца
Мэлёдыі журбы
І моцныя пачуцьці
Аб стратах, горы ды расстаньні –
З душы плывуць.
Але навошта ўсё,
Каб нехта зажурыўся
І чорна плакаў па Радзіме?
Ня буду я пісаць.
І не пайду за сэрцам
Ды за душой усьлед.
Маё хай для мяне баліць.
Балесны між радкоў
Умее прачытаць,
Што не напісана рукой.

*16. 05. 2013*

# *Разважаньні*

## Агул

Няма канкрэтнага без агулу.
Ведаючы агул, – разумеем прыроду рэчаў.

## Слова

Бяз слова нічога не існуе, акрамя прыроды.

## Бясконцасьць пазнаньня

Сьвет пазнаваемы, але бясконцы,
Таму пазнаць яго немагчыма.

## Ідэалы

Ідэалы існуюць дзеля таго,
Каб чалавек не апусьціўся і не спыніўся ў сваім разьвіцьці.
Адмаўленьне ад ідэалаў ёсьць духоўная сьмерць.

## Вопыт

Каб задумацца пра сэнс існаваньня,
Іншым трэба пражыць цэлае жыцьцё.
Жыцьцёвы вопыт змушае да асэнсаваньня зьяў.

## Існаваньне

Разьвіцьцё ёсьць пастаяннае адраджэньне.
Не адраджаемся – не жывем.



*139. Крапіва пад ветрам і сьнегам.*

## Нараджэньне і сьмерць

Сьмерць і нараджэньне – галоўныя падзеі жыцьця.
Нарадзіўшыся, мы ня ведаем, што нас чакае.
Што будзе пасьля сьмерці – мы нічога ня ведаем.



*141. Фантастычны кот. (Беларускае мастацкае шкло. Зьнята ў 1968 г.)*

## Хваля

Хваля ёсьць форма
І формула хараства

## Лёс

Кожны народ,
Як і асобны чалавек,
Мае Боскую мэту.
Сутнасьці яе мы ня ведаем,
Але можам здагадвацца.

## Вера і сьмерць

Ні любоў, ні каханьне,
Ні нянавісьць, ні злосьць –
Нішто не пераможа сьмерці,
Толькі Вера:
Калі йдуць на сьмерць,
І ўпэўненыя, што не памруць.

*22. 08. 2012*

## Умова існаваньня

Калі б людзі не баяліся сьмерці,
То даўно вынішчылі б адзін аднаго.
Таму і жывуць, што баяцца.

*24. 08. 2012*

## Чалавек

Нішто не бывае бяз мэты.
Толькі хто пажынае плады?
Разбурэньне, як і стварэньне,
Мосьціць шлях дзеля новага сьвету.
Але ўсё зьнікае, калі бурыцца чалавек.

## Гісторыя

Сэнс гісторыі нам важны,
Пакуль мы існуем як народ,
Як цывілізацыя.
Але потым (калі б існаваньне скончылася)
Няма ніякага сэнсу,
Калі не ўсьведамляць,
Што ён месьціцца па-за намі,
З вонку, дзеля вечнага парадку,
Пра зьмест якога мы ня ведаем.



*142, 143, 144. Трыпціх «Брама» (Сьвятар, Прамень, Анёл). 2012 г.*





## Жыцьцё чалавека

Жыцьцё чалавека
Адрозьніваецца ад усялякага іншага жыцьця ў прыродзе тым,
Што чалавек
Здольны ахвяравацца ім
Дзеля існаваньня іншага чалавека
І нават дзеля ідэі чалавечага існаваньня людзей.

## Жыцьцё і сьмерць

Калі чалавек за жыцьцё
Не задумаўся над сэнсам свайго існаваньня,
То што ён можа думаць пра сьмерць.

## Рай

Немагчыма ўявіць сабе нешта лепшае і прыгажэйшае,
чым Зямля і гэты сьвет.
Хіба Рай.
Але як уявіць яго – Каралеўства Нябеснае?
Мо' лягчэй дасягнуць, чым яго ўявіць.

## Мова

Беларуская мова ёсьць аснова думаньня і інтэлектуальнага разьвіцьця.
Тыя, хто забываюць мову – трацяць свабоду.

## Нацыя

Народ – гэта экзыстэнцыяльнае ўтварэньне.
Нацыя – гэта прадукт ідэі і сацыяльнай неабходнасьці.
Гэта ідэалёгія. Без ідэі няма нацыі.

*2009 г.*

## Кшталт чалавечага

Самую высокую этычную культуру стварыў Беларускі народ,
і самае здаровае мастацтва – Беларускі фальклёр.

*X. 2008*

## Жанчына

Хораша чуць жаночыя галасы.
Бо гэта цуд – жаночае стварэньне!
Кожны чалавек нарадзіўся з жанчыны.
Шануйма яе, бо толькі яна
Можа быць маці нашага роду.

*X. 2012*

## Свабода-несвабода

Абсалютная свабода
Ёсьць несвабода.
У дачыненьнях з прыродай
Яна выяўляецца
Залежнасьцю ад прыроды.
У дачыненьнях з грамадзтвам –
Прыводзіць да крымінальнасьці.

*3. 01. 2013*

* * *

Парнаграфія – гэта ёсьць зьнявага жанчыны,
паклёп на таемнасьць каханьня.

*24. XI. 2012*

* * *

Гонар жанчыны – гэта яе цела.

## Бясстрашнасьць

Ухваляючы бясстрашша і сьмеласьць,
Ня кажуць пра Бога.
Але тут, як са свабодай,
Якой ў прыродзе няма.
Чалавек, які нічога не баіцца, –
Дрэнны чалавек.

*3. 01. 2013*

## Парадак

Сьвет пабудаваны ў парадку.
Успрыняцьце парадку сьвету ёсьць свабода

## Касмагонія культуры

Культура – ёсьць працяг Сусьвету
ў форме чалавецтва і ў разьвіцьці духа.
Гэта працэс сусьветнага парадку і заснаваны на табу.



*145. Рабаценьне вады пад Мірскім замкам. (1969 г.).*

## Жыцьцё і мэта

Калі ёсьць вялікая мэта, неабходна даражыць жыцьцём,
каб яе ажыцьцявіць і, калі трэба, – ахвяравацца ім дзеля вялікай мэты.

*8. 02. 2013*

## Тое, дзеля чаго...

Жывучы, трэба глядзець, каб ня страціць жыцьцё задарма, без патрэбы,
бо яно дарагое. Але тое, дзеля чаго жыве чалавек, яшчэ даражэй.

*8. 02. 2013*

## Шкодны занятак

Літаратура і паэзія ня тое што небясьпечны занятак для палітыка, але супрацьпаказны (асабліва ў акупаванай Беларусі), бо і недабразычліўцы, і некаторыя людзі будуць меркаваць пра яго палітыку па ягонай літаратуры, а літаратуру ўспрымаць, як палітыку.

Адзін наш вядомы гісторык пачытаў "Глёрыю" і так і напісаў сабе, што ўсё зразумеў: чалавек, які піша лірычныя вершы, ня можа быць прэзыдэнтам краіны. Квасьнеўскі вунь ня тое, што нічога ня піша, але й не чытае, але прэзыдэнтам Польшчы стаў. Дык яно й праўда.

*8. 02. 2013*

## Мера адхіленьня

Чаму дрэнь становіцца нормай?

У лібэральным сьвеце дзейнічае клясычная логіка права: калі прызнаюцца чые-небудзь правы, то ўзьнікае абавязак іхняга забесьпячэньня. Абавязак ускладаецца на таго, хто прызнаў правы – улада, грамадзтва. У выніку грамадзтва павінна будзе аплочваць дэвіянтныя адносіны збачэнцаў, ненавісьнікаў усялякай нармальнасьці, паколькі прызнаныя правы ненармальнасьці. Урэшце – маргінальная меншыня навязвае свае прызнаныя правы ўсяму грамадзтву.

## Канфармізм

Не засудзіўшы цемру камунізма,
Пакінулі ёй магчымасьць
Паўтарацца у розных формах улады,
Дзе пазыцыя цемры робіцца вызначальнай.

## Невясёлы

Той, хто ня можа весяліцца
І невясёлы ўсё жыцьцё,
І страх яго бярэ перад нядоляй,
Той можа звар'яцець.

*22. 08. 2012*

* * *

Хітрасьць – гэта
Злая якасьць розуму.

* * *

Чалавек бяз гумару, як бяз розуму.

## Успрыняцьце

У грамадзтве хлапца
Невысока ўспрымаюць,
Калі ён дрэнна апрануты;
Дзяўчыну – калі яна адна.

*24. 08. 2012*

## Пустата

Бясконцасьць ёсьць пустата,
Тое, чаго няма, тое, што не існуе,
Бо які можа пачацца рух у бясконцасьці без пустаты?
Але калі мы называем тое, што не існуе, –
Значыцца яно ёсьць.

## Сьмерць

Сьмерць ёсьць брама веры,
Веры, што жыцьцё вечнае.

Сьмерць ёсьць найвялікшая надзея,
Надзея, што жыцьцё вечнае.

Сьмерць ёсьць пачатак,
Пачатак будучыні.

*8. 01. 2013*

## Сутнасьць

Зло правіць гэтым сьветам
Але сутнасьць змаганьня
Не за гэты сьвет, а за той.

*X. 2013.*



*146. Старая шафа.*

# *Засьнежаны сьвет*



## Засьнежаныя вёскі

Сьнег на стрэхах,
Як футра заечая,
Дым над комінам,
Клуня, гумно.
Дзьвесьце год пад няволяй.
Равуць камісары.
Апускаюцца жорны на дно.
Божа, зжалься над людам і песьняй.
Зьберажы, уратуй, памажы.
Перамелецца доля й бяз хлеба.
За мяне баразны не ўзарэш.
Мне ня трэба багацьця,
Ні хвалы, ні славы,
Толькі б верыць,
Што Ты беражэш.

*12. 06. 2012*



*148. Хаты пад сьнегам. (1995 г.).*

## Каляды

Падае сьнег за вакном.
Кружыцца ў двары
Ціха ў калядную ноч.

*2013 г.*



*149. Зіма ў вёсцы. (1995 г.).*

* * *

Гэтыя здымкі зробленыя ў апошнюю зіму 1995-1996 года ў Беларусі ў паездках па краіне, часта на хаду праз шкло аўтамабіля, а часам, раздумляючы, прыглядаючыся і перажываючы радасьць сузіраньня Айчыны. Выпадкова ўдалося ўратаваць тыя стужкі амаль праз дзесяць гадоў пасьля здымкі, праявіць (з усімі выдаткамі зышоўшага тэрміну) і некаторыя сюжэты ўратаваць.

Тут дарагая Бацькаўшчына, зьнятая на Валожыншчыне, Вілейшчыне, Смаргоншчыне ды ў Залесьсі Агінскага даўняй парой.



*150. Зімовы задворак. (1995 г.).*

## Сьвяты Вечар

Над засьнежанай хатай
Кружацца сьняжынкі,
І цішыня, і ні душы. Каляды.

*2012 г.*



*151. Сьнежная зіма. (1995 г.).*

## Залом

Сярод лясоў
Засьнежаныя хаты.
Як гэта прыгожа!
– Сжечь! – сказаў партызан.
– Verbrennen! Alles verbrennen! –
Крыкнуў Шульц.*
– Адсяліць, – прашыпеў Чарнобыль.

*6. 06. 2013*

---

** Спаліць! Усё спаліць! (Ням.)*



*152. Вербы пасьля сьнегападу.*



*153. Зімовая дарога. (1995 г.).*



*155. Вяскоўцы ідуць па дарозе зімой на прыпынак аўтобуса. (1995 г. Ашмяншчына).*



*158. Сьнег ў сасновым лесе.*

## Ноччу зімой

Над Грушаўкай
Пышна гольле пад сьнегам вісіць,
Абсыпаецца шэрань з сукоў.
Ліхтары й цішыня.
У зімовую ноч
Сьнег скрыпіць.
Гэта мы зь мілай жонкай ідзём.

*24. 05. 2013*

# *Цьвіценьне і сьнег*



## Краса

Дрэва пад сьнегам
І дрэва ў квецені
Аднолькава прыгожае.
Можа таму,
Што белы ўбор.
Бо калі б сьнег быў чорны,
Жыць было б невыносна.
Але найцяжэй –
Калі б чорнае неба.
Бог стварыў Зямлю
Па законах красы,
І таму жыць хараша.

*13. 06. 2013*



*164. Засьнежаны падлесак на Смаргоншчыне. (1995 г.).*

## Вясеньні сьнег

Ну, вось, зіма была бяз сьнегу,
Дык хоць, як сакавік, –
нарэшце сьнегапад
(Як старой бабе замуж).

*III. 2013*



*167. Цьвітучы куст.*

# *Балтыка*



## Хочацца ісьці

Калі глядзіш удалячынь,
Заўсёды бачыцца надзея,
І хочацца туды ісьці.

*20. 04. 2013*

## Воля

Жывучы на волі,
Можна рабіць для Беларусі,
Калі хто хоча тое рабіць.

*2012*



*168. Балтыйскае мора раньняй вясной. (2008 г.).*



*169. Трава на пяшчаным марскім беразе.*

## Старыя сябры

Ізноў я ўбачыў
Вашыя абліччы.
Узіраюся моўчкі.
Як даўней – галасы.
Шукаю сваю маладосьць.

*28. X. 2009*



*170. Летняе ўзьбярэжжа Балтыйскага мора. (2008 г.)*

* * *

Жыцьцё ўцякае,
Ды не старэе дух.

*X. 2012*




*173. «Сёрф эвеню» ў Брукліне (2012 г.).*

## У Нью-Ёрку

Цёмны двор, нібы студня.
Яснага неба квадрат.
Галубок прамільгнуў.

*21. 07. 2013*




*175. «Брайтан Біч эвеню» летнім днём (Бруклін).*

## Людзі

У нацыі няма лішніх людзей.
Ад бадзягі і жабрака
Да акадэміка і палкаводца –
Усе патрэбныя.

*29. 09. 2013*



*176. Чарга на міжгародні аўтобус ноччу ля аўтобуснага вакзала (Новы Ёрк, 1996 г.).*




*177. Афраамэрыканец у вагоне мэтро. (Новы Ёрк, 1997 г.).*



*178. Стылёва дагледжаная спадарыня вывучае мэню ў рэстаране. (Новы Ёрк, 1996 г.).*



*179. Спадарыня ў краме, адвярнуўшыся, зазірае ў сашэтку з грашыма. (Новы Ёрк, 1996 г.).*



*180. Афраамэрыканскі тыпаж ў мэтро з характэрным напружаным позіркам. (Новы Ёрк, 1996 г.).*



*182. Два габрэі каля крамы ў Нью-Ёрку. (1996 г.).*



*183. Спадарыня з пластмасавай ёмкасьцю ў краме выбірае тавар. (Нью-Ёрк).*




*184. Арабская жанчына пераходзіць вуліцу. (З цыклу «Арабы», Нью-Ёрк, 2012 г.).*




*186. Сярэдні Мангэттан. (1997 г.).*



*188. Паліцэйскі ў дзень выпуску паліцэйскай школы ў Мангэттане. (1997 г.).*



*189. Фрагмэнт касьцёла на Брадвэі. (Нэавіктарыянскі стыль, XIX ст., архітэктар Джэймс Рэнвік. Зьнята ў 1997 г.).*




*190. На беразе заліва ў Новым Ёрку я бачыў некалькі рэдкіх прыродных зьяў. Аднойчы, у пачатку восені цёплым вераснем, прыплыло з-над акіяна белае воблака і, даплыўшы да берага, на вачах апусьцілася ў горад. Я назіраў гэта з вышыні і пасьпеў сфатаграфаваць за тыя некалькі хвілін, калі яно клубілася між дамоў і дахаў прыбярэжных вуліц. Пацямнела, схавалася сонца і людзі думалі, што гэта туман.*



*193. Віленская катэдра; фрагмэнт фасаду. (Зьнята ў 2011 г.).*

*194. Касьцёл сьвятой Кацярыны ў Вільні на фоне воблакаў. (Зьнята ў 2010 г.).*



*195. Будынак Віленскага палацу прафсаюзаў, у якім 24-25 чэрвеня 1989 г. адбыўся Першы (устаноўчы) Зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». (Зьнята ў 2012 г.).*



*198. Старая Варшава, класіцызм. (Зьнята ў 2012 г.).*



*199. Стары Талін. Гарадзкая сьцяна знутры. (Зьнята ў 2008 г.).*



*200. Стары Талін. Гарадзкая сьцяна з вонку. (Зьнята ў 2008 г.).*

## Сакавік у старым Таліне

Валіць сьнег за вакном,
вясеньні, густы.
Як за белай сьцяной,
Ледзь відаць
Тоўстая Маргарыта.

*III. 2008*



*201. Старая галерэя. Польшча. Еленя Гура (Гіршбэрг). Зьнята ў 2008 г.*



*202. Старая галерэя. Чэхія, Прага. (Зьнята ў 2008 г.).*

## Наш карабель
*(Жонцы)*

Мы адплывалі вечарам,
І сілуэт чужога горада
Пад цёмнымі хмарамі,
Нібы прывід,
Узвышаўся над сьветам.
Бывайце.
Мы адплываем у Беларусь.
Ужо сёньня мы адплываем...
Ужо тысячу год,
Адплываем...
У Беларусь.

*28. IV. 2012*



*203. Від на вячэрні Сігейт (Бруклін). Зьнята ў 2012 г. (Sigma SD14, RAW).*



*205. Дзелавыя людзі, якія сьпяшаюць. (Нью- Ёрк, 2010 г.).*



*206. Людзі, якія сьпяшаюць без патрэбы. (Бруклін, 2011 г.).*




*211. Верасьнёвым вечарам натоўп прагульваецца ўздоўж надбярэжнай ў раёне  Бэнсангёрст ў Брукліне. Зьнята ў 2010 г.*

*212. Двох спадароў у кароткіх портачках і белых шкарпэтах спускаюцца ў мэтро. (Нью-Ёрк, 2011 г.).*




*213. «Сёрф эвэню» ў раёне «луна-парку» (Бруклін, 2012 г.).*



*215. Гэта жанчына. (Варшава, 2012 г.).*




*216. Афрыканская прыгажуня ў мэтро чакае цягніка. (Нью-Ёрк, 2012 г.).*

*217. Стылёва апранутая жанчына ў мяшчанскім гусьце «постмадэрн». (Нью-Ёрк, 2012 г.).*



*218. Сакура ў Нью-Ёрку. (2012 г.).*

## Сакура

Сакура ў Нью-Ёрку цьвіце.
Паглядзеў – і пайшоў.
Чужое ўсё.

*11. 04. 2012*



*221. П'яны Томас. (З цыклу «Стары Талін», 2008 г.).*



*224. Краявід з хутарам на Верхнім Падляшшы. (Фота 2010 г.).*

Даўняя Беларусь – гэта зямля, якая некалі была Беларусяй, сьпявала, працавала і размаўляла пабеларуску, але ўжо даўно адарвана ад Беларусі і без дапамогі і падтрымкі, пад ціскам, не ў сваёй краіне ціха памірае, пакідаючы толькі знакі аб існаваньні і шчымлівы краявід. І дзіўная рэч, калі едзеш ці ідзеш па той зямлі і сузіраеш краявід – усё нібы знаёмае і ўзбуджаецца дух.

Апошнім часам мне ўдавалася бываць на Віленшчыне, Беласточчыне, Сакольшчыне, каля Ломжы, на Аўгустоўшчыне ды на краі Сувальшчыны. З гэтых мясьцінаў падаю тут некалькі фатаграфіяў.



*225. Далёкі хутар. Краявід на Верхнім Падляшшы.*



*226. Сакольшчына. Краявід.*



*228. Краявід з Падляшша з коньмі.*

# *Партрэт*



*231. Аўтапартрэт з сябрам. (Зьнята ў 1958 г. Super Ikonta 4,5 x 6).*



*232. Сьветлая дзяўчына. (Менск, 1964 г. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Мінск»).*



*233. Браслаўскі рыбак дзед Ваявода (97 гадоў, Браслаў, 1968 г.). «Салют» 6 х 6. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Браслаўшчына»).*



*234. Партрэт Аляксандра Міцкевіча пляменьніка Якуба Коласа. Новы Ёрк, 2008 г.*



*235. Партрэт Маці Міхася Чарняўскага Марылі. (Фота 1969 г.).*




*237. Замілаваньне на бруклінскай звэню. (Бруклін, 2012 г.).*



*238. Максім Танк з маці. (Фота сярэдзіны 1960-х гадоў. «Любіцель» 6 х 6. Здымак узяты з Сеціва з малым дазволам. Арыгінал недаступны.)*

# *Менск*



*239. Фрагмэнт вуліцы Няміга ў Менску. (Зьнята ў 1965 г. «Іскра» 6 х 6.)*

*240. Вуліца Няміга ў Менску. (Фота 1963 г.)*

Тысячы здымкаў старога Менска, які я здымаў у 1960-1980-х гадах, -- недаступныя. Тут зьмяшчаю тры фота і некалькі рэпрадукцыяў з кніг і фотаалббомаў, выдадзеных мной раней. Стары Менск, вынішчаны пасьля вайны,варты пашаны і адзначэньня.



*241. Плошча Свабоды ў Менску. 1970-я гады. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)*



*242. Від на забудову вуліцы Няміга з вышыні. 1965 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)*



*243. Від на забудову вуліцы Ракаўскай (Астроўскага) з вышыні. 1965 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)*



*244. Касьцёл сьв. Сымона і Алены ў Менску і плябаня. (Фота 1992 г.)*

*245. Від на пл. Свабоды ў Менску зь вежы былога касьцёла Бернардынак. 1977 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)*

*246. Густы сьнегапад у Менску. 1962 г. (Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Мінск».)*

*247. Менскі астрог «Пішчалаўскі замак». (фота 1981 г. «Зеніт», МТО-500. Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)*

# *Апошнія фота на Радзіме*



*248. Сьлёзы дажджу замерзлыя на шкле. (Фота 1996 г.).*

## Дарога праз родны дом

Ідучы па дарозе
Праз лес,
У халодную цёмную ноч,
Я прыйшоў у свой дом, якога няма.
На руінах стаялі
Маркотныя людзі.
– Вы тут хто?
– Свае.
– Дык пайшлі,
Бо ёсьць шлях,
Бо йшчэ мусім ісьці
Да свабоды.

*06. 02. 2012*



*250. Від з вакна на Суботніцкі касьцёл. 1996 г.*



## Стары сад

Калі выходзіў за парог,
Дзе сад пад сьнегам апусьцелы
І вольха старая, і клён,
Адчыняўся тут від на касьцёл.
Усё жыцьцё мне ў вачах стаіць.

*23. 05. 2013*

## Сойка

Сойка застракатала.
І хто б там такі
У гушчары брыдзе?
Аж гэта яна на мяне
Стракоча.

*12. 01. 2013*



*251. Дым. (Фота 1996 г.).*



*252. Ракаўскія мясьціны. Рэчка Яршоўка пры ўпадзеньні ў Іслач.*



*253. Апошні здымак на Радзіме. Калёны спэцвойска ідуць усьлед за людзьмі пасьля дэманстрацыі. Зьлева ў кадры Сяргей Навумчык. (Фота 24 сакавіка 1996 года. Кмпкт «Алімпус». Нег. Фота-250).*



*254. Зімовы эцюд ля дома. 1996 г.*

## Апошняе быцьцё ўдома

Мой дом – мая Айчына.
Калі я прыехаў сюды зімой,
Холадна пад ветрам
Шуршэла сухая трава
Перад зачыненымі дзьвярыма
І нежывымі вокнамі.
У цішыні – адзінокі мой дом.
Не брахаў мой сабака,
Якога няма.
Не чутно галасоў.
І над гэтай карцінай
Задумаўся я
Аб сваім існаваньні.
Шэрыя хмары
Наперад плывуць
Далёка за небаспад.
Трэба брацца.
Трэба брацца за клямку –
Увайсьці ў былое жыцьцё,
Дзе выйсьця зь яго не бывае,
Як толькі наперадісьці.

*24. 05. 2013*



*255. Чорны кот.*

# АНДРЭЙ

Андрэй жыў на хутары каля Нарбутаў у лесе, адзін у старой хаце. Казалі, што ён быў у нямецкім канцлагеры і вярнуўся не зусім нармальным. Ён трымаў коз, якія хадзілі па лесе самапасам, зьбіраў грыбы, ягады, садзіў каля хаты бульбу пад рыдлёўку, рабіў, дзе што папросяць, і спажываў, што дадуць. На працу стала яго ніхто ня браў. Ён не атрымліваў ніякай пэнсіі і ня меў сродкаў для існаваньня, але неяк жыў, нікому ні пра што ня жаліўся, быў адкрыты, самавіты і гаваркі, з кожным мог загаварыць, нешта сказаць, расказаць. Зь яго ніхто не падсьміхаў (як гэта бывае ў дачыненьні да дурнаватых). На першы погляд ён выглядаў бедным, але цалкам нармальным чалавекам. Праўда, паводзіны яго былі дзіўнымі, з гледзішча традыцыйнай сацыяльнай карысьці і ўкладу жыцьця.

Ідучы па дарозе і бачачы паваленае дрэва, якое аб'язджалі машыны, Андрэй адразу браўся паправіць непарадак. Часам вяртаўся, браў пілу ці сякеру і, расьпілаваўшы, адцягваў дрэва з дарогі, каб можна было праехаць.

Калі на той жа дарозе валялася разьбітая бутэлька, Андрэй падбіраў і кідаў дзе-небудзь у яму.

Драўляны вялікі мост праз Гаўю меў марны выгляд. Дзіры былі такія, што калі б колам трапіў, то і ня выехаў бы. Машыны старанна аб'язджалі тыя дзіры. Але і чалавек мог трапіць туды, калі цёмна (і, ня дай Бог, нагу зламаць), і конь, і карова маглі ўваліцца. Нікому да гэтага справы не было, бо мост да сельсавета не належыў, а якое там упраўленьне дарог тым займалася – невядома.

Неяк, ідучы праз мост, Андрэй спыніўся, паківаў галавой, пастаяў, усё нешта думаў, ды прыглядаўся. Назаўтра ён прышоў з сякерай і прыцягнуў пару маладых хвоек зь лесу. Абчасаў і пачаў латаць дзіры ў мосьце. Парамантаваўшы, сабраўся і пайшоў сабе. Ніхто ня ведаў, хто тое зрабіў. Але калі ўзьнікалі новыя дзіры, то Андрэй прыходзіў і рамантаваў. Рабіў прымітыўна, але ўсё ж такі дзіраў не было.

Мая маці тады працавала сакратаром сельсавета і, даведаўшыся, пытае ў Андрэя:

– Дык я чула, што гэта Андрэй мост паправіў".

– Ведаеце, пані, не магу глядзець, бо можа хто ўваліцца. Дык я трошкі падлатаў. Трэба ж, каб людзям зручна было".

Маці пахваліла Андрэя і неўзабаве выстаралася яму сацыяльную пэнсію для бедных. Пры саветах гэта складала 8-9 рублёў у месяц. (Для параўнаньня: мінімальная зарплата ў СССР была 70 рублёў, а буханка хлеба каштавала ў сярэднім 14-15 капеек, паўлітра малака 13 капеек, бутэлька гарэлкі – 3,6–4 рублі, керзавыя боты – 10-12 рублёў, веласіпед – 50-60 рублёў.)

Андрэй быў надзвычайна шчасьлівы і ўдзячны. Мог цяпер кожны дзень быць з хлебам. Гарэлкі ён ня браў у рот, ў веры трымаўся бапцістаў, якіх, праўда, у ваколіцах Суботнікаў не існавала наогул.

Пра веру Андрэй часам любіў паразважаць, калі хто яго слухаў. Погляды ягоныя былі вельмі простыя: трэба жыць па запаведзях. Цікава, што калі паглядзець на яго простае жыцьцё, то дакладна па запаведзях ён і жыў.

Аднойчы ў жніўні ўжо прыцемкам ён вяртаўся з Суботнікаў дахаты. Андрэю вельмі хацелася есьці, бо цэлы дзень нічога ня меў у роце. У сасьнячку ён убачыў, як паблісківаюць грыбы сыраежкі. Шмат іх было. „Сыраежкі ж то можна і сырыя есьці", – падумаў ён. Назьбіраўшы ў шапку навобмацак тых сыраежак, Андрэй ішоў да хаты і жаваў грыбы, крыху салодкія і пякучыя за язык. У хаце ён запаліў газоўку (электрычнасьці ня меў), і толькі тут разгледзіўся, што наеўся не сыраежак, а мухамораў. Галава ўжо крыху кружылася і падціскала пад сэрца. „Ага, ужо памру", – падумаў Андрэй. Неяк адразу ўспомнілася дзяцінства, і маці кліча яго: „Андрэйка, пара вячэраць". Як есьці хочацца, дык тое і ўспомніў. Усё жыцьцё пранеслася ў сьвядомасьці імгненна. Вобразы, карціны і галасы. Маці, бацька і дзеці на рэчцы, немец у бараку: „Штээ ауф, швайн!"*

Хата ўжо паплыла перад вачыма, а на душы стала неяк весела і спакойна. Андрэй дастаў навобмацак чыстую шэрую кашулю, што некалі памыў у Гаўі, новыя картовыя порткі, што далі яму на Сёмуху добрыя людзі, і паклаў на стол. Як памрэ, дык каб адзелі. Хістаючыся, выйшаў з хаты і абваліўся на прызьбу перад вакном (каб бачылі людзі). Сьвет кружыўся, дрэвы падалі, неба з зоркамі хісталася, але думалася спакойна. „Нехта ж знойдзе", – меркаваў Андрэй. Хаця тут бывала месяцамі ніхто наўзбоч не праходзіў. «Але як Бог дасьць», – мармытаў ён сабе пад нос.

Андрэй зьвесіў цяжкую галаву і падрыхтаваўся паміраць. Моцна рэзала ў жываце, але цікава, што кружэньне галавы спраўляла нават нейкую прыемнасьць. „Ня так ужо і дрэнна паміраць", – падумаў сабе Андрэй. Праз нейкі час ён ужо ня мог расплюшчыць вачэй, сьвядомасьць яго адключылася, і ён праваліўся ў цяжкую чыгунную цемру.

Прачнуўся Андрэй ад холаду. Было сьветла, і раньняе сонца залаціла верхавіны хвой. Ціўкалі птушкі. Андрэй не пазнаў знаёмага краявіду, бо думаў, што ён на тым сьвеце. Ён доўга ўзіраўся, няўцямна круцячы галавой. Нарэшце падняўся, і да яго дайшло, што ён не памёр, а жывы каля сваёй хаты. Моцнае ўзрушэньне апанавала яго. Ён падумаў, што здарыўся цуд, што ўсё ж такі жыць добра і паміраць ня хочацца. Андрэй апусьціўся на калені і стаў маліцца.

*3 студзеня 2013*

* Устань, сьвіньня! (ням.)

# РАМУК

Некалі пад Трабамі пры дарозе стаяў стары дом, кшталту невялікі хутар. І жыў там такі Рамук Мацкойць. Наш сваяк, дзядзька Адварды, што быў арганістым у Сурвілішках, часта па дарозе да яго заязджаў яшчэ з маладых гадоў (гэта значыць ад часу 1-й Сусьветнай вайны). Тады (яшчэ за царом) бывае заедзе, каня не распрагаючы, пасядзіць з Рамуком, пагаворыць і далей сабе.

Часта заязджаў бывала на раніцы – то вады каню, то проста пагаварыць. Дык Рамук той у гэты час акурат сьнедаў, і жонка ставіла яму на патэльні вялікі гарачы грэцкі блін, які ён шмараваў скваркамі і еў.

Потым, у 15-м, прышлі немцы. Вакол шмат пагарэлі, але Рамук застаўся і не галадаў, грэцкі блін меў. У 19-м прышлі бальшавікі. Зрабавалі і Рамука. Але калі неяк Адварды зазірнуў да яго ранкам, то грэцкі блін на стале быў.

Вясной таго ж году Пілсудзкі прывёў палякаў. Тыя бальшавікоў крыху папаролі, але Рамук таго нават ня бачыў і жыў сабе, як раней. Потым зноў прышлі бальшавікі, зрабавалі Рамука, а за бальшавікамі – зноў вярнуліся палякі. Тут ужо надоўга. Але Рамук неяк не разжыўся, не разбудаваўся, як было, так і засталося.

У 1939-м прыехалі бальшавікі. Пачалі хапаць і вывозіць людзей. Адзін раз Адварды заехаў, Рамук грэцкі блін есьць і кажа:

– Пане Адварды, кажуць, што ўсіх вывязуць і будуць тут камуну рабіць. І, што за халера, кажуць жонак абагульваць зьбіраюцца.

Потым прышлі немцы. Рамука не турбавалі, праўда, падаткі і нарыхтоўкі плаціў ужо немцам і адну дачку ў Нямеччыну вывезьлі, а так усё ў гаспадарцы ішло, як раней.

У 1944-м вярнуліся саветы, аблажылі ўсіх падаткамі, кожнае дрэва і кожнае сьвінчо. Неяк Адварды заехаў, а Рамук яблыні ў садзе пілуе. Зайшлі ў хату. Рамук грэцкі блін есьць і кажа:

– Ціснуць, халера, з тых яблынь не наясіся, а плаці. Няма ходу, пане Адварды, людзі пілуюць, і я сьпілаваў.

Потым, у 1949-м, пачаліся „калкозы", абагульваньне, згон з хутароў, вываз людзей. Рамук ацалеў, бо, баючыся, каб ня вывезьлі, усё аддаў у „калкоз". Засталася хата, хлеў, „соткі" каля хаты, карова, сьвінчо ды куры.

У пачатку 50-х, незадоўга да сьмерці, Адварды, ідучы пехам у Трабы з качарэжкай, зайшоў да таго Рамука.

Жонка якраз ставіла на стол патэльню з грэцкім блінам. Стары Рамук і кажа:

– Пане Адварды, дык што цяпер на сьвеце чуваць? Можа, якая зьмяна будзе?

Тут Адварды, абапершыся рукамі на качарэжку, якую трымаў між каленяў, адказвае:

– Нібы не чуваць. Але табе, Рамук, што? Сто разоў была тая зьмяна, а ты як еў грэцкі блін, дык і цяпер ясі. Ці табе гэта абходзіць?"

– Я так пану скажу: чалавек не скаціна, каб сваім кідацца, але прыглядацца мусіць, – кажа Рамук. – Таму і ем, што прыглядаюся. Вунь гэты Альбін Зыгманцюк, на саломе спаў, водку піў. Пайшоў да белых, думаў каго абдзярэ, дык разбагацее. Цяпер дзе ён, проша пана? О! Ніхто ня ведае, бо забралі.

– Ад гультаёў ды галоты і ўся брыдота, – кажа Адварды. – Ну, пара зьбірацца.

І так пагаварыўшы, ішоў сабе далей.

*1 студзеня 2013 г.*



*257. Кухня.*

# ФЭЛЬКА

Неяк адразу пасьля вайны паехаў дзядзька Фэлікс у Вільню. Там „пад галяй" спаткаў земляка, старога знаёмца Віцьку Кондуся. Тое ды гэтае, разгаварыліся, па Вільні ходзяць, у крамы зазіраюць, то пілу, то касу, то кантовую бабку трэба. Зайшлі ў сталовую перакусіць. Зрэшты, ня тое што, каб перакусіць, але каб заадно і самагонкі выпіць, якой Фэлька прывёз.

А тут трэба нагадаць, што за Сталінам за самагонку – турма. Але крамную гарэлку і савецкае фруктовае віно (цяперашняе „чарніла") можна было браць на разьліў у любой краме, дзе тое прадавалася, і тут жа каля прылаўка выпіць. Словам, піць можна было ўсюды, але толькі савецкае пойла. Праўда, тады п'янства яшчэ не было, і людзі сталінскімі льготамі ня надта і карысталіся.

Тым часам нашыя дзядзькі ў сталовай узялі там нейкія савецкія катлеты, Фэлька – бутэльку на стол, разьліў па паўшклянкі і задумаўся. А потым узяў і гэтак шырока перажагнаўся ды й кажа:

– Ну, з Богам, п'ём, Віцька, за здароўе! – Выпілі і ядуць сабе. Аж тут за суседнім сталом аказаўся нейкі савецкі лейтэнант (Фэлька яго адразу прыкмеціў) і гэтак „по-русски вкрадчиво говорит":

– Скажите, вот вы перекрестились. Это зачем, чтобы водка слаще стала или как? Фэлька жуе і гэтак самавіта на ўсю сталовую гудзіць:

– Ну, павінен жа чалавек нечым адрозьнівацца ад сьвіньні, – і далей жуе.

Віцька аж папярхнуўся ад страху. А Фэлька зноў налівае па паўшкаліка і кажа:

– Ну, з Богам, Віцька, каб не апошнюю.

На лейтэнанта – нуль увагі. Выпіўшы, Фэлька лезе ў торбу, дастае закручаны ў палатно кавалак сала і, дастаўшы з-за халявы даўжэзны востры нож, пачынае наразаць:

– Во, пакаштуйма яшчэ сала. Сваё, свойскае, сам калоў, сам саліў. З кменам, браце, – кажа Фэлька і махае нажом.

Дзядзькі ядуць, а лейтэнант глядзіць. Але неяк зьвяў, спахмурнеў і маўчыць. Нешта яго як бы спаралізавала. Можа, не зразумеў гаворкі (мова – вялікая сіла).

От так часам бывала пры Сталіне ў нас на Віленшчыне. Фэлька пад страхой яшчэ вінтоўку трымаў. Дык чаго яму баяцца.

*14 чэрвеня 2013 г.*



*258. Прасёлак.*

# ДУКШТА

А быў у нас такі млынар Казюк Дукшта. Пасьля вайны ён адбудаваўся ў цэнтры мястэчка і, памятаю, заўсёды хадзіў на працу ў млын гародамі непадалёк ад нашага дома прасёлачнай дарожкай. Млын быў велізарны, на чатыры паверхі і на чатыры велізарныя, мэтраў па 12 у дыямэтры, колы. Будынак быў абабіты шалёўкай і пакрыты гонтам, стаяў на востраве пасярод Гаўі. Там жа на востраве стаяла велізарная крытая гонтам павець, куды заязджалі з вазамі і навязвалі каней. З двух бакоў быў мост з плацінай і застаўкамі, якія падымалі, калі было зашмат вады, і тады Гаўя з шумам імчала па драўляных падэнях і спадала вадаспадам у сваё рэчышча. Тады драбнейшую рыбу з глыбіні вадой выганяла далей на доўгі пяшчаны брод, з чаго карысталіся заўзятыя рыбакі і аматары павудзіць.

Памятаю адзін такі выпадак у маленстве, калі быў спуск вады, і я прыбег з сваёй крывой вудачкай (вудзільна з арэхавай ляшчыны) і вудай з коньскага воласу. Рыбакоў (старэйшых хлопцаў, дзядзькоў) было асобаў з дваццаць, і час ад часу нехта выцягваў то кялба, то верхаводку.

Мая лоўля, аднак, выглядала інакш і заключалася ў тым, што я закідаў вуду і тут жа выцягваў кялба. Шморгаў аднаго за адным. На мяне коса пазіралі, дзядзькі пасьмейваліся з малога (мне было гадоў дзесяць-адзінаццаць), станавіліся на маё месца, а я на іхняе. Але ў іх ня бралася, а я цягнуў аднаго за адным. Каля мяне сабралася куча разьзявак, вохкалі, ахкалі, як заўзятары на футболе, рагаталі, калі дзядзькі нэрваваліся. Неўзабаве я налавіў цэлы бідончык і пабег дадому парадаваць маці, праводжаны гулам зьдзіўленьня і адабрэньня.

На рыбе, ведаеце, як зь дзеўкамі: каму шанцуе, каму не, каму самы плывуць. Я ня ведаў тады, чаму ў мяне рыба бралася, а ў іншых не. Але дасьведчаны рыбак, наш сусед Франук Лаўрэль, мне растлумачыў дасканала: усе лавілі на жылку, якую дасталі (такія ж бо спрытныя) хто ў Лідзе, хто ў Вільні, а я, малы, на коньскі волас (адкуль у мяне тая жылка-раскоша). Рыба чуе пах і пабойваецца ненатуральнай жылкі, а коньскі хвост яе не пужае, вось яна і чапілася на мой кручок.

Дзядзька Франук, бачачы маю схільнасьць да рыбы, мяне запаважаў, як дарослага. Калі спаткае, то абавязкова спыніцца і пагаворыць пра рыбу.

Матруна (прыток Гаўі) працякае мэтраў за 60-70 ад нашага дома. Вада ў ёй была чыстая крынічная і сьцюдзёная. Тыя, што жылі ля Матруны, і студняў не капалі. З Матруны ваду бралі. І яшчэ бляханы з малаком у ваду ставілі – такая яна халодная была і сэпарацыя ішла хутка. А тут табе і сьмятана, і сыр, і тварог.

Але галоўнае ў Матруне – гэта рыба. На ўсім працягу вадзіліся пстрангі пад карчамі і лёхамі. Як сонечны дзень, выходзілі грэцца на струмень ды на плёсы. Толькі падышоў, а яны стралой пад карчы.

Вадзіліся яшчэ сьліжы пад каменьнямі. Ну і былі маляўкі ды калюшкі, якіх ніхто не лавіў і за рыбу не лічыў.

Летам я ўставаў у маленстве а 6-7-й гадзіне, браў кароткую вудачку, нанізваў на вялікі падвойны кручок некалькі чарвякоў, паўзком ціхенька падпаўзаў да рэчкі, спускаў вуду на яме пад корч, дзе сядзелі пстрангі, і асьцярожна адпаўзаў. Праз хвілін 15-20 зноў падпаўзаў і бачыў, што паплавок зацягнуты ажно пад лёх. Тут сэрца маё аж застукае. Хвалюючы момант. Р-раз! Вудзільна выгінаецца, пстронг у вадзе лапоча, а я яго на бераг – і мой.

Больш за аднаго ніколі не лавіў. Трэба ж было і назаўтра пакінуць. Ды-й бабуля бывала на раніцы кажа:

– І што ты, унучак, на сьняданьне будзеш есьці? Можа, пайшоў бы пстранга злавіў.

Я ішоў і лавіў. Тут жа, побач, амаль пад ганкам. Ды і рэчка гэтая лічы, што наша (так я яе ўспрымаў).

А дзядзька Лаўрэль бывае ідзе каля рэчкі і пытае:

– Ловіш?

– Пстранга лаўлю, – кажу я.

Дзядзька Лаўрэль сядаў на траву і пачынаў ціхую (каб не спалохаць пстрангоў) гаворку пра рыбу са мной, малым, як з дарослым.

Лаўрэляў было ў Суботніках трох братоў: Адварды, Ляўнарды і Франук. Адварды, Ляўнарды мелі вялікія сады і былі апантаныя садаводы. Каго ні спаткаюць – пачнуць гаворку пра сад. Гаварыць пра сады любілі, а Франук – пра рыбу. Франук трымаў дзьве лодкі па абодва бакі млына (на ставе і на рэчышчы) лавіў у асноўным трыгубіцай буйную рыбу (брадніка не прызнаваў). Лавіў так: ставіў трыгубіцу, адгароджваў ёй кавалак рэчкі, потым адплываў на лодцы далей і доўгім калом пачынаў бухаць глыбока ў ваду, пужаў рыбу, каб тая ўцякала ў бок сеткі.

Бывала, што заблытвалася і невялікая рыбка, асабліва акунькі. Лаўрэль іх выкідаў у рэчку. Малой рыбы ня браў ніколі.

Жонка яго была вельмі гаварлівая; колькасьць словаў, якія яна выпускала ў мінуту, была велізарная. І калі яна бачыла, як мужык выкідвае малую рыбу, то прапускная здольнасьць яе мовы павялічвалася да ўзроўню бесперапыннага абуранага стракатаньня. У гэты мамэнт у цёткі разьвівалася сквапнасьць і, вядома ж, яна лічыла ў гэты час свайго Франука за дурня.

Зь іхным сынам Юзікам мы крыху сябравалі, і аднойчы дзядзька Лаўрэль узяў нас дваіх у лодку на рыбу. На носе сядзела Лаўрэліха, мы з Юзікам пасярэдзіне і ў канцы дзядзька Лаўрэль правіў лодкай. Пачалі вымаць сетку. Рыбы набілася ніштавата: акуні, плоткі, нават пару шчупакоў. Лаўрэль сьцінуў вялікую рыбу ў мяшок і пачаў выкідаць малую назад у раку. І тут пачалося. Суцэльная кулямётная чарга. А Лаўрэль пасьмейваецца сабе і мялюзгу выкідае.

– Ну, а гэта во, нашто выкідаць? – закрычала Лаўрэліха, паказваючы на добрага такі акунька, – дай сюды! Дай сюды, кажу!

– Хай расьце! – кажа Лаўрэль і хоча кінуць рыбу ў рэчку.

– Ты што? Халера! Здурэў!

З гэтымі словамі Лаўрэліха кінулася да Франука, каб адабраць акуня. Той выкідае рыбу ў ваду, а Лаўрэліха з попрыску скача за акунём у рэчку, наважваючыся злавіць.

Гук быў такі: „чыбулды-ы-ых!" Сукенка Лаўрэліхі надзьмулася, як парасон, потым пайшлі бурбалкі, і баба пачала тапіцца, малоцячы, як сабака, рукамі па вадзе. А дзядзька Франук стаіць у лодцы і назірае.

– Франук! – крычыць Лаўрэліха, – таплюся, ё. т. м., чаго стаіш?

Лаўрэль падаў ёй канец кала, якім ганяў рыбу. Лаўрэліха ўчапілася і пачала чаперыцца ў лодку.

– Чакай, перакуліш! – крычыць Лаўрэль.

Падплылі да берагу. Лаўрэліха залезла ў лодку і пачала лаяць Франука, што праз яго яна во, уся намачылася.

– Нічога, высахнеш, – адказвае Лаўрэль.

Але я тут не пра рыбу хацеў казаць. Вернемся да Дукшты. Млынароў у млыне было чатырох, ці нават пяцёх. У тым ліку і наш далекаваты сусед Віктусь Тучкоўскі („Адасюк", бацьку звалі Адасем).

Як і ўсе млынары, ён хадзіў абсыпаны мукой, маленькі, вёрткі, з шляхецкімі вусамі і вясёлай усьмешкай, гаварыў тэнарком і хуценька, нібы тарахцеў, і заўсёды пра нешта сьмешнае, і сам першы сьмяяўся.

Побач з млынам на „Вулачцы" стаяў вялізны драўляны дом тыпу панскай афіцыны, пакрыты чырвонай глінянай дахоўкай. Гэта быў дом для загадчыка млына. Ён там і жыў з сям'ёй, нібы ксёндз у плябані.

Памятаю, хадзіў такі насуплены ў зашпіленым сталінскім кіцелі і ні з кім не гаварыў, бо мала што разумеў па-беларуску. Прыслалі аднекуль з усходу.

Казюк Дукшта быў чалавек-волат, пад два мэтры ростам, хадзіў, гаварыў, рабіў не сьпяшаючы. Меў дзьвюх прыгожых дачок – Яню і Ядзю, і малога сына. Дакладней, двух сыноў. Але старэйшы, Ян, ня быў яго родным сынам.

А гісторыя была такой. Калі ў 1941-м прышлі немцы, то каля вёскі Шаркуці (тры кілёмэтры ад Суботнікаў) нейкі паўгловак стрэліў па немцу і забіў. Зь мясцовых гэтага ніхто ня мог зрабіць, бо людзі былі толькі радыя, што немцы пагналі бальшавікоў (ды й зброі ніхто ня меў). Хутчэй за ўсё, тое зрабіў нехта з бадзяжных савецкіх салдатаў, якія, ратуючыся, разьбегліся па лясах і дарогах. Але немцы не разьбіраліся, акружылі вёску, сагналі ўсіх вяскоўцаў у гумно і спалілі разам зь вёскай. Мала хто ацалеў. Сярод іх – і двухгадовы хлопчык Янка, які застаўся круглым сіратой. Вось Казюк Дукшта з жонкай зжаліліся над дзіцем і ўзялі яго ў сваю сям'ю, усынавілі.

Янка вырабіўся ў добрага хлопца з прыроджанай інтэлігентнасьцю, лексіка яго была чыстай, без вульгарных слоў і грубага тону. Калі моладзь летам купалася ля млына на шырокім разводдзі, то Янка плаваў асобна, гэтак дэлікатна, каб не намачыць сваю падстрыжаную пад „польку" шавялюру. Хлопцы кпілі зь ягонай „гжэчнасьці", лавілі ў вадзе і спэцыяльна „тапілі", каб „фрызура" намокла. Потым рагаталі ўсе разам. Янка таксама. Гумару ў яго хапала.

Потым Янка вырас, стаў пазіраць на дзевак, што, праўда, нічога ў яго зь дзяўчатамі не клеілася, але тым ня менш ён паступіў вучыцца ў медінстытут і неўзабаве яшчэ студэнтам ажаніўся. У інстытуце ён добра паказаў сябе па прафсаюзнай ды камсамольскай лініях і неўзабаве па сканчэньні вучобы як малады спэцыяліст быў прыняты ў кампартыю (у члены КПСС). Яго ўзялі інструктарам райкама, потым ён стаў загадчыкам аддзела, потым адным з сакратароў, і пайшло ўсё, як па маслу, адчыняліся прывабныя сацыяльныя далягляды.

Казюк Дукшта ведаў, што прыёмны сын стаў начальнікам. У пэўнай ступені гэта яго цешыла, што Янка выбіўся ў людзі і стаў не абы кім. Зь іншага боку, бальшавікоў у Суботніках ніхто не любіў, і Дукшта таксама. Таму сваім Янкам Дукшта нідзе не хваліўся, але гонар за яго меў.

Пасьля інстытута Ян доўга (некалькі гадоў) не прыязджаў у Суботнікі. Але вось, нарэшце, пасьля доўгай адсутнасьці, паведаміў, што прыязджае. Дукшта сабраў усю радню і падрыхтаваў вялікі стол.

Ян прыехаў з жонкай і дзіцёнкам на ўласнай новай сьветлай „Волзе". Тут мушу патлумачыць. У тыя 60-70-я гады ў СССР мала хто з простых сьмяротных мог мець машыну вышэйшага класу „Волгу". Тры машыны было ў СССР: „Волга", сярэдні клас – „Масквіч" і малалітражка „Запарожац". Чарга на пакупку гэтых машын сягала да некалькіх дзясяткаў гадоў, хоць каштавалі яны велізарныя грошы, непад'ёмныя для простага чалавека.

Дык вось Янка ўехаў у двор Дукшты на белай „Волзе". У яго ўжо завязаўся ладны такі круглы жываток, рухаўся ён павольна, гаварыў прадумана, па-расейску, але падкрэсьліваў сваю даступнасьць і адкрытасьць, каб здавацца на роўні з усімі. Дукшту, праўда, не спадабалася, што іхні Янка гаворыць зь ім па-расейску, але ён нічога не сказаў.

– Ну, – кажа, – Янку, вадаправода ў нас пакуль не правялі, дык во над мядніцай памыйся і за стол.

– Да-а, цивилизация, папа, впрямь скажем, не аховая, – вымавіў Янка.

– Так, хрэновая арганізацыя, – кажа Дукшта, не зразумеўшы, – хоць я цябе ругацца і не вучыў.

Селі за стол. Усе віталі Янку, распытвалі, „дзе робіць". Жонка янкава з пышнай, дробненька закручанай кудзеркамі „эндуляцыяй", казала, што яна „тоже из деревни", але ў горадзе „лучше и она не представляла", што адсюль мог выйсьці ў сьвет яе „Ваня".

Нешта Казюка пачало вярэдзіць знутры, сам ня ведаў, што. Ён пастукаў відэльцам па графіну і сказаў усім наліць. А потым устаў, падняў кілішак і кажа:

– Дарагі Янка, дазволь мне ад нас з маткай прывітаць цябе ў родным доме. Даўно мы цябе ня бачылі, але вось ты прыехаў паважаным чалавекам, начальнікам. І мы, скажу табе, вельмі радыя з маткай, што падабралі цябе сіратой, вырасьцілі, далі адукацыю і дарогу ў жыцьцё. Добра, што наша ахвяра не змарнавалася на пуста, і ты стаў такім салідным чалавекам. Дык вып'ем жа за тваё шчасьце, каб ішоў далёка і не забываўся дарогі да хаты.

Тут трэба было, як па звычаю, выпіць і пачаць закусваць тым, што было на стале. Але Янка, ламаючы правілы, устаў з кілішкам ды пачаў дзякаваць Казюка за добрыя словы. А потым і кажа:

– Конечно, спасибо, папа, за добрые пожелания и за всё, что вы для меня сделали в жизни. Должен только добавить и сказать о вещах совершенно очевидных. Ведь если бы не советская власть, не получил бы я ни образования, ни перспективы в жизни. Возможно, сидел бы здесь, пас

скот или пил водку, как бывает, к сожалению, на селе. В сущности, дорогие мои земляки, мы должны всегда об этом помнить: в какой передовой стране и в какое счастливое время мы живем. Раньше такое бы было немыслимо. Поэтому дело не во мне и не в обстоятельствах, моей заслуги здесь нет. Советская власть нам всем дала возможность, выбора пути и честной работы на благо всех. Поэтому разрешите присовакупить к пожеланию папы так же и мой тост и выпить за нашу действительность, в которой живем, и за идею, что озарила нам жизнь.

Запанавала цішыня. Янка, усьцешаны сваёй добрай прамовай, кульнуў чарку, сеў і ўзяўся за відэлец. Але ніхто ня піў.

– Во, – патлумачыла ў паўголаса ўсім, хто не зразумеў, Франя Рапэцкая („Дзежачка”), – кажа, што яго савет вывучыў.

– А яёяёй! – прасьпяваў у вусы Віктусь Адасюк, гледзячы ў кілішак.

Госьці пачалі перашэптвацца, пераглядацца, закруцілі галовамі.

– Дык кажаш не я, а савет табе ўсё даў? – басам пратрубіў Дукшта.

– Нет, папа, конечно же вы. Но советская власть создала условія для реализации.., – пачаў быў Янка.

– Вон з хаты! – прыцішыў голас Дукшта. – Прэч пайшоў!

– Нет, папа, вы меня не так поняли, я не против...

– Сядай у машыну і едзь, адкуль прыехаў. Зараз жа! Начаваць тут ня будзеш.

Дукшта выйшаў з-за стала, у сенях узяў шапку, адзеў і пайшоў сабе праз гароды ўніз, да Матруны, прыхапіўшы граблі сена варочаць. Хоць быў ужо вечар, сонца якраз заходзіла і ня час быў на тое сена, што ляжала ў валках, чакаючы раніцы.

Але Дукшта рашыў цяпер зрабіць і заўтрашнюю работу. Карова шмат значыла для сельскага чалавека пры калгасна-саўгасным ладзе. Так што корм для жывёлы справа першасная. Усё астатняе – так сабе, па чарзе зробіцца. Восеньню бульбу скапаць, гарод выбраць, брыкет ды дровы завезьці. І так і цягнецца, пакуль жывы і здароўе дазваляе.

Янку больш у Суботніках ня бачылі. Дзе ён, што ён, і сам Казюк ня ведаў. Ды й не цікавіўся. Можа дзе палез угару. Але неўзабаве і савет разваліўся, і бальшавікі выпарыліся. Але гэта ўжо, як Дукшта памёр. А Янка?.. Хто яго ведае. Можа дзе яшчэ і сядзіць на пасадзе такі „Ваня”. Самы ж бо на яго час.

*25 ліпеня 2013 г.*



*259. Вадаспад ля млына на Віленцы.*

# ВАСІЛЬКІ

*«Дайце з горачкі скаціцца*
*З ручайка вады напіцца,*
*Дайце зь міленькім сыйсьціся*
*Пра любоў пагаварыць.»*
(Народная прыпеўка з-пад Ашмянаў)

Гісторыя гэтая пачыналася недзе ў канцы пяцідзесятых. Быў такі Віцька Каралевіч. Добра ў валейбол гуляў і на ровары ганяў, як вецер. Віцька ўвогуле быў харошы хлапец. Яго хвалілі і ведалі. Скончыўшы школу, працаваў шафёрам у саўгасе. Калі хто чаго папросіць зрабіць, зьезьдзіць куды, на станцыю падкінуць, ці яшчэ што, – Віцька ніколі не адмаўляў, да людзей адносіўся з павагай і любіў пагаварыць са старэйшымі местачкоўцамі на розныя тэмы ды старых паслухаць.

З выгляду быў высокі, крэпкі, моцнай косьці, сабе на ўме і крыху з гумарам. Гарэлкі не ўжываў. Так, трохі, хіба для сьмеласьці, калі танцы ў клубе. Тады з Вулькай так польку выстукваў, што падлога дрыжэла, а Вулька, расчырванелая ўся, толькі вухкала: „Ух! Ух! У-у-ух!"

Вулька была вясёлая. У клубе толькі і чуўся яе звонкі сьмех. Дзяўчаты Вульку таксама любілі і каля яе гуртаваліся, пырскаючы сьмехам, скарагаворкай і выклічнікамі (калі перавесьці ўсё у мову граматыкі). Словам, Вулька запальвала ўсіх сваёй энэргіяй. Хлопцы каля яе круціліся, з усімі яна знаходзіла агульную таварыскую мову, але так, каб з гэтага ўзьнікалі зь нейкім там асаблівыя дачыненьні, то такога не заўважалася. Вулька была асобай кампаніі і сяброўства. Местачкоўцы яе любілі. У працы была хуткая і ўвішная, і сваю справу заўсёды ведала.

Пасьля школы Вулька пакруглела і вырабілася ў такую дзеўку, што о-ё-ёй. Думала паступіць у пэдагагічны інстытут, але не прайшла па конкурсу, вярнулася і пайшла працаваць рахункаводам у саўгас. Вульку запрашалі якраз на працу ў клуб, але бацькі сказалі: „Няма чаго на тыя капейкі лезьці, якая праца, такія й грошы".

Якраз была ўборка. Камбайны працавалі без перапынку, і Віцька вазіў збожжа. Дні былі гарачыя. Аднойчы Віцька падвозіў Вульку ў суседнюю брыгаду. Абодва трэсьліся па палявой дарозе ў душнай кабіне. Віцька раз-пораз кідаў погляды на круглыя, як рэпа, калені Вулькі, глядзеў на яе – крэпкую, расчырванелую вясёлую – і адчуваў, што пачынае дурэць. Дзень, напэўна, быў такі шалёны, ці ён зь левай нагі ўстаў, але нешта смактала ў яго пад дахавіцай і ўжо аж пад грудзьмі. І ў галаве паехала.

Віцька спыніў машыну, выскачыў і кажа:

– Вулька, Вулька, хадзі, во, нешта пакажу. – Вывеў Вульку і, нічога ня кажучы, паваліў у жыта.

– Ты што? Ты што? Дурны! Дурны! – Залемантавала Вулька. Дзяўчына брыкалася, круцілася, падрапала Віцьку твар, нават укусіла яго за руку, аж кроў пашла. Словам, выкачалі з паўгектара, а Вулька не паддавалася, аж Віцька стаміўся, нават імпэт прапаў. Тут Вулька раптам сагнула ногі амаль пад бараду і, не раўнуючы, як той кенгуру, як штурхне Віцьку, дык той і адваліўся. А Вулька ўсхапілася, адляцела да дарогі і крычыць:

– Дурны, дурны, дурны! – І хвігу яму: – Во табе! Во табе, во табе! Дурань! Прыдурак! Баран! Казёл! Бацьку скажу! – Завярнулася, залезла ў кабіну і сядзіць сабе, валасы папраўляе, гузікі на сукенцы лічыць.

А Віцька стаіць у жыце і рот разьзявіў. Ён ужо і сам адчуў сябе дурнем, лепш бы ўцякла тая Вулька. Шчыра кажучы, яна яму вельмі падабалася, даўно прыглядаўся і сур'ёзныя думкі выношваў. І што на яго найшло – усё сапсаваў. Канец.

Патульчыўшы вакол машыны, Віцька моўчкі залез у кабіну і асьцерагаючыся глядзець на Вульку, завёў матор. Каб жа толькі матор! Завялася Вулька.

– Ніколі ня думала, што ты такі дурны, Віцька, – сказала Вулька дзелавым голасам. – На цябе паглядзіш – дык здаецца, во, мужчына ўжо сяр'ёзны. А ты – хто? Мача яму ў галаву стукнула – ён і палез. Во кавалер! Ва харашун! Ты во прыедзеш, у маткі спытай, як трэба зь дзеўкамі абыходзіцца. Цябе, відаць, нічаму не вучылі, дык у цябе розум, як у пеўня, што курэй топча.

– Змоўкні, Вулька, – агрызнуўся Віцька, – я цябе не абзываў.

– Не абзываў?! Ты хацеў мяне згвалціць! Ты казёл, ты дурань, мяшком стукнуты, асёл ты, а не хлапец, што ты нарабіў?!

І Вулька раптам сарвалася і як заплача, горкімі сьлязьмі як залемантуе. Плача, і сьлёзы, як боб, коцяцца.

Тут Віцька зьбянтэжыўся не на жарты. Увесь юр ягоны зьнік, як рукой зьняло. Ён адчуваў сябе зьнішчаным, растаптаным і расплясканым і зразумеў, што адбылося нешта непапраўнае. Вулька яму падабалася, што часам аж дух займала, а ён усё тупаў вакол яе і ня ведаў, як падступіцца. З усімі яна была вясёлая і жывая, як агонь, нікога не вылучала (праўда, танцаваць зь Віцькам любіла найбольш). Хоць бы знакі якія былі ад яе, тады б ужо Віцька можа й рашыўся.

Неяк старэйшыя хлопцы выпівалі і зайшла гаворка пра дзевак. Дык Юрка Даўгуль, дзяцюк бывалы, адслужыў войска недзе ў Расеі, і кажа, што з дзеўкамі гаварыць шмат ня трэба – хапай і пад сябе. Ён, маўляў, у Расеі шмат такіх пераціскаў.

«Го, Расея, няма мовы, – кажуць іншыя сталыя хлопцы, – рускія бабы, як сучкі, ніякага сораму. Вунь глядзі, саветы панавезьлі да нас такіх. Там адна – пяцёра дзяцей, і ўсе ад розных, і мужа няма. І ім добра, ходзіць сабе, падлогу мые ў санаторыі. Ну! Дык гэта што?»

Віцьку павінны былі забіраць у войска ў лістападзе. Усё пайшло наперакасяк, і Вулькі ня будзе. Ня будзе ўжо. Гэта пэўна.

– Вулька, – хрыпла прамовіў Віцька, – Вулька, даруй. Ты мне да душы, Вулька, павер, але я здурэў. Даруй.

Вулька маўчала, усхліпваючы раз пораз. Слоўны запас Віцькі скончыўся, і ён маўчаў, ня ведаючы, што казаць і што рабіць.

– Вулька, – нарэшце зноў азваўся Віцька, – хочаш, я перад табой на калені стану?

Тут Вулька перастала плакаць, падняла галаву і ўгледзілася ў Віцьку.

– Яшчэ чаго! Як гэта – хлапец і будзе перад дзяўчынай на каленях стаяць?! Перад Богам стань. Мне тваіх кленчаў ня трэба.

– І перад Богам стану. Я шчыра, Вулька, вер мне.

Даехалі да брыгады. Вулька вышла, бразнуўшы дзьвярыма, і пайшла, не азіраючыся.

Тое, што не зусім зразумела было Віцьку, які заблытаўся са сваімі гармонамі, тлумачылася вельмі проста. Хто-хто, а Віцька Вульцы падабаўся даўно, яшчэ ў школе. От за такога, здаецца, і замуж пайшла б. Толькі ці ж ёй Віцьку пра гэта казаць? А той Віцька, хто яго ведае, здаецца, і ходзіць вакол, і танцуе, і сяброўскі, і прыстойны сабе, й працавіты, і сталы не па гадах, але маўчыць, цяжка зразумець, хто яму падабаецца. І тут на табе – усё абвалілася, усе спадзяваньні разьбіліся, дурань і даўбень, чмут – ня любіць ён Вульку. І што з такім гарод гарадзіць!

Цяжка сказаць, як бы ўсё рухалася далей. Можа, і разышліся б назаўсёды Віцькіныя і Вульчыныя дарожкі, калі б падзеі нечакана ні павярнуліся так, што прышлося прымаць сьпешныя і адказныя рашэньні.

Калі Вулька позна вечарам вярнулася з брыгады дахаты, у доме была злавесная цішыня. Бацька сядзеў пануры і глядзеў у падлогу. Маці хадзіла па хаце. Яе расьпірала.

– Вулька, – выстраліла яна, – што ты сёньня зь Віцькам у жыце рабіла?

Ад нечаканасьці Вулька аж ёкнула, але не адчуваючы за сабой віны, кажа:

– Віцька дабіраўся, але я не далася.

– Паскудніца ты, – закрычэла маці, – ужо мястэчка гудзе! Хто табе паверыць, нават калі і не далася?! Чаго ты зь ім там скруцілася, каб цябе халера ўжо скруціла, як ты нас зганьбіла.

Пашкоўшчыха стракатала, як з кулямёта, і нават рукі заломвала ад немарасьці.

– Мама, памаўчы, бо цяжка. Віцька добры хлапец, толькі дурнота на яго найшла. Я ж кажу, што не далася. Але калі ўжо людзі ведаюць, то я ня ведаю, што рабіць, хоць у лес бяжы. Можа паеду куды ў сьвет.

– Ну, дурноту трэба выганяць, – прабурчэў бацька, падняўся і вышаў. Відаць было праз вакно, што ён сеў на ровар і паехаў.

Пашкоўшчыха, ведаючы яго характар, тут жа выляцела ўсьлед:

– Костусь, вярніся! Костусь!

Але дзе там! Костусь Пашкоўскі быў чалавек самавіты і разважлівы, але калі яго часам даводзілі да немагчымасьці, то адзіным яго аргумэнтам было імкненьне даць па мухаедах. Не цярпеў і не згінаўся. Тут яшчэ трэба ўлічыць, што Вулька (самая малодшая пасьля трох сыноў) была яго любіміцай, „бацькавай дачушкай", як кажуць у такіх выпадках. І ня толькі ў тым сэнсе, што ён душэўна любіў сваю дачку, але і ў тым, што Вулька бяз бацькі ні кроку. Глядзіць на бацьку, як на абраз, што бацька скажа, тое і праўда. І зь дзяцінства за ім, як хвасток: „Тата, татачка, а запражы коніка", „а вазьмі мяне з сабой", „а чаму пшчолкі не замярзаюць?", „а касіць мяне навучы". Костусь і пра пшчолкі расказваў, і з сабой усюды браў, і касіць навучыў. Вулька вырасла дзяўчына крэпкая, кроў з малаком. Як пачнуць з бацькам касіць, то на пяты яму наступае, толькі пасьпявай.

Віцька жыў адзін з маці. Бацька загінуў на вайне, а старэйшы брат быў у войску. Сястра выйшла замуж і жыла ў Лідзе. Якраз селі з маці вячэраць, як заходзіць Костусь Пашкоўскі.

– О, і Міхаліха тут. Вельмі добра, – сказаў Костусь.

Віцька ўсё зразумеў: Вулька расказала. Хлапец сьцяўся, але ўсьвядоміў: настае рашаючы момант. Альбо пан – альбо прапаў.

– Пані Міхаліха хай мне выбачыць, – пачаў Костусь, – але пры матцы хачу пагаварыць зь Віцькам, – і, не чакаючы адказу Міхаліхі, – да Віцькі.

– Што ты рабіў з Вулькай сёньня ў жыце?! Ты чалавек, ці ты жывёла, Віцька?!

Віцька ўстаў і кажа:

– Мама, дзядзька Костусь, выслухайце мяне спакойна. Я вінаваты, але між намі нічога не было. Дзядзька Костусь, можаце мяне забіць, але вам першаму кажу шчыра, што да душы люблю Вульку, і яна пра тое ня ведае. Але сёньня я зьнішчыў усё. Вулька за мяне ня пойдзе, і вы не дазволіце. Можаце мяне забіць, я вінаваты, але тут гэта маё няшчасьце.

Віцьку аж самому спадабалася, як ён добра гаворыць, аж тут матка:

– Чакай, дык што ты там зьнішчыў? Што нарабіў?

– Вульку хацеў, гэты, во, ну сілай значыцца, – пачаў бубніць Віцька. Міхаліха паглядзела і кажа:

– Вульку? Сілай? А мой ты сыночак, гэтую дзеўку сілай і рота ня возьмець. Лепш было б па запаведзях. Ты б хоць з маткай параіўся.

Далейшай ганьбы Віцька ўжо вытрымаць ня мог. Ён насупіўся – і да дзявярэй.

– Не рабеце зь мяне дурня, бо я ня дурань. Нічога з Вулькай ня сталася. Во пайду і буду гаварыць зь ёй. – Сказаў – і за парог.

Віцька вышаў, завярнуў за клуню і сядзеў там у зарасьніках палыну да поўначы, уздыхаючы, як конь, думаючы пра нескладанае сваё жыцьцё.

Костусь зь Міхаліхай яшчэ доўга гаварылі і да нечага як бы дамовіліся. Уся бяда, што мястэчка ўжо рагатала і гуло. Аказваецца, што калі Віцька з Вулькай там качаўся, па дарозе на ровары ехаў Броніcь Місюк, дзядзька сьляпаваты, барадаты і языкаты, як і ўсе Місюкі ў мястэчку. Ён угледзеў Віцькаў грузавік на ўзбочу і Віцькавы прыгоды, праўда, не разабраўшыся, што там насамрэч адбываецца. Ён то першы, убачыўшы Костуся, тое яму і расказаў. Ад гэтага Місюка ўсё і пайшло.

Паміж Пашкоўскімі і Міхаліхай пачалася, як кажуць, чаўночная дыпляматыя – ад хаты да хаты. Хлопцы ў мястэчку Віцьку падкалывалі: „Ну, як там Вулька?" Але Віцька трымаў удар: „Ды кіньце, хлопцы, сьляпы Місюк ня тыя акуляры надзеў і брэша. Мы з Вулькай вышлі васількоў назьбіраць. Вы што, верыце яго брахні?"

Тады ўжо пра Вульку ніхто не пытаў, а толькі: „Віцька, ну як там васількі? Растуць?"

Бывала праходзіць Віцька, а хлопцы на гітары іграюць і сьпяваюць расейскі пасьляваенны вагонны шлягер: „Всё васильки, васильки. Много мерцает вас в поле. Помнишь, вечерней порой мы собирали для Оли”.

Скончылася гэтае пад'ялдыківаньне тым, што спакойны Віцька пабіўся з хлопцамі і некаторым такі добра надаваў па карку (хоць і самому разьбілі нос). Тут ужо „васількі” замацаваліся крэпка. Толькі мовіліся завочна. Нават тады, калі Віцька з Вулькай пажаніліся (а яны ўсё ж пажаніліся, інакш быць не магло), то калі йшлі дзе, дык іншыя казалі: „Вунё, васількі йдуць”. І хату іхнюю называлі „васількова хата”. А як дзеці пасыпаліся, як гарох (Вулька толькі выстрэльвала), дык ўсе былі „васількі”. „Чые ж гэта, – пыталі, – ды васільковыя”.

Вясельле зладзілі ў кастрычніку перад войскам. Добра пагулялі, пасьпявалі, папілі. А Віцька быў такі важны і горды. У рот ня ўзяў (па запаведзях, як матка казала), але ўжо танцаваў з Вулькай да ўпаду, і ўсім увесь час было надта „горка” – у Вулькі аж губы спухлі.

Пасьля вясельля нараніцы Віцька выйшаў з хаты, а хлопцы-дружбаны:

– Ну, як васількі, Віцька?

– Ціха, хлопцы, ціха, ша – Вулька сьпіць, – кажа Віцька. Завярнуўся і пайшоў у хату. А дружбаны:

– Го-го-го-го! Га-га-га-га!

Летам Вулька з першага разу нарадзіла двойню хлапцоў. Віцька там (у войску ва Узбэкістане) ад радасьці так скакаў, што ледзь на губу ні трапіў за парушэньне статута. Але ў водпуск яго адпусьцілі, і Віцька, пабыўшы, тут яшчэ дабавіў. Калі дэмабілізаваўся, меў ужо трох сыноў (двох бегалі, адзін поўзаў). А ўжо ж Вульку абымаў.

– Я, – кажа, – каб цябе тады ў жыце не пакачаў, то нічога і не было б.

– Гэта таму, што я табе на далася; заслужыць трэба, дык от і выслужыўся, – рагоча Вулька і ўжо чацьвертым пухне.

– Будзем гнаць да перамогі! – грыміць Віцька. – Жыве Беларусь! Колькі Бог дасьць! Поўны наперад! Дагонім і перагонім Амэрыку па надоях малака на кожную фуражную карову! – разышоўся Віцька. – Да здравствуют наши советские женщины! Люблю Вульку! Вульку люблю! – Віцька жартуе, а Вулька рагоча.

Шчасьця было ў іх поўны дом. І ўвесь час, і заўсёды. Віцька (як звычайна ў мястэчку) пафарбаваў сваю хату ў жоўты колер, але зрабіў трафарэт і наштампаваў на сьценах сініх васількоў. „Васількі, дык васількі, халера на іх” (гэта пра местачкоўцаў). Потым падумаў, і над ганкам блакітнай фарбаў вывеў: „Няма лепш цьвяточка над васілёчка”.

Напісаў і пайшоў у хату абымаць сваю любімую Вульку.

*7 студзеня 2013 г.*



*260.*

# САЛАМЭЙ

*«Гітлер лапці пляцець,*
*Герынг падплятаіць,*
*Гэбэльс лапці прадаець*
*Капітал складаіць...»*
(Народная прыпеўка)

Адразу, як у 1941-м зноў пачалася вайна, бальшавікі ўцяклі і ўлады не было. Местачкоўцы скарысталі гэты час, каб абрабаваць крамы (усяроўна, маўляў, немцы забяруць). Прышлі немцы і сказалі ўсім усё вярнуць.

Вусьціновічы, якія жылі ў цэнтры мястэчка, нацягалі найбольш, асабліва стары Вусьціновіч – сівенькі дзядок, працавіты, майстар на ўсе рукі, але і скупы ня ў меру. У Ліду (43 км) хадзіў ня йначай, як пешшу. За дзень і затупае. Грошай шкадаваў (а каня бальшавікі адабралі). Ён быў садавод, пчаляр, пераплятаў кнігі і рабіў цуды з саломы: брылі і шапачкі для ўнукаў, цацкі. За гэтае ягонае саламянае мастацтва старога Вусьціновіча празвалі „Саламэй”. Саламэй дык Саламэй. І ўнукі ўжо былі „саламэі”. У ім усё спалучалася: здольнасьць, працавітасьць, скупасьць і беражлівасьць. Пры гэтым Саламэй быў упарты, як казёл.

Ён і не зьбіраўся некаму нешта аддаваць, што нацягаў з крамы. Там усё было бальшавіцкае, і тое ўсё бальшавікі пакінулі, уцякаючы ад немцаў. Пры чым тут немцы?! І чаму ён павінен ім нешта вяртаць, калі бальшавікі ўсё ў людзей забралі, а ў яго адабралі нават дом (і Вусьціновічы жылі ў хляве)?

Ну, пэўня. Але ж людзі зайздросныя. Нехта ўзяў і падаткнуў немцам, што набраўся Саламэй больш за ўсіх і нічога не вярнуў.

Прышлі немцы і сказалі вярнуць. Саламэй разьвёў рукамі: „Няма”.

Тады немцы прывязалі Саламэя да лавы і пачалі біць папругамі. Немцы б’юць, а Саламэй крычыць: „Біце, біце, нямецкія сабакі! Біце, біце, нямецкія сабакі, – нічога няма”.

Тады немцы азьвярэлі, знайшлі ланцугі і пачалі хвастаць Саламэя ланцугамі. Той усё крычаў: „Біце-біце, нямецкія сабакі! Будзе і вам!” – аж пакуль ня страціў прытомнасьць.

Нявестка Ганна стала на калені, перажагналася, шчапіла рукі і стала прасіць немцаў зьлітавацца. Саламэй ня рушыўся. Немцы плюнулі, загергянталі і пайшлі.

Усе думалі, што Саламэй памрэ. Ляжаў, як палена, ня рушыўся, соп і толькі ціхенька стагнаў. Ужо й ксяндза прыводзілі. Доўга так пакутваў Саламэй. Потым амаль год адыходзіў. Ледзь хадзіў, крывёй харкаў, але паступова выздаравеў і да канца жыцьця рабіў брылі з саломкі, пераплятаў кнігі і, калі трэба, трухаў пешкі ў Ліду.

*15 студзеня 2013 г.*



*261. Местачковая сям’я зь Ліпнішак перад вайной. (Фота з Інтэрнэт-старонкі «Радзіма».)*

# ЗОСЯ

Адкуль зьявілася ў мястэчку гэтая Зося, я ня ведаў. Пасьля вайны траплялася шмат такіх выпадковых людзей нямаведама адкуль, часам не зусім нармальных, без сям'і і заняткаў. Зося ў нейкага жыла з ласкі і пасьвіла каровы ў Суботніках па Геранёнскай і Касьцельнай вуліцах.

На твары яе блукала часам жаласная ўсьмешка, рухі былі няўпэўненыя, а погляд вінаватага, прыціснутага жыцьцём чалавека, але добрага да ўсяго сьвету і гатовага кожнаму саступіць. Зося мала гаварыла, звычайна аднаскладовымі сказамі, калі што было трэба, ці наадварот – ня трэба. Узрост яе быў недзе паміж сарака і пяцідзесяці, камплекцыя звычайнай вясковай бабы, хадзіла яна ў нейкіх шэрых лахманах, панчохах, перакручаных на тоўстых лытках, і ў стаптаных чаравіках. Твар яе нагадваў сьпечаны яблык, на якім, здавалася, не было аніякага праблеску інтэлекту.

Так яе і памятаю, як ідзе ўсьлед за чарадой, вымаўляючы часам „но, пайшла" і „куды".

Аднойчы на Сёмуху, калі каровы прыходзяць з пашы зь вянкамі на рагах (пастухі робяць) і людзі па традыцыі абдорваюць пастухоў падарункамі (ядой, адзеньнем і нават грашыма), гаспадары згаварыліся, склаліся і справілі беднай Зосі ўсё адзеньне (з ног да галавы): новую спадніцу, блюзку, сачак, дабротны цёмна-сіні плашч з паскам, хустку, скураныя мэшты і панчохі (тут яшчэ і касьцёл крыху далажыў).

Зося ўбралася і ў нядзелю хадзіла па тратуары па Касьцельнай вуліцы шырокім крокам, высока задраўшы галаву, нікога не заўважаючы і нікому не саступаючы дарогу.

Яна заходзіла амаль у кожную хату (дзе можна было) з прычыны нібы вады напіцца, каб на яе паглядзелі. Выходзіла – і зноў па тратуары. Выраз твару яе быў самаўпэўнены і пыхлівы, нейк нават губа вывернулася навонкі. Яе цяжка было пазнаць. Мы, падлеткі, трапіліся ёй насустрач, дык яна штурхнула і прайшла праз нас, як танк, не азіраючыся. Мы моўчкі паразьзяўлялі раты. Нам здалося, што гэта была ня Зося.

Назаўтра быў панядзелак, і мы зноў бачылі, як Зося гнала з пашы чараду, плятучыся ўсьлед у шэрых лахманах з жаласнай няўпэўненай усьмешкай на круглым, як сьпечаны яблык, твары.

*1 студзеня 2013 г.*



*262. Віленшчына. Удалечыні вёска Кальвэлі. (2009 г.)*

# ГАРНІЗОН

Дзесьці ў 1969-м я паступіў у асьпірантуру Акадэміі Навук у Менску і шукаў кватэру, бо „акадэмік” (асьпіранцкі інтэрнат) трэба было чакаць у чарзе (пры саветах усюды была чарга).

Я пазнаёміўся на прыпынку трамвая з адным старшыной, які служыў звыштэрмінова ў гарнізоне ў Менску і толькі што пабудаваў сабе кааператывам трохпакаёвае жыльлё. Гэта быў такі „паўваенны” дом на вуліцы Кальцова, дзе гэтых звыштэрміновых старшын-сяржантаў парадкам сабралася. Прытым – ніводнага беларуса – усе акупанты з Расеі. Толькі мой знаёмец Пеця Краўчук украінец з Карпатаў.

Пеця (Пэтро) быў душа-чалавек, вясёлы, сумленны, трохі з гумарам і крытычным розумам. Асноўны клопат яго быў правільна пакарміць кенара ў клетцы, каб сьпяваў, і выхоўваць шасьцігадовага сыночка дзяжкай. Ён уліваў асьцярожна, у меру і патрошкі.

– Вы знаеце, Зянон, не магу зразумець: у нас ва ўсім родзе ніхто ніколі ня хлусіў. Хлусіць на кожным кроку. Спасу няма. Адшлёпаю, паплача і зноў хлусіць. Ну? Што рабіць, скажыце?

– Перарасьце, Пеця, – кажу, – гэта ў яго гульня такая. Ён жа не разумее, чаму нельга. Казку яму лепш раскажыце, дзе з хлусаў сьмяюцца і Бог карае, – мудра павучаў я старшыну Пецю.

Наступная тэма была пра кенара. Часам Пеця з жонкай ад’язджалі на дзень, то прасіў мяне пакарміць птушку – адну лыжачку, ня больш, а то сьпяваць перастае.

– Яму як больш дасі, – кажа Пеця, – дык нажарэцца і тады маўчыць. Нічога яму ня трэба.”

– Во, якраз, як чалавек, – адказваю я, – наесца, і ніякая ні свабода, ні мастацтва яго ўжо не цікавіць. Толькі піва хоча. Праўда, Пеця?

– Так точна, – кажа Пеця, – і шмат такіх.

Але кенар – гэта дробязь. Побач на пляцоўцы ў суседніх кватэрах жылі два старшыны-расейцы, таксама некалі засталіся на звыштэрміновую службу. Адзін, „Костя”, аднекуль з Пензы, меў жонку Марфу (таксама расейку), якую часам „поколачивал”, каб лепшай была, і шасьцігадовую дачушку, якая хадзіла ў акулярах.

Другі, „Митя”, што жыў насупраць, паходзіў зь нейкага горада, выгаварыць назву якога было цяжка і тым больш запомніць (нешта накшталт Сывтыквар). Жонка яго, Клава, адтуль жа. Бывала ў добрым настроі казала: „Ой, девочки, в Белоруссии такие хорошие люди. Мы решили остаться.”

Косьця трымаў „вучонага” галуба, які жыў у яго ў кватэры. Часам Косьця адпускаў яго палётаць, але голуб зноў прылятаў. І тады Косьця камандаваў „Гена!” і пapляскiваў сабе па плячы. Голуб сядаў яму на плячо і круціў галоўкай. Тут Косьця даваў яму з рукі чаго-небудзь падзюбаць. А калі ў доме быў госьць, Косьця часам так між іншым зноў ляпаў сабе па плячы і камандаваў „Гена!” Гена сядаў на плячо (на зьдзіўленьне госьця), і так Косьця з галубом і працягваў гаворку, ды праводзіў госьця да дзьвярэй.

Косьцін галуб быў справай яго прэстыжу. Нават у гарнізоне ведалі, што Косьця мае вучонага галуба, які слухаецца яго камандаў.

Тым часам Міця быў чалавекам ціхім. Ягоным аўтарытэтам была Клава. Яе жаданьні ён прадбачыў наперад. „Что й та Костя сегодня разошелся! Никак опять Марфушу гоняет?” – казала бывала Клава. І Міця йшоў да Косьці пагаварыць пра рыбалку. Скандал сьціхаў.

Праўда аднойчы Косьця разышоўся так, што дрыжэў дом. А справа была ў тым, што ў той час у Савецкай арміі ўвялі званьне прапаршчыкаў. Усіх старшынаў перавялі ў прапаршчыкі і выдалі пагоны з малымі зорачкамі і суцэльным полем. Аддалена гэтыя пагоны нагадвалі генэральскія, толькі бедна выробленыя і зорачкі малыя.

Косьця, як прышоў у новых пагонах, адразу хлабыснуў паўшклянкі гарэлкі за свой новы від. Падышоў да люстэрка, паўзіраўся і закрычаў:

– Марфа! Генерал, ей-бо! Генерал! – Косьця наліў яшчэ і выпіў залпам. – Нет, ты посмотри, Марфа, генерал ей-бо, а?!

– Ой, прямо, очень похоже, Костя, ну впрямь, генерал! – успляснула далонямі Марфа.

– Ге-не-ра-а-ал! – зароў Косьця, – Ге-не-ра-а-л! – і пусьціўся „в пляс”. –

Э-э-эх! – крычаў Косьця і выстукваў ботамі ў падлогу так, што сэрвант з хрусталём задрыжэў. Дом хадзіў хадуном.

Пеця пастукаў да мяне ў дзьверы:

– Чуеце?

– Чую, а што гэта?

– Ну, гэта ж прыдурак так пагоны абмывае. Ну, ці ж ня дурань! – Пеця пакруціў пальцам каля віска. – Гэта яшчэ тая кадра.

Ад радасьці Косьця ня мог супакоіцца і пачаў камандаваць галубом, які ўзьляцеў на карніз за штору і трывожна пазіраў адтуль, як Косьця гасіць ботамі ў падлогу.

–Гена! Сюда. Каму сказал! Сюда! – І Косьця ляпнуў па плячы. Голуб, нарэшце, усё ж зьляцеў. – Вот давно бы так! Пей! Пей, Гена, за генерала, ей-бо! – І Косьця паднёс галубу шклянку з гарэлкай. Голуб адвярнуўся. – А-а, не хочешь? Не ўважаешь, да?? Ну і дурак!” – Сказаў Косьця і выпіў сам.

Тым часам у Міці быў план адзначыць падзею ўсім траім суседзям разам з жонкамі, але Клава сказала „не нада”:

– Ты же слышишь, он уже сам отметил, даже Васька испугался.

„Васька” – гэта вялікі пушысты кот, любімец сям’і, якога Міця, пераймаючы Косьцю, таксама навучыў сядаць сабе на плячо. Бывала Міця выходзіць, спусьціцца ўніз пошту забраць, а на плячы гэтак спакойна сабе кот сядзіць.

– Ой, мы так любим животных, – казала Клава Марфе, – они такие умные, ну как люди.

І ўсё было б добра ў гэтым „гарнізоне”, калі б аднойчы кот Васька ні перапез на балькон да Косьці, ні злавіў і ня зьеў галуба Гену.

Да бойкі суседзяў справа не дайшла, але скандал быў грандыёзны. У канцы Косьця прыстрашыў Міцю:

– Подожди, я те сделаю, я те сделаю!

I „сделал”. Праўда, тое ўжо сталася не з маёй прысутнасьцю. Да гэтага часу я зьехаў з „гарнізона” на іншую кватэру. Але аднойчы я спаткаў Пецю Краўчука і ён, весела сьмеючыся, расказаў мне, што адбылося.

А сталася вось што. Аднойчы Марфа вярнулася дадому раней часу і, падыходзячы да дзьвярэй, пачула ў кватэры дзіцячы енк. Дзяўчынка павінна была быць яшчэ ў садку, але Косьця мог яе ўжо забраць. Енк быў такі, што здавалася, быццам дзіця рэзалі.

Хвалюючыся і не трапляючы ключом у замок, Марфа сама пачала лямантаваць:

– Доченька, доченька! Помогите! – Тут на пляцоўку выскачыў Пеця, дапамог адчыніць дзьверы і ўляцеў з Марфай у кватэру. Чуваць быў пах паленага, нібы курыцу смалілі. На кухні сядзеў Косьця і ашалелымі вачыма глядзеў на Пецю з Марфай. Побач апутаны дратамі ляжаў спруцянелы кот Васька.

Аказалася, што Косьця злавіў галубажэрцу ката Ваську, абматаў яго за шыю і за хвост аголеным дротам і падключыў праз рэле ў электрасетку. Павялічваў напружаньне да таго часу (а кот енчыў), пакуль Васька ні спруцянеў і ні пачаў падгараць.

– Во якая кадра! Вы маглі б пра такое падумаць! – закончыў расповяд Пеця. –

У нас на Ўкраіне такіх ідыётаў шчэ нэма.

– Е, Пэтро, е, – гэта імпартны варыянт, – у тон яму адказаў я. – „Драка” была?

– Клава сказала, што вочы выдрапае. Цяпер не размаўляюць між сабой.

– Вось бачыш, Пятро, а ўсё з-за любові да брацьцяў нашых меншых.

– Добра, що воны так людэй нэ любяць, отжэ парэзалі ўжэ.

– А кенар жыве?

– Жыве, сьпявае.

– Ну і добра, хай сьпявае.

На гэтым мы разышліся. Экзатычная гісторыя з савецкага часу. Часам успамінаецца ні з таго ні з сяго.

*22 студзеня 2013 г.*



*262-а.*

# ГЕРАНІМ

У 1985 годзе, будучы ў Абхазіі ў горадзе Гудаута, я зачытаўся творамі Міху Лакрбы (Міхаіла Лакербая, абхазкага клясыка XX ст.) і даведаўся, што знакамітая вёска (ці, як сказалі б мы, – мястэчка) Лыхны было тут зусім недалёка, кілёмэтраў за 5-6.

Я адразу вырашыў туды схадзіць, бо няма нічога прыямнейшага, як хадзіць пешшу і аглядаць незнаёмыя прыгожыя мясьціны.

Дарога – вузкі асфальт без узбочыны, таму прышлося йсьці па асфальце і ўвесь час азірацца, каб не задушыла машына. Тут гэта проста. У мяне склалася ўражаньне, што на гэтай зямлі ніхто ніякіх правілаў дарожнага руху не прызнае. Насустрач мне гнаў грузавік з каўпом, як сена воз, нагружаны, нібы сіласам, лісьцямі зялёнай гарбаты. Лісьце разляталася ў бакі, усьцілаючы дарогу, хуткасьць пад 100 км, а на версе гэтага стогу яшчэ двох вясёлых хлапцоў сядзяць і рагочуць. Нават памахалі мне рукамі: „Привет, дарагой!"

„Хоць бы жывымі даехалі", – падумаў я. Дастаткова было ліхачу (які яшчэ, магчыма, выпіў чачы) тармазнуць на павароце ці вільнуць пры абгоне – канец і стогу, і хлапцам: прызямленьне было б кароткім з доўгатэрміновымі вынікамі.

Перад гэтым я ехаў аўтобусам у гарах на горнае возера „Рыца" на вышыню звыш 900 мэтраў. Вузенькая дарога на самым краі бездані віляла сэрпанцінам, як зьмейка, глыбока ў нізе бездані рэчка бурліць, а шафёр гоніць сабе на хуткасьці, як той з гарбатай, і ў вус ня дуе. У аўтобусе мёртвая цішыня. Усім заняло дых. Некаторыя заплюшчылі вочы. Шчыра кажучы, і я ў думках ціха памаліўся.

На Апсару – сьвятую гару абхазаў – я ўжо пешшу дыбаў, чатыры гадзіны йшоў. Няма дурных. Адчайны народ, што абхазы, што грузіны: жывуць, як хочацца. Спачатку робяць, потым думаюць. О, цяпер я разумею гэтую гісторыю, якую я нядаўна пачуў. Гумар-сатыра. Анекдот. Ішло двох грузінаў з гасьцей. У Грузіі гасьцей без віна не бывае, як у Беларусі без гарэлкі. У выніку адзін зваліўся ў бездань. Той, што зьверху, гукае:

– Голія, ты мяне чуеш?
– Чую.
– Галава цэлі?
– Цэлі.
– Рукі цэлі?
– Цэлі.
– Ногі цэлі?
– Цэлі.
– Дык вылазь сюды.
– Не магу, я яшчэ не даляцеў.

Па дарозе на вяршыню Апсары захацелася піць. Ніякага пойла ў бутэльках я, зразумела, не ўжываў. Го – думаю – найлепш было б кефіру. Падыходжу, стаіць нейкі аб'ект на схіле, падобны на сталовую-чайную. Напісана: «абед – 13.00–14.00.» Было 13.00. На ўсялякі выпадак прыадчыніў дзьверы і зазірнуў. У глыбіні памяшканьня нейкі мужчына гадоў пад сорак размаўляў з двума афіцыянткамі (так я падумаў). Я зачыніў дзьверы, а яны там крычаць:

– Эй, заходзь, дарагі, заходзь!
Я зноў прыадчыніў дзьверы.
– Ты што хацеў, дарагі?
– Дык жа ў вас абед.
– У нас абед, і ў цябе абед, дык у чым справа, дарагі?
– Кефіру хацеў.

Тут запанавала цішыня. Уражаньне, што яны ня чулі пра такі напітак.

– Кефір, кажаш? Гм... Заходзь, дарагі, знойдзем, дастанем. Грузінскае віно лепшае ў сьвеце.

Зазначу, што наконт віна я цалкам згодны. Самае лепшае. Але пры чым тут кефір?

Гэтак думаючы пра тое ды сёе, я дайшоў да Лыхноў. Па дарозе мяне больш за ўсё ўразілі сядзібы, дзе побач з домам былі магілы. Калі паміраў сямейнік, яго тут жа каля хаты і хавалі, ставілі помнік, усё, як трэба. Асьцярожна дапытаўся. Аказваецца, так рабілі абхазы, якія прынялі мусульманства.

Справа перад Лыхнамі я ўбачыў дах і вежы мураванай царквы Багародзіцы, па вобразу, відаць, вельмі старажытнай. Так яно і аказалася – XI стагоддзе. Якраз адбываўся рамонт. Я зайшоў да сьвятара-настаяцеля. Строгая пападдзя адамкнула мне храм. Я пахадзіў, паглядзеў на даўнія росьпісы (XIV ст.), зрабіў пару здымкаў, пагаварыў з пападдзёй, разьвітаўся і зьбіраўся адыходзіць, як з рыштаваньняў спусьціўся чалавек крыху старэйшы за мяне, на выгляд гадоў пад 50, відаць, рабочы рэстаўратар, і спытаўся, усьміхаючыся:

– Храмам цікавіцеся? Гэта вельмі старажытны храм.

Завязалася гаворка пра фрэскі, пра архітэктуру і мастацтва, пра рымскую гісторыю. Незнаёмец добра арыентаваўся ў старажытнай Беларусі, ведаў усе гарады, дзе былі пабудовы XII стагоддзя: Полацк, Віцебск, Гародню, Менск. Ведаў, што ў Віцебску храм XII стагоддзя быў узарваны ў 1961 годзе.

Мы вышлі на панадворак і прыселі пад сьветлым платанам. Мне спадабаўся гэты чалавек. Ён быў адкрыты, дабрадушны, глядзеў у вочы і адчувалася, што ня меў ніякіх засьцярог і падазрэньняў адносна маёй асобы (успомнілася строгая пападдзя і настаяцель з вачыма, як сьвідэркі). Размова была шчырай і даверлівай. Трэба ўзгадаць, што за саветамі людзі пабойваліся казаць пра палітыку, веру, Бога і начальства. Гэты гаварыў, што думаў. Для мяне гэта таксама было найлягчэй. Таму мы добра разгаварыліся, расказваючы адзін аднаму ня толькі пра свае мяркаваньні, але і цэлыя гісторыі.

Рэстаўратара звалі Геранім. Тут я задумаўся.

– Вы не зь Беларусі часам?

– Не, я грузін. Мама мая беларуска. Ужо не жыве. Я шмат ведаю пра Беларусь ад мамы. Бываў там ня раз. У Нясьвіж езьдзіў, у Полацк і Мір, а мама жыла ў Гародні.

– Геранімам, відаць, мама назвала?

– Не, ведаеце, я Зураб. Геранімам я сам сябе назваў.

Я падумаў, ці варта пытаць далей (нешта ня тое), і кажу, што мне маё імя ўвогуле падабаецца, усе, хто меў такое імя

(у абсягах маіх ведаў) былі прыстойнымі людзьмі. На што Геранім кажа, што яму „Зураб" таксама падабаецца, але калі чалавек зьмяняе жыцьцё, то трэба быць пасьлядоўным.

– Звычайна мяняюць імя манахі, епіскапы, – працягваю я.

– Ну так, – кажа Геранім-Зураб – гэта проста, назваўся Серафімам, ці нават Херувімам, але ня стаў ні анёлам, ні вернікам, ні нават прыстойным чалавекам.

– Тады, скажэце, Геранім, – пачаў я, – як вы мяркуеце, калі б, напрыклад, Гітлер альбо Сталін атрымалі б дакладныя зьвесткі і доказы, што Бог ёсьць, ну, калі б сам Бог зьявіўся б да іх, зрабіў цуды, як бы яны сябе павялі?

– Не, не зьмяніліся б, – адказвае Зураб-Геранім. – Што да паводзінаў, то хутчэй за ўсё пастараліся б Бога расстраляць.

– Ну, – кажу, – пануры жарт, але праўда.

– Які жарт? Хрыста ж укрыжавалі. А ён жа Сын Божы, прышоў да іх і рабіў цуды.

Перш, чым даведацца, што Бог ёсьць, трэба паверыць. Бог пазнаецца толькі праз веру. Веды могуць дапамагчы ў веры, але ніякія веды бяз веры не прывядуць да Бога.

– Так, – згаджаюся я. – Усё ж відавочна, зразумела і нават проста, але як цяжка чалавеку ўсё тое асягнуць. Ведаюць, але ж ня вераць. Усяроўна ня вераць. Адкуль жа тады вера?

– Выходзіць, што тут ўсё, як напісана: стукайся, дык адчыняць, – кажа Геранім. – Урэшце, усяроўна ўсё залежыць ад Бога, а не ад чалавека, але трэба адно – каб чалавек пастукаўся. У гэтым, я думаю, і ёсьць сакральны сэнс свабоднай волі, дадзенай Богам чалавеку.

Гэтак мы разважалі аб вядомых рэчах, нібы правяраючы адзін аднаго і дэманструючы погляды ды пазыцыю, словам, шукаючы адзінства ў размове на агульныя тэмы. Мы лёгка гэтае адзінства знайшлі і размаўляць было хораша, як раптам Геранім кажа:

– Але, ведаеце, ёсьць адзін чалавек, які дакладна ведае, што Бог ёсьць.

– Як? Бязь веры?

– Зь верай. Але ведае.

– Цікава. Хто гэта?

– Гэты чалавек перад вамі, пане мой. Пасьля таго, як я даведаўся, я і стаў Геранімам.

– Вы бачылі Бога? – спытаў я насьцярожана ўглядаючыся ў субяседніка. Геранім усьміхнуўся, злавіўшы мой позірк.

– Не, ня бачыў. Было мацней.

– А што мацней?

– Бог падарыў мне жыцьцё.

– Ну, так, але Бог усім дае жыцьцё.

– У тым і справа, што мне Ён даў асабіста.

«Вось табе, бабулька, і дажылі да Юр'я,» – падумаў я, углядаючыся ў яго лагоднае аблічча (няўжо шызоід?).

– І як гэта здарылася, Зураб, што Гасподзь вылучыў вас сярод людзей? – спытаў я ўжо без энтузіязму, гледзячы на малады кедр, што рос на другім канцы двара.

– Тое, што вы цяпер думаеце, – гэта памылковае думаньне, – кажа Зураб-Геранім з усьмешкай.

– А што я думаю?

– Вы думаеце, што я вар'ят. Але я не вар'ят. Я адразу ўбачыў, што вы ня той чалавек, якому могуць усяго нагаварыць і ён паверыць. І гэта добра, бо ўсё, што я мог бы вам расказаць, – праўда.

– Вы адчуваеце патрэбнасьць расказаць пра сваю праўду?

Геранім задумаўся, памаўчаў і потым кажа:

– Калі па шчырасьці – адчуваю ня тое, што патрэбнасьць, хутчэй абавязак. Але я вельмі рэдка пра тое кажу. І ведаеце, рэдка каму можна й казаць. Тут ёсьць над чым падумаць.

– Я ведаў чалавека, які быў прэсьвітэрам у бапцістаў, – адказваю я Гераніму. – Ён горача верыў і ўсё хацеў убачыць Бога, начамі маліўся без перастанку, прасіў Бога паказацца. А Бог усё не паказваўся. Дык ён перастаў верыць.

Геранім усьміхнуўся.

– Ну, дзівакоў хапае. Вера ня можа хадзіць у цемры. Інакш неадукаваныя прымітывы патопяць усялякую веру.

– Выбачайце, Геранім, за мае сумненьні, – кажу я, – якія вы заўважылі. Я бачу і разумею, што з вамі нешта адбылося. Але я лічу сябе чалавекам навукі і маю звычку сумнявацца ва ўсім, пакуль у нечым пераканаюся. Ну, вось такая ёсьць мэтадалёгія майго думаньня. Бога нельга ўбачыць.

– Я яго ня бачыў і не кажу пра гэта. Але я паспытаў цуд Божы, – неяк асабліва спакойна сказаў Геранім. – Як вы апынуліся ў гэтым месцы? Тут рэдка хто зьяўляецца з далёкіх людзей? – перавёў ён гаворку на іншую тэму. Вы на машыне?

– Я прышоў пешшу, – адказаў я.

Геранім зноў задумаўся, а потым:

– Ці варта было ісьці пешшу?

– Я заўсёды стараюся пешшу. З-за ветравога шкла шмат ня ўбачыш...

Калі мне было пяць гадоў, – пачаў я ўспамінаць сваё, – на мяне напаў вялізны сабака і пачаў кусаць. Людзі абаранілі. Потым нешта падобнае паўтарылася. Быў нэрвовы шок, і лекары асьцерагаліся, ці буду я жыць. Аднойчы, калі я з маці ехаў у цягніку, да мяне падышоў хлопчык, такі, як я. Ён адвёў мяне ў купэ, дзе быў яго бацька. Чалавек паглядзеў на мяне і сказаў маёй маці, што вылечыць мяне. Ён даў вады, якой маці мяне паіла так, як ён казаў. Я выздаравеў. Гэты чалавек папярэдзіў, што праз дзесяць гадоў хвароба паўторыцца, захварэю на сэрца, і я альбо выжыву, альбо памру – усё будзе залежыць ад маці, ад таго якія будуць умовы і догляд.

Усё сталася, як сказаў чалавек. Я выжыў. Памятаю пра гэта ўвесь час, бо разумею, што гэта Пан Бог з Ласкі сваёй даў мне магчымасьць жыць на гэтым сьвеце.

А Геранім:

– Гэта цікава, і, я думаю, што тое ня проста так. Мне прыходзілася задумвацца над тым жа, бо зразумела, што калі Бог нешта асабліва (ці нават выключна) дае, то дае тое для нечага. Для чаго? Чалавек павінен зразумець. Нельга змарнаваць дар Божы.

Дык вось пра тое, што здарылася са мной. Гэта было 23 красавіка 1966 года, – пачаў Геранім. – Мне было 28 гадоў, я толькі што скончыў мастацкую акадэмію і ляцеў па справах з Баку ў Махачкалу. Той дзень стаіць у мяне ў вачах рэзка і ярка, памятаю дэталі, якія фіксаваліся самы сабой, проста ад таго, што запалі ў вочы. Памятаю нумар рэйса і нават бартавы нумар самалёта ИЛ-14 на фюзеляжы, якім я ляцеў (61772).

Салон быў поўны (недзе каля 30 пасажыраў). Я сядзеў з правага борту (там адзін рад крэслаў) каля вакна якраз перад крылом. Мне было добра бачна правае крыло і матор,

нават часам дым з выдзьмухоўцаў (хоць гэтага ўвогуле на чыстым авіябэнзіне не павінна было відаць).

Раніца выдалася дажджлівая, было холадна і дзьмуў вецер, але мы шчасьліва ўзьляцелі і неўзабаве апынуліся над воблакамі, дзе ярка сьвяціла сонца. Настрой ў мяне быў таксама сонечны такі, што хацелася сьпяваць. У гэты час самалёт пачало моцна трэсьці. Ён пачаў разварочвацца і зноў зьніжацца. Мне здалося, што нешта тут ня тое. Пасажыры з супроцьлеглага боку ўсе павярнуліся да вокнаў, некаторыя пачалі спалохана крычаць. Я зірнуў ў вакно насупраць і ўсё зразумеў: лапаткі прапелера былі нерухамыя. Гэта значыць, што мы ляцелі на адным маторы. Бортправадніца, мілая жанчынка, пачала ўсіх супакойваць і казаць, што на адным маторы самалёт можа доўга ляцець і мы зараз вяртаемся ў аэрапорт. Мы ляцелі так у воблаках ужо нekі час, праляцелі над зямлёй, потым апынуліся зноў над морам. Мне здалося, што самалёт зноў стаў набіраць вышыню і пачаў рабіць разварот

У гэты час я заўважыў, што дым з выдзьмухоўцаў пайшоў густы, чорны і нават з іскрамі. У той жа момант самалёт на павароце лёг на левы бок, з матора паваліў чорны, як сажа, дым, і ён загарэўся. У салоне пачуўся лямант. Нейкая руская кабета крычала: „Немцы, немцы!" Пачалася паніка. Я ня мог адарваць вачэй ад палаючага матора, разумеў, што ў любы момант можа стацца нешта страшнае. Самалёт моцна лёг на левы борт, крыло з вогненным маторам паднялося ўверх і якраз у гэты час я ўбачыў як па краях крыла пабег сіні агеньчык і тут жа ўсё крыло ахапіла сіняе полымя. Я не пасьпеў нават нічога падумаць як адчуў рэзкі штуршок, гром і трэск. Уражаньне, што выбухнула ўсё крыло. Кадлуб (мне здалося) разламаўся проста перад маімі вачыма. Мяне ўдарыла аб борт так моцна, што я згубіў сьвядомасьць, але імгненна ачнуўся.

Кроў залівала вочы, халодны вецер, і я бачу, што я адзін у паветры, а нада мной шэрае неба і сьвішча вецер. Я зразумеў, што падаю ў мора, і жыць мне засталося можа некалькі секунд. Усё маё жыцьцё, як маланка, жыгнула ў сьвядомасьці. Гэта было імгненьне, але я ўсё ўбачыў, год за годам, дзень за днём. Я падаў тварам уверх, і шэрыя воблакі нада мной аддаляліся. Няма слоў і паняцьцяў, каб сказаць, як мне хацелася жыць. І ў гэты момант я крыкнуў з усёй сілы ў хмарнае неба: „Госпадзі, уратуй мяне, я ж веру, што ты ёсьць!" Мне хлынулі сьлёзы, я глядзеў у неба і чакаў, што Гасподзь пачуе мяне.

Мне здалося, што сьціх вецер і сьвіст ў вушах, стала цёпла, і ў гэты час я акунуўся ў мора, нават ня ўдарыўся, і адразу паплыў. Нідзе не было відаць берага, ўздымаліся халодныя хвалі, але побач плавала ў хвалях вялікая драўляная бэлька. Я падплыў і ўхапіўся за яе, трымаючыся на паверхні.

Ну адкуль тая бэлька ў моры? Можа быць, вядома, у моры яшчэ ня тое плавае. Але я ж зразумеў. Я ўсё зразумеў. Мне стала неяк спакойна, як бы ніякага стрэсу, як быццам так і трэба. Сваімі словамі я стаў маліцца і дзякаваць Богу.

Можа, з паўгадзіны, можа гадзіну я трымаўся на вадзе, учапіўшыся за дрэва. Я замярзаў, бо вада яшчэ была халодная, мяне курчыла і трэсла. Але ўсяроўна верылася, што і тут не загіну, і толькі шаптаў малітвы, успамінаючы словы зь дзяцінства.

Неўзабаве я пачуў шум матора. Ўдалечыні плыў кацер. Мяне заўважылі і ўжо ледзь жывога выцягнулі на борт і адвезьлі на бераг у шпіталь.

І вось тут пачалося тое, што і павінна было пачацца. Мяне пачалі дапытваць у КГБ, устанаўліваць, хто я такі, пытаць, навошта я ўзарваў самалёт і дзе дзеў парашут, на якім спусьціўся. Маё апавяданьне ўспрынялі як дурную хлусьню, разьлічаную на цёмных прастачкоў. Урэшце мяне пачалі біць і заціскаць пальцы ў дзьверы.

Потым павезьлі на псіхіятрычную экспэртызу. Мне ўжо хацелася, лепш бы мяне прызналі вар'ятам і пакінулі ў спакоі. Але ў псіхушцы прызналі здаровым, і гэбісты зноў пачалі мяне біць.

Я ўжо ведаў, што ад самалёта не знайшлі нават шчэпкі і ніводнага пасажыра, акрамя мяне. Катастрофу, як звычайна, тады, відаць, засакрэцілі. Такое правіла, хоць, як я ведаю, савецкія самалёты падаюць увесь час. Гэбісты не маглі растлумачыць, якім чынам я застаўся жывы. А паколькі я расказаў ім такое, чаго ня можа быць, і пры гэтым медэкспэртыза пацьвердзіла маё здароўе, то яны западозрылі мяне (да гэтага часу ня ведаю дакладна – у чым). Дапытваліся, як пранёс на борт парашут, дзе ўзяў яго, у якім месцы ўтапіў у моры, якім чынам і навошта ўзарваў самалёт, ці маю родзічаў у Ізраілі і г. д.

Матэрыялаў для суду не было ніякіх, але і выпускаць мяне не хацелі. Паспрабавалі ізноў катаваць і зьбіваць, паламалі рэбры (гэта калі ботамі таўклі). Але я цярпеў, крычаў і цярпеў, бо думаў, што ня дасьць мне Бог загінуць. Ды й ня мог я здрадзіць Яму, нават калі б мяне яны рэзалі на кавалкі.

Дзесьці праз месяц катаваньні спыніліся, і гэбісты супакоіліся, былі нейкія заклапочаныя. Мяне пратрымалі ў турме КГБ пяць месяцаў без суда. Зноў вазілі ў псіхушку, афармлялі на мяне нейкія паперы (як я зразумеў, дакумэнтальна рабілі зь мяне вар'ята). Потым выпусьцілі, сказаўшы: „Мы еще к тебе вернемся. А о самолете советуем не распространяться, в твоих же интересах. Понял?" „Зразумеў", – кажу. „Тогда подписывай бумаги". Гэта былі паперы „о неразглашении" таямніцы сьледзтва і факту катастрофы самалёта. Я падпісаў. Потым я даведаўся праз знаёмых, што той самалёт вадалазы, быццам бы, знайшлі на дне мора. І тады якраз гэбісты перасталі мяне катаваць.

Яшчэ седзячы ў турме КГБ, я шмат думаў пра Боскі цуд, які здарыўся са мной. Чаму Бог мяне ўратаваў і дазволіў жыць? Дзеля чаго? І я падумаў, што дзеля таго, каб сьведчыць людзям, што Бог ёсьць. Паперы КГБ ня мелі тут для мяне ніякага значэньня. Хаця, па-праўдзе, яны значэньне ўсё ж мелі. Мяне нідзе не бралі на працу. Але ж я мастак. Вольная прафэсія. Цяжка, але зарабіць мог.

І ведаеце, калі я пачаў расказваць, пра тое, што са мной адбылося, мне амаль ніхто ня верыў і пачалі сапраўды лічыць мяне вар'ятам (а тут яшчэ і «мненіе» з КГБ). Вось тут я і задумаўся моцна аб тым, як данесьці праўду, каб мне паверылі і не палічылі ненармальным.

Я разумеў, што жыць, як раней, ужо нельга. Мне проста хацелася служыць Богу, успрыняўшы Ягоны дар. І я рашыў стаць салдатам, рыцарам Бога, Ягоным слугой у гэтым

сьвеце . Я зрабіў такі зарок і зьмяніў сваё імя. Я зьмяніў прафэсію і пайшоў у рэстаўрацыю. Рэстаўрую храмы, фрэскі і жывапіс. Гэтым я дапамагаю Боскай прысутнасьці ў нашых душах, на нашай Зямлі. І канешна ж я расказваю пра Боскі цуд, які здарыўся са мной, усім тым, хто здольны слухаць і чуць.

– Вы маглі пайсьці ў манастыр, – сказаў я.

– І што б я тады там рабіў, у гэтым геце?

– Маліўся б?

– За збаўленьне сваёй душы? Але ці дзеля гэтага Гасподзь дазволіў мне жыць, зрабіўшы цуд?

– А што кажа бацюшка-настаяцель? – спытаў я.

– Нічога ня кажа. Я яму не расказваў. Бацюшка – кадравы сэксот КГБ. Гэта не для яго розуму.

– Геранім, вы жанаты?

Геранім паглядзеў на мяне і засьмяяўся:

– Я крыху ведаю беларусаў. Дык вы тыповы беларус. Ну да чаго ж асьцярожны народ! Ведаеце, пасьля радасьці жыцьця самае каштоўнае, што даў мне Гасподзь Бог, дык гэта добрую жонку. Мы жывём не багата, але ў нас чацьвёра дзяцей – усе хлопцы і ўсе здаровыя.

– Та-а-к, – кажу, – нам трэба выпіць выдатнага грузінскага віна, Геранім, за тое, што так добра і радасна жыць на сьвеце. Я зараз бягу ў Лыхны і вяртаюся.

– Ня трэба нікуды бегчы, дарагі. Віно ёсьць, сапраўднае, грузінскае.

Мы зайшлі ў рэстаўрацыйную бытоўку каля рыштаваньняў і паднялі келіхі за знаёмства „двух добрых людзей”. Потым пілі за шчасьце, за яго жонку і дзяцей, за Грузію і за Беларусь.

– І ўсё ж такі, што вы думаеце (Геранім увесь час гаварыў на рускі манер, ужываючы „вы”), што вы думаеце пра цуд над Касьпійскім морам?

– Я думаю, што ён зроблены для падтрыманьня веры. Бязбожнікам расказваць няма сэнсу. А вось для людзей веруючых гэта падтрымка.

– Я таксама гэтак зразумеў, – кажа Геранім, – хаця напачатку расказваў усім.

Мы абмяняліся адрасамі (Геранім жыў у Тбілісі), нават сфатаграфаваліся напасьледак, папрасіўшы матушку-пападзьдзю нас „пстрыкнуць” маім фотаапаратам. Матушка „пстрыкнула” моўчкі, падціснуўшы губы. Потым, калі я ўжо адыходзіў і разьвітваўся зь ёй, на ўсялякі выпадак кажу: „Спасибо за гостеприимство, матушка. У вас работает в церкви такой чудесный человек”, – і гляджу на матушку. Пападдзя хмыкнула:

– Да уж, чудесный пациент. Некоторым лапши навешает, а они и довольны. – Завярнулася і пайшла, варочаючы акруглымі формамі.

Выходзячы з Лыхнаў, кажу сабе „ну, расёмон, поўны расёмон”, успамінаючы назоў і сюжэт японскага фільма. Аж бачу, ідзе мужчына прыблізна маіх гадоў. Рашыў яго зачапіць пра Гераніма (раз ужо такі „расёмон”). Пытаю, дзе тут можна купіць віна?

– Вына? Слухай, дарагі, ты адкуль спусьціўся? Якога вына? Ты што, ня ведаеш? Гарбачоў адмяніў вына. З сёньняшняга дня няма больш на Каўказе вына.

– Гарбачоў дурань, – кажу я, – але адзін разумны чалавек мне сказаў, што няма праблем у Лыхнах купіць віна.

– Ха! Гэта хто?

– Геранім з царквы.

– Які Геранім? А, гэты, памешаны. Ну, гэтаму сам Бог налье, цэлае Касьпійскае мора.

Увесь час, як тупаў да Гудауты, я думаў пра Гераніма. Урэшце рэшт нічога неадэкватнага я ў ім не заўважыў, ўсе мае пачатковыя сумненьні на гэты конт разьвеяліся і сэрцам я адчуваў праўду ягонага цуду, паверыў яму. Але розум... пракляты розум супраціўляўся, як удаў, абкручваючы мяне з рукамі. Ён, гэты розум, хоча проста засумнявацца. Але сумнявацца тут бессэнсоўна.

Вечарам у прыцемку я сядзеў на лавачцы перад клумбай з цьвітучымі ружамі і назіраў, як лётаюць сьветлячкі, мігцяць, нібы самалёты перад пасадкай. І ружавы пах напаўняў паветра.

*21 студзеня 2013 г.*



*263.*

# АПАЛІНАР

З Апалінарам Пупко я быў добра знаёмы. Часта бываючы ў Івянцы, заўсёды заходзіў з мастаком Эдвардам Агуновічам (які тут афармляў музэй), часам каб проста пагаварыць.

Уваход у сядзібу знакамітага скульптара-разьбяра пачынаўся праз вялікую высокую браму, па баках якой стаялі драўляныя ваяры, а па вуглах дому – карыятыды, кшталту Атлантаў, якія падтрымлівалі гзымс. Ну а сама сядзіба, двор, майстэрня – цэлы музэй.

Тады размова тычылася ўсяго, але часта – Фэлікса Дзяржынскага, знакамітага бальшавіцкага бандзёра, першага чэкіста-энкавэдзіста. Дзяржынскія жылі непадалёк, кілёмэтраў за 15, у фальварку Дзяржынава (на той час – канец 60-х – там засталіся толькі падмуроўкі). Апалінар казаў, што Дзяржынскія былі неблагія людзі, свайго не цураліся. Адзін зь іх (брат Фэлікса) нават супрацоўнічаў з „Нашай Нівай", пасылаў туды нейкія допісы, падтрымліваў газэту і беларушчыну.

Фэлікса ён таксама ведаў і казаў, што „Фэлька пайшоў убок", зьвязаўся з бальшавікамі. І з таго часу, кажа, „мы яго ня бачылі".

Дзяржынскага саветы называюць „палякам". Зразумела, што тут за „паляк". Але гэта той выпадак, калі лепш маўчаць і не заікацца пра яго „беларускасьць", бо сорамна.

Музэй стварылі ў белай двухпавярхавай мураванцы ў цэнтры Івянца ў канцы плошчы. У падвальным памяшканьні гэтага дома ў столі былі ўмураваныя шматлікія жалезныя крукі. Звычайна гаспадары рабілі такія крукі ў столі, каб можна было на іх падвешваць сала ды кумпякі. Гэта бясьпечна ад мышэй і пацукоў. У 1939-1941 гг., калі тут былі бальшавікі, яны выкарысталі крукі па-свойму. У падвале чэкісты катавалі людзей. Іх падвешвалі за ногі на гэтыя крукі, білі па жываце і ўсяляк зьдзекаваліся. „А ў гэты час, – расказваў Апалінар, – на сходах дома сядзеў энкавэдзіст і на гармоніку нешта іграў, каб заглушыць крыкі з падвалу."

Такім чынам „жалезны Фэлька" нагадаў у Івянцы пра сябе.

Недзе ў пачатку 70-х гэбісты зацікавіліся Дзяржынавым і рашылі стварыць там філіял музэя Дзяржынскага. Забягаючы наперад, скажу, што ў пачатку 2000-х, захапіўшы ўладу ў Беларусі, яны пабудавалі нейкую жоўтую будыніну, тыпу падмаскоўнай дачы намэнклятуры. І гэта нягледзячы на тое, што захаваліся фатаграфіі рэальнага дома Дзяржынскіх.

Назіраючы ўсю гэтую гісторыю (а я ў канцы 60-х удзельнічаў у афармленьні музэя ў Івянцы разам з Эдвардам Агуновічам і Анатолем Рыбчынскім) дзіву даюся, як гэтыя гэбісты, недалёкія ўвогуле людзі, дакладна адчувалі чужую для іх беларушчыну і як разумелі (часам на інтуітыўным узроўні), што ім трэба зьнішчыць, бо беларуская культура (як яны лічылі) была для іх шкодная.

Фальваркавы дом Дзяржынскіх цікавы ў сваім архітэктурным стылі і тыпалогіі шляхецкіх сядзібаў у Беларусі. Ну навошта ж гэбістам тое адбудоўваць? Зьляпалі дачу-абракадабру. І для іх добра.

Але пачатак гэтай гісторыі адбудовы бандыцкага фальварка быў макабарычны. Усё, што зьвязана з імем гэтага нашага жудаснага земляка, несла з сабой разбурэньне.

На пачатку 70-х Лубянка прыслала з Масквы ў Менск генэрала КГБ, які павінен быў праверыць турыстычны шлях зь Менска ў Дзяржынава. („Все должно было быть чисто и не будоражить зрителя.") ЦК КПБ на чале з 1-м сакратаром стаў перад генэралам на задняя лапкі, затаіўшы прававерны дых. У праверачны шлях суправаджаць гэбіста паехаў сам сакратар ЦК КПБ па ідэалёгіі Аляксандар Кузьмін. Першая „закаручка" трапілася генэралу на вочы ў Кіяўцы.

– А это что за х...ня? – кажа генэрал, паказваючы на старажытную драўляную царкву (канец XVIII стагоддзя).

– А это раньше была церковь, – адказвае Кузьмін. – Сейчас производственное помещение совхоза Маньковщина.

– Да? А крест зачем?

– Остался от культового здания.

– Снести крест к чертовой матери! – даў загад лубянец.

У Тупальшчыне на пад'езьдзе да Падневіч адбылася (без перабольшаньня скажу) культурная катастрофа.

– Остановись! – скамандаваў генэрал кіроўцу. – Что это такое? – і паказвае ўправа на ўзгорак, парослы старым хваёвым лесам і абгароджаны старажытным магутным каменным мурам з традыцыйнай беларускай разынковай муроўкай.

– А это старое кладбище, – кажа Кузьмін, які трошкі падрыхтаваўся да паездкі, тое-сёе пачытаў ды паслухаў.

– Да? А каменные стены зачем?

– Традиция, – адказвае Аляксандар Трыфанавіч, адчуўшы нядобрае. – Говорят здесь похоронен в XIX веке известный белорусскій пісатель Дунин-Мартинкевич.

– Націоналіст?

– Да нет, вроде ліберал.

– Небось помещик, а?

– Помещик, боролся с царизмом.

– Да? Интересно, как это он боролся?

– Знаете, поддержал восстание.

– Какое восстание?

– Было такое восстание революционных демократов против царя в 1863 году. Вот этот Мартинкевич за это даже в тюрьме сидел.

Генэрал задумаўся, пазіраючы на мур, а потым і кажа:

– Вот что, Трифонович, не надо всё это нам для людей выпячивать. Пускай ученые там разбираются, а стену здесь снести. И без промедления. Путь должен быть чистым.

Лубянец, відаць, прышоў у раж ад пачуцьця сваёй каманднай значнасьці. Літаральна праз тры кілёмэтры, выязджаючы з Падневіч, мінаючы праз масток раку Ісьлач і прыгожы зарослы стаў зь левага боку, масковец павярнуў галаву ўправа:

– Что это за старье?

– О, это старая мельница, стоит здесь, наверно, уже сто лет, а может и больше, – адказвае Трыфанавіч.

– Хмы.., – хмыкнуў масковец, – мельница? Это же чертовщина! Да еще в полуразрушенном состоянии. Ну разве мы можем это людям показать? Компрометация страны. Убрать, и побыстрее! Вообще, всё старое убрать!

Ня ведаю, ці сказаў Кузьмін у адказ сваё „будет сделано", але разбурана і зьнішчана ўсё было надзвычай хутка. Калі мы з Таварыства аховы помнікаў паспрабавалі неяк дастукацца да Кузьміна (на ведаючы яшчэ, што ён сам тут задзейнічаны), то Кузьмін (як нам казалі) вельмі ўзлаваўся і „вышаў з сябе": „Няхай ня суну́ць нос не ў свае справы".

Але справы былі якраз нашыя і свае. Інтэлігенцыя, як на пахаваньні – апусьціла рукі. (Памятаю, Яўген Кулік, той проста плакаў.) Тады я кажу Валянціну Ждановічу, фотажурналісту „Маладосьці":

– Валянцін, сядайма на „Запарожац" і паехалі па сьлядах манголаў, можа яшчэ што ўратуем, даведаемся, напішам.

Мы паехалі. Млын у Падневічах быў разбураны. Валялася яго вадзяное кола. Я меркаваў, што можа ўдасца дзе знайсьці кавaную (з канца XVIII ст.) жалезную браму могілак. Яна сама па сабе была твор мастацтва.

Мур зьнішчылі наступным чынам. Прыгналі экскаватары і па пэрымэтру зьнешняга боку выкапалі глыбокі роў. Потым магутнымі бульдозерамі сьпіхнулі мур у гэты роў, засыпалі і зараўнялі, а зьверху паставілі рэдзенькі драўляны штыкетнік.

Неўзабаве мы даведаліся, хто гэта рабіў, хто кіраваў і т. п. Паехалі шукаць тую вёску і той калгас (назвы цяпер ня памятаю). Знайшлі. Заходзім у кантору калгаса, вітаемся, прадстаўляемся, пытаем, дзе старшыня. У канторы незразумелае замяшаньне і нібы перапалох. Потым нейкая асоба сказала, што пойдзе яго „шукаць".

Хвілін праз 15 у дзьверы ўвальваецца мардаты тып з саломай у валасах і пакамечаным тварам. Глядзеў на нас злосна. Усё стала зразумела. Тут павінен быў быць доўгі падыход, магчыма нават з пэрспэктывай на бутэльку (ад якой яго толькі што адарвалі).

Мы не пасьпелі дамовіцца пра свае паводзіны ў такіх нечаканых абставінах і гаворку нецярпліва адразу пачаў Валянцін (якога расьпірала), прытым у лоб. Мардаты тып пачаў крычаць, што нічога ня скажа. Дэбют быў сапсаваны і гаварыць далей ня мела сэнсу. Вышаўшы, я Валянціну, праўда (хоць і маладзейшы ад яго) „ўваліў" за яго недыпляматычнасьць.

У Кіяўцы побач з царквой ляжала прыгожая сьпілаваная вежачка з крыжом. Такія вежачкі мы бачым у беларускай архітэктуры з XVI стагоддзя. Тут была непарушаная традыцыя.

Мы паехалі ў Манькаўшчыну і размаўлялі з сакратаром партыйнай арганізацыі. Ён сказаў нам, што меў праблемы, бо ніхто ў ваколіцы не згадзіўся пілаваць крыж ні за якія грошы. Тады, кажа, Чайка (быў такі цемрашал у Валожыне, сакратар райкама) прывёз нам нейкага п'яніцу. Ляжаў пад плотам у Валожыне. Чайка яго падняў і прывёз. П'яніца, калі працьверазеў, палез і сьпілаваў крыж.

– І што мяне абурае, – казаў нам сакратар з Манькаўшчыны (відаць, мясцовы чалавек), – што п'яніцу прывезьлі з Валожына, а грошы прымусілі плаціць мяне. Амаль усю партыйную касу яму аддаў.

– Колькі заплацілі?

– 200 рублёў.

– О, пэўня, што пераплацілі, – кажу я. – Ёсьць такса, хапіла б трыццаць. (Праўда, сакратар, здаецца, нічога не зразумеў.)

Пазьней, будучы ў прафілакторыі пад Ракавым, я спаткаў там медсястру з Манькаўшчыны і запытаўся, ці ня ведае яна, што сталася з тым п'яніцам з Валожына.

– А ведаю, – кажа яна, – здох пад плотам.

Гісторыяў такога нішчэньня культуры я ведаю сотні. Прааналізаваўшы, бачыш жудасную сістэму этнацыду, пагрунтаваную на нянавісьці да ўсяго беларускага. Часам пры гэтым казалі розныя фальшывыя словы, прыдумвалі абгрунтаваньні. Але словы ня мелі значэньня, бо вынік быў аднолькавы: разбурэньне і культурная катастрофа.

У 1969 годзе, падарожнічаючы па Прыпяці і Гарыні, мы (гэта Валянцін Ждановіч, Уладзімер Караткевіч і я) заплылі ў Давыд-Гарадок і пайшлі на старыя могілкі паглядзець на знакамітую Юраўскую драўляную царкву, якая захавалася з першай чвэрці XVIII ст. Каля царквы мы ўбачылі вялікія (пад два мэтры) каменныя крыжы з дзівоснай пластыкай укрыжаванага Езуса. Мы былі ўражаныя іх хараством і пластычнай выразнасьцю гарэльефа. „Гэта нейкая невядомая, неапісаная яшчэ мастацкая школа пластыкі", – казалі мы і меркавалі, што крыжы маглі сягаць нават у XVIII стагоддзе. Пры бліжэйшым разглядзе, я думаю, што гэта ўсё ж XIX-е. Крыжы фармаваныя ў бэтонных формах, зробленых дасканала. Але ў прынцыпе галоўнае было тут не ў датаваньні, а ў іх эстэтычным хараcтве. Крыжоў было шмат, больш 12-ці.

Паколькі царква была пад аховай дзяржавы, мы падумалі, што трэба неяк забясьпечыць афіцыйнае захаваньне крыжоў, бо некаторыя валяліся, паваленыя на зямлі, аб іншыя – хуліганы разьбівалі бутэлькі.

Вырашылі, што ідзем у гаркам партыі (галоўную на тыя часы „інстанцыю" ўлады) і робім афіцыйную прапанову аб забесьпячэньні захаванасьці гістарычнай каштоўнасьці. (Да гэтага часу не магу надзівіцца нашай наіўнасьці – тры дарослыя вопытныя дзядзькі!)

Заходзім, паведамляем, хто мы і наконт чаго. Нам кажуць: „Шчяс, падаждзіця". Уваходзіць дама – сакратар па ідэалёгіі, асоба ў чорным касьцюме азіяцкай зьнешнасьці з раскосымі вачыма, строгая і дзелавая. Я шапчу: „Валодзя, па-руску!"

Валодзя пачаў па-руску, старанна артыкулюючы шыпячыя і мяккае „р". Дама ўсё запісала (у тым ліку і прозьвішча Караткевіч, якое, магчыма, чула ўпершыню).

– Хорошо, примем к сведению, – суха прамовіла ў канцы гэтая „манголяй".

Запанавала маўчанка. Дама глядзела на нас, мы – на яе. Гаварыць не было пра што. Сказаўшы яшчэ пару прыстойных фраз „о ленинской политике партии в области культуры", мы разьвіталіся і пайшлі, задаволеныя сабой, што падстрахаваліся.

У Менску я адразу пайшоў у сэктар Збору помнікаў гісторыі і культуры Акадэміі Навук і сказаў каму трэба пра крыжы (каб запляновалі экспэдыцыю). Праз месяц нашы сябры паехалі ў Давыд-Гарадок. Крыжоў не было. Частка ляжала, патрушчаная на кавалкі. Астатнія бясьсьледна зьніклі.

У гэтым жа часе я выявіў дзівосны мураваны млын у Зараччы пад Браславам. Разынковая мураўка была выкладзена кветкамі, фігурамі людзей, птушкамі, зоркамі, буслямі. Я зрабіў здымкі, надрукаваў артыкул у „Маладосьці" пра „беларускі каменны арнамэнт", уключыў выявы ў фота-альбом „Браслаўшчына". Праз год млын разбурылі, зьнесьлі, ліквідавалі. І доўга ляжалі адны руіны.

Потым я фатаграфаваў шмат чаго ўнікальнага ў Беларусі, але сказаў сабе: пакуль савет тут будзе, друкаваць ня стану. Бо калі не савет разбурыць, то чужы пражэрлівы подлы турыст нашкодзіць, ці проста скрадзе.

Я думаў тады: некалі ж прыйдзе, настане сьветлы час, дзеля якога варта жыць і змагацца, змагацца і жыць.

*24 чэрвеня 2013 г.*



*263-а. Давыд-Гарадоцкі крыж. (Фота 1969 г.)*

# СЁМА

Пакуль мы ехалі на вакзал, гаварылі пра ўсялякую ўсячыну. Пятро быў за кіраўніцай і абурана крытыкаваў парадкі гэтага сьвету.

– Не акупацыя нас даканае, не палітыка, а п’янства, – кажа Пятро. – П’юць, як перад канцом сьвета.

– Ну, так, – адказваю, – п’юць людзі. П’янства і ёсьць палітыка.

– Ня трэба і вайны. Бутэлькай зьнішчаць. Шкода, такі харошы народ.

– А ведаеш, – адказваю, – ёсьць вёска пад Смаленскам. Там звычайныя сяляне-беларусы жывуць. Але яны лічаць сябе шляхтай. Бедната, як у Расеі, але п’яніц няма. Кажуць: мы – шляхта. А ў суседняй вёсы – мужыкі. Там як нап’юцца, дык і паб’юцца. А мы, кажуць, не напіваемся, а калі вып’ем, то разам песьні сьпяваем. У нас ня хлусяць і не крадуць. Шляхта ня можа хлусіць. Вось табе і на, – кажу. – Як назваўся, так і прыдаўся.

– Я табе раскажу большае дзіва, – кажа Пятро. – Каму дзіва, а іншым навука. Быў у мяне ў фірме такі Сямён, Сёма, п’яніца, алькаголік. Узяў яго вартаўнікоў на працу, шкада стала, бо здох бы пад плотам. Між іншым, – габрэй. Бывае, прыеду на склад паглядзець, як там, а ён акурат пад плотам і ляжыць п’яны. Усе грошы прапіваў. Прап’е, тады просіць пазычыць. А мяне тады якраз пачалі кагэбісты душыць. Убачылі, што бізнэс ідзе, прыйшлі і кажуць, каб ім даваў у сэнсе шэфскай дапамогі.

Даваць я ім ня стаў, але зразумеў, што канец, справу разбураць і ўсё забяруць. Вось тут, калі мой гэты вартаўнік прапіўся, і прыйшоў пазычаць. Я яму даў пару даляраў і кажу:

– Слухай, Сёма, пазыч мне літар сваёй крыві, зрабі паслугу.

Глядзіць. Аж рот разьзявіў. Для вас, кажа, гатовы хоць два. Але не разумею.

– А што тут разумець, – кажу, – бяру тваю кроў, зьмешваю са сваёй і тады, калі кагэбэ маю працу разбурыць, а мяне пасадзіць, жыды ва ўсім сьвеце стануць мяне абараняць (бо я ж ужо буду напалову жыдам, а жыды сваіх выручаюць).

Глядзіць гэты Сёма і маўчыць.

– Ну, дык як?

– Згодзен, – вымавіў Сёма, – але ад кагэбэ жыды ня выратуюць.

– Ня выратуюць, дык падтрымаюць, шум падымуць, глядзіш – і ацалею, куды беларусу дзецца.

– Я – за вас, – кажа Сёма, – каб ня вы, то меў бы праблемы.

– Добра, – кажу, – Сёма, што ў цябе праблемаў няма. Але слухай. Тысячы гадоў таму, калі мы яшчэ жылі ў гарадзішчах і ня мелі пісьмовасьці і пакланяліся балванам, вы ўжо мелі дзяржаву, верылі ў адзінага Бога, напісалі Біблію, якая паўплывала на ўвесь сьвет, і сёньня ўплывае. Ты – нашчадак гістарычнага легендарнага і незьнішчальнага народа, а п’еш, як расеец, прапіваеш усё, ляжыш пад плотам і праблем няма. От што цікава. Прытым народ здольны да бізнэсу, а Сёма п’е.

Глядзіць ён на мяне і пагаджаецца, галавой трасе: „Усё правільна – п’ю, шмат п’ю.”– Жыцьцё такое, маўляў, так склалася.

А неўзабаве мяне схапілі і ў каталажку. Падышлі на вуліцы і кажуць: „Прайдзёмця”, – маўляў я ня там перайшоў вуліцу. Склалі пратакол, што „нецензурно выражался”, два міліцыянеры (якіх першы раз бачыў) пацьвердзілі, як сьведкі, што так і было, самы чулі і г. д. Тры дні трымалі ў камэры, потым выпусьцілі і сказалі, што ідзе сьледзтва па ўтойваньні падаткаў.

Ніякага „ўтойваньня” ў мяне не было, і я зразумеў, што хочуць забраць усё, а паколькі мафія ёсьць сама ўлада (прытым КГБ), то на іх управы няма. Трэба тэрмінова зьязджаць. Я кінуў усё, забраў жонку і праз Украіну зьехаў у Прагу, дзе меў рахункі і трохі маёмасьці.

От так мінула ўжо гадоў пяць, разгарнуцца ў Чэхіі не ўдалося, але не ўтапіўся, неяк плаваю. Як раптам нядаўна – званок на фірму. Падымаю слухаўку:

– Алё, гэта спадар Пётра? Тут Сёма. Званю зь Беларусі. Дык вось, памятаеце, вы прасілі ў мяне пазычыць вам літар крыві і казалі пра Біблію?

– Памятаю.

– Дык вось. Я завязаў. Займаюся бізнэсам, вяду дробны гандаль, маю ўжо два кіёскі. А вам хачу падзякваць, бо, каб ня вы, сам бы не дадумаўся.

Выслухаў я яго і думаю: „Вось табе і жыды! Вечны народ, выжыве ў любых абставінах. Гэта ня мы, беларусы, што перад вар’ятам, перад гэтым лапцем, хамуйлам вусатым укленчылі і даюцца, каб ім плявалі ў твар”.

– Ну, а што б было, пытаю я ў Пятра, – калі б ты сказаў такое алкашу-беларусу? Маўляў, так і так, пад табой слаўная гісторыя і культура Вялікага Княства Літоўскага, якое прамаўляла беларускай мовай, стварыла магутную цывілізацыю і несла асьвету суседзям.

– Што б было? – Пётра задумаўся. – Ня ведаю што б было, але каб беларус тут нешта ўсьвядоміў і з-за гэтага кінуў піць – сумняваюся. Пра ВКЛ ён бы чуў першы раз. Мог бы проста не паверыць. А пра Біблію ведае кожны.

– Вось як важна ёсьць традыцыя гістарычнай веды, – кажу. Што тут возьмеш са свайго п’яніцы, калі ён нават у беларускай школе не вучыўся.

Мы мінулі Вацлаўскую плошчу і даехалі да вакзала моўчкі. Пражскі вакзал, відаць, унікальны ва ўсёй Эўропе. У паветры стаіць мутарны і стойкі пах мачы. „Культура” піва спарадзіла арыгінальную субкультуру мачапусканьня. Мочацца па ўсіх кутах і закавулках, нават жанчыны. Гэта сталася ў Празе ў апошні час, калі скончыўся камунізм і пачалася свабода асобы. Мы якраз убачылі такую асобу, якая спраўляла патрэбу на бэтон у гаражы на стаянцы аўтамабіляў.

І тут Пётра са сваім гумарам падышоў і кажа тыпу ў балоневай куртцы:

– Вы ёсьць спадкаемца вялікай чэшскай гістарычнай культуры. Чэхі адбудавалі найпрыгажэйшы ў Эўропе горад Прагу. Я ня чэх, але ці магу я памачыцца на гэтую сьцяну?

Тып паглядзеў на Пётру і пачаў нешта ліхаманкава раздумляць. А потым кажа:

– Дай дваццаць крон і мачыся, можна.

Я ня вытрымаў, зарагатаў і кажу:

– Ну, што, Пётра! Ня ўсё так дрэнна! Няхай жывуць бравы салдат Швэйк, „мудры” чужым розумам беларус і вечны жыд Сёма! Кожнаму сваё.

Сьмяючыся, мы выйшлі на пэрон, разьвіталіся, і я паехаў у Варшаву ў свой часовы прыстанак у чужым сьвеце, раздумляючы аб пачутым.

# КАЗУРКА

*«... Быў там разам прадсядзяцель*
*І з райкама засядацель*
*І міліцыя была*
*Самагоначку піла...»*
(Народная прыпеўка
зь Віленшчыны з-пад Эйшышак)

А быў у нас такі ўчастковы міліцыянер Яўген Казурка. Прыслалі аднекуль. Строгі дзядзька. Усё хадзіў у сінім шынялі па мястэчку з планшэткай на баку і з пісталетам у скураной кабуры на поясе. Сам вялікі, пад два мэтры і чорны, як грак, каржкаваты, і ступаў, як мядзьведзь, правай нагой пад сябе заграбаў.

Бывала ў нядзелю завядуцца якія хлопцы на вуліцы, то Казурка ўжо тут:

– Вы што зьдзесь, панімаеш, а? У хаце цесна? Ану, разыйдзіся! І каб я вас ня чуў!" – строга вымаўляў Казурка і ішоў сабе далей. Хлопцы прыціхалі, але не „разыходзіліся". Праўда, пасьля гэтага неяк усё сьціхала, і праз нейкі час местачковыя ўжо абымаліся і рагаталі.

Альбо бывала йдзем па тратуары, аж нейкія крыкі з падвора чуваць. Тут адчыняецца брамка, вылятае баба, махае рукамі і крычыць: „Пайду да Казуркі, халера на вас, каб вы ўжо ракам поўзалі, каб вы! Каб вы спухлі ўжо, каб вы!"

Зьяўляецца Казурка. Важна заходзіць на падвора:

– Ну, што зьдзесь праисходзит, панимаеш?"

Крыкі сьціхалі, і Казурка, прачытаўшы мараль, важна адыходзіў. Жыцьцё працягвалася.

Бывалі і бойкі, дзе былі і добра бачныя вінавайцы ды парушальнікі. Пацярпелы аж сьлінай пырскаў:

– Сядзяш, Шайбачок, сядзеш, гад, не дарую. Каб гэта я цябе цярпеў! Пасядзіш – паразумнееш, за ўсе шыбы заплаціш!"

– Ну, што вы зьдзесь натварылі, панімаеш, – строга казаў Казурка. – Зачэм акно разбіл? А ты тожэ харош, панімаеш, – зьвяртаўся ён да іншага, – зачэм в драку палез? Буду саставляць пратакол. Абаіх к атвету, – строга грымеў Казурка. А ў канцы, настрашыўшы, рабіў заключэньне: – Вот што, расхадзіцесь. Прынімаю к сведзенію і заўтра афармляю на вас у суд! – Сказаўшы, важна зыходзіў. Лаянка яшчэ працягвалася, але ўжо без рукапрыкладства.

Назаўтра Казурка рабіў „візіт" да аднаго і другога.

– Ну, што, буду складаць пратакол, – казаў ён вінавайцу і сядаў за стол. Адчыняў планшэтку, даставаў самапіску, усё так не сьпяшаючыся і гаворачы пры гэтым: – Як пагляджу я, дык часам разумныя людзі, а ерундой займаюцца. За дзьве шыбы і рукапрыкладзтва два гады атрымаць хочуць. Гэта трэба ўмець. А ўсё водка ўсяму прычына.

– Пры чым тут „хочуць"? – агрызаецца вінавайца. – Я што – „хачу"?

– А што, я што лі? – строга пярэчыць Казурка. – Ты зачэм палез, панімаеш? Вот сейчас составляю пратакол и дзела пашло. Хваціт!

– Ну, дык не састаўляй, дык ня пойдзе, – гукае вінавайца.

– Ты эта брось! Совершено преступление. Как я могу не составить?

– Якое „прэступленіе", – лямантуе вінавайца, – што пабіліся па-суседзку, дык ужо „прэступленіе"?

Тут Казурка рашуча ўстае, зачыняе планшэтку і так энергічна:

– Ну, вось што, мне ўжо надакучыла гэта слухаць! Адзін так, другі гэтак. Ты спачатку зь ім разьбярыся, што вы там натварылі. У меня большэ времені нет. Еслі да завтра не разбероцесь, дзела пайдзёт. Всё. Заўтра сам прыдзеш і даложыш. Понял!

І Казурка энергічна вышаў, скрыпучы ботамі.

Тут жа Казурка нібы мімаходзь заглядае да пацярпелага, здароваецца і кажа:

– Ну, усё, дзела рэшэно, заўтра атсылаю. Гатоўце заявленіе ў суд. Будзет сідзець.

– Будзе сядзець, – азвалася баба, а вакно хто будзе шкліць?

– Ня ведаю, – кажа Казурка ўжо з парогу, – гэта вы зь ім разьбірайцеся, пакуль не забралі.

Вечарам „вінаваты" і „пацярпелы" нібы незнарок сустрэліся і пагаварылі аб тым ды гэтым. І між іншым дамовілася, што „вінавайца" зашкліць вакно і дае бутэльку наверх, каб добра трымалася.

А ў тыя часы (гэта пачатак 50-х) сама віравала барацьба „савецкай уласьці" з „самагоноварением". Былі спушчаныя разнарадкі на выяўленьне і зьнішчэньне „самогонных аппаратов" і злаўленьне самагоншчыкаў ды прадавальшчыкаў самагонкі. У адной цёткі ў Сурвілішках (10 км ад Суботнік) знайшлі ў хаце некалькі бутэлек самагонкі, судзілі і далі чатыры гады турмы.

Але самае цікавае ж ня ў гэтым, а ў тым, што народ ня надта і напалохаўся. Як гналі раней, так і пасьля сталінскіх законаў працягвалі гнаць. Узьніклі цэлыя салідарныя групы. Адзін аднаго не выдавалі, а месцамі нават начальству пагражалі (пры аказіі). Часам тое ўспрымалася як справа супраць саветаў, стварылі паралельную вытворчасьць супраць „московской водкі" (так называлася афіцыйнае пойла).

Казурка тут быў на вышыні. Яго нават хвалілі ў раёне. Звычайна справа выглядала так: „осведомитель" даносіў, што там і там, у тым і гэтым лесе завезьлі апарат і будуць гнаць. Казурка зьбіраў партыйна-гаспадарчы актыў (па ўказаньні зьверху), і вось вечарком па сьнезе акружалі той лясок, далок, беражок і, нібы ў атаку, рухаліся, арыентуючыся на сіні дымок.

– Стой, тваю на лева! Стой, ёш тваю клёш! Не ўдзёш! – крычаў Казурка ўжо мэтраў за сто і страляў у гару са свайго „ТТ". – Акружай! Не ўйдзёш, тваю на лева!", – рашуча выкрыкваў ён, бегучы па сьнезе.

Калі дабягалі да вогнішча – там ужо нікога не было. Гарэлі трэсачкі пад катлом з брагай, сьлязіўся зьмеявік, капаў першачок, а людзей не відаць. Зьбеглі.

Тут Казурка ботам пад бутлю з першаком як суне, зьмеявік топча і з пісталета ў кацёл „пах-пах-пах-па-пах!"

У раён пайшоў рапарт, што тады і тады, там і там „уничтожен действующий самогонный аппарат". „Нарушители" „успели скрыться". „Продолжается оперативный опрос населения".

Потым, пасьля сьмерці Сталіна, напружаньне барацьбы з самагонарабленьнем крыху аслабла, і Казурка ўжо надта не стараўся. Пачалася барацьба са стылягамі, а потым з тунеядзтвам. Але ў сельскіх мясьцінах стыляг не было. Усе працавалі і праблема была, што абуць і апрануць, а не як абуцца ды апрануцца.

Апошнія гады перад пэнсіяй прамінулі для Казуркі спакойна. У цэнтры мястэчка ён сьскідаў невялічкую хатку і толькі перад пэнсіяй стаў жыць, як чалавек, у сваёй хаце.

На пэнсіі яго людзі паважалі. Ён стаў такім зусім сваім звыклым дзядзькам, але паступова пачаў злоўжываць алькаголем. Бывала дзе сядзіць з мужчынамі доўга, пляшкі пустыя, а жонка прыйдзе і кажа:

– Жэня, ну пашлі ўжо дахаты, заўтра ж нам рана трэба.

„Жэня” з ахвотай уставаў (тут жонка якраз дарэчы) і ішоў. І ўсё б было добра, калі б яго ў меру разумная жонка ні пачынала б яму ў хаце чытаць мараль і вучыць розуму. Праз нейкі час яна зь лямантам вылятала з хаткі, а за ёй босы ў галіфэ і размахіваючы міліцэйскай дзяжкай бег раззлаваны Казурка і пачынаў ганяцца за палавінай вакол хаткі.

Сьцебануўшы жонцы разы са два па мяккім месцы, Казурка вяртаўся дахаты, бразнуўшы дзьвярыма.

Цікава было назаўтра. Цьвярозы Казурка ніколі агрэсіі не праяўляў, але сьведчыў пра сябе як пра хітрага псіхолага і ў сямейных справах дыпламата. Нараніцы (пасьля раменнай экзэкуцыі), калі жонка моўчкі завіхалася ля печы, памятаючы крыўду, Казурка знарок стараўся патрапіць ёй пад руку. Падстаўляўся. Маўляў, дапамагчы хоча, цяжкі саган падняць, ці дроў падкінуць.

– Ідзі, не круціся мне тут, памочнік знайшоўся! – Агрызалася жонка.

Казурка ўпарта «круціўся».

– Ідзі адсюль, сказала!

Казурка ня йшоў.

– Пайшоў адсюль, сядзь во за стол і сядзі, без цябе ўпраўлюся! – Пры гэтым жонка магла штурхнуць Казурку ў плечы. Казурка тут жа пакорна слухаўся і сядаў за стол, зьвесіўшы галаву. Часам мог сказаць: «О-хо-хо-хо-хо... дажыўся...штурхаюць, як палена».

Практычна, гэтага было дастаткова, каб ягоная жонка (кабета, увогуле, ня злая) адчула пэўную сатысфакцыю за ўчарашняе. Пасьля гэтага, сьнедаючы разам за сталом, яны нейкі час маўчалі, а потым Казурка кажа нешта накшталт:

– Сёньня дамоўлена – трэба было б штакетніку прывезьці, ато плот скора зусім разваліцца.

– Ну, – адказвае жонка,– табе ж усё часу не было. Ужо перад людзьмі сорамна за такі плот.., і г. д.

Гэта азначала, што ўсё – інцэдэнт вычарпаны, жыцьцё працягваецца па вытаптанай дарожцы да наступнага выпадку.

Няпісанае правіла – сямейныя справы на вуліцу не выносяцца. Ніхто не павінен ведаць пра канфлікты, бо тут ніхто не ў стане дапамагчы. Такое жыцьцё і такая яго сфэра дачыненьняў. Ганяньне жонкі вакол хаты – гэта была, канешне, кампрамэтацыя асобы Казуркі. Несалідна. Людзі сьмяяліся, але, тым ня менш, павагі ён ня траціў, яго ўспрымалі як свайго, як бы і не памяталі, што ён быў савецкім участковым міліцыянерам.

А тут XXII зьезд КПСС, Хрушчоў, злачынствы Сталіна, кукуруза, касманаўты. Было на чым пачасаць языкі сабутэльнікам вечарком у нядзельку. Дык адзін, выпіўшы, нейк і падаткнуў Казурку, што ён мянтом быў і за Сталіна горла драў, калі людзей саджалі.

Тут Казурка адсунуў кілішак і кажа:

– Добра. Быў. Быў міліцыянерам. Вы тут усе сьведкі, як я быў. Скажыце, каго я здаў, каго пасадзіў, на каго данёс, каго арыштаваў, каго злавіў, калі вы калгаснае кралі і самагонку гналі. А я ж ведаю. Ну, хто хоча мне выставіць рахунак, хлопцы? Каго я пакрыўдзіў? Адказвайце! Стану на калені.

Запанавала цішыня. Потым адзін загаварыў:

– Гэта праўда. Ты ніколі нікога не пакрыўдзіў, Жэнька, нават калі варта было. Гэта праўда. – І пра падтыкача: – Ён ня ведае, што кажа. А „падтыкач”:

– Хлопцы, вы мяне ня так зразумелі. Я ж ні ў чым не вінавачу. Прабач, Жэня. Ты – чалавек, які шанаваў людзей, мы ж усе гэта разумелі. Давай вып’ем за тваё здароўе! Сабутэльнікі выпілі і тэму ўжо як бы вычарпалі.

Тут якраз прыходзіць жонка Казуркі і кажа, што „пара дахаты”, бо „заўтра рана” і г. д. Казурка пайшоў.

Праз нейкі час кампанія назірала, як зь лямантам праставалосая вылятае з хаты на двор Казурчыха, а за ёй босы ў галіфэ, размахваючы міліцэйскай дзяжкай раззлаваны Казурка. Паганяўшы жонку пару разоў вакол хаты і сьперазаўшы па мяккім месцы, абураны Казурка ідзе ў хату і бразгае дзьвярыма.

Кампанія пазірае праз вуліцу, і тады той „падтыкач” гэтак раздумліва кажа, трасучы галавой:

– От дурная баба, падла! А гэта ж такі чалавек!

*13 чэрвеня 2013 г.*



*264.*

# ПАЛКОЎНІЦА

Траплялiся таксама на маім шляху кабеты вельмі непрыемныя. Але гэта ўсё былі асобы чужога роду, якія ненавідзелі мяне толькі за тое, што я для іх чужы.

Камуністычныя рэпрэсіі 1964 года датычылі ня толькі мяне. Разам са мной выдалілі з інстытута яшчэ некалькі асоб. Сярод іх аднаго расейца з Камчаткі – Валодзю Балабохіна. Маленькага росту, жвавы і вясёлы, ён ніяк ня мог схаваць сваёй непашаны да камуністаў і савецкай сістэмы. Зразумела, што сістэма ад яго пазбавілася, і мы абодва апынуліся на вуліцы. Мы разам вучыліся на адным курсе, жылі ў адным пакоі ў інтэрнаце. Адносіны былі сяброўскімі (зышліся на антыкамунізме).

Перш чым знайсьці працу, трэба было знайсьці жыльлё. Я ад'ехаў на месяц у Суботнікі, а Валодзя заняўся пошукам кватэры ў Менску на дваіх, бо аднаму было б дорага.

Калі я вярнуўся ў Менск, Валодзя кажа, што кватэру знайшоў, рэчы (кнігі) перавёз і ад'язджае на месяц у Маскву. І ад'ехаў.

І вось пайшоў я на тую кватэру. Гэта быў прыватны дом у моры аднапаверхавай драўлянай забудовы, якая патанала ў вішнях, сьлівах ды сабачым брэху. Непадалёк быў драўляны кінатэатр „Вымпел".

Падыходжу. Высокі дашчаты плот, за якім уядае сабака, глухая дашчатая брама і такая ж брамка (весьніцы). Усё зачынена, нічога не адчыняецца. Званка няма. Пачаў грукаць. Сабака забрахаў мацней. Праз нейкі час нехта выйшаў і пачуўся голас, падобны на жаночы:

– Хто?

– Кватарант, – адказаў я.

– Какой кварцерант?

– Ваш, Мар'я Іванаўна, сябра Валодзі (Валодзя сказаў мне, як завуць гаспадыню).

Пасьля доўгай паўзы яна пачала адчыняць брамку, бразгаючы засоўкамі. За брамкай стаяла баба бяз таліі гадоў за 50 з тварам, які любіў маляваць рускі жывапісец Абрам Архіпаў (баба ўзору 1916 г.), гэта значыць аблічча ў выглядзе дыні з рыжымі бровамі і вейкамі, з-пад якіх злосна глядзелі насьцярожаныя бясколерныя вочкі.

Я павітаўся і на ўсялякі выпадак паказаў пашпарт, па выгляду істоты зразумеўшы, што інакш размовы ня будзе.

Баба паказала пакойчык на 10 кв. м., амаль усю плошчу якога займалі два вузкія ложкі, маленькі столік і вяшак для адзеньня. Было адно крэсла і адно вакно. Пасярэдзіне падлогі Балабохін зваліў кнігі.

– Ну вот, – сказала баба, – ваша комната.

(Паўза.)

– Я вижу у вас книги все по театру. Вы чем занимаетесь?

– Тэатрам.

– Театром, да, – насьцярожана прамовіла Мар'я Іванаўна.

– Колькі гэта ўсё каштуе? – спытаў я, гледзячы на пакой. (Паўза.) Нарэшце баба кажа:

– Если кушать, так можно на кухне чай готовить.

Да мяне дайшло, што баба не разумее па-беларуску (рэдкасны экзэмпляр!). І гэта, відаць, яе палохае. Я перайшоў на рускую мову і задаў нанова ўсе пытаньні, сказаўшы ёй, што яна „очень приятная женщина" і што я рады буду жыць у яе доме. Тады яна назвала сваю немалую цану за пакойчык, а калі гарбату буду рабіць, то за газ дадатковая плата.

– Вы такая практычная жанчына, Мар'я Іванаўна. Пахвальная якасьць.

– Ну, жить же надо, – кажа Мар'я Іванаўна.

– Вы адна жывеце, Мар'я Іванаўна?

– Да, то есть нет. Там за стенкой сын с женой. Но мы с ним не разговариваем. Негодяй. Половина дома его. Я здесь с мужем. Но муж умер.

– Вы, відаць, жанчына ня простага лёсу? Прыходзілася перамагаць цяжкасьці ў жыцьці.

– Да уж, приходилось.

– Разумею. А там хто жыве? – паказаў я на адчыненыя дзьверы.

– А там у меня зал – гостиная. Ну, вы можете посмотреть, если интересуетесь.

– Ну, калі дазволіце.

– Пожалуйста, зайдите.

Я зайшоў у прасторную палову дома, спрэс устаўленую мэбляй, уся ў дыванах. Пасярэдзіне стаяў вялікі стол з чырвонага дрэва з акруглымі карнізамі і масіўнымі фігурна прафіляванымі ножкамі. Ля сьцен стаялі такія ж масіўныя два камоды з карнізамі і выразанымі пілястрамі, адзін з чырвонага дрэва, другі танаваны ў карычневы колер. Між імі стаялі, як труны, два вялікія гадзіньнікі зь нерухомымі маятнікамі велічынёй з блін і круглымі цыферблатамі, танаваныя пад чорнае дрэва. Была яшчэ этажэрка, столік пад вазоны і яшчэ нешта. Усё ня наскае.

Я адразу пазнаў гэты стыль, які вывучаў у інстытуце, – гэта тыповы нямецкі бідэрмайер. Падобна, што нават зь нямецкага музэю. На сьценах віселі тандэтныя шырпатрэбаўскія рэпрадукцыі са сцэнамі паляваньня XVIII стагоддзя, а на супрацьлеглай сьцяне побач з чырвона-бардовым дываном вісела нешта накшталт габелена зь німфамі, па стылю – французкі рамантызм канца XVIII-га. Цяжка было паверыць, што гэта арыгінал, але цалкам магчыма (прыглядацца бліжэй я сабе не дазволіў). „Зо, гут, – прабубнеў я сабе пад нос. – Альлес іст кляр."*

– Ваш муж быў ваенным? – спытаў я.

– Да, он был полковником.

– Дайшоў да Бэрліна.

– Да. А откуда вы знаете? – устрывожылася палкоўніца.

– Мэбля ў вас вельмі прыгожая, нямецкая.

– Да, муж привез из Германии.

– Ваш муж, відаць, сапраўдны герой.

– Да, воевал. На войне – знаете как.

– Ён быў палкоўнік НКВД?

– Нет, он был в спецвойсках.

– О, як цікава, – кажу я наўгад абы што, – штурмавая авіяцыя?

* Так, добра. Усё зразумела. (ням.)

– Нет, он сражался с диверсантами, выявлял. После войны сражался с бандитизмом, ликвидировал националистические банды шпионов.

Шчыра кажучы, лепш за ўсё было б узяць яе за калтуны і ткнуць носам у бідэрмаер. Але я ветліва ўсьміхнуўся і кажу:

– О, гэта геройская служба, Мар'я Іванаўна. Вам пашанцавала мецЬ такога мужа. Ня кожны мог ваяваць у аддзеле „Сьмерць шпіёнам".

– Да. Муж так и говорил: „Смерш" – смерть шпионам, говорит".

– Ну вось мы і пазнаёміліся, Мар'я Іванаўна. Вельмі прыемна. Вы, як відаць, з Расеі прыехалі?

– Да, из Подмосковья. Мужа направили сюда на работу, – Мар'я Іванаўна стварыла на твары нешта накшталт усьмешкі. – А вы откуда будете?

– Я з Гарадзенскай вобласьці.

– Да, да. Понятно. Послушайте, как там у вас на западе с холодильниками? Может, можно достать? У меня вот ЗИЛ старый уже. Скоро забарахлит.

– На жаль, Мар'я Іванаўна, халадзільнікаў на захадзе ўжо няма, усе перавезьлі на ўсход. Праўда, калі зьявяцца, я вам скажу.

– Да, да, если не трудно, – адказала палкоўніца.

На гэтым першы раунд знаёмства з палкоўніцай закончыўся. „Ну, Балабохін, – думаў я сабе ўзлаваны, – пачакай. Я табе ўсыплю."

Зразумела, што заставацца тут нельга было. Вырашыў, што дачакаюся Балабохіна і адразу выеду прэч.

Далей усё пайшло з паскарэньнем. Калі я днём чытаў і пісаў, палкоўніца раз-пораз (ня стукаючы) асьцярожна зазірала ў пакой. Убачыўшы, што я гляджу на яе, казала:

– Я слышу, что у вас тихо как-то, думаю, что вы делаете.

Першы раз я сказаў:

– Усё ў парадку, Мар'я Іванаўна, больш ня думайце.

Наступны раз тое самае, па некалькі разоў на дзень з рознымі фармулёўкамі. Мар'я Іванаўна трывожна адсочвала кожны мой крок. Я не зьвяртаў увагі, умеў адключацца – трэба было рабіць сваё.

Ні іроніі, ні гумару, ні падтэксту палкоўніца не адчувала. Зь ёй трэба было толькі наўпрост. А наўпрост з такой асобай – гэта канфлікт. Маю ветлівасьць і цярплівасьць палкоўніца ацаніла як слабасьць і тое, што я яе баюся.

Я ўжо два разы быў у Маскве, жыў там недзе каля месяца і добра зразумеў маскоўцаў. Калі ты зь імі ветліва і далікатна, яны тут жа могуць зьмяніць тон і сесьці табе на галаву. Згодна іхнай псіхалёгіі, далікатныя паводзіны абазначалі для іх, што я слабак і іх баюся, значыць можна камандаваць, павучаць і хаміць.

Памятаю, першы раз я перадаваў прабіць талончык у маскоўскім тралейбусе нейкай маладой жанчыне, сустрэўся зь ёй поглядам, і яна спалохана на мяне паглядзела. І гэтак паўтаралася часта. Мужчыны, праўда, не палохаліся, але часам, прабіўшы талон, яшчэ азіраліся паглядзець на мяне.

Я ня мог зразумець, у чым справа, я ж, здаецца, такі, як усе, нічым не вылучаюся. Потым, аналізуючы гэта і іншыя абставіны, я ўсё зразумеў ужо ў Менску, дзе такіх „праблем" ніколі не ўзьнікала. Аказваецца, я не задумваўся, што просячы маскоўцаў аб ветлівасьці перадаць талончык, я ўсьміхаўся і глядзеў у вочы. У Маскве людзі не ўсьміхаюцца, і таму мае паводзіны ўспрымаліся імі як праява падазронага інтэрасу да іхнай асобы. Я нават сам ня ведаў, што я пры гэтым усьміхаюся, бо гэта шаблон нашай культуры: чалавеку трэба ўсьміхнуцца, гэта неўсьвядомлены знак мірнага настрою.

Звычайны стан маскоўцаў – гэта стан няўсьвядомленай агрэсіі і чаканьня агрэсіі, і таму заўсёднае жаданьне прэвентыўна прыдушыць іншую асобу. Тон іхных рэплік, адносін, размоваў немагчыма слухаць (дарэчы, усё гэта ёсьць у расейскім кіно). Заходняга чалавека там пазнаеш імгненна, нават калі ён апрануты, як масковец і маўчыць. Першая якасьць, якую бачыш і адчуваеш у заходняга чалавека, – адсутнасьць агрэсіі і злосьці на абліччы, павага і абавязковая ўсьмешка.

Праз трыццаць пяць гадоў я трапіў у грамадзтва, дзе такі выгляд і паводзіны ня проста шаблон, але абавязковая норма. Памятаю, першыя дні ў нью-ёрскім мэтро я любіў разглядаць людзей (усё ж незнаёмае) і часта спатыкаўся поглядам. Як правіла (а белыя людзі стоадсоткава) табе прыязна ўсьміхнуцца. А калі людзей ня шмат, могуць яшчэ пры гэтым і павітацца, кіўнуўшы рукой.

Можна ўявіць сытуацыю, калі ў нешматлюдным вагоне сядзіць прыбылы ў Нью-Ёрк расеяц і глядзіць на маладую жанчыну насупраць, якая чытае кніжку. Дама адрываецца ад чытаньня, сустракаецца поглядам з расейцам, прыязна ўсьміхаецца яму (і можа нават павітацца – „хай!") і далей чытае сабе.

Што робіць масковец. Ён думае, што дама („цёлка") зацікавілася ім і запрашае да знаёмства. Ён можа нават падсесьці да жанчыны і пачаць ёй гаварыць якую-небудзь маскоўскую лухту (кшталту нават „что вы делаете сегодня вечером"). Амэрыканка будзе ўсьміхацца і прыязна яму нешта адказваць на яго пошласьці. Потым разьвітаецца, выходзіць і выклікае па тэлефоне паліцыю, якая чакае расейца ўжо на наступнай станцыі, дзе яму надзяваюць наручнікі, пры гэтым ён абсалютна нічога не разумее (нават калі яму патлумачаць).

Гэта, вядома, амэрыканскі выверт паводле такога ж збочанага заканадаўства (выпадак расцэньваецца як змушэньне да сэксу), але падстава пагрунтавана на адпаведнай этыцы.

Такіх (і падобных да гэтага) выпадкаў я ведаю шмат, пра іх пішуць у друку, у жоўтай прэсе і г. д. Мне прыходзілася глядзець па польскім тэлебачаньні фільм аб паводзінах расейскіх матросаў у гарадах Японіі (асабліва ў дачыненьні да жанчын). Тут нешта блізкае, відаць, да гарманальнай логікі пітэкантропаў. У сьвеце яе не разумеюць (дакладней, разумеюць па-свойму).

У 90-х гадах я быў знаёмы з такім прыязным маладым беларусам Славікам Карніловічым (сынам вядомага беларускага эміграцыйнага дзеяча Сяргея Карніловіча). Славік займаўся нейкім бізнэсам, езьдзіў на добрай машыне і аднойчы на дарозе перад ім раптам затармазіў стары драндулет (тыпу «бьюіка»). Славік націснуў на тармазы так, што яны заенчылі, як іржавая піларама. З бьюіка выскачыла жвавая спадарынька – а я-яй – і забегала вакол машыны. Славік не даехаў да яе бампера роўна на адзін сантыметр. А спадарынька ўсё – а я-яй ды ха-ха, ды

хі-хі –, што мела шчасьце, ато спужалася. І Славік сабе то ха-ха, то хі-хі. Спадарынька села і пакаціла.

Праз нейкі час Славік атрымлівае позву ў суд. Спадарынька падала на яго, што ён хацеў яе пратараніць, яна перапужалася і ад страху ў яе «прапаў сэкс». У Беларусі і ў іншай краіне, дзе нармальныя людзі, з гэтага пасьмяяліся б (у горшым выпадку накіравалі б мадам на медэкспэртызу ў Навінкі). Але ў Амэрыцы такія афёры звыклая зьява і суды бяруцца. Спадарынька хацела абрабаваць Славіка на паўмільёна даляраў.

Справа цягнулася некалькі гадоў. Вакол спадарынькі сабралася актыўная адвакацкая пачка (да 50 адсоткаў ад выйгранай справы можа атрамаць адвакат) і становішча Славіка было безнадзейным. Але ён адбіўся, бо даказаў (якім чынам – не ведаю), што ў яго ад перажываньня таксама «прапаў сэкс». На тым і разышліся. І гэта не анэкдот. Такі вось амэрыканскі мэнтальна-бытавы сэррэалізм. Але вернемся да палкоўніцы.

Калі я нараніцы выходзіў, Мар'я Іванаўна падпільнавала мяне і тонам, не дапускаючым пярэчаньняў, сказала, што я няправільна зачыняю дзьверы „в комнату”.

– Вы прихлопываете, а надо только прикрывать. Если прихлопывать, тогда дверь может оседать, – тлумачыла Мар'я Іванаўна. – И потом, вы как-то уж больно твёрдо ступаете. От этого пол портится.

Тэма здалася мне цікавай для гумару, але не было сэнсу яе разьвіваць. Палкоўніца была непрабіваемая. Я ёй пажадаў добрага здароўя і пайшоў. Вечарам Мар'я Іванаўна як бы незнарок трапілася мне на шляху ў пакой і кажа гэтакім украдчывым голасам сьледчага:

– Давно хотела вас спросить, что вы делаете по вечерам?
– Здаецца, я разьзявіў рот і ўставіўся на палкоўніцу, не зусім цямячы зьмест пытаньня. – У вас все время свет горит. Соседи удивляются, все говорят: „Марья, кто это у тебя – два часа ночи, а у него свет горит?”

– Па вечарах я „мечтаю”, Мар'я Іванаўна.

– Но мечтать можно и без света. Зачем свет включать?

– А гэта для сьветлых думак, Мар'я Іванаўна.

– Пожалуйста, я не возражаю, но свет деньги стоит. Что й то я смотрю, у меня на счетчике уже навертело.

Напэўна, не дачакаюся я Балабохіна (падумаў я). Назаўтра, вечарам, калі я пісаў, Мар'я Іванаўна зайшла ў пакой:

– Все занимаетесь, да?

– Так.

– Что-то пишите?

– Пішу.

– А что это у вас с моей настольной лампой?

– А што зь лямпай?

– Что-то очень ярко лампочка гореть стала.

– Я замяніў 25-ку на 60-ку.

– Вот видите, что вы делаете. Я не позволю так с собой обращаться. Я вам свою лампу поставила, а вы какие-то здесь эксперименты делаете. И цвет какой-то странный. Чего она такая зеленая? Сколько она берет? Я вижу, у вас фотоаппарат. Может, вы здесь фотографией занимаетесь?

– Шчыра захапляюся вашай гаспадарлівасьцю, Мар'я Іванаўна. Вы рэдкая жанчына, – кажу я сур'ёзна. – Давайце вырашым праблему так. Вы забіраеце сваю настольную лямпу, а я карыстаюся агульным сьвятлом.

Палкоўніца на хвіліну задумалася. Потым:

– Нет, почему же. Только не делайте эксперименты.

На наступны дзень да мяне ў госьці завітаў Лявон Баразна. Так атрымалася, што брамку пайшла адчыняць Мар'я Іванаўна. І тут заходзіць такі вясёлы дзядзька гадоў 36-ці ў чорнай кашулі з закасанымі рукавамі і з чырвонай беларускай жычкай на шыі замест гальштука.

– О, гаспадынька! Ха-ха-ха. Добрага здаровейка, – загрымеў Лявон. – Ну, дзе тут ваш малады чалавек?

Добра, што я адразу вышаў. Мар'я Іванаўна стаяла спалоханая і толькі лыпала рыжымі вейкамі, ня здольная вымавіць слова.

Тут трэба растлумачыць, што пры саветах намэнклятура адзеньня была вельмі абмежаваная. Шэрасьць. Тым часам яшчэ ў пачатку 60-х больш вольная і бунтоўная моладзь насіла (недзе ж даставалі), як правіла, чорныя ці чырвоныя кашулі са шнуркамі на шыі замест гальштука. Гэта была такая адзнака перадавізму „сучаснасьці”. Камсамол змагаўся з такімі кашулямі, а прававерны камунаабывацель пляваўся, злаваўся (і пабойваўся).

І тут перад Мар'яй Іванаўнай паўстае такі «хуліган» у чорнай кашулі, „говорит по-белорусски” і прыйшоў да яе падазронага кватаранта.

Лявон зайшоў, мы доўга і гучна гаварылі і часам рагаталі, як жарабцы. Калі я Лявона праводзіў, побач моўчкі прашмыгнула заклапочаная Мар'я Іванаўна. У душы ў яе, відаць, зьвінеў сігнал трывогі №1.

Назаўтра справа прыняла сур'ёзны абарот. Калі я вечарам прышоў дадому, то ўбачыў, што рукапісы мае ў папках перакапаныя, а кнігі перакладзеныя ў іншым парадку. „Цікава, – думаю, – нават не маскуецца. Ці яна ўжо зусім без галавы.” Я вышаў у прыхожую.

– Мар'я Іванаўна, – кажу, – вы заходзілі ў пакой, калі мяне не было?

– Да, я поинтересовалась, может есть, что почитать. У вас там столько книг. И зачем вам столько?

– Мар'я Іванаўна, – кажу я лагодна, – можа вы сабе яшчэ водачкі нальеце?

– Не поняла? – зьдзівілася палкоўніца.

– Вашае прозьвішча часам не Шарыкава?

– Да-а. А что? Откуда вы узнали? Я вам не говорила.

І тут настала, як пішацца ў тэатральных рэмарках, нямая сцэна.

– Вы чего уставились та?

– Нічога, – апамятаўся я, – я падумаў, што вы займаліся, відаць, да пэнсіі (пэнсія пры саветах для жанчын прызначалася з 55 гадоў) нейкай вельмі інтэлігентнай працай.

– Да, я работала на спецбазе.

Я тады ня ведаў, што такое „спэцбаза” (разьмеркавальнік асобых тавараў для камуністычнай намэнклятуры) і не зьвярнуў на гэта ўвагі.

– А почему вас заинтересовала моя работа?

– Ды так, у сувязі з маімі кнігамі.

– Не поняла? – зноў зьдзівілася палкоўніца.

– Ну, як вам сказаць. Ёсьць такое правіла, што супрацоўнікам спэцбазы не пажадана капацца ў маіх кнігах.

То калі б вы мне тут дапамаглі, гэта быў бы ідэальны крок з вашага боку.

– А чего, я же не брала. Только посмотлела. Очень надо мне ваши книги, – кінула мне наўздагон палкоўніца.

Лявон прынёс некаторыя паперы і пакінуў папку. Я паклаў яе пад падушку і нараніцы замкнуў пакой ключом, што тырчэў у дзьвярах, і ключ узяў з сабой. Вярнуўся позна, каля 12-ці, дзівячыся, што гарыць сьвятло ў доме і палкоўніца яшчэ ня сьпіць.

Калі я зайшоў у прыхожую, Мар'я Іванаўна стаяла горда каля дзьвярэй у мой пакой, абапершы рукі ў бокі. Аблічча яе было поўнае абурэньня. Яна шырока адчыніла дзьверы ў пакой і са сьвістам выгукнула:

– Вот, пожалуйста, заходите!

Я адразу падзякваў, зайшоў і зачыніў дзьверы, сапсаваўшы Мар'і Іванаўне ўвесь эфэкт сцэны (якую яна, магчыма, нават адрэпэціравала).

І тут пачаліся гром і бліскавіцы. Мар'я Іванаўна ўляцела ў пакой і закрычала. Твар яе пачырванеў, як бурак, і пакрыўся пупырышкамі, губы дрыжэлі, а бясколерныя вочкі сталі злыя, як у вяпрука.

– Это вы что?! Издеваетесь?! Кто вам дал право закрывать комнату?! Вы думали, у меня другого ключа нет?! Ан есть, голубчик! Вы что здесь распоряжаетесь и делаете, что хотите!? И лампочку заменили! Все соседи удивляются... і г. д.

Я прысеў на ложак і чакаў, пакуль яна ўсё выплесьне ды стоміцца. Нарэшце, палкоўніца на хвіліну перадыхнула.

– Мар'я Іванаўна, – кажу, – гэта ж цяпер мой пакой для пражываньня, вам за яго наперад заплачаныя грошы.

– Какой он еще ваш? А собственность чья?! А здесь мой стол, кровати мои стоят!..

Мар'ю Іванаўну панесла па новай. Калі яна трохі прыціхла, я, не мяняючы лагоднага тону, кажу:

– Так, Мар'я Іванаўна. Заўтра я ад вас зьязджаю і вызвалю вам памяшканьне. Нараніцы вы павінны мне вярнуць палову грошай за нескарыстаныя два тыдні і не гаварыце больш нічога. Усяго, што вы нагаварылі, дастаткова. Дабранач.

Я ўстаў рана, пачаў зьбіраць рэчы і зьвязваць кнігі ў стопкі. Шпагату не хапіла, не было чым вязаць. Я ўзяў старую спартыўную сумку і вялікім складаным турыстычным нажом з мэталёвымі тронкамі (купіў яго некалі ў Іўі) стаў яе рэзаць на палоскі і зьвязваць між сабой.

Увесь гэты час Мар'я Іванаўна ўзбуджаная хадзіла туды-сюды, не спускаючы зь мяне вачэй і шыпела. Яе аж разрывала ад злосьці. Рот яе не зачыняўся. Усё было паўторана і перапаўторана і пра суседзяў, і лямпачку, і позьні прыход, і таямнічага Лявона, і дзьверы, і ваду, і трасцу. Натуру Шарыкавай я ўжо добра ведаў і разумеў, што яна сочыць за падазроным кватэрантам, каб ён чаго не прыхапіў з сабой зь яе рэчаў.

Падпяваючы сабе пад нос „Мы выйдзем шчыльнымі радамі", я ўсё ж вельмі спакойна (як і ўвесь час з гэтай асобай) кажу:

– Мар'я Іванаўна, вы гаворыце лішняе. Я ж вас учора прасў супакоіцца. Ідзіце ў залю, сядзьце і адпачніце спакойна.

Машынальна я сказаў гэтую фразу па-беларуску (забыўшыся на яе анальфабэтызм). І раптам палкоўніца аж запенілася, крык яе пераўтварыўся ў нейкі сьвінячы віск:

– Вот вы, вы все западники-националисты, советская власть вас в люди вывела, а вы, как свиньи под дубом, неблагодарные, даже с людьми не умеете порядочно себя вести. И язык ваш собачий, на котором только предатели говорят! Фашистам задницу лизали!

„Ха-ле-ра," – прамовіў я сабе. Унутры жыгнула гарачым агнём. Але я адразу саўладаў з сабой і стаяў нерухома, як статуя, гледзячы на палкоўніцу і думаючы, што зь ёй рабіць.

(Тут скажу, што не зважаючы на маладосьць, я ўжо навучыўся у такіх правакацыях валодаць сабой. Гэтыя акупацыйныя шарыкавы ня выклікалі ў мяне аніякіх эмоцый. Бо як калі на цябе ўядае, брэша сабака з-за плоту, то ты ж не абураешся на сабаку, не даеш волю эмоцыям. Жыцьцё пад акупацыяй вымагае асаблівых паводзінаў. У разуменьні гэтага мне шмат дапамог мой старэйшы сябра Лявон Баразна. Але палкоўніца перайшла мяжу, і яе трэба было спыніць.)

Тым часам, гледзячы нерухомым позіркам на Шарыкаву, я ўбачыў, што яна раптам зьбялела, скурчылася і змоўкла. На твары яе адбіўся жах, падбароддзе дробненька дрыжэла. Яна глядзела на мяне, але некуды ўніз. І тут я ўсё зразумеў. У правай руцэ ў мяне быў той вялікі бліскучы нож, які я машынальна сьціскаў. „Ну, думаю, сучка, пачакай: „нядарам дзядзька быў у школе, навуку ведаў ён даволі" – гэта я словамі Коласа пра сваё навучаньне на акцёрскім факультэце.

– Яшчэ адно слава – зарэжу, – сказаў я ціхім голасам, схіліўшы галаву і гледзячы на палкоўніцу з-пад ілба, як удаў. – А дом твой спалю. – Маўчанка і нямая сцэна.

З Мар'яй Іванаўнай, як сказаў бы, магчыма, яе гэбісцкі „супруг", „начался мандраж". „Дык-дык-дык-дык-дык, – закляніла яе (што за „дык-дык" – нешта не па-руску). – Пожалуйста, я, это, пожалуйста, – лепятала Мар'я Іванаўна, – может веревочка нада, пожалуйста, пожалуйста, чем помочь, дык-дык-дык".

Яна замітусілася, шукаючы вяровачку. Я паказаў Мар'і Іванаўне рукой на залю: „Ідзіце, сядзіце там і не выходзьце". Палкоўніца пайшла ў залю.

Я сабраў кнігі і рэчы, усё вынес у двор, у кучу і прыкінуў, што за адну ходку таксі можна ўсё забраць.

– Мар'я Іванаўна, я прыду вечарам і забяру.

Я паехаў да сваіх знаёмых (дакладней, маміных знаёмых, якім яна некалі ў Суботніках рабіла дабро) на Паўночны пасёлак і папрасіў, каб прынялі рэчы на нейкі час, пакуль найду жыльлё.

Мае знаёмцы па нашым звычаі, не пачаставаўшы абедам, з хаты мяне ня выпусьцілі. Селі за стол. Гаспадар нават адкаркаваў нешта, каб разьвязаліся языкі і на душы пацяплела. І праўда, так пацяплела сярод сваіх людзей. Так хораша пагаварылі, пажартавалі. Ласкавыя галасы, позіркі, мова наша прыўкрасная.

Я паехаў да Лявона Баразны (ён з жонкай здымаў такі ж пакойчык) і там распавёў яму пра ўсю справу і падзеі. Лявон аж узьвіўся. „Псіна! Нелюдзь! – крычаў. – Паехалі!

Я ўзяў слова зь Лявона, што ён будзе маўчаць, як нямы. Ёй хопіць. Трэба ад'ехаць і забыць.

Мы зайшлі ў брамку. Мар'я Іванаўна стаяла на ганку. Убачыўшы Лявона ў чорнай кашулі, яна скамянела і не

магла, відаць, скрануцца зь месца. На яе напаў стаўбун. Мы перанесьлі кнігі ў таксі і паехалі.

Я начаваў у Лявона, лежачы, практычна, на голай падлозе, бо не было чаго падаслаць (посьцілку падніз, посьцілку наверх). Заснуць доўга не маглі, размаўлялі ня тое, што пра дробную падзею, але пра вялікую праблему.

– Але во, гляньце, – кажа Марыля, Лявонава жонка, – адкуль такая нянавісьць і злосьць? Ім жа ніхто нічога благога ня робіць і ня кажа? Прычыны ж няма, а як шалёныя сабакі.

– Ім ня трэба прычыны, – адказвае Лявон, – у іх прырода такая. Гэта варвары, якія ня любяць, не паважаюць нікога на сьвеце, нават самых сябе.

– Ніколі акупанты ня будуць шанаваць захоплены народ, – кажу я. – А прычына тут простая. Як ты думаеш, Лявон, чаму, калі гэтая баба бачыла цябе, то палохалася і яе стаўбун хапаў?

– Ну, бо я «пагроза баб», – кажа Лявон.

– А калі бяз жартаў? Чаму запенілася ад беларускай мовы? Адказ просты. Той сукін сын, што быў у Сьмершы, забіваў беларусаў. Гэтая ж кабета сама мне пра тое казала. Вось ён ёй пра сваю працу і распавядаў, прышоўшы да хаты, памыўшы рукі ад крыві і сеўшы за стол, „какие они, белорусы-националисты, гады, бандиты, антисоветчики, сволочи и предатели”, і што ўсіх іх „надо стрелять”. Гэта, як нямецкі аўчар, – парода, выведзеная супраць чалавека. У гэтым выпадку – парода, выведзеная супраць беларусаў. У іх жа стогны нашых ахвяр і плач дзяцей у вушах пішчыць. А тут прыходзіць такі жывы „предатель” у чорнай кашулі і гукае на „националистическим языке”. І невядома, чаго ён прышоў. Ну, дык і страшна.

– Ну, але. Для іх гэты піск у вушах добрая музыка. Таму і нянавісьць, што нехта яшчэ жыве, – дадае Лявон. – Але я вось што скажу. Яны і між сабой такія самыя. Ты думаеш, калі б да такой псіны прыйшоў расеяц, то яна б была лепшай? Жывёла энкавэдзісцкая.

– Але трэба ж было мне ўскочыць у такую яму! О-ё-ё-ёй! – кажу я зноў. А Лявон сьмяецца:

– Не бядуй, браце, – усё лепшае наперадзе.

*25 студзеня 2013 г.*



*265.*

# ЯК ВАЦЮК СКРУЦІЎСЯ

Не даходзячы кілёмэтры два да Сурвілішак (калі йсьці ад Суботнік) зь левага боку ёсьць вёска Мацюкі. Цікавая, думаю, назва. І праўда. Аднойчы я йшоў па дарозе, даганяе мяне фурманка ў палявых драбінах. Сядзяць двох дзядзькоў і мацюкаюцца на ўсю дарогу. Не гавораць – крычаць. Такая манера. Усё „маць" ды „маць". Тут увесь, відаць, слоўны запас з рускай лексікі, які яны засвоілі. Так бы мовячы, „культурны ўплыў". Я і пытаю праз дарогу:

– Гаспадары, вы з Мацюкоў?"

– З Мацюкоў, ё. т. м., а што?

– Нічога, – кажу, – добра матку ўспамінаеце.

А быў там, у Мацюках, такі Вацюк, дзяцюк малады. Бацьку забілі белыя, дык застаўся адзін з маткай. Жылі бедна, бо калгасы (ці, як тут казалі, „калкозы") усё забралі, і дажыліся, што засталося толькі паўмяшка жыта.

– Вацянька, – кажа матка, – што ж будзем рабіць, усяго пуд жыта застаўся?"

– Не бядуй, мама, – кажа Вацюк, – я з гэтым пудзікам неяк скручуся.

І вырашыў ён, што выганіць з гэтага жыта самагонкі, прадасьць, а на выручку неяк трохі разжывецца, можа тры пуды купіць.

Зрабіў Вацюк аснову і калі брага падыйшла, намерыўся гнаць проста ў хаце. Якраз была нядзеля, дзень бясьпечны, матка пайшла ў касьцёл, а Вацюк улаштаваў апарат, зьмеявік, агонь распаліў і пачаў гнаць.

Пайшоў пяршок, ну і, натуральна, пах на вуліцу. Мацюкоўцы нюх мелі добры, і паступова ў хату крыху назьбіралася дзяцюкоў:

– Ну, дык давай, – кажуць, – што за пяршак, паглядзім.

– Не, хлопцы, бо ня выганю. Дайце выгнаць.

– А што тут „выганю"? Само гоніцца.

Словам, характар Вацюк меў слабаваты, яго ўгаварылі і пачалі пробваць. Паспрабавалі так, што амаль усё выжлукцілі і ледзь дахаты пайшлі, а Вацюк зваліўся ля апарата на гліняную падлогу і заснуў. А паколькі на падлозе было холадна, то ён скруціўся, не раўнуючы, як той кот, і ляжыць сабе, каўнер на вуха нацягвае.

У гэты час прыходзіць матка з касьцёла:

– А во, мае вы, скруціўся. Пра-а-ўда. От скруціўся, дык скруціўся.

*1 студзеня 2013 г.*



*266. Ускраіна Дзявенішак. (2012 г.)*

# ТАЛЕРКІ

Размаўлялі пра космас, ходзячы па вестыбюлі.

– А ведаеш, – кажа Стафан, – людзі, якія ў гэта ўлягаюць ды ў буддызм, ды ва ўсялякія „ёгі", для беларушчыны ёсьць кончаныя. Яны, як зомбі: культура, нацыя, абарона Радзімы ад зьнішчэньня іх не цікавіць. Яны жывуць у сваім ілюзорным сьвеце. Гэта хвароба.

– Так яно і ёсьць, – згаджаюся са Стафанам, – толькі тут хвароба сусьветная. Яшчэ некалі Сакрат казаў, што дурань можа захапіцца любым вучэньнем.

– Дык жа і ня дурні, як паглядзіш. Во, глянь, гэты талерачнік ідзе: начытаны, адукаваны, а што толку?

„Талерачнік" – гэта быў вядомы для вузкага кола акадэмічнай інтэлегенцыі ў 1960-х гадах Вячаслаў Зайцаў, кандыдат навук, літаратуразнаўца. У Менску зьявіўся зь Ленінграда. Нешта ён там ленінградзкай навуцы прышоўся „не ко двору". Але неўзабаве я зразумеў, чаму. Зайцаў ня быў у КПСС і да савецкага ладу ставіўся крытычна. Акрамя таго ён выказваў дзіўныя меркаваньні, зь якімі часам выступаў і прыставаў да людзей. У 1960 гадах ён надрукаваў у сібірскім часопісе „Байкал" два вялікія артыкулы, дзе паведаміў, што людзі на зямлю прыляцелі з Космасу і што Ісус Хрыстос быў касманаўтам і таксама прыляцеў з Космасу. Аўтар спасылаўся нават на нейкія хрысьціянскія абразы, дзе, на яго думку, намалёвана, як сьвятыя лятуць у ракетах (на самой справе там зусім іншае, трэба было ведаць традыцыі і сымволіку сакральнага жывапісу). Няведаньне этнаграфіі не дало яму магчымасьці правільна зразумець некаторыя старажытныя наскальныя малюнкі з гісторыі Афрыкі (яму здавалася, што на іх адлюстраваньні касманаўтаў у скафанрах). Па тых жа прычынах іншыя арыгіналы паведамлялі (нават кнігі пішуць), што выявы ў пустыні Наска ў Паўднёвай Амэрыцы – гэта старажытны касьмічны аэрадром і г. д.

На той час я вучыўся ў асьпірантуры Акадэміі Навук, сутнасьць навуковага аналізу і навуковага падыходу ў ацэнцы зьяваў для мяне была добра зразумелай, але прафанацыі зьяваў цікавілі мяне з псіхалагічнага боку. Псэўданавука, прафанацыі, містыфікацыі ў сфэры нажывы і лібэральных дачыненьняў даўно ўжо сталі бізнэсам, часткай мас-культуры, якая пашыраецца, спараджаючы цемру і збочанае ўяўленьне пра сьвет. Узровень адукацыі (заўважана) найбольш абніжаецца апошнім часам у так званых „цывілізаваных" краінах (Эўропа, ЗША). Масы звыклых людзей з сярэднім узроўнем адукацыі там увогуле ня маюць выразных уяўленьняў пра акаляючы сьвет (гісторыю, геаграфію, астраномію). Для іх праблематычным ёсьць пытаньне, што большае, Зямля ці Сонца, і што вакол чаго круціцца – Зямля вакол Сонца ці Сонца вакол Зямлі.

У 2012 годзе мільёны людзей у „цывілізаваным" сьвеце напалохаліся і паверылі несусьветнай лухце пра канец сьвета, пушчанай ва ўжытак медыйнымі шалапутамі са спасылкамі на цыклічны каляндар Майя.

Тут цікавае назіраньне, што навукова-тэхнічны прагрэс ніяк не ўплывае на колькасьць дурняў і цемры ў сьвеце. Што ў сярэднявеччы, што цяпер – тое самае. Толькі зьява стала больш масавай і ўключылася ў рынкавыя дачыненьні. А гэта значыць, што сама спажывецка-вытворчая сістэма лухты аб'ектыўна зацікаўлена ў павелічэньні колькасьці прымітыўных людзей і ў зьніжэньні аўтарытэту навукі.

Зайцаў аказаўся даволі прыемным чалавекам інтэлігентнага выгляду гадоў пяцідзесяці-пяцідзесяці пяці. Мы зь ім часта размаўлялі на тэмы для яго блізкія. Ніякай псіхічнай паталогіі я ў ім не заўважаў, акрамя хіба скасабочанасьці думак і надзвычайнага дылетантызму, які пакрываўся красамоўствам, тэрміналёгіяй і нестандартным думаньнем. Размаўляць зь ім было цікава, а ў тэмах, далёкіх ад космасу, ён выяўляў і розум, і здаровы сэнс.

Неяк закранулі нацыянальнае пытаньне, і Зайцаў (сам расеец) вельмі крытычна (каб не сказаць зьнішчальна) выказаўся пра рускіх, ацэньваючы іх як народ разбэшчаны і сапсуты, што пераняў сатанінскія прынцыпы і д'ябла ў сваё існаваньне.

– А вот Белоруссия, – кажа Зайцаў, – есть остров добра с очень сьветлым народом.

– Бяда ў тым, Вячаслаў Кандратавіч, – кажу я, – што гэтыя вашыя неўраўнаважаныя расейцы лезуць на востраў дабра, як тапельцы ў перапоўненую лодку. Што тады ад гэтага вострава застанецца, калі лодка ўтопіцца?

– А ведаеце, – кажа Зайцаў, – яны тут зьмяняюцца. Ужо ў другім пакаленьні робяцца спакойнымі, як беларусы, і пачынаюць прыстойна думаць. Беларусь заўсёды была для Расеі цывілізуючым культурным чыньнікам. І калі раней гэта ішло праз зьнешнія ўплывы, то цяпер праз унутраныя. Расеяц, які трапляе ў Беларусь, мэнтальна асімілюецца. Я нават ведаю некаторых, якія ўжо лічаць сябе беларусамі.

Я пацікавіўся тады статыстыкай перапісаў насельніцтва, зь якой мала што даведаўся, але аналіз дадзеных паказаў, штот так, сапраўды, невялікая колькасьць расейцаў у Беларусі запісваліся беларусамі і называлі сябе беларусамі. Гэта тым больш цікава, што адбывалася татальная русіфікацыя культуры праз устаноўку „пабудовы камунізму", гісторыя Беларусі была зьнішчана і сфальсіфікавана, а вялікі беларускі народ пішчом стараліся прыраўняць да сялян, якім, маўляў, бальшавікі далі дзяржаўнасьць у 1917 годзе.

Выходзіць, што Зайцаў у нечым меў рацыю і ўбачыў тое, чаго ня ўбачылі некаторыя з нас, беларусаў, рэагуючы на расейскі шавінізм, хамскія паводзіны і нацыянальныя зьнявагі акупацыйных засланцаў з-за Вязьмы.

Тады я зацікавіўся гэтым пытаньнем больш дэталёва і прышоў да істотнай для сябе высновы: у натуральных дачыненьнях з рускімі гэтак жа, як і з балтамі, перамагае беларускі этнакультурны асіміляцыйны чыньнік. І гэтая тэндэнцыя, хоць і слабая, але праглядаецца ўвесь час, нягледзячы на шалёную русіфікацыйную дзяржаўную палітыку Расеі на захопленых беларускіх землях, якая выявілася тут як афіцыйная расейская ідэалёгія.

Я быў уражаны сваім адкрыцьцём. Некалі ў польскім часопісе „Litwa" за 1915 год мне прыходзілася чытаць

развагі аднаго жмудзінскага інтэлектуала, які з трывогай пісаў, што калі летувісы (жмудзь) ня створаць хутка сваю незалежную дзяржаву, то яны будуць натуральна патоплены ў беларускай стыхіі, і Беларусь будзе да Балтыйскага мора. Такое заключэньне ёсьць публіцыстычнае перабольшваньне, але тое, што беларускі этнас натуральна (г. зн. бяз войнаў) пашыраўся коштам жыцьцёвай асыміляцыі балтаў ёсьць цяпер агульнавядомы факт (упершыню навукова абгрунтаваны, дарэчы, расейцамі – археолаг Валянцін Сядоў).

Балты, у значнай частцы нашай тэрыторыі, ёсьць этнічным субстратам беларускага народа, пасіянарная калыска якога (пачатак славянства) знаходзіцца, як мяркуюць некаторыя археолагі (дыскутуецца) на Палесьсі.

Натуральны рух (з боку смаленскіх крывічоў) назіраўся таксама на ўсход. Сьвет мог бы стацца зусім іншым, калі б ні вялікая падзея сярэднявечча, якая паламала натуральныя працэсы пашырэньня і зрастаньня народаў і стварыла сістэму валявых дачыненьняў, што існуе па сёньняшні дзень. Маецца на ўвазе заваёвы манголаў, дзейнасьць генія арганізацыі і вайны, знакамітай асобы сярэднявечча Чынгіз-хана і стварэньне імпэрыі манголаў – Залатой Арды, дзяржавы, якая цягам гістарычных мадыфікацыяў, пераменаў этнічнай улады, назоваў, ідэалёгіі ўладных эліт праіснавала да сёньняшніх дзён.

Са стварэньнем імпэрыі Чынгіз-хана (ці па спадчыне – Бату-хана, пазьней па пераемнасьці – Масковіі, Расеі, СССР) натуральныя працэсы пашырэньня і кансалідацыі этнасаў скончыліся, замкнуліся ў рамках дзяржаўных утварэньняў, перайшлі ў дачыненьні супрацьстаяньня, ідэалёгіі, палітыкі і вайны. Але тэндэнцыі (сутнасныя, ключавыя) засталіся.

Вынікі назіраньняў за зьявай мне дапамаглі потым у палітыцы, дакладней – вызначыць і сфармуляваць сваю пазыцыю ў дачыненьні да Расеі і расейскай агрэсіўнасьці, асэнсаваць унутраныя ўзаемаадносіны. Я заўсёды падазраваў, што невытлумачальная логікай ірацыянальная нянавісьць па-імпэрску заідэалагізаваных расейцаў да беларусаў і беларускай мовы (найперш) абазначана нейкім падсьведамым, неасэнсаваным комплексам страху і зайздрасьці, якія выклікаюць агрэсію як сродак самаабароны. Адсюль жа зыходзіць імкненьне прынізіць, ахаяць і затаптаць нашу культуру – дзеяньне палітычна абгрунтаванае, але на практыцы цалкам ірацыянальнае.

Раздумляючы над схаванымі працэсамі ўзаемадачыненьняў, мне стаў лепш зразумелы фэнамэн расейцаў Міколы Шчакаціхіна, Натальлі Арсеньневай, Уладзімера Мулявіна і іншых рускіх, якія сталі вялікімі беларусамі ў часы савецкай акупацыі Беларусі і нацыянальнага прыніжэньня.

І мае погляды, і пазыцыя ўсяго Народнага Фронту тут супадалі. Ёсьць агрэсіўная Расея, існуе расейская імпэрская ідэалёгія, у Крамлі сядзіць заўсёды злачынная руская ўлада, і ёсьць расейцы (дакладней, невялікая частка расейцаў), якія не ўключаныя сьведама ў палітыку, якіх ў Беларусь не прывезьлі як стукачоў НКВД, а якія ў нас апынуліся па жыцьцёвых абставінах. Гэтыя невялікая група расейцаў могуць быць нашымі саюзьнікамі ў змаганьні за вольную, незалежную, дэмакратычную Беларусь. Так яно часткова і склалася.

У Народным Фронце ў барацьбе (sic!) супраць камуністычнай Масквы і іпэрскай расейскай палітыкі ўдзельнічалі ў змаганьні таксама і расейцы. Многія фронтаўцы пра гэта нават не здагадваліся, бо ніхто з нас тады не цікавіўся этнічным паходжаньнем, калі чалавек быў за Нацыянальную ідэю, за Сьцяг і Пагоню, за мову і Незалежнасьць, за дэмакратыю і свабоду і стараўся гаварыць па-беларуску.

Цікава, што калі ў 1999 годзе раскалолі Фронт, бальшыня гэтых людзей засталіся ў БНФ „Адраджэньне”, не спакусіліся на халяву і не пайшлі да прагматыкаў. Памятаю ў нас (у КХП-БНФ) такіх Якуба (Якаў) і Аляксандру Шунькіных. (Якуб быў афіцэрам савецкай арміі.) Яны казалі пра сябе, што яны рускія, але такіх чэсных, адданых і сумленных беларусаў-фронтаўцаў, як спадарства Шунькіны, яшчэ трэба было пашукаць. Яны былі супраць расейскай акупацыі Беларусі і разам з фронтаўцымі траплялі пад рэпрэсіі рэжыму.

Мой лёзунг у прэзыдэнцкай кампаніі 1994 года быў такі: „У вольнай дэмакратычнай Беларусі расейцам будзе лепш, чым у Расеі. Ад іх патрабуецца толькі грамадзянская лаяльнасьць да дзяржаўнай палітыкі беларускага Адраджэньня”. Я ня бачыў рэальнай небясьпекі для Беларусі з боку непалітызаваных рускіх. Небясьпека сядзела ў Крамлі і ў тысячах расейска-савецкіх палітычных асаднікаў, ветэранаў ГРУ і КГБ, якія наплылі ў Беларусь, нішчылі тут усё беларускае, гадзілі на кожным кроку і будуць гадзіць, пакуль ня ўзяцца за іх, як некалі за іхных калег у Нюрнбэргу.

Вось з гэтай групы расейцаў і выходзіць увесь антыбеларускі смурод, нянавісьць, хлусьня і прапаганда, падтрыманая цяпер антыбеларускім рэжымам. Задача ў іх простая, як кол: настроіць беларускіх расейцаў супраць беларусаў, якія адстойваюць беларускую мову, свабоду, волю і незалежнасьць. Іхны галоўны тэзіс тыпова гэбоўскі: маўляў, „нацыяналісты” рускіх высяляць зь Беларусі, будуць расстрэльваць і забіваць. (Гэта тое, чым яны займаліся за саветамі ў Беларусі супраць беларусаў. Фантазія не сягала за межы іхняга вопыту.)

Зайцаў у палітыку ня ўлазіў, але яго гаварэньні на кожным кроку пра „касманаўта-Хрыста”, лятаючыя талеркі і прышэльцаў з космасу ўзбудзілі пільнасьць КГБ, і да яго прыставілі так званую „наружку”. Жыў ён у канцы вуліцы Якуба Коласа (Лагойскі тракт) на перакрыжаваньні з вул. Сядых. На другім баку вуліцы адзінока скасабочылася тэлефонная будка з расхлябанымі дзьвярыма.

Аднойчы позьняй восеньню, калі ўжо пачаліся замаразкі, у кватэры Зайцава а 23-й гадзіне зазваніў тэлефон:

– Алё, товарищ Зайцев?

– Да, слушаю.

– Это хорошо. Вот вы меня, товарищ Зайцев, слышите, а я вас вижу. Вот так-та.

– Простите, не понял, кто говорит?

– А говорит тот, кто видит. Да.

Бессэнсоўная размова працягвалася нейкі час, у ходзе якой высьветлілася, што няшчасны гэбіст зьмерз, залез у тэлефонную будку і „по обыкновению” „кірнул” (выпіў

алькаголю). Пасьля гэтага, гледзячы на асьветленае вакно Зайцава, ён рашыў пазваніць на „аб'ект". У яго зьявілася жаданьне пагаварыць.

– Ну і што б гэта значыла? – пытаю я ў Зайцава. – Навошта гэбіст такое ўчудзіў?

– Надо знать душу русского человека, – кажа Зайцаў. – Россию умом не поймешь. Холодно. Выпил. Захотелось поговорить с позиции своей значимости. Рубаху, например, на себе зачем рвать? А ведь рвут. Этот, видно, остался вполне доволен собой.

У вобласьці рускай мэнтальнасьці Зайцаў, відаць, разьбіраўся і часам зьдзіўляў мяне сваімі сэнтэнцыямі. Калі я зь ім пазнаёміўся, у яго ў сьвядомасьці быў самы разгар „талерачнай" эйфарыі. Не гаварыць пра лятаючыя талеркі ён проста ня мог. „Касьміты сярод нас, – казаў ён сур'ёзна, – на Зямлі ў іх свая агентура."

Аднойчы летам 1971 года ён спаткаў мяне ў калідоры Акадэміі, адвёў у бок і з таемным загаворніцкім выглядам кажа:

– У жніўні будзе вялікае супроцьстаяньне Марса. Па зьвестках, якія сталі вядомыя, чакаецца масавы прылёт з Марса на Зямлю прадстаўнікоў незямной цывілізацыі.

– І на чым яны прылятуць?

– На касьмічных лятаючых талерках. Яны даўно прыпісаны да Зямлі. Дарэчы, іх пастаянна бачаць, але зьвесткі засакрэчаны.

– Цікава, – кажу. – А якая мэта прылёту?

– Мэта невядомая. Але крыніца называе дакладную дату: 10 жніўня 1971 года.

– Што за крыніца?

Зайцаў ухіліўся ад дакладнага адказу, спаслаўшыся на сакрэтнасьць. Неяк я пагаварыў з адным зь яго „зомбі", які глядзеў Зайцаву ў рот, як на пасланца нябёс, і той сказаў мне, што зьвесткі ад фэнамэнальнай жанчыны, якая непасрэдна выходзіць у астрал, надзеўшы медны абруч на галаву (у якасьці антэны) і размаўляе з марсіянамі. Слова за слова, і я даведаўся, што гэта актрыса аднаго зь менскіх тэатраў, дачка вядомага мастака-дэкаратара, зь якой я, дарэчы, вучыўся ў Акадэміі мастацтваў (тады – Тэатральна-мастацкі інстытут). Яна ішла на тры гады перада мной. Неблагая прыгожая дзяўчына. У тэатры пазьней зь ёй здарылася бяда. Яна захварэла вострай формай шызафрэніі, яе паклалі ў псіхіятрычны шпіталь у Навінкі. У тэатр яна больш не вярнулася.

Вось мінуў жнівень. Марсіяне на талерках, вядома ж, на Зямлю не прыляцелі. У калідоры спатыкаю Зайцава і пытаю:

– Ну, дык як, Вячаслаў Кандратавіч, не прыляцелі марсіяне?

– Прыляцелі, – адказвае Зайцаў зь веданьнем справы.

– Як гэта? Ніхто ня бачыў і лакатары не зафіксавалі.

– Вось тое ж і яно. Яны ж ня дурні. Уваход у атмасфэру Зямлі адбыўся праз Паўночны і Паўднёвы палюсы. Усё адбылося незаўважна. Цяпер яны на Зямлі.

Наступнай касьмічнай ідэяй Зайцава была падрыхтоўка да другога прышэсьця Хрыста. Ён казаў, што яно хутка настане, бо, як напісана, габрэі ўжо сабраліся ў адным месцы. Існуе дзяржава Ізраіль.

Гэтая думка яго так праняла, што ён пачаў пісаць на гэту тэму і распаўсюджваць машынапісны „самвыдат". Прапанаваў і мне пачытаць адзін яго твор, які называўся „Тварэц і Галем", ці нешта ў гэтым родзе. Я пачытаў, адзначыў сабе цікавыя моманты, але зрабіў вялікую памылку – пакрытыкаваў некаторую лухту, якой поўна было на старонках. О, што тут было (найперш, Зайцаў быў старэйшы за мяне гадоў на 20-25). Вячаслаў Кандратавіч горда ўзьняў галаву і гнеўна „ударыў у хамут" (як кажуць беларусы). Крытыкаваць нельга было. Я гэта неяк выпусьціў з-пад увагі.

Пасьля крытыкі Зайцаў пачаў мяне неяк абмінаць, відаць, зразумеўшы, што як аб'ект для замбаваньня я яму не падыходжу. Але аднойчы недзе праз год ён спаткаў мяне на праспэкце каля кнігарні замежнай кнігі «Дружба» і кінуўся на перарэз.

– Зянон, – крыху ўсхвалявана сказаў ён, – 26 дня гэтага месяца ў нашу сонечную сістэму на адлегласьці 150 мільёнаў кілёметраў ад Зямлі паміж Зямлёй і Сонцам прыбылі сілы цэнтра начале з Ісусам Хрыстом.

Тут ізноў я зрабіў памылку. Мне перашкодзілі школьныя веды.

– Адлегласьць ад Зямлі да Сонца, – уставіў я, – ёсьць 149 з паловай мільёнаў кілёмэтраў. „Паміж" – не атрымліваецца.

– Ну, гэта ня важна, ня мае значэньня. Вы ж разумееце, што ў астрале іншыя вымярэньні. Тым ня менш ён зьбіўся з хвалі, і размова не атрымалася. Больш я яго ня бачыў.

Пазьней ён страціў працу ў інстытуце Літаратуры і паехаў ў Маскву. Там ён дастаў мегафон і на адной са станцый маскоўскага мэтро пачаў апавяшчаць людзям пра небясьпеку бязбожнай улады, называючы генсека Леаніда Брэжнева ўвасабленьнем Сатаны. Зайцава арыштавалі і зьмясьцілі ў брэжнеўскую псіхушку. Там яго пратрымалі даволі доўгі час і потым выпусьцілі (здаецца, нават не рабілі прымусовага лячэньня). Тут, відаць, яму пашанцавала на адэкватных людзей.

Я ня ведаю ніводнай асобы з супрацоўнікаў Акадэміі Навук, хто б палічыў Зайцава псіхічна ненармальным чалавекам. У яго неназіралася ніякіх, нават мінімальных, прыкмет характэрнай паталёгіі. Ён быў даволі ўраўнаважаны, не нэрваваўся, размова роўная, зьнешні выгляд яго быў прыстойны і акуратны, усе ягоныя рэакцыі адэкватныя, зь людзьмі ветлівы, не дапускаў грубасьцяў і г. д.

Я ўспрымаў яго скептычна, але з павагай, насьмешак не дазваляў.

Раздумляючы потым над асобай Зайцава, знаходжу толькі адзін адказ, кажучы словамі самога Зайцава: „Надо знать душу русского чаловека". Гэта асаблівая якасьць натуры і асаблівы стан скасабочанага розуму.

Падобных расейцаў сярод рускай інтэлігенцыі я спатыкаў ня раз (асабліва ў Піцеры). А калі пачытаць „Жыцьцё Кліма Самгіна" Максіма Горкага (дарэчы, на маю думку, лепшы твор гэтага у цэлым нуднага „пралетарскага пісьменьніка"), то там такіх рускіх тыпажоў з усёй падаплёкай, матывацыяй і ўнутраным сьветам – цэлы цырк.

Нягледзячы на свой фантастычны дылетантызм, Зайцаў выклікаў прыхільнасьць, і людзі са слабымі ведамі, воляй

і эмацыйнай псіхікай траплялі пад яго ўплыў. Ніхто зь іх у беларушчыне больш ня вызначаўся. Талеркі, касьміты і прышэсьце з Космасу Ісуса Хрыста станавілася важнейшым, а нацыянальная трагедыя, нішчэньне Айчыны – другарадным. Меў рацыю Стафан, размаўляючы ў вестыбюлі. Чужое робіць чалавека чужым.

Дзіўна, але такіх людзей з масонскай псіхікай (жаданьне быць пасьвечаным у таямніцы, стаць не такім, як усе), мне прыходзілася спатыкаць вельмі часта, нават у асяроддзі змагароў за дэмакратыю і свабоду Беларусі. (Магчыма гэта збочаная праява эгацэнтрызму.) Самазамбаваньне нясьпелага розуму адбывалася найбольш праз чытаньне.

Як толькі слабым духам апанаваў які-небудзь Рэрых, Блавацкая ці выдавец якой-небудзь ёгі, тантры, хваробы, „змагар” зьнікаў з барацьбы, ішоў у „вышэйшыя сфэры”. Адной вядомай асобе, якая даставала мяне сваёй нерастрачанай актыўнасьцю, я, каб пазбавіцца ад назойлівых ініцыятыў, параіў заняцца жаночым рухам. Яна й занялася. І пайшло-паехала. Але неўзабаве яна зьнікла з далягляду. Мы знайшлі яе на дачы ў час медытацыі. Яна кантактавала якраз з сузор’ем Лебедзя. Хто ёй даў што пачытаць – ня ведаю. Але для грамадзкай барацьбы і нацыянальнай справы чалавек зьнік назаўсёды. Прытым – ніякой паталёгіі. Праца, практычнасьць, бесканфліктнасьць, адэкватнасьць. Але – комплекс. Самазомбі. Скасабочаны сьвет у мазгах.

Страта адной душы – гэта страта цэлага сьвету, а тым больш, калі зьява набывае грамадзкія формы. У той час на Захадзе зьявіліся „хіпі” – страчана цэлае пакаленьне – наўпроставае разбуральнае і эфэктыўнае ўмяшаньне Ўсходу. Справы мінулых дзён. Сёньня пажынаем плады.

*3 траўня 2013 г.*



*266-а.*

# ГАДЗІНА

Некалі ў народзе складалі казкі, зь якіх шмат што можна было даведацца і зразумець людзям пранікнёным і з чыстым сэрцам. Тут філасофія сьветапогляду. Казкі народа пажадана чытаць усім. І ня толькі ў маладым узросьце.

Цяпер народная стыхія казак не складае, затое часам масава выдае ў вусны абход анэкдоты featurescoрознага ўзроўню і накіраванасьці; паўтараюцца таксама ўсялякія гісторыі ды прыпавесьці, бывае літаратурнага ці замежнага паходжаньня, перайначаныя на свой капыл, лексіку і разуменьне.

Сярод гэтага ўсяго трапляюцца сапраўдныя пэрлы мудрасьці, да якіх раней не дадумаліся ні Кан-Фу-Цы, ні грэк, ні Кант, ні Рымша зь Несьцеркам. А йшчэ цікава, што ва ўсёй гэтай творчасьці выяўляецца народны характар, самая яго сутнасьць.

Нядаўна я пачуў у Нью-Ёрку такую плётку. Едуць два габрэі ў мэтро. У вагон заходзіць афраамэрыканец з саксафонам і пачынае іграць. Тады адзін габрэй кажа другому:

– Не, ты мне скажы, чаму як толькі габрэй, то абавязкова са скрыпкай?

Коратка, ёмка і бліскуча аб габрэйскай зацыкленасьці на самых сябе. Некаторым у літаратуры цэлыя п’есы даводзілася пісаць на гэтую тэму (Сямён Юшкевіч, напрыклад), а тут тры сказы, і ўсё выразна зразумела.

Ці, напрыклад, такая класіка пра беларускую цярпліасьць. Бальшавікі павешалі беларуса. Назаўтра прышлі, зьнялі з шыбеніцы, а ён устаў і пайшоў.

– Эй, ты, как, ты живой?” – крычаць. А ён:

– Ды так, спачатку балела, а потым нічога – прыцярпеўся.

Падабаецца мне таксама гісторыя пра залежнасьць прычыны і выніку. У веданьні гэтых узаемаадносінаў ёсьць аснова мудрасьці, а ў няведаньні – дурноты. У філасофіі – гэта цэлы разьдзел для думаньня, аналізу і высноваў. Ну і растлумачце цяпер каротка сутнасьць гэтых катэгорыяў, каб усім зразумела было. Ніхто ж філасофскія кніжкі чытаць ня стане (каму ня трэба).

Дык вось, едзе цягнік. На паравозе машыніст кажа качагару:

– Кідай, Іван, у топку крывыя дровы – зараз будзем паварочваць.

У гэтай анекдатычнай фразе адбіты прынцып усёй псэўданавукі (якая, дарэчы, запаланіла цяпер паўсьвета праз СМІ, Сеціва афёрны бізнэс і т. п.).

Сацыяльныя дачыненьні патрабуюць пачуцьця здаровага сэнсу і правільнай самаацэнкі, бо людзі схільныя часта хутчэй ацэньваць іншых, чым самых сябе. На гэтай глебе ўзьнікае шмат непаразуменьняў. Прыдумалі такую камічную гісторыю, якая адбівае адзін з выпадкаў чалавечага глупства.

У самалёце сядзяць побач Воўк і Варона. Сьцюардэса Ліса падае мінеральную ваду. Варона бярэ і плюхае лісе ў твар.

– А ты навошта гэта?” – пытае воўк.

– А я выпендрываюся”, – адказвае Варона.

Воўк падумаў і плюх ваду на Лісу. Ліса пайшла і пажалілася камандзёру экіпажа. Выходзіць камандзёр Мядзьведзь, хапае абодвух і выкідвае ў вакно. Падаюць яны ўніз і варона пытае:

– Воўк, ты лятаць умееш?

– Не-а, – адказвае воўк.

– А чаго ж ты выпендрываўся?

Сытуацыя ўсім зразумелая і патрабуецца мінімум розуму, каб у яе ня трапіць, бо выглядае сьмешна.

Некалі, у 60-х гадах, калі саветы рыхтаваліся да вайны, яны на кожным кроку „змагаліся за мір”. У газэтах, на радыё, на тэлебачаньні стаяў лямант: „мір, дружба, фройндшафт”, „Куба – любоў мая” і г. д. У Маскве адчынілі унівэрсітэт імя Пастыса Лумумбы (дзе Лубянка рыхтавала сваіх шпегаў і сусьветных тэрарыстаў), словам, усюды быў „мір” і „фройндшафт”. А паколькі ўсюды сьпявалі пра гэты „фройндшафт”, то зьявіліся і вынікі.

Некаторыя беларускія дзяўчаты ў парыве камсамольскага энтузіязму выходзілі замуж за кубінцаў ды нават афрыканцаў, ехалі на Кубу і ў Афрыку. Мне прыходзілася размаўляць з такімі, якім удалося вярнуцца жывымі.

Чаго яны там нацярпеліся ў чужым сьвеце – ні ў казцы казаць, ні пяром апісаць: жах, сюррэалізм.

Ну, а што беларус? А беларус – анекдотам зьверху і сьмяецца сабе з дурноты. Напэўна, гэты сьмех – самае лепшае лякарства, асабліва беларусу, які пад уплывам акупацыйнай прапаганды прывык мала цаніць (а то й зусім не цаніць) сваё і хапацца за чужое.

Акупацыя доўжылася 200 гадоў, і дачыненьні да свайго былі праблемай пакаленьняў. Яшчэ Уладзіслаў Сыракомля пісаў:

Тройчы дурань той зухвалец,
Хто хапае сьпеў нядродны
Зь ніў чужых і потым хваліць,
Хто ганьбуе грунт бацькоўскі,
За чужой сягае зоркай.

Цытую па памяці, бо беларускай бібліятэкай тут, за мяжой, не валодаю, а мой кнігазбор у Беларусі зьнішчылі ворагі чалавецтва (парвалі кнігі на кавалачкі).

Зрэшты, павінен адзначыць, што добры гумар (сьмех над сваімі недахопамі) ёсьць якраз вельмі тыповая і станоўчая рыса беларускага характару. Хапаньне „сьпеву нянароднага” – гэта ўжо здабытак збочанага існаваньня пад чужой уладай. Не сваё (ці то грошы, ці то звычкі) да дабра не даводзіць. Ведае гэта беларус, сьмяецца з дурняў, але ўсяроўна робіць тое, з чаго сьмяецца. Такая вось „амбівалентнасьць”.

Дык вось гісторыйка з таго часу, якую прыдумалі народныя гумарысты. Выйшла Зося за афрыканца, паехала ў Афрыку і піша ліст у Менск да мамы. „Усё добра, – піша, – жывём няблага. Мой Макумба чалавек добры, але, праўда, мае адно дзівацтва. Вечарам кладзе мяне на падлогу, сам залазіць на шафу і скача на мяне”.

Праз месяц Зося атрымлівае ліст ад мамы зь Менску: „Дачка, прыязджай. Бацька разьбіўся”.

Вось што значыць хапаць чужыя традыцыі. Меў рацыю Уладзіслаў Сыракомля. (Дарэчы, гадаваў кучу дзяцей. І на шафу ня лазіў.)

Раздумляючы над гэтай Кубай-Афрыкай, успамінаю свайго менскага суседа Паўлюка. Гэты, калі пра нешта такое чуў, заўсёды трос галавой і казаў:

– Божа ж ты мой! Ну чаму мы такія дурныя? Сьвет прайдзі – дурнейшых ня знойдзеш!"

– А што такое? – пытаюся.

– Не, ты ж паглядзі на нашых жанчын, на нашых дзяўчат! Прыгажэйшых і ў сьвеце няма! І добрыя, і талковыя. Іх жа любіць трэба, на руках насіць, шчасьце ствараць. А яны што робяць?

– Хто яны?

– Мужыкі, халера на іх! Яны ж толькі ў кілішак глядзяць! Тут такое хар330 марнуецца, а яны п'юць. Бабы ў Афрыку ўцякаюць ад гэтых прыдуркаў. Пастаў такому справа прыгажуню, а зьлева бутэльку. Дык ён жа да бутэлькі пацягнецца! Ну? Дык што гэта будзе?

– Канец, – адказваю.

– Ужо канец, – абураецца Паўлюк. – Во, прыехала мая пляменьніца ў Менск працы шукаць. Прыгажуня! Казка – не дзяўчына. Усё ёсьць – харошая, разумная. 27 гадоў, а замуж ня выйшла.

– Выйдзе яшчэ, – супакойваю я.

– Дык вось яна і кажа: „А за каго ісьці, дзядзька Паўлюк, у нас у мястэчку адны п'яніцы.

Паўлюк глядзеў у корань. Простыя людзі заўсёды так. П'янства і спойваньне людзей – ня меншае зло, чым русіфікацыя. Існуюць як бы тры этапы дэградацыі этнаса: перастаюць клапаціцца пра старых, потым перастаюць выхоўваць і клапаціцца пра дзяцей, і апошняе – мужчыны перастаюць змагацца за жанчыну (дэградуе інстынкт сям'і). У нас грамадзтва яшчэ нібы трохі трымаецца, але ўжо ёсьць чым непакоіцца. І самае цікавае ў гэтых суседавых маналогах, тое, што, нягледзячы на іх, ён сам добры «кіральшчык» – п'е і п'янствам абураецца, п'е і сароміцца, п'е і п'янства крытыкуе.

У жыцьці часта спатыкаюцца людзі, якія з-за добрага сэрца ці з-за нікчэмнасьці волі гатовыя дапамагаць дрэням, рабіць ім паслугі, давяраць, даручаць адказныя справы, спадзеючыся, што тыя ацэняць давер і ў іх прачнецца сумленьне ды ўдзячнасьць.

Літаратура, кіно даўно асвоілі такія калізіі, вобразы і сытуацыі, калі, напрыклад, за разбойнікам гоніцца паліцыя. Разбойнік трапляе ў дом ксяндза, прызнаецца, што ён разбойнік, і просіць ўратаваць яго. Ксёндз не выдае яго паліцыі, якая шукае ўцекача. Разбойнік ўратаваны і потым перадумвае сваё жыцьцё, робіцца сумленным чалавекам.

Такія дачыненьні з рамантычнай літаратуры пераасэнсавала потым савецкая ідэалягічна-этычная прапаганда. Напрыклад, тыповы сюжэт савецкага кіно – разгільдзяю па працы (заводзе, фабрыцы) у войску, у спорце, у школе і г. д. аказваюць давер. Знаходзіцца станоўчы герой фільма, які пачынае верыць у лайдака, даручае яму адказнае заданьне і лайдак, адчуўшы адказнасьць (удзячнасьць, рахунак сумленьня і т. п.) – выпраўляецца, становіцца прыстойным чалавекам.

Увогуле, такая этычна-пэдагагічная ідэя станоўчая, але ў фармальна-схематычным падыходзе заканчваецца абсурдам і крахам, бо вымагае цьвярозай ацэнкі асобы, жыцьцёвага вопыту і часам чалавечага таленту, якім ня кожны валодае.

У жыцьці мне прыходзілася назіраць найбольш нэгатыўныя вынікі: давер да дрэні і нікчэмнасьці (а часам нават незаслужанае ўзьвялічваньне з надзеяй на станоўчыя перамены) заўсёды заканчваліся кепска альбо вельмі кепска. Гэта праявы, ці дакладней, адгалоскі этыкі раньняга адміністрацыйнага бальшавізма, калі наверх грамадзтва імкнуліся выцягнуць сацыяльную „пралетарскую" гразь, дно, якое надзялялі даверам і ўладай над людзьмі.

Людзі з такой этычнай устаноўкай даверу да нікчэмнасьці, як я пераканаўся, прыносяць шмат шкоды сабе і справе.

Вяртаючыся да „археалагічнага" пэрыяду сваёй працы, успамінаю, што часам была цэлая вайна з такімі мяккасардэчнымі „дабракамі" (кожны год трэба было фармаваць археалагічныя атрады). Наша вядомая археолаг доктар Алена Генадзіеўна Калечыц нават асобны тэрмін прыдумала на такую псіхалагічную слабасьць – „любоў да падонкаў".

Аднойчы прышоў уладкоўвацца лабарантам малады тып з дрэннай характарыстыкай. У яго былі чыстыя блакітныя вочы, мяккія абрысы твару і сарамлівая ўсьмешка. Хлапец быў – сама гатоўнасьць выконваць любое заданьне начальства. Мы ведалі яго схільнасьць што-небудзь украсьці і ўспрацівіліся. „Людзям трэба давяраць", – павучальна сказаў наш шэф і паслаў яго з грузавой машынай адвезьці дашчатыя шчыты на Менскае замчышча. Ну што тут возьмеш?

На заўтра ў інстытут прышла міліцыя і забрала гэтага маладзёна, энтузіяста з адкрытым тварам. Аказваецца, ён ўкраў бардзюр з праезнай часткі ў цэнтры Менска (каля Дому моды). Вывернуў каменныя блокі ломам і адвёз бацьку на дачу (на ўсялякі выпадак, мо' спатрэбіцца).

У палітыцы дабрасардэчнасьць да дрэні (якая прыкрываецца „даверам да людзей") – зьява яшчэ больш небясьпечная. У мяне склалася ўражаньне, што нежаданьне (ці няўменьне) сказаць „НЕ" нягоднікам сядзіць у самой нашай памяркоўнай народнай мэнтальнасьці. Паколькі я такую „мэнтальнасьць" не падтрымліваў, то выгнаньнем з шэрагаў БНФ неадпаведных народнаму руху асобаў прыходзілася займацца ў асноўным мне самому. Па сваёй дзіўнай, часам невытлумачальнай (а як я мяркую, некрытычнай) дабрыні сэрца беларусы ёсьць унікальныя людзі. Колькі разоў бачыў, як нягодніка, які напакасьціў усім, злоўленага на злачынстве, пачыналі шкадаваць і гатовыя дараваць, гледзячы на яго сьлёзы і жаласны выгляд. Людзі, відаць, не разумеюць, што сьлёзы і жаласны выгляд злачынцы не абазначаюць, што ён раскаяўся і перастаў ім быць. Улічваць трэба, але дараваць – не.

На самым пачатку дзейнасьці БНФ, яшчэ за СССР, даручылі двум асобам набыць аўтамабіль для перавозкі фронтаўскага друку з Латвіі (дзе мы друкавалі нашыя

газэты) у Беларусь. Асобы выбралі тавар, ім выдзелілі грошы. Але неўзабаве высьветлілася, што на гэтую суму куплены два аўтамабілі – адзін для Фронта, другі – сабе. Як ні дзіўна, але мне зь вялікімі цяжкасьцямі прышлося пераламаць жаласьлівую пазыцыю некаторых калег і выключыць парушальнікаў з Фронту.

Палітычная дзейнасьць у апазыцыі да ўлады мае ў сваёй лагічнай пэрспэктыве асягненьне ўлады. Людзей з плебейскімі замашкамі на чужую маёмасьць і схільнасьцю да фінінсавых махінацыяў у адраджэнцкай палітыцы ня можа быць. Інакш гэта не альтэрнатыва.

Нядаўна я спаткаў беларуса з Гомеля і, як заўсёды цяпер паміж беларусамі за мяжой, размова перакінулася на палітыку. У кантэксьце гаворкі гомельскі „народны філосаф" расказаў мне такую (літаратурную, як я мяркую) прыпавесьць, якая ходзіць у людзях і няпростая для ўспрыманьня, хаця ў аснове дакладная.

Ішоў Беларус па дарозе. Бачыць, ляжыць гадзіна і курчыцца ад холаду.

– Чалавеча, дапамажы, уратуй мяне, сагрэй, а то пачаўся холад, і я памру.

– Не, – кажа Беларус, – не ўратую, бо ты мяне ўкусіш.

– Не ўкушу, зжалься, май міласэрдзе, ты ж бачыш, я паміраю, а ты можаш мяне ўратаваць, і сам Бог табе аддзячыць за людзкі ўчынак.

Зжаліўся Беларус і паклаў гадзіну за пазуху. Сагрэлася гадзіна, ажыла і ўкусіла Беларуса.

– Ой! – усклікнуў Беларус, – ты ж абяцала, што ня ўкусіш мяне! Дзе ж тваё сумленьне, дзе справядлівасьць! Цяпер я памру.

– Так, абяцала, – адказвае гадзіна, – але ж ты ведаў, што я гадзіна.

*19 красавіка 2013 г.*



*266-b.*

# ЛЯЛЯ

Аднойчы, дзесьці ў пачатку 70-х, халодным летам я зайшоў у кавярню „Бярозка”, што была на Круглым пляцы. Быў абедзенны перапынак, і ў зале сабралася поўна людзей. Я сядзеў за столікам каля сцяны і пра нешта думаючы глядзеў перад сабой у вакно. Людзі і аблічча расплываліся, бо я пазіраў поўз іх на без пары пажоўклую лістоту за вакном, на тралейбусы, якія ціха плылі міма шыб, нібы лодкі.

На нейкі момант погляд мой сканцэнтраваўся на асобах за суседнім столікам, што сядзелі ў праёме вакна, і я сустрэўся позіркам вочы ў вочы з маладой жанчынай, якая глядзела на мяне пасьмейваючыся. Яна была настолькі прыгожая і аблічча яе было такое вясёлае, пырскала здароўем і добрым настроем, што я ўставіўся на яе, як на карціну. У адказ я пачуў вясёлы сьмех. Сьмяяліся зь мяне, разглядаючы ва ўпор. Пры гэтым асоба рабіла нейкія камэнтары сваім сяброўкам, кідаючы ў мой бок вясёлыя позіркі.

Я ў такіх гульнях ня ўдзельнічаў, бо, шчыра кажучы, мне гэта ня надта падабалася. Нейкая вясковая прастата (дзеўкі на вячорках). Крыху пасядзеўшы і абыякава паўзіраўшыся на кумачак, я падняўся і выйшаў. Стоячы на прыпынку і чакаючы тралейбуса, я павярнуў галаву. Побач са мной стаяла вясёлая прыгажуня з кавярні і пасьмейвалася, нічога ня кажучы. На ёй была чырвоная куртачка, чорна-каштанавыя густыя валасы віліся буйнымі хвалямі, карыя цёплыя вочы, прыгожы пухлы рот не зачыняўся ў вясёлай усьмешцы, ствараючы ямачкі на ружовых шчочках.

„Трэба ж, такое прыгожае стварэньне”, – падумаў я, нічога ня кажучы. Прыпомнілася сэнтэнцыя нашага інстытуцкага весялуна Пажарскага, які ў такіх выпадках казаў: «Калі бачыш прыгажуню, ведай аб набліжэньні небясьпекі» (ад гэтых «прыгажунь», дарэчы, ён ўсё жыцьцё і бегаў, пакуль не папаўся і не зьнік, як сам казаў, «у цемры гісторыі»). Я не любіў, калі мяне атакавалі жанчыны. Гэта нешта супраць прыроды рэчаў. Ініцыятыва мусіла быць мая. І тое, што гэтая харашуха, на якую я не зьвярнуў увагі (на яе вясковыя фіглі-міглі), выскачыла ўсьлед, ні пра што добрае ды сур’ёзнае ня сьведчыла. Відаць гонар прыгожай дурніцы самалюбства заеў. Хоча сабе нешта даказаць. Я моўчкі і даволі празаічна глядзеў на яе, а яна на мяне, ўвесь час весела ўсьміхаючыся.

Думкі мне у галаву лезьлі даволі панурыя, бо я ведаў наперад што будзе. Я кажу ёй камплімэнт і чую ў адказ: «А почему вы разговариваете по-белорусскі?» Пасля гэтага я ёй адказваю: «Спадарыня, ваш тралейбус. Хуценька і не марудзьце. Шчасьлівай дарогі.» Колькі разоў такое было, гэтае «почему разговариваете» Аж аскома набілася. У той цёмны савецкі час для мяне гэта быў тэст на інтэлект. Калі жанчына такое кажа – бяз слоў заварочвайся і адыходзь, тут безнадзейна. Не марнуй час. Ня думай нешта растлумачыць. Лепш пагавары з катом ці з канём ці нават з дрэвам. Возьмеш больш карысьці – ня будзеш чуць яшчэ яе «умазаключеній»

Падышоў тралейбус. Людзі пачалі заходзіць.

– Гэта тралейбус, спадарыня, – кажу я, бачачы яе нерашучасьць, – сядайце і едзьце.

– А вы?

– І мы.

Незнаёмка усьміхнулася і зайшла ў тралейбус. Мы селі на вольнае месца.

– Вы заўважылі, спадарыня, што міжнародная абстаноўка ў сьвеце ўскладняецца і невядома чым ўсё скончыцца, нягледзячы на дыпламатыю. Вы не знахозіце? – пытаюся я ў яе амаль што на поўным сур’ёзе. У адказ асоба зноў засьмяялася сваёй незьнікальнай усьмешкай. Тут я ўважліва паглядзеў на яе і зразумеў, што жанчына выдатна разумее мае паводзіны, магчыма ёй нават цікава паназіраць за такім тыпам.

– Паслухайце, – кажу – у вас язычок ёсьць? Вы маглі б адчыніць ваш прыгожы раток, каб я паглядзеў – можа яго там няма? Можа, з вамі трэба гаварыць па-кітайску?

Прыгажуня зноў пасьмяялася ўволю, а потым, нарэшце, кажа:

– Можна паглядзець вашу руку?

– О, галасок прарэзаўся, – адказаў я, падаючы ёй далонь. Незнаёмка ўзяла маю руку, пасур’ёзьнела і моўчкі стала ўважліва яе разглядаць. Потым яна падняла галаву і стала разглядаць мяне. Незнаёмка пахілілася і далікатна паклала сваю галаву на маю далонь, прытулілася да яе шчакой, загадкава ўсьміхаючыся. Мне здалося, што па руцэ прайшоў электрычны ток. Аж сэрца забілася. Са мной гэтак яшчэ ніхто не абыходзіўся. А незнаёмка і кажа, гледзячы мне ў вочы:

– У Вас вельмі цікавае і незвычайнае жыцьцё, а ў другой палове – дарога дальняя.

– Вы цыганка?

Незнаёмка засьмяялася.

– Паштамт, – сказаў я. – Выходжу – дарога дальняя. Як завуць цыганку?

– Ляля, – адказала прыгажуня.

– Ляля? Можа яшчэ і Чорная? – Дасьціпна, як мне здавалася, спытаў я.

Ляля толькі ўсьміхнулася сваёй вясёлай фірмовай ўсьмешкай і прамаўчала (хаця, як я думаў, павінна б была разумець пра што мова).

Мы вышлі каля паштамту, крыху (ужо больш сур’ёзна) пагаварылі і неўзабаве разышліся, не дамаўляючыся ні аб чым. Ляля, відаць, разумела мой прэсны настрой і нежаданьне сур’ёзна працягваць знаёмства з дзівачнымі асобамі. Здавалася, што сапраўды ёй проста было цікава паназіраць за засяроджаным незнаёмцам. Матывацыю яе паводзінаў (адкінуўшы банальшчыну) я ўсё ж не разумеў. Нешта тут было не па-беларуску. Але токам ў руку стрэліла і вобраз яе яшчэ нейкі час вісеў у маім уяўленьні пакуль ня сьцёрся ў плыні штодзённага жыцьця.

Мінула каля года. Аднойчы ў канцы травеня цёплым позьнім вечарам я вышаў з тралейбуса і ішоў па вуліцы, думаючы пра сваё. Наперадзе ішла стройная маладая жанчына ў прыгожай сукенцы, высакароднага фісташкавага колеру, пашытай па фігуры. У руках яна несла вялікі

раскошны букет руж. Некаторыя, мінаючы, на яе азіраліся. Я азірацца ня меў звычкі (ня гонар), ды й навошта было? Жанчына вярталася, пэўна, з тэатру ці з дня народзінаў, ці яшчэ зь якой імпрэзы. Дзіўна, праўда, што адна. Прамінуўшы асобу, я прысьпешыў крок, як раптам пачулася ўсьлед:

– Зяно-о-н.

Я спыніўся і пазнаў Лялю. Валасы яе буйнымі хвалямі былі ўкладзеныя ў элегантную прычоску, вочы гарэзьліва паблісківалі ў паўзмроку вулічных ліхтароў, і ад ўсёй яе постаці здавалася веяла майскім ветрыкам і пахам цьвітучага бэзу. Ўражаньне, што жанчына была на вяршыні свайго хараства.

– Ляля, – кажу, – гэта проста абуральна! З такім хараством ноччу ў адзіночку хадзіць па горадзе. Можа, вы што пераблыталі і думаеце, што тут стэп малдаванскі? Дык і ў стэпе ваўкі водзяцца. (Тут з майго боку было яўнае перабольшаньне. Пры саветах па Менску можна было хадзіць дзе хочаш хоць цэлую ноч. Не было ні хуліганаў, ні выпадкаў.)



*267. Цыганы. (Зьнята ў Давыд-Гарадку ў 1969 г. Справа курыць люлюку цыганскі барон. «Салют» 6 х 6).*

– О, я ўжо дома.

Ляля ўся сьвяцілася ад радасьці, і гэты яе настрой перадаваўся мне. Але далейшая размова была сур'ёзная і сяброўская. Размаўляць зь ёй было лёгка і проста, як з даўняй аднакласьніцай. Увогуле, як па размове, яна выглядала разумніцай, выдатна ўлаўлівала падтэкст і, што галоўнае, – вясёлая (тып жанчыны, які мне заўсёды імпанаваў).

Мы дамовіліся, што спаткаемся. Ляля зайшла ў свой пад'езд, а я, прышоўшы дадому і крыху збавіўшыся ад яе ачараваньня, узлаваўся на сябе. Ну навошта мне патрэбна гэтая цыганка, ну навошта мне зь ёй спатыкацца?! Дурань, з бобу не выганяны! Ну дзе твая мазгаўня! Гэтак я голасна сварыўся нейкі час (як ў такіх выпадках кажуць, з разумным чалавекам). Не спаткацца ўжо было немагчыма, бо гэта не па-чалавечы, але і спатыкацца няма патрэбы. Жонкай яна мне ня будзе, а заводзіць раман з цыганкай – гэта значыць здурэць і нічога не разумець. Вырашыў, што спаткаюся, пагавару і хораша разыдуся, ня крыўдзячы яе хараство.

На спатканьне Ляля не прышла. Я прачакаў яе хвілін 15-20 і з палёгкай пайшоў, мяркуючы ўсё ж, што нешта здарылася, бо па маіх уяўленьнях не прыйсьці яна не магла.

Я ўжо забыўся пра гэты выпадак, але праз год ізноў убачыў яе ў тэатры ў час антракту.

– Выбачайце, што я не прышла, – сказала яна тонам, быццам гэта было ўчора, але са мной здарылася бяда. Мяне на хуткай адвезьлі ў шпіталь. Аппэндыцыт. Зрабілі апэрацыю.

– Я так і падумаў, што нешта здарылася, – адказаў я. – Хаця, як кажуць, жаночы пол цыганскі – народ ашуканскі, праўда?

Ляля разьвесялілася.

– Бывае. Ведаеце, у жыцьці Вам ня трэба баяцца цыганак, але прыдзецца ўцякаць ад цыгана.

– Гм... Тады пытаньне: Вы замужам?

– Замужам, толькі не за цыганом, – пасьмейвалася Ляля, разумеючы ход маіх думак.

– Хіба такое бывае?

–Часам бывае, але рэдка. Мне барон дазволіў. Мой бацька быў генэралам, заслужаным для дзяржавы чалавекам. Гэта ўлічылі. Але, фактычна, гэта выхад з табару, хоць мяне і цягне туды. Нядаўна была. Хутка бяру адпачынак і зноў паеду.

– А калі б барон не дазволіў?

– Значыць, ня выйшла б.

– А калі б не паслухалася?

– Забілі б. Адну маю сяброўку, што не паслухалася табара і выйшла замуж не за свайго, – зарэзалі.

– Хто? Цыганы?

– Цыганы.

– Але гэта жорстка.

– Гэта вельмі жорстка, – сказала Ляля. У цыганоў свае законы і свой суд. І калі б яны іх не прытрымліваліся, іх бы ўжо не было на сьвеце.

– Вы шчасьлівая?

– Мы разводзімся.

– Можа, мала біў?

– Зусім ня біў.

– Ну, пэўня, ён жа не цыган. Але каб біў, то было б лепей?

Ляля цудоўна разумела сэнс гаворкі і звонка сьмяялася.

– Ой, ну каму лепей, каму й не.

– І дзеці ёсьць?

– Хлопчык.

– То, можа, лепш не разводзіцца? Хлопчык усё ж. Бацька патрэбны.

– Тут ужо нічога не паправіш.

– Можа, лепш было паслухацца барона?

– Можа й лепш, толькі ў тое жыцьцё я ўжо не вярнуся.

– Дзе Вы працуеце?

– У АБХСС. Я лейтэнант, хутка атрымаю яшчэ адну зорку, – абыякава вымавіла Ляля, але ўсё ж зыркнула на мяне з сваёй загадкавай усьмешкай. І хоць для мяне тое было абсалютна нечаканым, настрой мой застаўся непранікнёным. Я цалкам валодаў сабой і ніякая Алена Прыўкрасная ў пагонах, і нават Гаргона-Мядуза ня зьбілі б мяне з панталыку. Зь ёй ў мяне нічога не магло быць . Гэта я вырашыў яшчэ раней.

– А зорку за што?

– Ну, гэта чарговае павышэньне.

– Трэці званок, Ляля. Антракт скончыўся. Калі б зоркі давалі за прыгажосьць, то Вы павінны быць генэрал-палкоўнікам. А калі б тое залежыла ад мяне, то маршалам, – кінуў я напасьледак. (Банальна. Але ж ёй прыемна.) Мы разышліся прыязна і сьмяючыся.

Пасьля размовы з Ляляй, седзячы ў партэры, я быў крыху агаломшаны. Год таму ў мяне склалася пра яе ўсё ж нейкае таямнічае паўрамантычнае ўражаньне, якое я сабе нафантазаваў (відаць, пад уплывам яе характава і рамантычнай літаратуры). Сёньня, выслухаўшы ўсю гэтую шэрую і тыповую савецкую «бытавуху», гэтую, па сутнасьці, руціну ды пашляціну, якая выявіла даволі прымітыўныя матывацыі паводзін, я адчуваў сябе чалавекам, на якога раптам вылілі цэбар вады. Аж зло брала за сваю завышаную самаацэнку, выпендрываньне і піжонства: «Вы маглі б адчыніць ваш прыгожы раток»... Цьфу на цябе! Манеркі! Стыдоба! Ну, але не бяда, думаю – нічога ж не здарылася. Ня трэба толькі здавацца самаму сабе надта разумным.

Я ўспомніў пра Лялю нядаўна, тут, у Нью-Ёрку, капаючыся ў памяці. Хто яе паслаў тады да мяне? Бог? Ці Сатана? Ня ведаю. Але Бог зьбярог мяне, а ўсё, што казала Ляля, – спраўдзілася: і дарога дальняя, і ўцёкі ад цыгана. Толькі які быў у тым сэнс, калі я адразу начыста пра ўсё забыўся? Успамінаючы, засталося толькі цёплае трывожнае адчуваньне пра прыгожую цыганку. Відаць яно жыло ў маёй падсьведамасьці як нейкі забаронены плод, як неспраўджаны ідэал, які прыцягвае і няволіць, але які ніколі ня будзе дасягнуты, бо ня мой, бо ўсё гэта проста мішура ў маім лёсе, якая часам без патрэбы шчыміць.

*31 сьнежня 2012 г.*



*267-а.*

# ЛЯВОН

Так супала: рамантызм у мастацтве і ўтварэньне нацыяў і новых краін. А паколькі супала, то няма ніякіх перашкодаў думаць, што рамантызм выхаваў новы тып асобы, здольнай ахвяравацца дзеля дабра ўсіх, дзеля вялікай сьветлай ідэі, за якую можна было пайсьці на барыкады і сьмерць. Тут няма месца сквапнасьці, меркантыльнасьці, дзеяньням дзеля ўласнай выгады, але ёсьць пакліканьне, пасьвячэньне і любоў.

Эпоха рамантызму – магутная зьява ў мастацтве. Яна доўжылася, практычна, больш стагоддзя, захапіла літаратуру, музыку, жывапіс, архітэктуру (гістарызм) і тэатр. Потым распалася на часткі, перафармавалася ў сэцэсію і мадэрн. У сэцэсіі адбылася дэманізацыя духу рамантызму, злучэньне ўяўленьняў паганства, эстэтыкі Усходу і прэтэнзіі багатых, але малаадукаваных людзей на рэспэктабельнасьць і стыль. Можна параўнаць: як маньерызм стаў дэградацыяй рэнесансу, гэтак сэцэсія адлюстравала распад і ўпадак рамантызму.

Аднак, я не пра мастацтва, але пра адбітак яго ідэй у каштоўнасьцях і перажываньні чалавечага духу.

Нацыянальнае адраджэньне ўспрыняло рамантызм як каштоўнасную мадэль паводзінаў у жыцьці дзеля Айчыны. Людзі ішлі да людзей – у вёскі настаўнікамі, каб вучыць дзяцей дабру, культуры, мове, айчыннай гісторыі; лекарамі, каб лячыць народ, дапамагаць; кніганошамі, каб распаўсюджваць роднае слова; акторамі, каб несьці са сцэны карціны народнай красы ды ідэі яднаньня; ксяндзамі, каб настаўляць паству ў любові да Бога, бліжняга, роднага і свайго, і нават баламутамі, каб падбіць сялян на змаганьне.

Рамантызм паўплываў на палітыку (народнікі, адраджэнцы, будзіцелі) і асьвету, на выхаваньне, на грамадзкія ідэі, сям'ю.

Ідэі апрашчэньня, вяртаньня да народных вытокаў, ідэалізацыя сялянства ў XIX – пачатку XX стагоддзяў шырока адлюстраваліся ў літаратуры, мастацтве, тэатры Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, дзе (у адрозьненьні ад Захаду) было яшчэ духоўнае жыцьцё і кансалідаваўся народны рух.

Гэтыя тэмы і ідэйны кшталт выразна адбіліся ў творчасьці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, Элізы Арэшкі (Ожэшкі), Станіслава Выспянскага, Льва Талстога.

Па сіле ўзьдзеяньня на мадэль паводзінаў патрыятычнай моладзі ў грамадстве былой Рэчы Паспалітай, відаць, найбольшы ўплыў меў Станіслаў Высьпянскі сваім знакамітым „Вясельлем", упершыню пастаўленым на кракаўскай сцэне ў 1901 г., якое потым увайшло ў польскі тэатральны рэпэртуар дзе толькі магчыма.

Фабулярная дзея п'есы заключаецца ў тым, што адукаваны паэт-інтэлігент, жыхар сталіцы і госьць салонаў жэніцца з патрыятычных перакананьняў (але па каханьні) на вясковай дзяўчыне, прыгожай, але простай, без асаблівых задаткаў і, зразумела, неадукаванай. Фонам у калізіі да тэмы ідзе галерэя вобразаў, дыялогаў і сэнтэнцый, якія паказваюць нядольнасьць тагачаснага польскага грамадства змагацца за незалежнасьць і свабоду.

Сацыяльным вынікам паказу „Вясельля" сталі рэальныя факты пераймання фабулы п'есы ў паводзінах людзей, якія данёс да нас тагачасны польскі друк. Польскія інтэлігенты-патрыёты нават шляхетнага паходжаньня сталі жаніцца на простых сялянках і простых дзяўчынах, мяркуючы гэтым умацаваць здаровы сямейны патрыятычны дух і народную справу Польшчы праз аўтэнтычную польскую сям'ю.

У рэальнасьці нічога добрага з гэтага не атрымалася (і не магло атрымацца), акрамя шкоды і ўскладненьня лёсу. Але вопыт такі быў. Як кажацца, – тэорыя пацьвердзілася практыкай.

Усе гэтыя рэмінісцэнцыі з гісторыі і мастацтва ўплываюць у мае думкі, калі ўспамінаю пра свайго добрага загінулага сябра – мастака Лявона Баразну.

Лявон нарадзіўся на Талочыншчыне 4 сьнежня 1928 года. Адбыўшы савецкае войска, вучыўся ў Менскім мастацкім вучылішчы па клясу жывапісу. Але ўжо ў вучылішчы яго захапіла народнае мастацтва. Як прыроджаны мастак, ён убачыў тут такую глыбіню, хараство і дасканаласьць эстэтычнай формы, што (акрамя захапленьня) вырашыў цалкам рацыянальна пасьвяціцца яго зьбіраньню, асэнсаваньню і пашырэньню ў творчае нацыянальнае жыцьцё. У 30-я гады і пасьля вайны беларускае мастацтвазнаўства было, практычна, зьнішчана савецкім НКВД. Адраджаць трэба было ўсюды ўсё амаль што з нуля. Якраз здох Сталін (1953 г.), і ў грамадзкай атмасфэры крыху палягчэла.

Лявон купіў капялюш, дажджавы плашч, закінуў за плечы паходны мальбэрт, кайстру з паперай, фарбамі, алоўкамі, узяў у рукі кій і пайшоў пехам па вёсках Беларусі зьбіраць, замалёўваць, фатаграфаваць творы народнай творчасьці і ўжытку (найперш, адзеньне, вопратку, арнамент).

Пра хлеб надзённы Лявон не праймаўся, бо лічыў, што ў сваім народзе не прападзе. І не прапаў. Аднойчы зімой, ідучы па дарозе, ён захварэў. Адчуваў, што была моцная гарачка. Яго трэсла і аж вадзіла, кружылася галава. Над вечар дайшоў да нейкай вёскі, пастукаў у хату, папрасіўся пераначаваць, сказаў, што захварэў. Гаспадар паглядзеў на яго, пайшоў у сені і прынёс запыленую бутэльку з чорна-бурай вадкасьцю. Адліў сабе чвэрць шклянкі, выпіў і потым – больш за палову Лявону і кажа: „Пі!"

– Што гэта? – спытаў Лявон.

– Настойка мухамораў на гарэлцы. Куляй, і заўтра будзеш здаровы.

Лявон выпіў. Яго паклалі на кажухі і кажухамі накрылі. Ён адразу праваліўся ў сон.

Прачнуўся ён днём адзін у незнаёмай сьвятліцы. Была незвычайная лёгкасьць у целе і ясная галава. Вярнулася здароўе.

Шмат было прыгодаў на гэтай яго дарозе. Пра некаторыя я ўжо пісаў раней, але не пра ўсё.

Была тады яшчэ прыгода, якая паўплывала на яго жыцьцё. Аднойчы ён начаваў у нейкай вёсцы. На раніцы селі з гаспадаром за стол перакусіць ды пагаварыць перад дарогай. Лявон усё кідаў позіркі на печ, дзе за фіранкай сядзелі, шапталіся і хіхікалі гаспадарскія дочкі.

Адну ён прыкмеціў зь вечара, і позіркі яго, як кажуць у такім выпадку, былі мэтанакіраваныя.

Гаспадар прыкмеціў і пытае:

– Дык што, можа каторая падабаецца?

– А ведаеш, гаспадару, падабаецца, – рагоча Лявон.

– Ну, дык бяры, калі падабаецца, – сьмяецца ў адказ дзядзька.

– А што, аддасі? Ня шкода?

– Добраму чалавеку ня шкода, – кажа дзядзька.

– Сур'ёзна?

– Якія жарты? Пойдзеш? – гукнуў ён за фіранку. Маўчаньне. – Бачыш? Пойдзе, бо маўчыць.

А тады Лявон і кажа да дзеўкі:

– Зьбірайся. Паедзем.

Тая сабралася, і яны паехалі.

Высьпянскі пісаў сваё „Вясельле" з натуры, з рэальнага факту, і да такога сюжэта, як зь Лявонам, упэўнены, ніколі не дадумаўся б.



*268. Лявон Баразна ў 1950-х гадах.*

Лявон быў чалавек аптымістычны і рашучы, моцна верыў у свае магчымасьці. Гэта яму спрыяла ў жыцьці, але часта штурхала на вырашэньне складаных і нават тонкіх задач простымі мэтадамі. У праблеме стварэньня беларускай сям'і ён прытрымліваўся рамантычнай пазыцыі апрашчэньня і вялікіх клопатаў ня бачыў. Галоўнае каб жонка была беларуска з добрым сэрцам і шанавала сваё. Астатняе набудзецца, не патонем. Можна жаніцца хоць на пастушцы, хоць на даярцы. Калі ў жанчыны ёсьць здаровы беларускі грунт, то жонка будзе такой як зробіш. Шчыра кажучы, мне гэта імпанавала. Я лічыў гэта сапраўдным мужчынскім падыходам. Можа і сам паўтарыў бы ягоны «подзьвіг», калі б жыцьцё ў каторы раз на простых прыкладах не перакуліла ўсё дагары нагамі.

Лявон прывёз маладую жонку ў Гародню, дзе працаваў у мастацкіх афармленчых майстэрнях, карыстаўся там вядомасьцю ды павагай, меў неблагі заробак. Неўзабаве яны ўехалі ў новую двухпакаёўку, і Лявон уладкаваў сваю з чатырма класямі адукацыі сужэніцу ў вячэрнюю школу, каб вучылася. Пачаў шукаць ёй працу. Але тут яна зацяжарыла, вучобу кінула, а працаваць не хацела. Галоўны яе клопат стаў назіраць, каб муж прыносіў дахаты грошы, каб позна не прыходзіў і даведвацца, дзе быў. А творчаё жыцьцё мастака вядома якое. Ёй жа тое было незразумелае. Як зьявілася дзіця, у яе сфармавалася асаблівая манера размаўляць з мужам гучным крыкам, так, як крычаць, бывае, вясковыя бабы на мужыка п'яніцу. Калі ёй што не падабалася, яна ня ўмела спакойна пра тое сказаць, не разумела, што значыць стрымлівацца ў словах. Увесь час гаварыла крыклівым голасам. Лявон пробаваў ёй тлумачыць, чаму трэба не павышаць голасу, чаму трэба стрымлівацца, чаму трэба казаць абавязковыя словы „дзякуй", „прабач", „калі ласка", „ці можна?", „калі ты ня супраць" і г. д. Яна слухала, а потым зноў, як заезджаная кружэлка, – „што думаю, тое й кажу" (дакладней, тое і крычу).

Лявон сачыў за яе мовай і тлумачыў, чаму нельга перамешваць мову чужымі словамі. „Мы ўсюды гаворым па-беларуску, бо жывем у сваёй краіне, – казаў ён. – Калі хто чаго не разумее, то ты скажы, што трэба шанаваць родную мову. Прыйдзе час – і ўсё пераменіцца. І не дыскутуй, паварочвайся і ідзі."

Жонка слухала і пагаджалася. Але з гэтага было мала толку. Лявон браў яе на вернісажы, у мастацкія кампаніі, і т. п. Там яна звычайна маўчала, не праяўляла сябе ніяк.

Калі набліжалася здача заказу ці падціскалі тэрміны, то, звычайная справа, – трэба было працаваць дзень і ноч, прыходзіць позна, часам начаваць у майстэрні. Жонка, як правіла, пачынала скандаліць, падазраваць, дапытвацца, крычаць бяз сэнсу. Ляван разумеў, што яе паводзіны

Тут мушу, аднак, зрабіць невялікае адступленьне ад апавяданьня, каб зазначыць, што сямейныя праблемы майго сябра Лявона – гэта адлюстраваньне становішча ўсёй беларускай адраджэнскай і патрыятычнай інтэлігенцыі таго часу, праблемы, якая ўзьнікла на хвалі савецкай русіфікацыі і антыбеларускай палітыкі КПСС. Становішча стварылася настолькі крытычнае, што беларускаму інтэлігенту – адраджэнцу стала вельмі складана запачаткаваць паўнацэнную беларускую сям'ю. Практычна усе маладыя жанчыны з вышэйшай і сярэднеспэцыяльнай адукацыяй (савецкі клас інтэлігенцыі), якія належылі да інтэлектуальнай, тэхналягічнай (медыцынскай, пэдагагічнай і т.п.), творчай працы плюс сфэра абслугі – практычна, усе яны стоадсоткава былі зрусіфікаваныя, прытым ў большасьці з неабарачальнымі мэнтальнымі зьменамі. Ніхто зь іх не гаварыў па-беларуску. Здавалася б усё мусіла б быць наадварот. Жанчыны як больш кансэрватыўны элемэнт павінны б больш захаваць мову. Але руская школа, аказваецца, у першую чаргу замбавала дзяўчынак. Вырашала школа, а не асяроддзе.

Для нас, маладых інтэлігентаў-беларусаў, гэта была сапраўдная жыцьцёвая трагедыя банальная і прымітыўная – проста немагчыма было дабраць сабе пару. Пасьля першага яе пытаньня – «почему разговаріваете по-белорускі» – было другое: «зачем этот белорусскій язык?» Пасьля другога трэцяе, такое ж. А потым ужо пачынаўся галаўны боль.

Я ўсё гэта перажыў сам і ведаю як вырашалі сямейнае ўладкаваньне мае калегі і сябры. Мала каму пашанцавала і праз мытарствы прайшла бальшыня. Мне добра вядомыя перэпэтыі гэтай сацыяльнай праблемы нашага пакаленьня (не адлюстраванай, як не дзіўна, ні ў літаратуры, ні ў публіцыстыцы), але гэта ўсё ж асобная вялікая тэма, якую я тут ня буду далей працягваць, аднак, гаворачы пра свіго сябра, часткова ня мог абмінуць.



*269. Смаргонскі ансамбаль імя Міхала Клёфаса Агінскага. Сцэнічныя касьцюмы Лявона Баразны. (Зьнята ў 1964 г. «Масква-4» 6 х 9.)*

выкліканы перайманьнем нейкіх ідыёцкіх савецкіх стэрыатыпаў паводзінаў некультурных людзей. Ён быў зьбянтэжаны і крыху разгублены, зразумеў, што прывёз „ката ў мяшку". Але не хацеў адразу прызнаць сваёй памылкі, не пакідаў надзеі. Спрабаваў нават сам яе вучыць, абклаўшыся падручнікамі за пяты кляс. Увесь час даводзіў ёй, што ня можна зацыклівацца на грошах (тым больш, што на пражыцьцё хапала). Казаў, што трэба вучыцца, разьвівацца, дапамагаць Беларусі, берагчы культуру і г. д. Спрабаваў навучыць яе ткаць беларускія паясы і дываны, швачную машыну купіў. Мала толку. Яны арыентаваліся на абсалютна розныя сістэмы каштоўнасьцяў, у іх быў супроцьлеглы прынцып успрыняцьця каштоўнасьцяў (ідэальна-грамадзянскі і матэрыяльна-бытавы) і ўражлівае несупадзеньне культурных запатрабаваньняў. Пры гэтым яна лічыла свой падыход правільным (маўляў, як ва ўсіх людзей), а ўзровень мужа – ненармальнасьцю.

Зразумела, што зь лявонавага шлюбу, ва ўмовах, у якіх яму выпала з такой жонкай жыць, нічога добрага не магло атрымацца.

Рана ці позна ён мусіў бы прызнацца ў сваім бясьсільлі нешта перамяніць, у сваёй памылцы і ілюзіях, а значыць і ў сваёй віне за непрадуманы крок і за ўсё, што сталася.

Такія павароты часам здараюцца (ды й то, больш у літаратуры) з маладымі ўзьнёслымі дзяўчатамі, якія нафантазавалі сабе прынца, рыцара без страху і папроку, а замуж вышлі за сукінага сына з фізіяноміяй Ален Дэлона. А тут, во, можна сказаць, дзядзька, войска адслужыў і пагарэў на вясковай рамантыцы. Рамантычны шлюб разваліўся. Сяганьне да карэньняў змарнавалася. Разышліся, як зышліся, пусьціўшы на сьвет няшчаснае дзіця, доступ да якога Лявону быў нялёгкі (трагедыю гэтую я назіраў сам).

Патрыятычны рамантызм сыграў зь Лявонам злы жарт. Калі б тая дзяўчына засталася ў сваёй вёсцы і вышла б замуж за якога-небудзь свайго Віцьку, усё было б добра. Жылі б сабе і дзяцей напладзілі. Тут жа, як кажуць, здарылася, як здарылася.

Лявон пакінуў жонцы ўсё. Сам пайшоў, як стаяў. Вырашыў дагнаць страчанае і першым чынам прыехаў у Менск ды паступіў у Мастацкую акадэмію на аддзяленьне ўжытковага мастацтва.

Нядзельным днём я сядзеў адзін у інтэрнацкім студэнцкім пакоі. У дзьверы пастукалі. Зайшоў чалавек гадоў 35 у сьветлым паношаным бежавым паліто і зялёным капелюшы. „Баразна", – працягнуў ён мне шырокую далонь. Аказалася, што інстытут выдзеліў яму інтэрнат і пасяліў якраз у той пакой, дзе быў паселены я. Гэтак мы пазнаёміліся і сталі сябрамі на ўсё ягонае жыцьцё.

Пасьля забойства сябра мне ня раз прыходзілася пісаць пра ягоную дзейнасьць, працу і творчасьць, пра мастацкія альбомы беларускіх строяў і адзеньня, якія ён зрабіў у выніку вандровак, пра дасьледваньне графікі Францыска Скарыны, пра ягоную творчую падтрымку народных калектываў, жывапіс і акварэлі, ды шмат яшчэ пра што. Не пісаў, аднак, пра падзеі яго асабістага жыцьця.

Цяпер мінула шмат гадоў. Памяць захавала гісторыі і здарэньні, веданьне пра іх можа быць карысныям іншым дзеля разуменьня сьвету, у якім мы жывём.

Лявон вучыўся і пастаянна працаваў, ствараў эскізы касьцюмаў для мастацкіх калектываў, быў у разьездах ды вандроўках. Неўзабаве мы арганізавалі ў інстытуце суполку АБМ (Аматары Беларускага Мастацтва). Лявон звазіў „аматараў" у Піцер паглядзець на беларускія скарбы ў расейскіх музэях. Студэнты вярнуліся ўражаныя і ўдзячныя. Я тады разам з Алесем Лабанком, Алесем Ціхановічам і Галінай Бальчэўскай узяўся падрыхтаваць вечар беларускай паэзіі, дзе чыталі вершы заходне-беларускіх паэтаў Васілька, Родзевіча, Сваяка, запрасілі Рыгора Барадуліна, Уладзімера Караткевіча. Была поўная заля (а гэта асобаў 300-350) і вялікі розгалас, у выніку якога на нас пачаўся ціск і праз нейкі час мяне вытурылі з інстытута.

У інтэрнацкім пакоі нас было пяцёх студэнтаў: Лявон, я, Барыс Луцэнка, Валодзя Балабохін і Валодзя Таміла. Праз пару гадоў у выніку дзейнасьці АБМ ціск пайшоў і на Лявона. Ягоная былая вясковая жонка панапісвала на яго („какой он негодяй") кучу лістоў у інстытут, у Міністэрства культуры, у Саюз мастакоў. Рэктар Павел Масьленьнікаў – чалавек здаровага сэнсу, які ведаў тую „справу", выкідваў іх у сьметніцу. Але потым кіраўніцтва інстытута зьмянілася, і Лявону прыходзілася даваць тлумачэньні.



*270. Горадзенскі ансамбль «Нёман». Сцэнічныя касьцюмы Лявона Баразны. (Зьнята ў 1964 г.)*

Аднойчы позьняй восеньню Лявон прышоў позна, быў сумны і заклапочаны. Потым кажа мне, што ня ведае, што рабіць, дрэнныя справы. Даў мне пачытаць ліст. Гэта быў ліст дзяўчыны, вясковай настаўніцы (піянерважатай), закаханай у Лявона, якую душылі і перасьледвалі ў школе за беларускія погляды і за знаёмства з „нацыяналістам" Баразной, прышывалі ёй „амаралку", ставілі пытаньне аб выгнаньні з працы. Ліст быў шчыры і добры, адчувалася сьветлая істота і зьбянтэжаная душа. Нічога яна не прасіла, толькі пісала словы міласьці, сьведчыла, што ёй цяжка і ня ведае, што рабіць – яе імя зганьбілі на ўвесь раён. Мяне моцна праняло тое, што я прачытаў.

– Ну, бачыш, – кажа Лявон, – сабакі, псіны, задзюбаюць дзяўчыну. А? Ня ведаю, што рабіць.

Я распытаў пра іхныя адносіны, ці даўно яе ведае і т. п., але, ведаючы яго даўнюю гісторыю зь ягонай вясковай жаніцьбай, маўчаў. Лявон то сядзеў, то ўставаў, то глядзеў у вакно. „Затуркаюць, псіны, зацюкаюць!" – абураўся. А патым глядзіць на мяне і кажа неяк па-дзіцячаму (а сам старэйшы ад мяне на 15 гадоў):

– Ну дык што тут рабіць?

Тады я кажу:

– Калі ты хочаш уратаваць яе ад ганьбы і перасьледу і калі яна для цябе нешта значыць, то ёсьць толькі адзін шлях, які ўсё вырашыць.

– Ну?

– Жаніся. Бяры яе з ксяндзом, папом ці без папа, прывозь сюды ў Менск, і хай яны там падушацца. Так, як напісаны гэты яе ліст, дрэнная дзяўчына ня піша. Тут без фальшу. Сьветлая душа.

– Дык кажаш – жаніцца? – Лявон ажывіўся.

– Рашай сам, – кажу, – толькі цяпер. Зьбірайся і едзь. Цягнік на Гародню ў 23.50.

– А і праўда. Усё. Еду.

Лявон хутка сабраўся. Потым кажа:

– Халера, і гальштука няма.

Я даў яму свой чырвоны гальштук:

– Во, – кажу, – якраз вельмі добра, да піянерважатай едзеш. – Лявон засьмяяўся, і мы паляцелі на вакзал.

Праз нейкі час Лявон прывёз маладую жонку Марылю, разумніцу і з гумарам. Яна адразу ўпісалася ў нашае мастацкае беларускае жыцьцё. Кватэру яны нанялі непадалёк ад мяне, у раёне „Возера". Неўзабаве адна за адной нарадзіліся дзьве дзяўчынкі. Лявон хадзіў заўсёды вясёлы і ўвесь час жартаваў. Працаваў ён Галоўным мастаком Мастацкага Фонду Саюза Мастакоў БССР, займаўся любімай справай, быў вельмі вядомай і пазнавальнай асобай у культурным жыцьці Беларусі.

15 жніўня 1972 года яго забілі ў цэнтры сталіцы, як стала зразумела, у выніку распрацоўкі савецкага КГБ па барацьбе зь беларускім нацыяналізмам. Забойцы – два браты-крымінальнікі, расейцы, дзеці палкоўніка КГБ, які займаўся аховай Дому ураду. Суд і камуністы ўсяляк стараліся выгарадзіць забойцаў, каб прысудзіць ім меншы тэрмін. Асноўны забойца адмовіўся даваць паказаньні і цьвердзіў увесь час толькі тры словы: „Я сын Сталіна". Яго гэтаму падвучылі, інакш бы шмат што адчынілася.

Забойства Лявона Баразны ўскалыхнула тады нас усіх. Гэта была вялікая страта для Беларусі. Яго магіла, як і магіла Каліноўскага, і сотняў іншых ахвяраў Масквы, засталася неадпомшчанай, і гэты сьпіс павялічваецца.

Але час бяжыць да мэты, калі па справядлівасьці разьлічана, сквітана і ацэнена, будзе ўсё.

*6 траўня 2013 г.*

# КАРОТКІЯ ГІСТОРЫІ

## КАПЛІЦА

Ад Суботнікаў да чыгуначнай станцыі „Юрацішкі" 12 кілёмэтраў. Летам я часта хадзіў на станцыю пешкі. Ідзеш сабе, разглядаешся. Недзе за 3-4 км, не даходзячы да Юрацішак, ёсьць вёска Чарнэлі. На ўезьдзе ад Суботнік зь левага боку стаіць там старая драўляная капліčка з Панам Езусам і Маткай Боскай. Гэта былі 70-я і 80-я гады – колькі хадзіў міма – яна прыбраная (кветкі нават) стаіць сабе і стаіць. Навакол бальшавікі крыжы пасьпілоўвалі, а капліца ёсьць.

Неяк ішоў я з фотаапаратам і пачаў капліцу фатаграфаваць. Думаю, трэба зафіксаваць, а то яшчэ разбураць. Аж бачу, выходзіць з крайняй хаты дзядзька і да мяне:

– А навошта гэта фатаграфуеце, – пытае, – ці гэта во тут каму перашкаджае?

– Я свой, Суботніцкі, – адказваю, – іду на станцыю. Рашыў зьняць, бо думаю, каб якая халера не разбурыла, то хоць фатаграфія застанецца.

– А, ну тады так, пэўня. Я гэтак скажу, што калі б не пільнаваў, то б ужо разбурылі.

– Дык што, намерваліся?

– Го! Аднаго разу прылятае тут такі „прадсядзяцель" і давай шурудзіць. Я выйшаў, кажу: „Табе што тут замінае, ці гэта ты тут капліцу ставіў? А ён: „А чаво тут, панімаеш, эта стар'ё, негдзе развернуться. Заўтра прышлю трактар, знесём к ч. м.!" Я кажу: „Ну, можа і зьнясеш, але галаву табе сякерай пашчапаю."

– І што? – пытаю я.

– „Ты меня не пугай, не пугай,"– кажа. Я кажу не пужаю, але паспрабуй, то мазгаўню расчвалю.

– Ну і далей?

– Пайшоў сабе, мацюкаючыся.

Так і стаяла тая капліца ўвесь час. Можа, і цяпер стаіць, калі дзядзька яшчэ жывы.

*1 студзеня 2013 г.*

## ЯК ХВЕДАР ПАЎЛАВЕЦ АМЭРЫКУ ПАСТРОІЎ

З Хведарам Паўлаўцом, артыстам Белдзяржфілярмоніі, я пазнаёміўся ў 1996-м у Кліўлендзе ў Амэрыцы, быў у яго дома, слухаў жарты, феерычныя расповяды і віртуозную ігру на акардэоне (баяне) .

З «баянам» Хведар не разлучаўся, граў на беларускіх імпрэзах і на амэрыканскіх вясельлях, але грошы зарабляў, кіруючы «тракам» (працаваў „дальнабойшчыкам"). Гадоў праз дзесяць ён меў ужо амэрыканскае грамадзянства, прыстойнае жыльлё і ўвогуле стаў на свае ногі.

Аднойчы, як заўсёды з баянам, ён вяртаўся з Канады ў ЗША. На мяжы амэрыканскія памежнікі ды мытнікі пачалі яго зьдзекліва правяраць:

– Што вязеш?

– Акардэон.

– (Паўза) Чый акардэон?

– Мой акардэон.

– Дастаньце, калі ласка.

Хведар дастаў. Мытнікі глядзяць.

Сутнасьць у тым, што мытны дагляд павінен быў выкрываць тавары, якія вязуць на продаж. Камэрцыя тут не дазволена, таму могуць прад'явіць прэтэнзіі, калі прадмет не ў адзінкавым экзэмпляры. Тут жа – толькі адзін прадмет. Пытаньне зачынена. Але мытнікі недаверліва глядзяць на інструмэнт і зласьліва ды падазрона так кажуць (цалкам незаконна):

– А вы сыграйце нам, а мы паслухаем, як вы граеце.

Хведар ў гарачай вадзе купаны і, адчуўшы прыніжэньне, аж сьцяўся. Але адмаўляцца ня стаў і думае: „Ах, вы тупікосы! Што ж мне вам зрабіць, гады, каб навек запомнілі?"

І зрабіў. Справа ў тым, што ўсе дзяржаўныя служачыя Амэрыкі, тым больш вайскоўцы, пры гуках амэрыканскага гімну, дзе б ён ні гучэў, па закону мусяць стаць стройна, як па камандзе „зважай!", пакласьці руку на сэрца і гэтак моўчкі стаяць, пакуль іграецца і гучыць гімн ЗША.

Вось Хведар шырока расьцягнуў мяхі і павольна гэтак, не сьпяшаючыся, урачыста зайграў дзяржаўны гімн Злучаных Штатаў. Граў 9 хвілінаў. Увесь гэты час мытнікі стаялі выцягнуўшыся, як кнаты, трымаючы руку на грудзях і вылупіўшы вочы. Пайграўшы ўволю, Хведар зачахліў баян у футляр і паехаў сабе. От так Хведар Паўлавец Амэрыку „пастроіў".

*3 верасьня 2012,*

## КОТ НЕ КАРОВА

Калі пасьля 2-й Сусьветнай вайны і другой савецкай акупацыі беларусы апынуліся на Захадзе ў эміграцыі, то ніхто нідзе не хацеў прызнаваць іх „за людзей". Запісвалі альбо расейцамі, альбо палякамі (у залежнасьці быў беларус з расейскай зоны акупацыі ці з польскай). І казалі так: ты нарадзіўся ў Менску, а гэта была расейская імпэрыя, значыць ты расеяц. Ці калі, скажам, хто нарадзіўся ў Берасьці, то запісвалі палякам, бо нарадзіўся „ў Польшчы" (польскай зоне акупацыі). Асаблівасьць гэтага тыпова заходняга тупізму была ў тым, што інакш думаць яны ня ўмелі.

Тады адзін беларус ім і кажа:

– Слухайце, ня важна, дзе я нарадзіўся, важна, хто я ёсьць і кім сябе лічу.

– Не, важна, – кажуць заходнія, – раз нарадзіўся ў расейскай імпэрыі, то ты расеяц. Тады беларус ім і кажа зноў:

– Слухайце, калі кот нарадзіўся ў хляве, то ён будзе кот, ці карова?

Задумаліся тупіцы і ня ведалі, што сказаць, але вымушаныя былі беларусаў запісаць беларусамі.

І гэта ня выдуманая гісторыя.

*2012 г.*

## ДЫВАН

Пачынаючы з 70-х гадоў, у Савецкім Саюзе хуткімі тэмпамі разьвівалася схаваная інфляцыя. Пачаўся дэфіцыт усіх тавараў. Зрэшты, у СССР гэты дэфіцыт і галадоўка былі заўсёды. Але ў Беларусі такога не назіралася. Як ні рабавалі краіну, як ні ціснулі і ні лупілі, нешта ўсё ж заставалася, бо людзі ў нас былі разумныя і працавітыя. А тут пачалося і ў нас. Халадзільнік – дэфіцыт, дыван – дэфіцыт, швейныя машыны толькі ветэранам па папярэднім запісе і г. д. Прадуктаў, праўда, у адрозьненьне ад СССР, у нас хапала. Таму з усходу на Беларусь было заўсёды ў гэты час нашэсьце расейцаў, а з захаду, асабліва з пачаткам 80-х, калі аб’явілі ваенны стан у Польшчы, – наезды палякаў. Людзям там тады проста не было чаго есьці.

І вось у гэты час з Растова ў Беларусь прыехаў пагасьціць усёй сям’ёй нейкі вайсковец. Прыехаў на сваёй машыне разам з жонкай, цёшчай і двума дзецьмі. „Брацец” ягоны працаваў тут у КГБ, душыў „буржуазны нацыяналізм” і жыў ня блага.

Прыехаўшы ў Беларусь, растоўскі „брацец” выявіў, што ў Беларусі „жывут хорошо” («куркули, мол») і ўсё ёсьць, таму вырашыў абзавесьціся некаторым „дэфіцытам”. Пры дапамозе менскага „братца” яму ўдалося дастаць вялізных памераў дыван вырабу знакамітага Віцебскага дывановага камбіната.

Гасьцяваньне крыху зацягнулася, і ў час аднаго з застольляў з цёшчай растоўскага „братца” здарыўся інсульт, які яна не перажыла і ў гэты ж дзень памерла.

Няшчасьце ўсіх моцна расстроіла, асабліва расходы на труну і дастаўка нябожчыцы ў Растоў. Можна, вядома, было і раскашэліцца, сьмерць усё ж, але растоўскі „брацец”, акрамя таго што разумны, быў яшчэ і чалавек практычны, здольны на выдумкі.

Ён заўважыў, што транспартыроўку вялікага віцебскага дывана можна разумна выкарыстаць для перавозкі нябожчыцы цёшчы. Гэта забясьпечыла б вялікую эканомію сродкаў. Сказана – зроблена.

Памерлую цёшчу загарнулі ў дыван, скруцілі вялікі рулон і прымацавалі на верх машыны на багажнай пляцоўцы.

Госьці з Растова разам зь менскім „братцам” селі ў машыну і раніцай пакаціліся ў кірунку Гомеля. Днём яны ўжо былі ў Чарнігаве, спыніліся ў цяньку на Прывакзальнай плошчы, замкнулі машыну і пайшлі ўсе шукаць якое кафэ, сталовую ці рэстаран падмацавацца перад далейшай дарогай.

Калі вярнуліся, машына стаяла на месцы, а дывана не было. Дэфіцыт жа. Як сказалі б бурсакі Памялоўскага, „сьцібрылі”, „зьляпсілі”, „збондрылі” і г. д.

„Братцы” паставілі на ногі і міліцыю, і КГБ, і ледзь што ні „піянераў-сьледапытаў”. Куды там! Дыван не знайшлі. А які прыгожы быў – яркі, вялікі, вытыканы (і грошы не малыя).

P.S. Хаця, канешне, калі па-чалавечы, то цёшчу шкода. Але, ведама, дурні, гэб’ё, вахлакі, думалі на цёшчы сэканоміць. Пра небаракаў зладзеяў ужо не кажу.

*22 студзеня 2013 г.*

## БЛАНДЫН

Наконт дываноў быў яшчэ такі выпадак.

Наш знакаміты мастак Аляксей Марачкін – вялікі аматар і знаток беларускага ўжытковага мастацтва. Гэта ён адкрыў сьвету вядомую потым народную мастачку Алену Кіш, рабіў выставы яе твораў, купляў яе дываны. Праз нейкі час ён заўважыў, што сабралася вялікая калекцыя народных дываноў, і вырашыў зрабіць выставу.

Пры саветах гэта была справа архіцяжкая, бо мала таго, што павінны быць усе дазволы ад усіх, хто кантраляваў жыцьцё ў СССР, праблема яшчэ была у памяшканьні, у выставачнай плошчы.

Хаджэньні па пакутах прывялі, нарэшце, мастака ў так званы „Фонд культуры”. Усе гэтыя „фонды” ды „таварыствы” пры саветах былі звычайна пляцоўкамі КГБ і ўзначальваў тады „фонд” нейкі бландзін з тыповай фактурай капітана гэбэ на сінекуры.

І вось тлумачыць яму мастак, што трэба зрабіць выставу, што ўнікальныя творы, што гэта культура, паказвае фота і кажа, што можа выставіць 40 дываноў. Такога яшчэ не было. І што, вядома ж, патрэбна вялікая выставачная плошча.

Бландзін ківае галавой, слухае, робіць выгляд, што ўсё разумее і пагаджаецца:

– Да-да, конечно, я понимаю, всё же сорок диванов. Поставить. Разместить. Надо подумать.

Здаецца, Аляксей паглядзеў на яго, павярнуўся і пайшоў дахаты.

*22 студзеня 2013 г.*

## МЯШОК

З нагоды скрадзенага дывана ў Чарнігаве ўспамінаецца мне яшчэ адна гісторыя. Міхась Ткачоў (наш знакаміты археолаг) вярнуўся з археалагічнай разьведкі і зышоў з цягніка на вакзале ў Менску зь вялікім заплечным брызентавым мяшком. Ён зваліў мяшок на асфальт і стаў аглядацца. Рашыў браць таксі.

А трэба сказаць, што Міхась – гэта быў чалавек-гара: два мэтры росту плюс камплекцыя. У мяшку ў яго была калекцыя камянёў і цэглы-пальчаткі зь беларускіх старых пабудоў. Ня ведаю, колькі там было кіль у тым мяшку: 100, 200, а можа і тона. Але факт, што падняць яго мог толькі Ткачоў (ну, хіба што яшчэ чатырох мужчын разам).

Міхась аглядаўся, ня ведаючы, што рабіць зь мяшком. Касавурыліся нейкія цыганкі, пралятালі нейкія маладзёны... Урэшце Міша цалкам разумна разважыў, што мяшок нідзе ня дзенецца (ніхто ж не падыме). Ён пойдзе замовіць таксі (каб не насіцца), пад’едзе і забярэ.

Усё гэта заняло яму хвілін 5-6. Але калі ён вярнуўся – мяшка ўжо не было, і цыганы прапалі.

І што ўжо там той злодзей думаў, можа нават з апошніх сіл, мяшок прывалокшы?

*22 студзеня 2013 г.*

## ЛЯКАНДРА

«Быў я ў Маскве, – казаў мне неяк закрыстыян Лякандра, – і наглядзеўся ды наслухаўся такой дрэннасьці, што ні ў казцы казаць, ні пяром апісаць. Найбольш людзі там неасьцярожныя ў злосьці і ў словах. Гэта ж трэба мець столькі брудных, гадкіх ды паскудных слоў, якімі абзываюць усіх і адзін аднаго. Дзіву даешся.

Нідзе ў сьвеце такога ня чуў і ня бачыў. Дык вось адкуль цяпер столькі брыдоты ў Беларусі! Мяжу адчынілі. Іншым разам гляджу на іх і думаю сабе: „Якая вялікая мудрасьць Божая! Гэта ж калі б Бог даў мову жывёле, дык чалавек, пэўна б, звар'яцеў. Уяўляю, што б вёрз, скажам, парсюк ці які-небудзь цюцька з-за будкі, калі б умеў гаварыць. Хаця, хто яго ведае... Хто ведае... Цюцька ж не чалавек.»

*13 чэрвеня 2013 г.*



*270-а.*

# СЕМ СОРАК

Некалі ў канцы шасьцідзесятых мне прыходзілася быць у Бабруйску. Там я спаткаў свайго сябра Міхася Каладзінскага – актора лялечнага тэатра, зь якім мы акурат вучыліся ў асьпірантуры па спэцыяльнасьці тэатразнаўства. Тэатр гастраляваў у горадзе, і мы, перакінуўшыся словамі, пайшлі ў бабруйскі рэстаран павячэраць і пагаварыць.

Бабруйск за саветамі выглядаў адметным горадам. Там жыло шмат габрэйскага насельніцтва, якое ацалела пасьля вайны. Калі на раніцы прыязджаеш на бабруйскі рынак, то як дзе куды на Блізкі ўсход. Людзей ужо шмат. Увесь час пад'язджаюць то грузавікі з калгасаў, то проста фурманкі, зь якіх выладоўваюцца вясковыя цёткі з кашамі, „вандзэлкамі", вёдрамі, бідонамі, хатулямі. Тут жа да іх пад'язджаюць габрэйскія „рыкшы" (як я іх назваў) з двуколавымі самаробнымі вазкамі і так дзелавіта і сур'ёзна пачынаюць накладаць увесь гэты тавар на свае каламажкі. Цёткі, бывала, камандуюць: гэта туды, тое сюды, з гэтым асьцярожна. „Ну, усё, Іцка, вязі вунь туды ў канец". Іцка вязе, а баба ідзе збоку і па рынку разглядаецца. „Рыкшы", як правіла, усе людзі пажылыя, відаць, бедныя пэнсіянеры, і апранутыя надзвычай блага, у нейкіх старых „фуфайках" (савецкая вопратка зэкаў і калгасьнікаў), залатаных каптанах, стаптаных чаравіках. Зарабляюць яны няшмат (даюць капейкі), але за дзень, відаць, крыху набіраецца. „Рыкшаў" вельмі шмат.

Ужо гадзінаў каля 11 зьяўляюцца на рынку габрэйскія кабеты – хатнія гаспадыні. Яны ходзяць каля латкоў, грузавікоў, фурманак, выбіраюць курэй, мацаюць, гандлююцца. Увесь рынкавы народ, як я тады думаў, ну якраз, відаць, як сто гадоў таму. Я, канешна, памыляўся. Тое, што я бачыў, была савецкая беднатá, якая выжывала, як умела. Калі б бальшавікі ліквідавалі рынкі, – народ задыхнуўся б. А так – была нейкая аддушына.

Атмасфэра на рынку была ўвогуле надзвычай прыхільная. Прыемна там было круціцца. Спакойныя позіркі, жарты, беларуская мова і ўсе – свае. Я заўважыў, што Іцка гаварыў па-беларуску, і нават некаторыя хатнія гаспадыні гандляваліся з цёткамі, устаўляючы цэлыя беларускія фразы ў свой рускі „пранонс".

У сэнсе мовы габрэі ўвогуле фэнамэнальны народ. За саветамі яны падтрымлівалі ўладу і гаварылі па-расейску. Але, як правіла, яны ведалі беларускую мову, а калі ня ведалі і (калі трэба), то гаварыць па-беларуску яны маглі ўжо праз тры дні, а то і праз ноч. (Тым часам ведаю шмат беларусаў, якія пастаянна ашываліся каля беларускага руху і гадамі не маглі слова сказаць па-беларуску. Таксама фэнамэнальны народ.)

Апалінар Пупко мне расказваў, што калі ў 1939-м у Івянец прыйшлі бальшавікі, то першымі пабеглі іх спатыкаць мястэчковыя габрэі. Назаўтра яны ўжо сядзелі ў сельсавеце, райсавеце, Загсе, райфо, райпо, сельпо – ва ўсіх ворганах савецкай улады і ўсе (!) гаварылі па-руску. Фантастычна! Пры Польшчы ж ніхто нідзе не гаварыў і не вучыўся па-руску. Калі хто казаў па-руску, то і „загрымець" можна было – лічылі, што бальшавік. А тут – за ноч усе па-руску.

Надзвычай мабільная супольнасьць. Жывучы на Захадзе, я назіраў, як адбываюцца выбары ў Кангрэс, у мясцовае самакіраваньне і г. д. У тых раёнах Нью-Ёрка, дзе жывуць габрэі, там і мясцовае самакіраваньне габрэйскае. А робіцца ўсё проста. Агітатары абзвоньваюць тэлефонных абанентаў, абходзяць кватэры і ўсім кажуць: наш дэпутат, напрыклад, Міша Брук-Красны, усе галасуем за яго.

Усё. Справа зроблена. Рыва звоніць па тэлефоне і першае, што кажа:

– Тася, ты ведаеш, за каго мы галасуем?

– Так, ведаю, – адказвае Тася, – за Мішу.

Галасаваць за свайго ідуць усе, нават з „вокерамі" і на інвалідных калясках („вілчэрах"). Ніякіх дыскусіяў. („Сказалі галасаваць за Мішу.")

Пагаварыце вы такім чынам зь беларусам (не, не на Захадзе, – у Беларусі). У яго ж „свая думка". Ён лічыць, што трэба так, як ён лічыць. Ён сам сабе аўтарытэт. (І звычайна галасуе за ўладу.) За ўвесь час эміграцыі на Захадзе, пачынаючы з пачатку XX стагоддзя, беларусы ніколі і ня разу ня выставілі свайго чалавека дэпутатам у мясцовае самакіраваньне. Праўда, беларусы адзіная нацыя ў Амэрыцы, якая ня селіцца разам (кожны асобна) і не стварае (адпаведна) унутраннай фінансава-эканамічнай сістэмы арганізацыі, бо не займаюцца бізнэсам (кожны выжывае сам).

Часам людзі любяць пасьмяяцца з экстравагантнасьці габрэяў (сьмех – гэта станоўчая зьява ў дачыненьнях паміж этнасамі). Але ня ведаю, колькі яшчэ тысячаў гадоў трэба нам, беларусам, пражыць, каб навучыцца ад іх хаця б салідарнасьці, хаця б не таптаць сваё перад сьвіньнямі, „не пляваць у студню".

Дык вось, прышлі мы зь Міхасём у рэстаран, селі за столік, па баках азіраемся. За суседнім столікам сядзіць двох маскалёў танкавых войскаў – маёр і капітан. Маёр круглатвары з тоўстымі губамі, плоскім носам і рыжымі павекамі (ды й сам рыжы). Капітан худы, сур'ёзны, падцягнуты, негаваркі.

Маёр грэбліва азіраецца вакол і ўвесь час нешта гаворыць. Капітан маўчыць. Яны, відаць, тут упершыню, у гэтым Бабруйску.

– Нет, мля, Серёжа, смотри, мля, одни евреи. Даже в оркестре евреи. Но это понятно, мля, музицируют, на скрипке пилят, – выказваецца маёр. – Слышь, куда мы попали?

Мы таксама зь Мішам гаворым, але не пра габрэяў, а пра лялечны спэктакль „Дзед і Жораў". Праз нейкі час чую, як маёр кажа капітану ў паўголаса:

– Серёга, слышь, смотри, мля, за тобой сидят два еврея и по-еврейски чешут.

Я засьмяяўся пасярод гаворкі. А Міхась:

–Ты чаго?

– Я падумаў, Міхась, а ты часам ня жыд? І завуць цябе падазрона – „Міша".

Ад зьдзіўленьня Міхась адкрыў рот і глядзіць на мяне. Тады я тлумачу яму, што пра нас падумалі за суседнім столікам тыпы ў пагонах.

– Асталопы нейкія, – кажа Міхась. – Гэта як у Талстога ва „Уладзе цемры", памятаеш: „У горадзе Гродна жывуць адны басурманы і гавораць не па-руску".

Зайграў аркестар, нам прынесьлі салаты ды адбіўныя. Вячэраем, віном запіваем. А маскалі, гляджу, гарэлку п'юць. Ну як жа інакш – „русский водка". І вось, калі яны амаль выпілі тую бутэльку, бачу, што ўвесь сьвет, што быў вакол іх, стаў ім моцна не падабацца.

– Слушай, ну надоело, мля, – непаслухмяным языком кажа маёр. – Что это они всё эту трындю играют? Или мы не в России, мля! „Барыню" давай, слышь, „Барыню" играй.

Некалькі кліентаў павярнулі галовы паглядзець, хто крычыць, а аркестар таўчэ сваё „сем сорак".

Маёр устае і з цяжкасьцю лавіруючы паміж столікамі, падыходзіць да аркестра і заказывае іграць „Барыню", кладзе дзесяць рублёў. Аркестар пачынае іграць „Барыню". Маёр спрабуе танцаваць, тупаючы нагамі. Ніхто не танцуе, глядзяць на маёра. Некаторыя падплясківаюць з-за столікаў. Потым вышла адна пара і пачала „плясаць".

У гэты час (аркестар яшчэ ня скончыў іграць) падыходзіць малады габрэйчык, кладзе дваццаць рублёў і заказвае іграць „сем сорак". Аркестар іграе „сем сорак". У зале нешта зразумелі і прыкметна ажывіліся, дружна высыпалі з-за столікаў танцаваць „сем сорак".

Ізноў жа, не закончыў аркестар граць – падыходзіць рыжы маёр, кладзе дваццацьпятку і кажа:

– Барыню, ребята!" Да хорошенько!"

Аркестар робіць кароткі перапынак і грае „Барыню". Маёр танцуе, махаючы рукамі і стукаючы ботамі ў паркет. Усе паадварочваліся ад сталоў і назіраюць за танцамі.

Тут падыходзіць нейкі таўстун з вусікамі (з выгляду – загадчык базы), акуратна адлічвае трыццаць рублёў і кажа іграць „сем сорак". Перадышка – і гучыць „сем сорак". Усе кідаюцца з энтузіязмам танцаваць.

Бачу, як маёр падыходзіць да капітана і нешта абмяркоўвае, даказваючы. Капітан круціць галавой, маёр насядае. Чую абрыўкі фраз у грукаце аркестру: „Серега, надо, понимаешь... вставь фитиль, мля..., всё нормально, мля..." і г. д.

Капітан лезе ў кішэнь, дастае кашалёк і дае грошы маёру. Маёр падыходзіць да аркестра, шырокім рухам кідае 50 рублёў (нехта ў залі: „Ух, ты!") і раве:

– „Барыню", ребята! Все время, сколько сможете!

– Это сколько товарищ маёр сможет танцевать, – ветлівым голасам устаўляе піяніст.

– Я смогу, мля, не ваше дело! Я плачу! „Барыню"! Да погромче! Да поживее! Вы настоящие маэстро, ребята! Давай!

Аркестар грае „Барыню". Пазьбягаліся афіцыянткі. Нават з кухні нехта прыбег зірнуць адным вокам. Маёр, як певень, пайшоў па кругу, пляскаючы сабе па кумпяках і дубасячы ботамі ў паркет. Публіка назірала, як за футболам. Некаторыя пацяшаліся, некаторыя глядзелі моўчкі, але няўважлівых не было.

Маёр танцаваў доўга і, нарэшце, зьняможаны, зь пераможаным выглядам паплёўся на месца, плюхнуўся ў крэсла і да капітана:

– Ну, что, мля. Знай наших! Вот так надо жить! А то заснули, мля. Еще сто грамм! – махае рукой маёр, – „и танки наши быстры!"

Перапынак зацягнуўся. Падобна на тое, што маскаль усё ж уставіў „фитиль" жыдам і шумна гучэў за сталом, рагочучы на ўсё горла.

Заля неяк прыніжана прыціхла. Усе быццам бы заняліся нейкімі сваімі размовамі, як быццам нікога нічога не абходзіць. Часткова, можа, яно так і выглядала. У гэты час неяк непрыкметна аднекуль збоку склератычнай паходкай пасунуўся да аркестра стары габрэй. Семяніў ён павольна, і ўсе яго заўважылі. Стала ціха. Жыд падыйшоў да піяніста, кінуў на клавішы сто рублёў і, картавячы, злосна прашыпеў: „Сем согак".

Першымі запляскалі мы з Міхасём, а за намі ўся заля. (Патлумачу, што 100 рублёў – гэта сярэднемесячная зарплата сярэдняга савецкага чалавека. Савецкія людзі жылі ад зарплаты да зарплаты, „вольных" грошай ня мелі.)

Выходзячы з рэстарана каля аркестра ў добрым настроі гукаю музыкантам:

– Ну, што, хлопцы, добра гралі! Кожны б вечар па пары такіх дурняў, вы б мільянерамі былі.

Вышлі, Міхась і кажа:

– Вось тое і яно – хоць ня наша перамога, а ўсё ж прыемна.

– Уяві, калі б у залі замест жыдоў былі б беларусы. Што б было? – пытаюся я.

– Куражыўся б масковец за пяць рублёў цэлы вечар, – уздыхнуў Міхась, – а беларусы яшчэ б падтанцоўвалі, нічога не разумеючы. Яшчэ добра, калі б не абазваў усіх дзярмом.

– Ага – кажу. – І галоўнае тут – „нічога не разумеючы".

– А ведаеш, – кажа Міхась, – бытавая сьведамасьць мае вялікае значэньне. Калі на ўзроўні бытавой сьведамасьці нацыя мёртвая, то яна ўжо і сапраўды мёртвая.

– У нас на Віленшчыне гэтая „барыня" не прайшла б усё ж, – кажу я. – Справа не ў „барыні", а ў тым, што за гэтым стаіць.

Мы размаўлялі яшчэ доўга пра гэты ўвогуле нязначны і нават нікчэмны выпадак, магчыма, не здаючы сабе справы, што зьяўлялася прычынай нашага ўзбуджэньня. Пазьней я мог сфармуляваць тое дакладна – гэта пачуцьцё бяссільля і безабароннасьці перад савецкай акупацыяй.

Аднойчы ў маладыя гады я быў у цэнтры Беларусі ў запаветнай мясьціне, на запаветнай рацэ. Пах аер і цьмянец, цішыня і чыстая плынь, у якой адбіваліся белыя воблакі. Вось яна, мая любімая і дарагая! Мая зямля. І я тут зь ёй разам. Як добра, думаў я.

Калі так думалася, я пачуў у небе гнюсны трымцячы гук. Высока-высока ляцеў ваенны рэактыўны самалёт. Я проста фізічна адчуў, які ён чужы і што там сядзіць савет. І калі б ён захацеў, мог бы выпусьціць у мяне ракету, і ў маю любімую і каханую, дзе пахне аер і цішыня. І ўсьведамляеш да дрыжыкаў у целе, што мая зямля – не мая, што і неба ўжо не маё, і маскаль у маім паветры. І я зусім безабаронны, як ягня пад лязом.

26-га жніўня 1991 года, назаўтра, пасьля аб'яўленьня Незалежнасьці Беларусі, я выйшаў на двор і ўзіраўся ў неба, у блакіт, у белыя воблакі нада мной, як некалі там, дзе люстраная плынь. Гэта былі хвіліны шчасьця, бо неба і воблакі ў паветры, і зямля, на якой стаяў, былі мае...

А калі дзе пачую „сем сорак", то абавязкова ўспомню Бабруйск і рыжага маёра, дык нават неяк і сьмешна робіцца.

*28 чэрвеня 2013 г.*

# ГОЛАД І СЬМЕРЦЬ

Азіраючыся на пражытае, заўважаю, што вельмі шмат чаго ўдалося паспытаць у жыцьці: страшнага, добрага, вострага, ганебнага, ганаровага, пераможнага, цяжкага і нават шчасьця. Шчасьце – гэта 1991 год. Пра шчасьце тут ня буду. За шчасьце ненавідзяць, шчасьцю зайздросьцяць, за шчасьце гатовы забіць. Я пра іншае.

Не паспытаў, праўда, яшчэ сьмерці. Але часам прыходзілася і каля яе быць блізка і назіраць збоку.

Памятаю, калі мне было гадкоў шэсьць, вярталіся мы, дзеці, з пяшчанай Чырвонай гары (ці, як кажуць яшчэ, – Качаргі) у Суботнікі. Маста праз Гаўю тады не было (спалілі саветы ў 1941-м, ратуючыся ад немцаў). Мы прайшлі рэчку ў брод, але перад супроцьлеглым берагам было глыбока. Там якраз купаліся каля берагу дзеці. Мы спыніліся, ня ведаючы, што рабіць. Зь берагу дзеці крычаць „плывіце сюды". Старэйшыя за мяне хлопчыкі з горам папалам пераплылі яму, а я, самы малы, застаўся, бо плаваць яшчэ ня ўмеў. Зь берагу крычаць „плыві". Я паглядзеў, што блізка (яма тая – хуткая плынь мэтраў дзесяць у шырыню) і думаю, вось і я пераплыву. („Неяк жа ж будзе", – як кажуць беларусы.)

Кінуўся я ў вір – і адразу на дно. Кручуся, тузаюся, а цячэньне мяне нясе далей. Прайшло столькі гадоў, а помню ярка і выразна гэты жоўты пясочак на дне, асьветлены сонцам, і блікі. Я дакладна ўсьведамляў, што таплюся і гэта сьмерць. Усьведамленьне цяжка перадаць словамі (калі ўспомню – адчуваю і цяпер). Мне пачало патрэсківаць у вушах, грудзі сьціснула (бо паветра, якога я набраў, скончылася). Страху не было, але нейкае глыбокае адчуваньне жалю. Памятаю апошнюю думку, якая ў мяне зьявілася і сфармулявалася ў словах: „Як жа мама мая будзе плакаць, я ж у яе адзіны сын". У вачах пацямнела, я адчыніў рот і ўжо захлынуўся. У гэты час я пачуў, што мяне нехта хапае рукамі, і ў тое ж імгненьне я апынуўся ў паветры над вадой. На шчасьце, на беразе аказаўся адзін дарослы чалавек, яма там была неглыбокая, і мяне ўратавалі.

Мне часта прыходзіць на ўспамін тое дзіцячае стаяньне перад сьмерцю, калі я задумваюся цяпер над прыродай чалавека.

Чаму ў сьвядомасьці (ці з-пад сьвядомасьці) дзіцяці зьявіўся жаль не за сябе, а за маці? У шэсьць гадкоў дзіця яшчэ ня ёсьць асобай, індывідуальнасьцю і сацыяльнай істотай. Магчыма, да гэтага часу ў падсьведамасьці дзіцяці яшчэ існуе адчуваньне адзінага цела з маткай. І розум тое адлюстроўвае.

Другое, што мяне ўражвае (і чым далей жыву, тым больш здумляе), – гэта трансцэндэнтнае адчуваньне свайго чалавечага „я". Яно пастаяннае. Так, як я адчуў сваю існасьць (сваё „я") тады, у шэсьць гадоў пад вадой, так адчуваю і цяпер, у 69. І так адчуваў усё жыцьцё, незалежна ад разьвіцьця, сталеньня, вучобы, набіраньня інфармацыі і ўсяго іншага. У сваім унутраным „я" адчуваю сябе ўвесь час такім самым, пачынаючы ад першых праблюскаў сьвядомасьці, якія захавала мне памяць. Цікава, дык што гэта такое ў чалавека, паміж якім адлегласьць у 63 гады, а ён адчувае, што адзін і той жа? Магчыма, гэта ёсьць адчуваньне сваёй душы, сутнасьць (аснова) якой пастаянная. Кожны мусіць яе адчуваць, калі прыслухацца да сябе.

Іншы эпізод сьмерці, калі мне было гады чатыры-пяць. У нас быў стары кот – рабы, бела-шэры, вялікі, павольны і спакойны. Ён дазваляў сябе цягаць, гладзіць, абымаць. Гэты кот і сабака Рабчык былі маімі найпершымі сябрамі.

Аднойчы кот зьнік, і я пайшоў яго шукаць. Аблазіў паветку, гумно, хлеў, сад і якраз знайшоў ката ў канцы саду за паветкай пад кустом ягрусту. „Каток, каток мой, каток!" Я хацеў яго пагладзіць, але ён мяне не пазнаваў і не рэагаваў на мае дотыкі. Кот глядзеў шалёнымі вачыма і раптам заенчыў, дзіка, прарэзьліва, як малое дзіця, ногі і лапы яго пачалі канвульсіўна выцягвацца і дрыжэць. Я адбег, а кот усё крычаў, выпростваўся і пруцянеў у мяне на вачах, зубы яго ашчэрыліся, і ён сьціх.

Мяне апанаваў такі жах, што спачатку я ня мог скрануцца зь месца. Я нічога не разумеў, але жах быў такі, што я, нарэшце, куляй пабег дахаты, плачучы і крычучы „каток, каток, дзеду, каток!" і ўвесь трося.

Дзед Яўхім паглядзеў на мяне, устрывожыўся і пайшоў за паветку. Потым прышоў і кажа бабулі:

– Кот здох, дык ён спалохаўся.

Цяпер, успамінаючы, думаю, чаму такая розная рэакцыя ў дзіцяці на сьмерць сваю і чужую? Ня буду заглыбляцца, але як цяпер памятаю, гледзячы на здыханьне ката і толкам яшчэ не разумеючы, што адбываецца, я ўпершыню адчуў неўсьвядомлены яшчэ жах містычны, жах ад незразумелага, што існуе над намі.

Містычны жах, відаць, самы моцны, самы паралізуючы сьведамасьць і нэрвы чалавека. Я ў гэтым пераканаўся, гледзячы на прыклады іншых людзей. Будучы ў 9 клясе і начытаўшыся розных „Дзюма", я спрабаваў нават трэніраваць сваю сьведамасьць, дзеля выхаваньня сьмеласьці.

У месячную асеньнюю ноч ішоў на старыя суботніцкія могілкі за Гаўёй і ціха хадзіў па алеі між крыжоў, шукаючы ў сабе адчуваньня спакою і індэферэнтнасьці. Гэтак я па наіўнасьці думаў выпрабаваць волю на супрацiў да містычнага страху. (Добра яшчэ, што ніхто ня бачыў, а то напалохаўся б з-за мяне на сьмерць.)

Калі мне было 28 гадоў, памерла мая бабуля Фэліцыя, любімы мой чалавек. У яе быў інсульт, і яна не магла гаварыць. Яна хварэла доўга і нэрвавалася, што ня можа сказаць мне нешта важнае.

У апошні дзень я сядзеў каля яе і глядзеў на яе, а яна на мяне. Яна была спакойная, што я побач. Я адчуў, што бабуля хутка адыйдзе і сказаў пра гэта маці. Я сядзеў з бабуляй да раніцы, трымаючы яе руку ў сваёй і, гледзячы ёй у вочы, казаў ёй розныя добрыя словы. Пад раніцу яе дыханьне стала слабенькім і павярхоўным, амаль зусім ня чутным. Раптам (дзесьці без пяці хвілін шэсьць раніцы) – яшчэ было цёмна, гарэла сьвечка – на грудзі бабулі проста перада маімі вачыма спусьціўся вялікі чорны павук, павісеў секунду, упаў на яе і зьнік. Я зразумеў, што вось-вось наступіць сьмерць. Дыханьне яе, ледзь чутнае, зусім

спынілася, і я, трымаючы яе руку, адчуў яе апошні ўдар сэрца. Рука бабулі здрыганулася і замерла. Бабуля адышла. Было роўна шэсьць гадзінаў раніцы.

Усю гэтую ноч, трымаючы яе руку, я не адчуваў ні страху, ні жалю, ні ўзрушэньня, акрамя любові да яе і абавязку праводзіць яе з гэтага жыцьця ў іншы сьвет. Я быў спакойны. Сьмерць бывае вельмі рознай. Якую Бог пашле нам – мы ня ведаем.

У дзяцінстве я не галадаў. Гэта былі цяжкія часы – бальшавікі адабралі ў людзей зямлю, сродкі вытворчасьці. Дазволена было трымаць толькі адну карову, курэй і адно сьвінчо. Але людзі яшчэ мелі сілу і выжывалі.

Голад я зазнаў тады, калі паехаў вучыцца ў Менск, і праз нейкі час камуна-гэбэ выкінула мяне з інстытута на вуліцу. Была зіма, студзень месяц, але ўжо на другі дзень прыйшоў у наш студэнцкі пакой камэндант – тып з керзавай фізіяноміяй адстаўнога палкоўніка – і сказаў, каб я выбіраўся адсюль, бо я ўжо не студэнт. (Хутка спрацавалі.)

„Выбірацца" не было куды. Ні грошай, ні працы, ні прапіскі, ні жыльля. (Без прапіскі на працу ня бралі. Уся праца была савецкая, г. зн. пад кантролем камуны-гэбэ. Прыватная ўласнасьць была забаронена.)

З жыльлём наша студэнцкае брацтва (г. зн. мае сябры) справу вырашылі. Позна вечарам нехта зьвешваўся з вакна другога паверху. Яго трымалі за ногі. Ён падаваў мне руку, і я падцягваўся. Агульнымі высілкамі мяне ўцягвалі ў вакно. Спаў на падлозе (але спаў). Было весела. Расказвалі анэкдоты пра камуністаў і рагаталі.

Потым „антысаветчыкаў" паболела. Шэрагі папоўніў Уладзімерс Пажарскіс, латыш („мсьё Пажарскі", як мы яго называлі). Прыдомак меў выпадковую прычыну. Усіх нас абавязвалі вучыць францускую мову (маўляў, да сцэны прыдатная) і «францужанка» да ўсіх інакш не зьвярталася як «мсьё». Гтае «мсьё» да Уладзімерса якраз і прыклеілася адпаведна характару. Пажарскага таксама ўцягвалі праз вакно. Ён назваў гэтую апэрацыю „штурм Зімняга".

Пажарскі быў даволі наіўны і даверлівы чалавек. Увесь сьвет ён успрымаў у катэгорыях весялосьці і гумару. Шлях ягоны на сцэну быў бы натуральны, але, відаць, інтэлект, эрудыцыя і розум не спрыялі таму, каб быць акторам, а крытычнае стаўленьне да рэчаіснасьці і неўспрыняцьце камунізму не дазволілі яму нават утрымацца студэнтам у інстытуце.

Працы выключанаму студэнту тады, зразумела, не было магчымасьці знайсьці нідзе і ніякой (тым больш без прапіскі). Часам можна было пайсьці да вакзальнай мафіі разгружаць ноччу вагоны за капейкі. Плацілі пяць рублёў за ноч, а сабе запісвалі ў два-тры разы больш.

Пажарскі адзін раз схадзіў. Працаваў цэлую ноч. Яму далі тры рублі. Тады „мсьё Пажарскі" даведаўся пра новы спосаб заробку грошай у СССР: хадзіць у Інстытут пераліваньня крыві і здаваць кроў. Аднойчы ён прышоў вясёлы і шчасьлівы, з клункамі, зь якіх выняў бутэлькі газаванага сітра, пірожныя і марозіва.

– Падаруначак радзіме зрабіў, – загукаў ён з парогу, – 200 грамаў пажарскай крыві. П'ём, гуляем, – аб'явіў ён, раздаючы марозіва. У гэтым быў увесь „мсьё Пажарскі", у сваёй шчодрай бесталковасьці.

– Ты б лепш хлеба купіў, – заўважыў яшчэ адзін выкінуты з інстытута „антысаветчык" – Валодзя Балабохін.

– Хлеб – гэта штодзённасьць, – кажа Пажарскі, – а пірожнае – сьвята.

– Угму, – адказвае Балабокін, умінаючы пірожнае, поўны рот, – для дамачак з пальчыкамі.

– Зь мезенчыкамі, – дадаў я, маючы на ўвазе, як яны, ядучы пірожнае, адстаўляюць мезенчык.

– Спасіба парціі! – выгукнуў Пажарскі, наліваючы ў бляшаны кубак газаванае сітро, – пеніцца, як наша жыцьцё.

У калідоры, у холе, што якраз насупраць нашых дзьвярэй, пачуліся выбухі рогату. Калі мы адчынілі дзьверы, то ўбачылі такую карціну: пад суфітам на пятлі быў падвешаны вяшак зь нейкім патрапаным мундзірам, да якога прымацаваныя зьвісалі пакамечаныя шаравары. Зьверху, быццам на галаве, была падраная круглая шапка-грыб, кшталту ваеннай, а на грудзях мундзіра вісела таблічка „камендант". Пад інсталяцыяй вісельніка з трагічным выглядам сядзелі хлопцы-актory з 4-га курса Пагарэлаў і Луцэвіч (потым былі ў трупе тэатра імя Янкі Купалы), а збоку, злавесна ўсьміхаючыся, глядзеў на вісельніка студэнт Скарапад. Астатнія рагаталі. Камэндант усіх дастаў, дык студэнты зрабілі інсцэніроўку яго павешаньня.

„Інсцэніроўкі" такога кшталту мы, студэнты, рабілі пастаянна. Асабліва насьміхаліся з камуністаў. Беларускі Дзяржаўны Тэатральна-мастацкі інстытут у 1950-1960 гг. вылучаўся з усіх ВНУ сваім свабадалюбствам і раскаванасьцю дачыненьняў. Сама прырода мастацтва вымагала такіх паводзінаў і людзей. „Партыя" бачыла ў гэтым шкодныя буржуазныя тэндэнцыі. ЦК прыняў рашэньне навесьці парадак. У якасьці пэдагогаў да нас наслалі апаратчыкаў, адстаўнікоў і розных зампалітаў, якія пачалі выкладаць „гісторыю КПСС", „атэізм", „навуковы камунізм", „палітэканомію", „марксісцка-ленінскую філасофію" і т. п. непатрэбшчыну для творчай моладзі. Найбольш даліся ў знакі нам тры такія камуністы: Жураў, Старавойтаў і Ешын. (Быў яшчэ „філасаф" „Рожков", але гэта „асоб-стацьця").

Жураў з пратэзам правай нагі. Хадзіў са скрыпам і быў фанатыкам партыі. Такіх, як ён, можна было ўбачыць толькі ў савецкім кіно. Чытаў партыйныя дысцыпліны, і вочы яго гарэлі ад подзьвігаў КПСС. Чалавек жалезнай веры ў справядлівую справу камунізма, Жураў павінен быў (па задуме ЦК) запаліць студэнтаў сваім прыкладам і вогненнай упэўненасьцю ў ленінскіх ідэалах. Ён адразу гэтым і заняўся, і, адпаведна, адразу стаў клоунам у вачах студэнтаў. Жураў абсалютна не разумеў вольнай мэнтальнасьці творчага чалавека. Студэнты ветліва, лагоднымі галаскамі даймалі яго правакацыйнымі пытаньнямі пра партыю і камунізм, Жураў не вытрымліваў і ў парыве абражанай любові да ленінскай партыі бег у кут, адварочваўся і дэманстратыўна глытаў таблеткі. Было зразумела, што дзеля партыі ён жыцьця не пашкадуе.

Аднойчы хлопцы-акторы выпускнога чацьвертага курса сядзелі ў калідоры і размаўлялі. Тут са скрыпам чыкільдзяе Жураў:

– Здравствуйте, ребята! Ну, как дела? Распределение уже было. Куда едете на работу? – пытае Жураў гэтак па-

камуняцку дэмакратычна. Тут устае гэты самы Пагарэлаў і з пафасам ды з прыдыханьнем у голасе кажа:

– Павінен сказаць: куды партыя пашле – туды і паедзем.

Жураў зьнерухомеў. Вочы яго сталі вільготнымі. Дрыжачым голасам ён выгукнуў:

– Правільна! Маладзец! – патрос руку Пагарэлава і пайшоў, сардэчна ўзрушаны вынікамі сваёй ідэалягічнай місіі.

З Журава студэнты сьмяяліся, але не ненавідзелі. Нейкага асаблівага зла прававерны камуніст нікому не рабіў. Тым часам Старавойтаў, які выкладаў гісторыю КПСС, – о, гэта быў тыпаж. Заўсёды ў карычневым касьцюме, ён ласкава, прыязна ўсім усьміхаўся, кожнаму мог сказаць прыемнае слова, быў такі добра-елейны, што хоць да раны прыкладай. На лекцыях сам пачынаў размовы пра „памылкі партыі”, пра культ асобы Сталіна, выклікаў студэнтаў на шчырыя размовы і, калі хто крытычна сыпаў на Хрушчова, на кукурузу і т. п., то ён толькі лагодна ўсьміхаўся і даверліва так, ушчувальна пярэчыў, як добры старэйшы сябра.

Потым, калі нас групамі і па аднаму вытурвалі з інстытута, нам іншыя „товарищи” прыпомнілі ўсе гэтыя крытычныя развагі і даверлівыя размовы. Выкладчык КПСС, што прыкідваўся сябрам студэнтаў, быў звыклым правакатарам і працаваў па чыстцы студэнцкіх шэрагаў. Гаварыў ён толькі па-руску, даказваў нам, які будзе пры камунізме „общечеловеческий язык” і што „нацыянальныя мовы” натуральна адамруць па меры набліжэньня да камунізма.

Праз трыццаць гадоў, калі ўжо ўвесь гэты кашмар (як мы думалі) застаўся ззаду, на нейкай юбілейнай мастацкай выставе ў 90-х да мяне падышоў такі трошкі замызганы чалавек пэнсійнага ўзросту: шэрая кашуля, чорны пакамечаны гальштук, як панчаха, няўпэўненыя рухі і жаласная ялейная ўсьмешка. Па гэтай ягонай усьмешцы я і пазнаў яго, камуніста Старавойтава. Ён гаварыў на чыстай беларускай мове і даволі правільныя рэчы пра культуру незалежнай Беларусі, падкрэсьліваючы сваю прыніжаную павагу і пашану да субяседніка. Зрэшты, гэта была тады амаль што тыповая зьява.

Але вернемся ў інтэрнат да нашага брацтва „бамжоў-антысаветчыкаў” і „мсьё Пажарскага”. Парагатаўшы з павешанага камэнданта, мы вярнуліся ў пакой. Пажарскі быў у лёгкадумна-вясёлым настроі. Ён меркаваў, што знайшоў залатую жылу. Праз нейкі час ён зноў здаў кроў, атрымаў свае 10 рублёў і весела пасьвістываў.

– Калі ты думаеш, што вынайшаў пэрпэтуум мобіле, то глыбока памыляешся, – кажу я. Калі б табе за гэта плацілі ня 10, а 200 рублёў, то можа трохі і пратрымаўся б, калі б ні харчаваўся піражнымі, а так – тупік. Спыняйся.

Але Пажарскі весела глядзеў у будучыню. Калі ён у чарговы раз пайшоў здаваць кроў, то неўзабаве вярнуўся маўклівы і сумны.

– Што?

– Не прынялі. Жыцьцёвы тонус паніжаны.

Далей пачалося нейкае бязмэтнае выжываньне. Мы ўсе хацелі неяк зачапіцца за жыцьцё, каб неяк вучыцца далей, а ў выніку ўсё глыбей апускаліся ў галоднае існаваньне. Пры сацыялізме вольнай працы не існавала. Усё пад кантролем партыйна-дзяржаўных органаў і міліцыі (прапіска). Часам у Пажарскага зьяўляліся прыкметы нематываванай эйфарыі. Яго разьдзірала ад гумару і нейкага ненатуральнага настрою. Я здагадваўся пра прычыны і адзін раз кажу:

– Мне вяртацца, фактычна, няма куды і немагчыма. А ты едзь у Рыгу. Няма праблем рыжаніну знайсьці там працу. Тут няма чаго зь імі гуляць у рулетку. У іх усё – у цябе нічога.

Пажарскі ад’ехаў.


271. Аўтапартрэт. 1964 г.

Неўзабаве я знайшоў працу, дзе ў мяне нават не спыталі пра прапіску, задаволіўшыся старым студэнцкім білетам, тэрмін важнасьці якога яшчэ ня скончыўся. Гэта праца рабочага сцэны за 50 рублёў у Вялікім тэатры опэры і балета (мінімальная савецкая зарплата, ўстаноўленая законам, была тым часам 70 рублёў; пражыць за яе было немагчыма). Праца ў першую зьмену (калі трэба было зьняць дэкарацыі мінулага спэктакля і павешаць сёньняшняга) была даволі цяжкай. Асабліва цяжка было ад слабасьці, бо я амаль ня еў, а грошы змагу атрымаць толькі праз паўмесяца (у саветах зарплату плацілі два разы ў месяц). Вельмі даймаў пыл, перамешаны з фарбай, якая асыпалася з маляваных дэкарацыяў. Пасьля зьмены ўвесь час выплёўваў зь лёгкіх чорную сьлізь. Ніякіх рэсьпіратараў, пальчатак, спэцадзеньня тады не выдавалі.

Так склалася, што ні ў каго ў Менску не было магчымасьці тады пазычыць мне грошай. Сябры ўсе былі ў амаль што такім самым стане. Ніхто ня меў лішніх рублёў. Стыпендыя студэнта была 22 рублі. (Гэта сума на адзін тыдзень харчаваньня.) Прасіць пазычыць у некаторых старэйшых людзей мне, 20-гадоваму, не выпадала, гэта выглядала б прыніжэньнем. Празь яго я пераступіць ня мог.

Калі я пешшу ішоў з працы (на транспарт грошай не было, а „зайцам” не хацеў ехаць, каб не прыніжалі кантралёры), то вельмі добра адчуваў усе пахі, якія даносіліся з гастраномаў і кафэ. Спачатку я праходзіў міма. Але йшлі дні, і трываць ўжо я больш ня мог. Я заходзіў у хлеба-булачную каля кафэ Вясна. Там былі тры круглыя столікі з мармуровымі сталешнямі. Вакол іх стаялі людзі, пілі гарачую каву з малаком, елі булачкі, дзяўчаты жавалі піражныя. Я бязмэтна праходзіў па залі, глядзеў на паліцы з хлебам і лавіў сябе на тым, што не магу не глядзець, як людзі ядуць. Я выходзіў спакойна з абыякавым выглядам і йшоў сабе далей. Але мяне начыста пакідала ўпэўненасьць. Мне здавалася, што людзі на вуліцы бачаць, што я галодны, што мяне аж трасе ад голаду, і яны кідаюць на мяне грэблівыя позіркі. Гэта было пакутліва. Я нават азіраўся на людзей, каб пераканацца, што ніхто не здагадваецца пра мой стан.

Аднойчы я зноў зайшоў у гэтае месца, прываблены пахамі і ўбачыў аднакурсьніцу Тамару з сяброўкай. (Тамара перад гэтым была дыктарам на тэлебачаньні, асоба даволі прасавецкая, потым вышла замуж за мастака-кагэбіста, працавала ў Горадні і ў тэатры імя Янкі Купалы.) Яна толькі што дапіла каву і зьбіралася выходзіць:

– О, Зенон! Колькі лет, колькі зім! Прывітаньне!

– Прывітаньне.

– Ты дзе цяпер?

– Працую.

– Так? Дзе? Ага, разумею – пад сцэнай. Ха-ха-ха-ха.

Тамара засьмяялася даволі зьедліва, проста ў вочы, гледзячы з перавагай на мяне. Я нічога не адказаў. Тамара весела пырхнула на праспэкт, задаволеная сабой.

Такога са мной не бывала. На ўсялякую падобную агрэсію я адказваў, не марудзячы і часта „з пляча". Тым больш, што актрыса яна на курсе была з прэтэнзіяй, але слабенькая. Я разумеў, што раздушаны голадам. Я страціў упэўненасьць і штучна нацягваў на сябе маску незалежнасьці і саліднасьці. Але гэта давалася цяжка. Мяне агортваў страх, які я ёсьць слабы і недасканалы чалавек

Ідучы ў чарговы раз з працы, я зноў заходзіў у булачную. Навошта я гэта раблю увесь час? У мяне ж няма нават капеек. Ад пахаў мне кружылася галава. Але тут, стоячы ля вакна з незалежным выглядам (так мне здавалася), я зразумеў, што мяне падсьведама штурхала сюды. Незвычайна хацелася есьці, і я не спускаў погляду з бруднага стала, які толькі што пакінулі наведнікі. Там валяліся недаетыя булачкі на талерках, крошкі, на дне шклянак недапітая кава. Я ня мог адарваць погляду. Мне так хацелася есьці. А што? Калі я падыйду і пачну есьці гэтыя аб'едкі, можа ніхто і ня ўбачыць, як быццам я тут і быў? Я пачаў думаць, як ажыцьцявіць гэты падыход да стала і адчуў, што зараз самлею. Ціха вышаў за дзьверы і глытнуў сьвежага паветра.

Потым, пахадзіўшы па вуліцы, я ўсё ж вярнуўся ў булачную. Раней, калі мы з сябрамі заходзілі сюды, мы часам бачылі тут аднаго ціхапамешанага капітана. Ён хадзіў у савецкай зашмальцаванай ваеннай форме і нават з пагонамі. Ён любіў парадыраваць губамі духавы аркестар і размаўляць сам з сабой. Гэты дурань у булачнай даўно прымільгаўся. І тут я назіраю, што суб'ект з Навінак падыходзіць да стала з аб'едкамі і пачынае іх есьці. Бачачы гэта, афіцыянтка, што прыбірае са сталоў, прынесла яму кубак кавы, булачку і кажа: „Гэта табе, паеш во".

„Беларусь ты мая, Беларусь! – падумаў я, – дзе хто, як тут, гэтак убогага пашкадуе?" Я адчуў нейкі эйфарычны спакой і зразумеў, што не зайду больш сюды. Лепш памру, але вытрымаю ўсё, і ніхто не заўважыць.

У тыя 60-я гады я трапляў у сытуацыю бязвыхаднага голаду яшчэ некалькі разоў. Цяжкі быў 1967 год, калі наш вольны інстытут ужо, практычна, зьнішчылі і расплюскалі. Павыганялі нармальных студэнтаў і пэдагогаў, а рэктарам гэтага асаблівага інстытута, школы мастацтваў, прызначылі палкоўніка КГБ Захарава. Гэта была фантастыка. Нахабнае рыла. Ён нават лекцыі студэнтам падрадзіўся чытаць па рускім тэатры, адпрэчыўшы доктара Анатоля Сабалеўскага.

Са мной ён распарадзіўся па-ваеннаму хутка. Памятаю, мы здалі апошні экзамен апошняга курсу. У мяне былі адны „пяцёркі". Засталося толькі здаць дзяржаўны экзамен па спэцыяльнасьці (мастацтвазнаўства), і я выходзіў на „чырвоны дыплём" выдатніка.

Мы ўжо зьбіраліся ўсім курсам ехаць у рэстаран „Космас" адзначаць апошні экзамен, аж прыходзяць з рэктарату і кажуць, што мяне выклікаюць на паседжаньне рэктарату да рэктара. Заходжу. Сядзіць увесь „сангедрын" і добрая палова злосна на мяне глядзіць. Палкоўнік Захараў зачытвае ліст, які паступіў у рэктарат ад выкладчыка навуковага камунізму зампаліта Ешына, дзе я названы нацыяналістам, „проявившим неуважение к настенгазете на русском языке". Адзін за адным пачаліся кароткія падрыхтаваныя выступы „пэдагогаў" (у партупеях пад кашуляй), дзе мяне зьмяшалі з гразёй і з „буржуазным нацыяналізмам". Палкоўнік Захараў ставіць пытаньне аб выключэньні мяне з інстытута.

– Кто „за"? Кто „против"? Кто „воздержался?" Вы отчислены из института, – аб'явіў рэктар-палкоўнік, – можете идти.

Уся працэдура заняла ня больш дзесяці-пятнаццаці хвілін. Вядома, экзэкуцыя мяне ашарашыла (і момант жа выбралі), але каб сказаць, што ў мяне было нейкае вялікае ўзрушэньне ці „шок", то не. Я бачыў, што за публіка апанавала інстытут і разумеў, што ад іх можна спадзявацца ўсяго. Тым больш адчуваў, што будуць старацца зноў расправіцца са мной.

Я прыйшоў і кажу сябрам (якія чакалі мяне), што ў рэстаран не паеду, бо мяне толькі што выключылі з інстытута.

Ніхто не зьвярнуў увагі. „Едзем", – кажуць. Я паўтараю, што мяне выключылі на рэктарацe. Мне адказваюць, што я, відаць, на экзаменах перавучыўся, бо нешта з гумарам заела. Цікава, што ніхто не паверыў і паехалі без мяне, а жанчыны нават пакрыўдзіліся.

Тады ж мяне аўтаматычна пачалі выціскаць з працы, і прышлося перажыць галадоўку, як ў 1964–м. Але ўжо нічога новага. Я значна лепш валодаў сабой. Меў шмат сяброў, і гэтая „бамбёжка" прамінула.

Пазьней, калі я ўжо меў добрую працу, зарплату, навуковую ступень, я сам устраіваў сабе кароткія галадоўкі на дзень-два, калі піў толькі ваду і гойсаў па лесе. Тады зьяўлялася дзіўнае адчуваньне вышэйшасьці і спакою, быццам ты выходзіў з матэрыяльнай залежнасьці ад сьвету. Праз 30 гадоў пасьля цяжкага 1964-га, будучы ў Вярхоўным Савеце, я трымаў галадоўку 10 дзён, удзельнічаў у сэсіі і ва ўсіх справах, піў ваду і еў толькі зерне прарошчанай пшаніцы нараніцы і ўвечары. У гэты час я ніяк ня мог пазьбегнуць нейкай масавай грамадзка-палітычнай вячэры, дзе мусіў быць. Прысутнічалі кіраўнікі камісіяў Вярхоўнага Савета, прадстаўнікі Саўміна і міністэрстваў. На такіх сталах у беларусаў ёсьць усё, і сталы ломяцца (гэта ні нікчэмная „Ойропа" – сырок на шыпульку). Ды й беларусы не благія аматары паесьці ды гарэлкі папіць.

Сяджу я сёмы дзень галодны, вадзічку п'ю, дыскутую пра тое ды сёе, і пахі мяне не раздражняюць, назіраю,

як людзі ядуць, п’юць, а некаторыя нават губляюць сваё аблічча, і мне весела адчуваць тут гэтую сваю маленькую перавагу і ўзвышэньне над сталом.

І выходзіць, што сам голад ніяк ня ўзьдзейнічае на дух чалавека, а толькі абставіны, у якіх ён адбываецца. Тады, у 1964, не было ніякага прасьвету, холад, голад і адна невядомасьць – ні працы, ні грошай. І я думаў, што голад прыціснуў маю псіхіку, скамечыў маю асобу, даводзіў яе да роспачы і да нікчэмных думак пра неганаровыя паводзіны. Як я баяўся быць растаптаным і прыніжаным, як не хацеў, каб хто бачыў, каб хто зразумеў, што я, як жывёла, хачу толькі паесьць, і гэта ўжо амаль шчасьце.

І вось цяпер, праз 30 гадоў, фізіялагічна амаль тое ж самае, але з маёй волі, з майго хаценьня-нехаценьня. І на табе – адчуваньне вышэйшасьці, а не прыніжанасьці, спакою, але ня роспачы.

Вядома ж, галадоўка па сваёй волі дзеля пэўнай мэты – праблема, якая залежыць ад цябе. Голад жа натуральны ёсьць тое, чаго ўсе людзі баяцца, бо не ўладныя над ім. Такі голад ёсьць сацыяльная зьява. Гэта сапраўды страшна. Страшна, як павальная сьмерць.

Будучы ў Вярхоўным Савеце і езьдзячы па Беларусі, я сустракаўся з рознай людзкой бядой, але ня з голадам. Беларус навучыўся выжываць у цяжкіх умовах жыцьця. Складанасьць жа ў тым, што сапраўдны голад не заўсёды распазнаеш, і чалавек, які трапляе ў такі стан, замыкаецца ў сабе і хавае свае пакуты, бо калі іх выявіць, то далейшы крок – прасіць, альбо выклікаць жаласьць да сябе, і табе дадуць, як бязроднаму, а гэта прыніжэньне.

Голад прыніжае чалавека, прымушае яго перайсьці рубікон гонару, ня кожны можа яго пераступіць.

Я ўспамінаю выпадак, які па сёньняшні дзень выклікае у мяне пачуцьцё горычы і шкадаваньня, хаця не было там маёй віны. У час аднаго з маіх дэпутацкіх прыёмаў (дзесьці ў 1994-95 гг.) у пакой зайшла жанчына гадоў пяцідзесяці, сьціпла апранутая так, як апранаюцца рабочыя людзі. Яна павіталася з парогу і на добрай мове кажа, што проста хацела зайсьці, мяне ўбачыць і засьведчыць сваю падтрымку беларускай справе. Яна быццам бы працавала раней на тэлебачаньні прыбіральшчыцай, але больш пра сябе не гаварыла. З пакамечанага паліэтэленавага мяшка яна дастала некалькі старых ілюстраваных кніжак 60-х гадоў і кажа, што ў знак падтрымкі хацела б мне падарыць гэтыя кніжкі пра Беларусь са свайго кнігазбору. Жанчына гаварыла ўсё гэтак сур’ёзна-дзелавіта, кніжкі былі абы што, і я трохі насьцярожана на ўсё гэта глядзеў. Твар яе быў шэрага колеру, які для мяне, аматара народнай медыцыны, казаў пра ўнутраныя хваробы. У яе размове і дзеяньнях была відаць трохі нейкая прыдуманасьць, як і ва ўсім гэтым яе візіце, якому я, аднак, не зьдзівіўся, бо такое ўжо бачыў. Але выглядала, што яна чагосьці не дагаварыла. Чаго – я ня ведаў. Кніжкі я пакінуў у стале і потым пра іх забыўся.

Ужо ва ўцякацтве ў Штатах я прачытаў у Сеціве макабарычнае паведамленьне, што ў Менску ў сваёй кватэры памерла ад голаду самотная жанчына, якая працавала ў нейкай гаспадарча-тэхнічнай працы на тэлебачаньні. Прыводзяцца развažаньні журналіста, апавяданьне пра яе жыцьцё. Мне падалося, што, магчыма, гэта была тая самая жанчына, якая прыходзіла да мяне з кніжкамі. Чаго толькі ні патрабавалі і ні прасілі людзі ў дэпутата. Але голад зьмяняе псіхіку, і яна, відаць, не змагла перакрочыць сваю мяжу. А я, такі ўжо, здаецца, „бывалы”, пра тое не здагадаўся. І гэта па сёньняшні дзень бянтэжыць і смокча маю душу. Ну, хіба што толькі гэта была не яна.

*29 студзеня 2013 г.*



272.

# ЛІЦЬВІНСКАЯ КРОЎ

*«А там крынічынька, чыста водычэнька.*
*Там дыўчыначка ўмывалася...»*
(Народная песьня з-пад Пінска)

Мне вельмі да душы ўсе нашыя традыцыі, акрамя звычкі піць гарэлку, якую накінулі нам расейцы шляхам доўгіх гадоў акупацыйнай палітыкі. Але, спадарства! Калі за сталом зьбіраюцца дарагія госьці, культурна блізкія людзі, свае, і па шляхецкім звычаі вядзецца добрая гаворка ды запіваецца віном, што падымае сяброўскі настрой, то што можа быць лепшага, каб адчуць нашу дарагую Бацькаўшчыну ў асобах, расповядах і галасах! Калі ў Варшаву прыязджалі сябры зь Беларусі і мы зьбіраліся ў застольлі, то гэта было сьвята.

Няма ўжо сярод нас нашага дарагога Пятра Пятровіча Шашкеля. Скасіў Чарнобыль. Азірнуўшыся на страты, я схапіўся за галаву. Усе вядомыя беларускія дзеячы, інтэлігенты, мастакі, вучоныя фронтаўцы, дэпутаты Незалежнасьці – дзясяткі асобаў, што адышлі ў апошні час, – усе памерлі ад анкалёгіі, ад наватвораў. Гэта, як біч Божы. За што – ня ведаю. Што за пракляцьце, што за доля заломная! І Пётра Пятровіч не абмінуў тае долі.

## АБРАЗ

У 2007 годзе ён са сваёй мілай жонкай Алінай і двумя дарослымі дочкамі гасьцілі ў нас у Варшаве зімой на Нараджэньне Хрыстовае. Добрая гэта была сустрэча. Вялася нясьпешная гаворка пра тое ды гэтае, успаміны. Пётра і Аліна казалі па чарзе, а дочкі больш маўчалі. Ніхто нікога не перабіваў. Калі бацька ці маці гаварылі, то дочкі тут жа слухалі. Ніхто не павышаў голаса, не размахваў рукамі – атмасфэра дабразычлівасьці і радасьці. „Ну, якая ж шчырая, шляхетная сям'я, – думаў я, – і ўсё ня змушанае, прыроднае."

Спачатку распавядалі розныя гісторыі ды казалі пра цікавыя зьявы. Вось Пётра Пятровіч і кажа:

– Зьявіўся на Мядзельшчыне недзе яшчэ ў 20-х нейкі манах-пустэльнік ды асеў у вёсцы Васілеўшчына, што за 8 кілёмэтраў ад Будслава. І кажа гэты манах, што быў ён у Будслаўскім касьцёле перад абразом Маткі Божай Будслаўскай і што там на яго нешта зышло, як быццам Маці Божая сказала, што ён павінен намаляваць абраз. Дык ён пад уражаньнем узяў і намаляваў абраз „Сэрца Езуса" і прышоў з гэтым абразом у Васілеўшчыну і ахвяраваў яго для вёскі. А вёска тады вялікая была, поўна людзей, моладзі, жыцьцё вiравала. Гэта цяпер Васілеўшчына скурчылася і ледзь дыхае. Тады было інакш.

З тым абразом, што манах напісаў, пачалі вясковыя жанчыны з малітвамі вёску абходзіць. Абыйдуць тры разы і зноў ужо ў хаце моляцца. Такім чынам абраз пераносілі з хаты ў хату, і гэткая кругаверць доўжылася ўвесь час і існуе па сёньняшні дзень. Цяпер вёска вымірае, людзей стала мала, але яны кажуць, што будуць маліцца і абносіць вёску абразом, пакуль жыць будзе хоць адзін чалавек. Лічыцца, што гэты рытуал аберагае вёску і людзей.

І праўда. Вёска вялікая, шмат мужчынаў было на вайне, і ні адзін не загінуў, усе вярнуліся цэлымі і жывымі.

– Мой бацька, – кажа Аліна, – таксама з вайны прышоў, шынэль пасечана асколкамі, як рэшата, а бацьку хоць бы драпнула. То, выходзіць, вось яна, малітва і абраз дапамаглі. Усе ж бо маліліся за мужчын на вайне.

– Эх, – кажу, – каб яны гэтак за ўсю Беларусь маліліся, то можа б і Беларусь цяпер іншай была.

– А што Вы думаеце, – адказвае Аліна, – каб усе ў Беларусі маліліся за Беларусь, то мелі б іншую Беларусь і пачвары не было б.

– Іхняя Васілеўшчына сапраўды ўнікальная дзеля веры вёска, – дадае Пётра. – Адзін беларус адтуль у Чэхіі манахам асеў. Адслужыў войска і падаўся ў манахі, за сваіх людзей маліцца. А слухайце, во! Ёсьць там цяпер і нявеста Хрыстова. Прыгожая-прыгожая дзяўчына, а замуж не пайшла (і хлопцаў было ахвочых) – пасьвяціла сябе Касьцёлу, ахвяравалася, толькі Касьцёлу служыць. І ёй добра.

– Гэта подзьвіг, – мяркую я ўслых. – Ёсьць на Зямлі людзі, што жывуць вечнасьцю. І вось гляньце: сядзіць брыдота вусатая, усіх на „ты", кругом паніжэньне ды хамства, а прыгожая асоба (заўважце, не калека, не гарбатая – прыгажуня) ахвяруецца Богу і Касьцёлу Яго ўсім сваім жыцьцём. Гэта пра нешта ды кажа, а?

– Кажа, што жыве Беларусь і будзе жыць, – падсумоўвае Пётра.

## ЯДЗЮНЯ

– О, пэўня будзе, – усклікае Аліна. – Гэта што, а вось у нас, у нашай вёсцы Кулікова, таксама на Мядзельшчыне, была такая дзівосная жанчына – Ядзюняй звалі. Ядзя, значыць, але з маленства ўсё Ядзюня ды Ядзюня. Яна памерла некалькі гадоў таму, недзе за 80 ужо мела. Усё жыцьцё яна хадзіла босая да першага сьнегу і маразоў, па лясах, карчах, іржышчы, і нічога яе не турбавала. Яна ніколі не злавалася, не павышала голасу, не казала ні пра каго нічога дрэннага, ні нэрвавалася, не мітусілася, была моцная, як дрэва. Бывала, ідзе з балота і бульбяны кош журавінаў нясе на галаве (а гэты ж кош – цэлы пуд). Адной рукой падтрымлівае, ідзе стройненька, як струна. У Беларусі ніхто так кашоў не насіў (за плячыма, хіба), а Ядзюня – на галаве. Яе паважалі за яе паставу да людзей, за ўменьне радзіць самой сабе ў нялёгкім жыцьці.

Аднойчы у балотным лесе на журавінах яе ўкусіла гадзюка за руку. У гэты час у восені якраз гадзюкі злыя і агрэсіўныя. Укусіла, а Ядзюня хоць бы што, ходзіць сабе, разважае, працуе. Пухліна жудасная, пашла ўжо на плечы і грудзі, і такая – колеру вясёлкі.

Жанчыны кажуць ёй: „Ядзюня, ты памрэш, ідзі да лекара!" „А нічога, – кажа спакойна Ядзюня, – ліцьвінская кроў ня тое вытрымае."

І не пайшла, выжыла, і пухліна потым тая зьнікла. Гэта ж падумайце толькі: яна нават не спалохалася, а так спакойна сабе: „Ліцьвінская кроў ня тое вытрымае". І вытрымала.

Потым яе часта кусалі гадзюкі на журавінах, але яна ўжо лёгка перамагала іхнія ўкусы.

Мы тады не разумелі, што гэта яна такое казала пра „ліцьвінскую кроў”. Ажно толькі потым, калі мы ўступілі ў Народны Фронт, тады зразумелі, што яна мела на ўвазе. І то дзіва – адкуль такое веданьне?

Ведаеце, ва ўсёй яе паставе было нейкае высакародзтва і годнасьць. Нейкае прыроджанае шляхецтва.

– А я дык здагадваюся, адкуль тая „ліцьвінская кроў”, – кажа Пётра. – Да яе некалі заляцаўся малады мужчына Вінцэнт, які там нейкі час настаўнічаў. Потым, як прыйшлі ў 39-м бальшавікі, ён зьнік. Пазьней апынуўся за мяжой. А ў Ядзюні засталіся ягоныя лісты да яе. Вось гэтымі лістамі яна і жыла. „О, – часам казала, – каб вы пачыталі іх. Гэта такія лісты, такія лісты!”

Дык я прыкінуў, па зьвестках пра Вінцэнта Жук-Грышкевіча, які паходзіў з Будслава, дык гэта якраз ён і быў, той Вінцэнт. Я перакананы ў гэтым. Ад яго Ядзюня і магла пачуць пра беларусаў-ліцьвінаў, і хто мы такія ёсьць у старадаўнасьці.

– Сьвет цесны, – устаўляю я, – Прэзыдэнт Рады БНР і Ядзюня. Добра, што Раіса ня ведала.

– А можа і ведала, – кажа Шашкель, – тут жа справа жыцьцёвая.

– О, яшчэ якая жыцьцёвая, – усклікае Аліна. – Ядзюня так замуж і не пайшла. Усё жыцьцё жыла Вінцэнтам.

– А ведаеце, – кажу я, – такая вернасьць ідэалу – вельмі характэрная рыса некаторых беларускіх жанчын. І ня толькі беларускіх. Я б сказаў – хрысьціянскіх. Мая маці таксама адмовілася ісьці замуж, калі загінуў бацька. Яна засталася вернай ягонаму ідэалу. Але тут было іншае – яна пасьвяціла жыцьцё мне, ахвяравалася таксама дзеля мяне. Зь людзьмі грубымі і практычнымі я на такую тэму ніколі і не размаўляў бы, бо тут, ведаеце, ёсьць сьвятасьць. А гэта не для кожнага.

– О, так, так, – падхоплівае Аліна, – у Ядзюні таксама нешта было такое, глыбокае і нібы над сьветам.

## НЕМКА

У 90-х я пазнаёміўся са старой немкай, за Гітлерам дачкой баўэра, у якога працаваў вывезены ў Нямеччыну беларус, – пачаў я свой аповяд. – Баўэр выратаваў яго потым ад выдачы саветам, пагадзіўся на ягоны шлюб са сваёй дачкой, якая моцна ўкахалася ў беларуса. Гэты беларус, аднак, жыць ня мог без Беларусі, і каханая немка рашылася ехаць зь ім жыць у Беларусь. Але напачатку ён вырашыў зьезьдзіць сам, агледзецца і ўсё падрыхтаваць для сумеснага жыцьця.

Паехаў – і на гэтым канец. Бальшавікі яго схапілі і згнаілі ў ГУЛАГу. Зьнік бясьсьледна. А немка засталася вернай яму ўсё жыцьцё, замуж не пайшла. І вось калі ўжо здох СССР і можна было прыехаць у незалежную Беларусь, яна прыехала, каб паглядзець на радзіму свайго каханьня. (Я ўжо пра гэта недзе пісаў, але дзе – не магу ўспомніць.)

Нездарма кажуць: „Вочы – люстра душы”. Памятаю вочы гэтай старой немкі, чыстыя, жывыя і цалкам даверлівыя, якія бываюць у сумленных людзей.

А ўвогуле, штораз пераконваюся, і ня толькі ўважаючы на сваю жонку, што жанчына – гэта ёсьць цуд прыроды і дар Божы, – завяршыў я сваю гаворку паўжартам. Усе ажывіліся, заўсьміхаліся, а жонка нават запляскала ў ладкі, ухваляючы такое аб’ектыўнае меркаваньне.

На гэтым мы скончылі нашу бяседу і, трохі шкадуючы, што ўжо позна, разьвіталіся, абымаючыся і хвалячы адзін аднаго, запрашаючы спатыкацца ды здаравець.

## ГУЛАГ

Зь Пятром Пятровічам мы ўбачыліся ў Варшаве яшчэ раз крыху пазьней па нейкай фронтаўскай справе, і тут я ўзяў магнітафон і кажу, што трэба крыху пагаварыць пра лёс, бо ня кожны з паўтарагадовага ўзросту быў вязьнем рускага ГУЛАГу.

А сутнасьць уся ў тым, што Пятра Шашкеля бальшавікі арыштавалі ў 1946 годзе, калі яму было паўтары гады ад роду. Адначасна арыштавалі яго брата, якому было паўтары месяцы. Схапілі маці. Усіх вывезьлі ў канцэнтрацыйны лагер у Сібір у Краснаярскі край. (Бацьку яго расейцы схапілі і забілі раней.)

У лагерным бараку іх разьдзялілі: маці асобна, дзяцей асобна – у іншы барак. Тры разы на дзень (па гадзіне на раз) маці дазвалялі прыйсьці ў дзіцячы барак і пакарміць дзяцей.

Самае дзіўнае, што і Пётра, і яго паўтарамесячны брат выжылі ў такіх умовах і пазьней вярнуліся ў Беларусь. То што дзеці, практычна, самы выжылі ў тым сібірскім лагерным холадзе і голадзе – гэта сапраўдны цуд, у які было б цяжка паверыць, калі б не сам жывы сьведка перада мной.

Усё жыцьцё Пётра Пятровіч змагаўся, каб яго рэабілітавалі, але камуністы стаялі цьвёрда, кагэбісты-лукашысты таксама ўпіраліся. І толькі ўжо ў 2000-х гадах рэабілітацыя адбылася. Пра абсурды я тут не кажу. Які там у ворагаў чалавецтва сэнс, якая там логіка! Зьнішчалі беларусаў любымі спосабамі.

## КУБЭ

Цікавай асобай быў ягоны бацька, Пётра Шашкель старэйшы. Ён быў добрым гаспадаром, разумным і вельмі паважаным у вёсцы чалавекам. За польскай акупацыяй людзі выбралі яго войтам. Тое самае і калі прыйшлі немцы і прапанавалі вылучыць чалавека на бурмістра. Вяскоўцы выказаліся за Шашкеля. Гэты факт спрычыніўся да таго, што (калі зноў прыйшлі расейцы) яго забралі, вывезьлі і, вядома ж, забілі. Бо і сьлед па ім згубіўся, як па тысячах беларусах, што трапілі пад вынішчэньне.

Але цікавы факт зь яго біяграфіі. 17 лютага 1943 года немцы вырашылі наладзіць паляваньне на дзікоў пад Баранавічамі. Зьбіраўся прыехаць на паляваньне Вільгельм Кубэ і некалькі генэралаў. Пра гэта даведаліся энкавэдзісты (партызаны) і вырашылі зрабіць засаду на Кубэ (інфармацыю ім, відаць, перадала праз агентуру нямецкая СС, якая імкнулася ліквідаваць Кубэ). Але, вядома, што сярод людзей такія „таямніцы” доўга не трымаюцца. Неяк разгаварыўшыся з баранавіцкімі людзьмі (сваімі

хлопцамі) Шашкель старэйшы даведаўся, што партызаны-энкавэдзісты рыхтуюцца забіць Кубэ на паляваньні.

Кубэ на той час быў адзіным нямецкім начальнікам, які спрыяў беларусам, жыдам і ўвогуле цывільнаму насельніцтву. Вядома таксама было, што СС люта ненавідзела Кубэ. Зразумела, што калі на месца Кубэ стане які-небудзь беларусажэрца, то ратунку ня будзе. Таму, зыходзячы з практычных меркаваньняў, Шашкель-старэйшы (выдатна валодаў нямецкай мовай) папярэдзіў Кубэ, і гаўляйтар на паляваньне не прыехаў.

Тым часам паляваньне адбылося. (Цікавы факт. Кубэ, ведаючы пра засаду, не папярэдзіў эсэсаўцаў. Змагаліся між сабой, як кажуць, не на жыцьцё, а на сьмерць.) Засадай кіраваў вядомы на той час тэрарыст і энкавэдзісцкі бандыт Кірыла Арлоўскі. У перастрэлцы загінулі эсэсаўскія генэралы і іншыя афіцэры, а Арлоўскаму гранатай парвала рукі і ногі. (Яго бальшавікі перавезьлі самалётам у Маскву і лячылі там.)

Тут мушу сказаць пару слоў пра Кубэ. У нямецка-фашысцкім эстэблішмэнце гэта была нейкая анамалія, асоба ў пэўным сэнсе ўнікальная, і па сваім лёсе трагічная. Ён быў прызначаны Гітлерам кіраўніком цывільнай адміністрацыі ў Менск, узначальваў Гэбітскамісарыят, у абслузе якога ў розны час працавалі беларусы, расейцы і сто пяцьдзесят асобаў жыдоўскага паходжаньня. Эсэсаўцы ведалі пра гэта і нічога не маглі зрабіць. Беларусы з Незалежніцкай партыі (якая дзейнічала ў Менску падпольна супраць немцаў і бальшавікоў) арганізоўвалі праз Гэбітскамісарыят выдачу жыдам арыйскіх дакумантаў, каб ратаваць ад пацыфікацыі, арганізоўвалі магчымасьць жыдам уцякаць у лес да партызан, дзе яны змагаліся супраць гэтых жа беларусаў (абсурды вайны). Ратавалі таксама габрэйскіх дзяцей і сірот.

І ўсё гэта пад крылом Кубэ, які пра гэта ня мог ня ведаць. Сам Кубэ выступаў супраць зьнішчэньня жыдоў, пісаў пра гэта лісты Рэзэнбэргу, Гімлеру і нават Гітлеру. Эсэсаўцы называлі яго грэбліва „жыдалюбцам”.

Кубэ таксама рэзка выступаў супраць спаленьня беларускіх вёсак і пацыфікацыі мірнага насельніцтва зондэрнкамандамі СС. Перапіска, узаемныя абвінавачваньні і кляўзы ішлі з двух бакоў. Гімлер нават прыязджаў у Менск разьбірацца. Ён сам, дарэчы, выявіў жаданьне папрысутнічаць пры расстрэле жыдоў, але пры выглядзе жудаснай карціны забойства людзей фюрэра СС званітавала і ён самлеў. Пасьля гэтага „жалезны” эсэсавец выдаў распараджэньне, каб забойствы адбываліся больш „чалавечна”.

З Кубэ даўно б расправіліся, але яго ратавала асабістая падтрымка Гітлера. Эсэсаўцы нічога не маглі зрабіць і ненавідзелі яго люта.

З другога боку, Кубэ выклікаў шалёную нянавісьць ў расейскіх энкавэдзістых, якія, перакінутыя з Масквы, арганізавалі партызанку ў Беларусі. База нянавісьці тут была іншая. Кубэ спрыяльна ставіўся да беларусаў і цывільнага насельніцтва. Ён дазволіў беларускае школьніцтва, тэатр, музэй, спрыяў адраджэньню Беларускай Аўтакефальнай Царквы, беларускай гісторыі і культуры, маладзёвага руху (Саюз Беларускай Моладзі стаў масавай патрыятычнай арганізацыяй). Кубэ казаў пра эўрапейскасьць беларускай культуры, цікавіўся археалогіяй, дазваляў беларусам карыстацца нацыянальнымі сымваламі і, фактычна, разьвіваць нацыянальную агульнаадукацыйную школу.

Справа ў тым, што па нямецкіх акупацыйных законах беларуская адукацыя мусіла быць толькі прафэсійна сьціраванай для практычных патрэбаў. Гэта значыць, што школы мусілі быць толькі практычнага профілю, напрыклад, па медыцыне, па дарожным будаўніцтве, па сельскай гаспадарцы і г. д. Немцам патрэбныя былі беларусы-рабы, а ня нацыя.

Беларускія дзеячы, аднак, тут стараліся абхітрыць немцаў. Школы называліся як прафэсійныя, а ў сапраўднасьці (па праграме і намэнклятуры выкладаньня – агульнаадукацыйныя). Кубэ пра гэта ведаў, але глядзеў скрозь пальцы. Ён меў сваю канцэпцыю дачыненьняў з акупаванымі народамі і лічыў, што немцы павінны заслужыць давер у гэтых людзей, каб потым разам будаваць будучыню, разам зь Нямеччынай. Ён нават напісаў патрыятычны прабеларускі вершык на гэтую тэму. (Прыводжу яго ў кнізе „Гутаркі з Антонам Шукелойцем”. – Варшава, 2003 г., с. 136-137.)

Зразумела, што пазыцыя Кубэ ў кантэксьце існуючай тады гітлераўскай палітыкі была ілюзорнай і нерэальнай. Але галоўнае – яна супярэчыла афіцыйным фашыстоўскім канцэпцыям і поглядам на заваяваныя тэрыторыі.

Тым часам галоўная задача партызанкі і НКВД на акупаванай немцамі беларускай зямлі была ня столькі прычыненьне шкоды немцам, колькі вынішчэньне беларускіх нацыянальных сіл, каб не дапусьціць таго, пра што думаў Кубэ, – народнай арганізацыі грамадзтва супраць Масквы і расейскіх бальшавікоў. Таму нянавісьць да Кубэ з боку энкавэдзісцкіх важакоў была шалёная.

Зразумела, што эсэсаўская і бальшавіцкая нянавісьць на нейкім этапе мусілі спаткацца і аб’яднацца. Так яно і сталася. Такое спалучэньне магло быць толькі тэрарэстычным. Прысуд для Кубэ быў вырашаны. Банды аб’ядналі дзеяньні дзеля адной мэты.

Некалькі замахаў (выбух у тэатры і засада на паляваньні) выніку не далі. Загінула шмат людзей, але Кубэ застаўся жыць. 22 верасьня 1943 года сумесная апэрацыя СС і НКВД завяршылася забойствам гаўляйтэра Вільгельма Кубэ.

Гэты выпадак даволі тыповы ў пляне сумесных дзеяньняў рэпрэсіўных антычалавечых груп. Яны знаходзяць агульныя інтарэсы нават ваюючы між сабой.

Смаленскае СД, напрыклад, поўнасьцю складалася з савецкіх энкавэдзістаў, якія перайшлі на бок немцаў і зьверствавалі ў Беларусі з асаблівай жорсткасьцю, хапаючы і забіваючы беларускіх людзей.

Нетыповым быў сам Кубэ. Нейкая амбівалентная асоба. Невядома, як яго ацэньваць у гістарычным падыходзе. Я тут бачу ў пэўным сэнсе трагічны лёс неардынарнай асобы, якая трапіла ў дзікія абставіны тагачаснага сьвету. Такіх людзей забівалі свае ж і ў камунізме, і ў нацыянал-сацыялізме. Яны выпадалі з абоймы.

Бальшавікі яго, канешне, ацанілі па-свойму: абляпалі, як маглі. А немцы... немцам, як кажуць, мала справы да сваіх фашыстаў, нават з „чалавечым тварам”. Хаця, вядома, што таталітарысты з „чалавечым тварам” несьлі з сабой (нават насуперак сваім жаданьням) прыгавор сістэме, у якой існавалі (характэрны прыклад – Міхаіл Гарбачоў).

У 50-х гадах на „Беларусьфільме” зрабілі нават кіно „Гадзіньнік спыніўся а поўначы”, дзе Кубэ паказалі такім шаблонным злым фашыстам, зьверам, які расстрэльваў малых дзяцей. Гэтая прапагандысцкая кіналухта навязвалася грамадзтву як сапраўдная гісторыя. Практычна, камуністы дасягнулі свайго, абліўшы балотам сваю ахвяру з ног да галавы, разумеючы, што ніхто ў гэтым фашызме ня будзе разьбірацца. Але СССР зьнік, камунізм здох, фашызм ліквідаваны. Можна і разабрацца.


*273. Пётра Шашкель у шэсьці на Дзяды. (2008 г.).*

Шмат што ўжо дасьледавана. Я маю на ўвазе выдатную працу доктара Юры Туронка. Але больш дэталёвае дасьледваньне гісторыі гэтага крывавага часу яшчэ наперадзе. Неадкрытая зямля ляжыць перад беларускім мастацтвам, тэатрам, літаратурай, кіно.

## ЗАПІСЫ

Далей я дам некалькі жывых вытрымак з фанаграмы запісу нашай гаворкі.

**П. Шашкель:** – Арыштавалі нас з мамай і паўтарамесячным братам ў 1946 годзе. Судзілі і адправілі на лесапавал у баракі ГУЛАГу. Маці была ў агульным бараку, а мы, немаўляты, – у асобным.

**З. Пазьняк:** – Неверагодна. І ноччу адны, бяз маткі?

**П. Шашкель:** – І ноччу адны, бяз маткі. Потым днём матку дапускалі на нейкую гадзіну, каб нас пакарміла.

**З. Пазьняк:** – І колькі ж доўжылася такое жыцьцё?

**П. Шашкель:** – Да 1950 года. Бо недзе гады праз чатыры мой дзед па маме зь вялікімі цяжкасьцямі афармляе апякунства і едзе па нас у Сібір. Ён забраў нас, калі ўжо зіма была (гэта значыць у канцы 1950-га). А ў маці ў тым лагеры сэрца разрывалася, ці давёз ён нас жывых да Беларусі. І што Вы думаеце – мая маці ня вытрымала і зрабіла „пабег”, уцякла з лагеру і дабралася да Радзімы, каб толькі нас пабачыць. Яе тут адразу злавілі, арыштавалі і яшчэ пяць гадоў турмы накінулі за ўцёкі.

**З. Пазьняк:** – Фактычна, неверагодна – уцячы з Сібіру!

**П. Шашкель:** – Так, так! Да раённага цэнтру – нейкі Цюхцет (гэта Краснаярскі край), як яна казала, паўтысячы кілёмэтраў. Ну, хто адтуль, парктычна, мог зьбегчы? Гэта ж значыць загінуць у тайзе. Таму такая лягерная ахова магла нават і не даганяць – усяроўна канец, зьмерзьне, з голаду памрэ, ці ваўкі зь мядзьведзямі разарвуць. А яна выжыла, дайшла куды трэба, і нават даехала да Беларусі. Падрабязнасьцяў я ня ведаю, маці нічога не хацела ўспамінаць і распавядаць з таго кашмару. Толькі перад сьмерцю, ужо слабая, крыху пачала гаварыць. Я падазраю, што дзед ёй нейкае золата перадаў. Хутчэй, што дзякуючы яму яна і даехала, бо ехаць праз Расею яшчэ страшней, чымісьці праз тайгу.

**З. Пазьняк:** – Вось што значыць маці – сіла непераможная.

**П. Шашкель:** – Так. І Боская вера.

**З. Пазьняк:** – Я ўражаны. Слухай, Пётра, а гэта ж „ліцьвінская кроў”, якая ўсё вытрымае.

**П. Шашкель:** – Тое, што мы вытрымалі, – гэта, я лічу, толькі дзякуючы Маці Божай.

Потым, калі ўжо здох гэты „Іосіф”, маці выпусьцілі з турмы. Вось тут напісана (гэта дакумант): „Управлением МВД по Краснаярскому краю Шашкель Татьяна Иосифовна, 1917 года рождения, уроженка Барановичеcкой обл. Клецкого района ... в соответствии с Указом Президиума ВС СССР от 27 марта 1953 г. об амнистии от ссылки-высылки освобождена”. Тут яшчэ напісана: „Остается временно в Тюхтецком районе. Видом на жительство не служит”.

Тады судзімасьць зьнялі, але рэабілітавалі маму толькі ў 1991 годзе. Амаль што праз 50 гадоў пасьля прысуду.

**З. Пазьняк:** – Ці засталося ў цябе ў памяці нешта з таго лагернага дзяцінства?

**П. Шашкель:** – Фактычна, нічога ня памятаю. Невыразныя ўяўленьні. А што ж, у чатыры гады? Дзядуля, баючыся, шмат спаліў розных дакумантаў, што па маме былі. Адзінае, што засталося, гэта маё пасьведчаньне аб нараджэньні (мэтрыка).

Калі летам 1944-га бальшавікі пачалі наступаць, мае бацькі разам з тысячамі беларусаў падаліся ў эміграцыю на Захад. Яны прыпыніліся часова на Одры (там, дзе цяпер ваяводзтва Любуске). Вось тут я і нарадзіўся. Вось тут копія майго нямецкага пасьведчаньня аб нараджэньні. У перакладзе гэта гучыць так: „Бюро ЗАГС, Крышт, раён Ост Штэрнбэрг, №49/44 Пётр Шашкель. Нарадзіўся 11 лістапада 1944 года ў Крышт, раён Штэрнбэрг. Бацька бухгалтар Пётра Шашкель, маці Тацьцяна, народжаная Шостак. Пражываюць абодва ў Крышт, раён Штэрнбэрг. Заўвага: абодва бацькі вызнаюць грэка-каталіцкую веру і прыехалі зь Беларусі”.

Уніяты мае бацькі былі. Во як. Гэта тады, відаць, тое адроджанае было вуніяцтва, што запачаткавала місія ў Альбэрціне. Бо рускія ж вытравілі і пазабівалі вуніятаў поўнасьцю.

Бацькі стараліся ўцячы далей на Захад, каб патрапіць у амэрыканскую зону акупацыі. Праз усю Нямеччыну дабіраліся. Мама ў калясцы мяне везла і на руках несла пад пастаяннымі бамбёжкамі. Бывала, траплялі пад бамбёжку, што адзін друз заставаўся, і людзі проста, як нейкія цені, уставалі з гэтага друзу, хто жывы. Маці мяне ўсялякім

лахманьнём прыкрывала, але і мне аднаго разу асколак у ножку трапіў.

Дайшлі-даехалі неяк да швайцарска-аўстрыйскай мяжы і трапілі ў француздскую зону. Але там страшэннае тварылася. Гэтыя мараканцы, алжырцы, якія з калёніяў, рабавалі, гвалцілі, забівалі. Удалося бацькам уцячы ў амэрыканскую зону. Але ж, ведаеце, пасьля таго Ялцінскага пагадненьня пачалі амэрыканцы ўсіх уцекачоў здаваць бальшавікам. Вось, дарэчы, тут і іхняя віна. Колькі загінула людзей! Там жа не разьбіраліся: ваеннапалонныя, на працу вывезеныя, такія, як мы, – усіх падчышчалі. Бацька мой, напрыклад, увогуле, меў польскае грамадзянства. Яго бальшавікі адразу забілі, відаць, нават без суду. Калі потым рабілі запыт пра бацьку, дык гэбісты прыслалі адказ: „У картатэцы КГБ ня значыцца". І ўсё. Як і не было чалавека.

Калі мы ўжо рухаліся на Захад, бацькі мяне ахрысьцілі ў напаўразбураным касьцёле, бо лічылі, што інакш я загіну. Хроснай маткай згадзілася быць нейкая Марыя Комар, а хто бацька хросны, то я і ня ведаю. Вайна, усё было часовае. Так што вось у такіх ваенна-палявых умовах я быў ахрышчаны. Бог уратаваў мне жыцьцё і ў Нямеччыне, і ў Сібіру. Упэўнены, гэта толькі Бог мяне ўратаваў. Дарэчы, калі арыштавалі нас з мамай у 46-м, то перад судом кінулі ў Баранавічах у турму Крывое кола (яе ўжо зьнесьлі, на тым месцы крыж стаіць). Затым была перасыльная турма ў Воршы, і ўжо потым – Сібір.

Шчыра кажучы, мне ніколі не хацелася туды паехаць і нават глядзець на тыя месцы, дзе я быў у лягеры. Ня памятаю – і добра. Наглядзеўся свайго лягеру тут, пад носам.

**З. Пазьняк:** – Бацьку ты ня памятаеш, а што пра яго ведаеш?

**П. Шашкель:** – Мой бацька, Пётра Стафанавіч Шашкель, быў інвалідам ад Першай Сусьветнай вайны. Разьбіралі зь дзецьмі гранату, і яму адарвала далонь левай рукі. Бацька з шматдзетнай сям'і. Дзед Стафан паехаў на заробкі ў Амэрыку. Працаваў там гадоў пяць і вяртаўся ўжо ў 1921-м, калі Беларусь па Рыжскай змове якраз падзялілі.

Пасьля бальшавіцкага перавароту ў Расеі ў амэрыканскіх партах шнырылі розныя рускія жулікі ды „матросы-жалязьнякі", намаўлялі людзей садзіцца на расейскія караблі, маўляў, і да Беларусі бліжэй, і „дешевле" да Ленінграда, а адтуль да Менска – рукой падаць. Дзед Стафан, як шчыры беларус, што верыць рускай лухце, паддаўся на агітацыю і паплыў расейскім караблём. У Ленінградзе „пролетарская власть" забрала ў яго ўсе заробленыя грошы і, як сапраўднаму „лапуху", выдалі сэртыфікат, дзе напісалі, што грошы яны ў яго „пазычылі" і што, прад'явіўшы гэты „сэртыфікат", ён зможа свае грошы зноў вярнуць. Натуральна, што ніхто ніякіх грошай па паперцы бальшавіцкіх папандопулаў вяртаць не зьбіраўся. Затое, калі папандопулы з палякамі падзялілі Беларусь і сям'я апынулася „пад Польшчай", дзеда пацягнулі ў дэфэнзіву за гэты ягоны жульніцкі „сэртыфікат" і прад'явілі абвінавачваньні ў фінансаваньні бальшавікоў. Дзеда тупа дапытвалі, і ён ледзь адкараскаўся. Такі быў вынік яго пяцігадовай цяжкай (амаль рабскай) працы ў Амэрыцы.

**З. Пазьняк:** – Ну, гэта тыповая зьява. Калі б ні беларускія даверлівыя „стафаны", сусьветныя жулікі абанкроціліся б, памерлі б з голаду. Нешта я ня чуў, каб такім чынам акалпачылі чачэнца, грузіна, латыша ці нават караіма.

**П. Шашкель:** – Так, даверлівыя нашыя людзі, як дзеці. Дык жа і маму маю тады, у 1945-м, угаварылі гэтыя „асабісты", што арудавалі ў амэрыканскай амбасадзе. Я быў вельмі слабенькі, хварэў, а ў Беларусі бацькі маміны засталіся. Дык асабісты ёй наплялі там: „Да зачэм вам з такім маленькім рэбёнкам, вы жэ не вінаваты. Да нічэво не будзет. Да вот язжайце". Вось яна і паверыла і паехала (у ГУЛАГ).

Дык вось тады, ужо пасьля 1921-га, пад польскай акупацыяй жылося цяжка. Надта вялікая была сям'я. А бацька – інвалід, хацеў вельмі вучыцца. І нехта тады параіў бабулі Хрысьціне ехаць з маім бацькам-інвалідам (яму тады было гадоў 13-14) ў Варшаву да Юзафа Пілсудзкага прасіць дапамогі ў вучобе. І што вы думаеце – бабуля Хрысьціна за хлапца і паехала да Пілсудзкага. І дамаглася прыёму ў Пілсудзкага. Во як!

І вось заходзяць яны ў кабінэт да Пілсудзкага, і тут мая бабуля кажа сыну, што трэба перад такім вялікім начальнікам упасьці на калені, паўзьці і цалаваць яму боты. Ну, бацька і паслухаў: упаў на калені і паўзе.

**З. Пазьняк:** – Ну, якраз, як у народнай казцы – перад каралём Гарохам.

**П. Шашкель:** – Дык вось так, якраз, як у казцы. А Пілсудзкі: „Цо то ест? Прошэ поднесьць се!"

**З. Пазьняк:** – Уяўляю, як быў зьбянтэжаны „начэльны вудз".

**П. Шашкель:** – А хто яго ведае. Тым ня менш ён бацьку дапамог. Бацьку прызначылі стыпендыю і залічылі ў эканамічную школу ў Кракаве. Скончыўшы школу, бацька вярнуўся ў мястэчка Сіняўка (Клецкі раён). Гэта мястэчка было тады знакамітае сваімі рынкамі. У Сіняўцы палякі прызначылі яго войтам. У 1939 бацька, ратуючыся ад бальшавікоў, зьехаў у заходнюю Польшчу. А ўжо ў 1941, калі Беларусь акупавалі немцы, ён вярнуўся ў Сіняўку да бацькоў і тады якраз пабраўся шлюбам з маёй маці. Немцы па рэкамендацыі местачкоўцаў прызначылі яго бурмістрам (войтам) у Сіняўцы. Дарэчы, майго бацьку добра ведаў знаёмы вам Янка Жучка. Бацька Янкі быў солтысам і яго бальшавікі забілі, а Янку ўдалося эміграваць на Захад.

**З. Пазьняк:** – Пётра, што вядома пра замах на Вільгельма Кубэ пад Ганцавічамі?

**П. Шашкель:** – Зімой 1943 года Кубэ павінен быў ехаць на паляваньне ў Машукоўскі лес. Зь Менску ён даязджаў цягніком да Баранавічаў. З Баранавічаў да Сіняўкі на легкавіку, а ўжо там былі падрыхтаваныя сані і ахова. На паляваньне зьбіралася цэлая кампанія эсэсаўцаў (вышэйшых афіцэраў СС). Машукоўскі лес – гэта непадалёк ад Сіняўкі. Тады Клецкі раён. Дарэчы, якраз у гэтым лесе разьмешчана цяпер лакатарная станцыя, якую яшчэ за Кебічам незаконна аддалі расейцам. Цяпер гэта іхняя незаконная ваенная база, якая нішчыць выпраменьваньнем усё наваколле.

Мама казала мне, што ў Сіняўцы ды Баранавічах круціліся некаторыя мясцовыя так званыя „партызаны".

Відаць, ад іх бацька і даведаўся, што рыхтуецца забойства Кубэ на паляваньні. Ведама, разам з гэтымі „партызанамі” ў школу хадзілі, сябрукамі былі, можа нават гарэлку пілі. Такія вось „партызаны”.

Бацька папярэдзіў Кубэ, відаць, у Баранавічах, і Кубэ ў Сіняўку не паехаў. А засада была зроблена гэтым бандзюгам міжнародным – Арлоўскім. Там тады загінулі, дарэчы, два генэралы СС, палкоўнікі і іншыя немцы. Але дасталося і гэтаму энкавэдзісту. Яму гранатай адарвала рукі, ногі. Яго энкавэдзісты перапраўілі ў Маскву, дык калі ён ачнуўся ад комы, то спытаў, ці забіты Кубэ. Яму сказалі „не”. Дык ён траха ня здох ад злосьці.

І вось потым майго бацьку ледзь ні расстраляла СС.

**З. Пазьняк:** – За тое, што папярэдзіў?

**П. Шашкель:** – Відаць, за тое. Цягалі яго. Пэўна даведаліся. Вы ж ведаеце, у якіх стасунках было СС да Кубэ. Ледзь-ледзь ні расстралялі бацьку.

**З. Пазьняк:** – Бач ты, нават не маскаваліся. Зразумела, што СС плянавала забіць Кубэ на паляваньні рукамі „партызанаў”.

**П. Шашкель:** – Так, так.

**З. Пазьняк:** – А Арлоўскага ўскосным чынам навялі на гэтае забойства, спэцыяльна выпусьцілі партызанам уцечку інфармацыі. Але, хутчэй за ўсё, мелі непасрэдныя сувязі з НКВД праз агентуру. Гэта ж аднолькавая банда.

**П. Шашкель:** – Так. Яны, бачыце, маглі нават сваіх генэралаў падставіць. Для іх самае галоўнае было зьнішчыць Кубэ. Тут з НКВД у іх поўнае адзінства.

**З. Пазьняк:** – Так. Прытым НКВД згадзіўся быць выканаўцам забойства, робячы выгляд, што нічога ня ведае пра СС. Готбэрг, канешна, гэта была мразь найніжэйшага гатунку. Але так дзейнічаць ён мог толькі атрымаўшы падтрымку Гімлера.

**П. Шашкель:** – Так, відаць, і было.

**З. Пазьняк:** – Так і было. Пекла, а ня людзі. Ад іх серай пахла. Дарэчы, Гімлер пасьля забойства Кубэ сказаў: „Толькі сьмерць выратавала яго ад канцлягеру”.

## РАЗВАГІ

Антон Шукелойць (які быў асабіста знаёмы з Кубэ на глебе цікавасьці Кубэ да археалогіі і культуры) казаў мне, што Кубэ, відаць, хацеў бы стаць такім удзельным князьком над Беларусяй і кіраваць па сваіх перакананьнях. Доля праўды ў гэтым ёсьць. Кубэ імкнуўся мець больш улады на сваёй адміністрацыйнай тэрыторыі, каб цывільнай адміністрацыі былі часткова падпарадкаваныя паліцыя і іншыя ўстановы. Пазыцыя на той час цалкам нерэальная. Праводзіць сваю лінію мяккай акупацыйнай палітыкі, не ўступаючы ў канфлікт з Гестапа, СС, СД і Вермахтам было немагчыма.

Чым скончыўся такі канфлікт – вядома. Погляды, дзеяньні і пазыцыя Кубэ супярэчылі палітыцы фашызму на акупаваных беларускіх землях. Вынішчэньне габрэяў – гэта асабістая ідэя Гітлера. Меў сваю фашысцкую рацыю Гімлер, калі казаў, што Кубэ мусіў бы сядзець у канцлягеры. І ад гэтай долі яго ратавала толькі асабістая прыхільнасьць Гітлера, які асабіста яго прызначыў на гаўляйтэра Беларусі. Тут зьбег абставінаў з адным невядомым: чаму Гітлер ня рушыў Кубэ?

Ня буду гадаць і адказваць на такое пытаньне, бо яно мае мала сэнсу. Магчыма, Гітлер экспэрымэнтаваў, а магчыма, чакаў, што эсэсаўцы самы разьбяруцца. Яны і „разабраліся”.

Дасьледваньні доктара Юры Туронка аб нямецкай акупацыі ў Беларусі ўзбударажылі ўсю гэбісцкую каламуць. Да сёньняшняга дня ў друку (у Сеціве) зьяўляюцца істэрычныя артыкулы якіх-небудзь нібы „журналістаў”, напісаныя ў стылі НКВД.

Прытым характэрна, пішуць нібыта пра Кубэ, якому імкнуцца прыпісаць тое, чаго ён не рабіў, і ўсяляк абазваць, і ўжо з трэцяга абзаца выліваецца азлоблены лямант на „белорусских националистов”, „подонков”, „предателей”, „самостийных”, якім толькі б „мова”, а на „чаяния народа” начхаць і г. д.

Як кажуць, ад сябе не ўцячэш. Такія пісаньні толькі пацьвярджаюць, якую вайну вёў НКВД у Беларусі пад відам партызанаў, каго і што яны вынішчалі і чаму іх так узбударажыла праўда пра забойства Кубэ.

Дарэчы, беларускія дзеячы ў пэрыяд нямецкай акупацыі (асабліва што датычыць Незалежніцкай партыі) вялі вельмі прадуманую і пісьменную палітыку, змагаючыся на два франты і ратуючы людзей. У іх былі безумоўныя заслугі на той час перад беларускім народам (і перад габрэйскім таксама).

Ім удалося падняць беларускую школу, стварыць масавую беларускую моладзевую арганізацыю (СБМ), падрыхтаваць беларускіх афіцэраў і вайсковыя аддзелы (якія потым перайшлі на бок аліянтаў) і асобным радком – стварыць сістэму ратаваньня габрэяў.

Другая Сусьветная вайна – вынішчэньне краіны з двух бакоў – стала катастрофай для беларускай нацыі. Беларусы страцілі каля трох мільёнаў людзей, кавалкі тэрыторыі, гістарычную сталіцу.

Вынікі перамогі саветаў былі для беларусаў фатальнымі, бо абсалютную ўладу ў краіне захапілі партызаны-НКВД. Яна доўжылася да 90-х гадоў. Гэта быў змрочны час нацыянальнага вынішчэньня, якое працягвае цяпер ужо другое пакаленьне энкавэдзісцкай нечысьці.

* * *

Калі глянуць у корань і дастаткова агульна, то ўбачым, што камунізм і ўсе віды сацыялізму, і ўвогуле – усялякі лявацкі „ізм” – нясуць пагрозу Хрысьціянству і ўсяму чалавецтву. За сто гадоў існаваньня яны моцна пазьнішчылі хрысьціянскую культуру і ўвесь сьвет, але не перамаглі цывілізацыю народаў. Як на мой погляд, найбольшую небясьпеку хрысьціянскай цывілізацыі нясе цяпер не чырвоны, не гістарычна руды, але сацыялістычна-садомскі ружова-блакітны „ізм”, які паралізаваў ужо слабыя розумы Амэрыкі і Эўропы. На нашых вачах адбываецца разбурэньне векавых каштоўнасьцяў чалавецтва, нішчэньне экзыстэнцыяльнага парадку яго сацыяльна-культурнага, маральнага і біялагічнага існаваньня.

Беларусь, якая па няшчасьці знаходзіцца цяпер пад акупацыйным гнётам антыбеларускага рэжыму і перажывае

русіфікацыйны палітычны этнацыд ўсяго беларускага, яшчэ цалкам ня ўцягнута ў гэты гнілы вір цвілізацыйнага распаду, але будучыня яе ўжо будзе нялёгкая, нават калі рэжым безбалесна выпарыцца ў атмасфэры.

Чаго яшчэ ня выпрабавала і што яшчэ зможа вытрываць наша ліцьвінская кроў?

*15 чэрвеня 2013 г.*




*274. Саматужная беларуская паштоўка часоў другой нямецкай акупацыі.*

# СВАЕ

*У цёмную ноч глухую,*
*Перад Днём Задушным,*
*Калі ўжо маўчалі дрэвы і травы,*
*Трывожна было на душы.*
*Хтось пастукаў у шыбы:*
*– Хто там?*
*– Свае.*
*Як добра.*
(1985 г. Глёрыя Патрыя)

Сьвет маладосьці быў сьветам сваіх. Усюды былі свае. Гэта як вялікая сям'я, якая жыла вакол на шырокіх абшарах і, як здавалася, – на ўсім сьвеце. Былі таксама чужыя, але яны жылі „недзе там", у гарадах, нямаведама дзе. Часам яны заляталі ў наш сьвет, нешта гаварылі, крычалі на сваёй тарабаршчыне. Ня важна, што. Іх ня трэба было слухаць і разумець, толькі збавіцца, каб не было, каб ня чуць. Але яны зьяўляліся, як хвароба. І тады мацней пачынаеш цаніць сваіх.

У чужым сьвеце тое жыцьцё ўспамінаеш, як страчаны Рай. Гэты Рай стаіць у вачах, яго мэлёдыя пастаянна гучыць...

Я перайшоў праз кладку і празрыстую рачулку, што цячэ з Прутцоў і ўпадае ў Гаўю. Далей на левым беразе Гаўі разьлягліся Маргі – высокая сенажаць, ператвораная ў выган, дзе мала ўжо хто касіў. Вузкая ўбітая раварамі сьцяжынка пятляе, бяжыць ад рачулкі да маладога хвойнага лесу. Зь лесу выходзіць дзядзька гадоў пад 70 з качарэжкай і бадзёра крочыць наперад. Ён сьпяшае ў касьцёл, ідзе зь нейкай вёскі за лесам. Шэры сурдут і галіфэ, хромавыя боты. На падыходзе ён здымае шапку, зьлёгку кланяецца: „Дзень добры, пану", – і крочыць далей. Мне 17. Ён першы раз мяне бачыць, а я – яго. Але мы – свае. Нельга разьмінуцца моўчкі двум сваім на дарозе, ці моўчкі сядзець у цягніку, ці мінаючы пры рабоце. Трэба загаварыць, ці хаця б павітацца.

„Зь людзьмі трэба гаварыць," – кажа мая бабуля. І калі спатыкаюцца двох сваіх – пачынаецца гаворка.

Цёплым верасьнёўскім днём 1961 года, мінуўшы дзядзьку ў сурдуце, я крочыў пешкі ў Васілевічы (6 км ад Суботнік), дзе толькі што аформіўся на працу загадчыкам сельскага клуба і бібліятэкарам. А тут бачу, жанчына вясковая йдзе, акрыўшыся хустай. Тут я першы прывітаўся здалёк:

– Дзень добры, цётка! Да касьцёла йдзеш?

– Але, мой ты сынку. Ці йшчэ не званілі?

– Званілі ўжо, як раз пазванілі, – кажу.

– А-ей, дзякуй, то трэба сьпяшаць.

Цётка йдзе сабе, я сабе. Мне надта добра. Я часам спыняюся, фатаграфую дарогу сваім „Крышталём" (мадыфікацыя камэры „Зеніт") і крочу далей.

У канцы лесу дарогу перасякае рачулка Якунка і з правага боку нібы раствараецца ў чаратах, сітнягах, высокай балотнай траве перад Гаўёй. Збочваю сюды і з заміраньнем духа здымаю з-пад соснаў гэтую лажбіну-балацінку, сухую траву, першазданны Рай, зь якога пырхнула балотная шэрая птушка. А сэрца калоціцца, як я потым праяўлю стужку з такім хараством і зраблю фатаграфію.

Дарога павярнула налева пад гару. За кілёмэтр – Васілевічы. Аж тут з горкі на ровары Гэльця едзе.

– А во! І што гэта пехатой? Можа дзе, Зэнь, ровар страціў?

– Добры дзень, Гэльця. У Суботнікі выбралася?

– Ну, дык куды ж тут яшчэ паедзеш? Такія хлопцы файныя, – сьмяецца Гэльця ўжо здалёку.

Гэльця з 1926-га года. Старая дзеўка. І не благая, як паглядзіш, жанчынка, а вось ніхто й ня ўзяў. Гэльця і ня супраць бы яшчэ і цяпер замуж, хоць, вядома, які ўжо тут „замуж". Прыходзіла пару разоў у нядзелю ў клуб з маладымі дзеўкамі. Жартуюць сабе, такія ўсе па-вясковаму „гжэчныя", а потым селі купкай і сьпяваюць. Дык Гэльцю найбольш чуваць: „Гэта ты мая, зорка ясная, Ты „любоф" мая непагасная..."

– Гэльця, – кажу, – чаму вы сьпяваеце „любоф", а не як трэба – „любоў"?

– Ну, дык жа ж усюды, і ў кнігах, і ў радыё ўсё „любоф, любоф, – пасьміхаецца Гэльця, – культурныя людзі кажуць „любоф", а мы ж ня горшыя.

Гэльця скончыла чатыры клясы польскай школы пры паляках і ў словах, відаць, ня надта разьбіралася, бо тлумачыла мне:

– У нас дык во кажуць „каханьне", а цяпер усё чуваць, што „любоф".

– А-ей, – сьмяюцца дзеўкі, – нешта, Зэн, не дарма тут пытае. Можа, дзе прыглядаецца ўжо?

– Ну, то дзіва што. У Васілевічах тыля дзяўчат, – падвяла Гэльця, хітра зыркаючы на маладзейшых.

Тады мне, „местачковаму гусаку", сьмех быў з гэтых простых вясковых дзяўчат (я ж такі во, разьвіты, начытаны, наслуханы, кіна нагледжаны). Цяпер успамінаю са шчымленьнем у сэрцы. Мілыя дзяўчаты, ці жывеце вы яшчэ на гэтай зямлі, ці здаровыя, ці не абмінула вас тая „любоф"?

Камбінацыі могуць быць і банальныя, і нечаканыя. Аднойчы, гадоў праз дзесяць пасьля сканчэньня школы, я ехаў аўтобусам зь Ліды ў Суботнікі. У Ліпнішках зайшла мая аднакласьніца Дануся з Падваранцаў. Мы ня бачыліся 10 гадоў і ўзрадваліся адзін аднаму, хоць ніколі не былі нават сябрамі. Гаварылі-успаміналі. Дануся вельмі прыгожая дзяўчына з шляхетным абліччам і манерамі, скончыла педінстытут, працуе настаўніцай.

– Дануся, ты замужам? Ці ёсьць муж, дзеці?

– Ты ведаеш, не. Раблюся во старой дзеўкай.

– А хацела б?

– Хацела б, вядома. Асабліва хацелася б мець сваіх дзяцей. А то ўсё з чужымі. Хаця я ўвогуле ўсіх люблю. Але ж каб свае былі...

– Ведаеш, для мяне гэта дзіва. Ты такая прыгожая, разумная, выхаваная, і цяпер во, адукаваная – і ня замужам. Непрыгожыя і дурнаватыя павыходзілі, а ты не.

– Няма за каго. Моладзь зьехала ў горад. У нашай сельскай дзіры засталіся п’яніцы і недалэнгі. Ну куды мне за такога йсьці?! Пра што зь ім гаварыць? Апускацца? Ну і нейкая ж мілата чалавечая мусіць быць. Мужчынам лягчэй. А ўвогуле ўсё адно. П’юць во.

– Слухай, Дануся, – кажу, – мы ж сваe. Калі знайду добрага беларуса, то прывязу. Пойдзеш?

– Згода. Прывозь, – сьмяецца Дануся, – са станоўчай характарыстыкай прымем. Паглядзім, што там за беларус.

Прыехаўшы дахаты, расказаў маці пра Данусю.

– О, сынок, – кажа маці, – во была б табе жонка, і людзі прыстойныя, сям’я шляхетная.

– Мне была б, але я б ёй ня быў.

– А чаму так кажаш?

– Маці ведае: мне чакае дальняя дарога, шырокі сьвет.

– Куды дарога? А як я?

– Ня ведаю. Нічога ня ведаю. Але дарога перада мной. Я мушу па ёйісьці.

– Ты нешта ўбіў сабе ў галаву?

– Нічога ня ўбіў, маці, нават кажу, ня думаючы ні аб чым, але кажу, бо само кажацца.

Назаўтра ў другой палове дня мы выбраліся ў Сурвілішкі, дзе жылі нашыя блізкія сваякі. Прайшлі кілёмэтраў 5, выйшлі за Замаслава і дагнала нас велізарная чорная хмара з бліскавіцамі. Схавацца не было дзе і вырашылі вярнуцца ў Замаслава, ад якога, праўда, парадкам адышлі, і там перачакаць. Вяртаньне было няўдалым, бо халодны лівень нас злавіў па дарозе і так адхлістаў, што я не на жарт устрывожыўся за маці, каб не захварэла. Калі падышлі да першых дамоў, дождж ужо сьціхаў. Мы нават прыглядаліся, у які дом зайсьці. Гэта быў ня наш сельсавет, і маці (вядомую ў Суботніках) маглі ня ведаць. Мы пастукалі ў дзьверы. Нам адчыніла жанчынка гадоў сарака пяці, не пытаючы, прапусьціла ў хату. Тады мы выбачыліся і кажам, што вымаклі, дык ці можна б было ў іхнай хаце пабыць і абсохнуць, пакуль хмара пройдзе.

– Ну, пэўня, што можна. Адкуль жа будзеце?

– Сваe, – кажа маці, – з Суботнікаў.

– А, з Суботнікаў. Але ж і прамачыў вас. Здымайце, выкручвайце. Зараз дам што сухое.

Маці дастаўся жаночы халат. Мне нічога не знайшлося, дык я ахінуўся посьцілкай, вытканай „кошычкам” і гэтак сядзеў сабе на табурэтцы, пакуль жанчыны ціха размаўлялі і сохла адзеньне. Гаспадыня нагрэла гарбаты і прапанавала выпіць гарачай, запарыўшы чабаром (каб дзе якая прастуда ні падпала).

Хмара мінула, дождж скончыўся, і на захадзе бліснула жоўтае сонца. Ну дзе ўжо там тыя Сурвілішкі, на ноч гледзячы. Мы апрануліся ў яшчэ недасохлае вільготнае адзеньне і, падзякваўшы ды разьвітаўшыся зь людзьмі, хутка пайшлі назад у Суботнікі.

Прыйшлі, калі ўжо запаліліся першыя зоркі. Пераапрануліся ў сухое і падпалілі ў печы. Печка гудзела. Полымя ахінала чугунок, дзе кіпела вада і варылася бульба. А маці і кажа: „Як добра, мой сын, мець свой родны дом, як добра!”

Я памятаю ўжо канец саракавых, калі людзі мелі яшчэ коней, зямлю, гаспадарку. Асноўны транспарт быў конь, запрэжаная фурманка. І часта, асабліва зімой, людзі ехалі канём і вярталіся аднекуль позна, ці ехалі далёка, ці засьпела ў дарозе мяцеліца. Тады, звыклая справа, грукаліся па дарозе да каго-небудзь у дом і прасіліся пераначаваць. Пускалі абавязкова. Гэта быў закон. Ніколі ня чуў ніводнага выпадку, каб нехта не пусьціў пераначаваць. Гэты звычай цягнуўся спрадвеку. Часьцей за ўсё такім гасьцям былі радыя, бо ўзьнікала гаворка, знаёмства, шмат чаго можна было даведацца.

Памятаю зімой мы ўжо лажыліся спаць, аж стукаюць у дзьверы.

– А хто? – пытае дзед Яўхім.

– Сваe, гаспадар. З Гуты. Едзем во. Дык гэта, можа, каб пусьцілі пераначаваць.

Дзед адчыніў. Уваходзіць дзядзька ў бурносе, з накінутым капюшонам, і кабета ў кажуху.

– Пахвалёны ў хату.

– На векі, – кажа дзед.

– Гэта ж во, аж з самой Ліды едзем (да Ліды 43 км). Дык ужо конь прыстаў, а тут мяцеліца.

– Дык начуйце, просім, – кажа дзед Яўхім, – куды ўжо там на ноч ехаць. Толькі ў нас дык спаць няма на чым.

– О, пане, – кажа „бурнос”, – нічога, на падлозе перасьпім.

Госьці распрануліся. Дзядзька быў вусаты з рыжымі абледзянелымі на марозе вусамі. Цётка – круглатварая жанчынка з чорнымі вачыма і набожным выглядам. Дзед пайшоў у гумно, прынёс два кулі саломы, разаслаў на падлозе і накрыў дзяругай, замест прасьціны, яшчэ пасьцілку наверх і два кажухі.

– Накрывайцеся во кажухамі. Тут ёсьць капуста ў печы, яшчэ гарачая, дык просім павячэраць.

– А, гаспадару, ня трэба клопату. Мы ўжо так, ды й сваё ёсьць.

– Ну, так, – кажа дзед. – Хто з сабой носіць, той есьць ня просіць, але гарачага з марозу трэба, то ўжо не адмаўляйцеся.

Дзед зь дзядзькам пайшлі распрэглі каня і завялі ў хлеў. Потым яшчэ пагаварылі пры лямпе. Пра што – ня чуў, бо маці загадала йсьці спаць. Калі я прачнуўся, ні нашых гасьцей, ні саломы ўжо не было. Усе сабраліся на кухні і пра нешта гаварылі. Памятаю голас бабулі Фэлі зь яе северскім дыялектам: „Відаць, Яхімачка, ваны добрые людэ”.

Так, як гаварыла бабуля, размаўлялі таксама ва ўсходнім Палесьсі. У 20 гадоў я крыху паезьдзіў па ім, быў У Юравічах, Нароўлі, Лельчыцах, Мазыры, Каленкавічах, Петрыкаве, Давыд-Гарадку, Альшанах і розных іншых мясьцінах, вёсках ды хутарах. Шукаў то нейкі волат-дуб (усё па заданьні арганізацыйнай групы Гістарычнага музэя, дзе я працаваў), то нейкія горы, то граніты сярод балота.

Гэтыя граніты і завялі мяне ў Глушкавічы (велізарная вёска з адной вуліцай на 5 км і насельніцтвам у пяць тысяч чалавек).

Ехаў я зь Лельчыцаў у тыя Глушкавічы дапатопным аўтобусам-фургонам цэлы дзень, хоць туды толькі 50 км. Рухаліся, відаць, з хуткасьцю 10 км на гадзіну, спыняліся, буксавалі, аб’язджалі. Месца, па якім мы ехалі, чамусьці



*275. Рака Гарынь цячэ праз Альшаны. (Фота 1969 г. «Салют» 6 х 6).*

называлася дарогай, але на самой справе гэта быў набор калдобін, сыпучанага пяску, гразі і ямаў з непрасыхаючай водой. Я ніколі ня меў клопатаў зь ніякой там „марской хваробай”, ніякі карабель і ніякі самалёт-кукурузьнік (дзе трасе, як у ліхаманцы) мяне не бянтэжыў, усё было ні па чым. Але калі мы вечарам на заходзе сонца пад’язджалі да Глушкавіч, я ікаў ад перанапружаньня па трасучай дарозе і пляваўся цягучай сьлінай.

На ганку сельсавета сядзела грамада мужчын і размаўлялі. Я падышоў, прадставіўся, сказаў, чаго прыехаў і папрасіў, каб параілі дзе пераначаваць. Адзін з мужчынаў (відаць, старшыня сельсавета) паказаў на дальнюю хату.

– Добры дзень, дзядзько, – кажу дзядзьку на падворку. Я зь Лельчыц аўтобусам прыехаў. Ці можна пераначаваць?

– Начуйтэ, – нешматслоўна азваўся дзядзька, – ідзець у хату.

У хаце я павітаўся з жанчынай у гадах:

– Свае, – кажу, – цётко. Гаспадар кажэ, што можно пераначаваць.

Ніякіх пытаньняў. Жанчына завяла ў асобны пакой перад сьвятліцай і кажа: – От тутачкі, разьдзягайтэсь і начуйтэ.

Потым прынесла мне малака з хлебам і кажа:

– Мы ўжэ павячэралі, то хай, панэ, малака пап’е.

Доўга ня мог заснуць, хоць і перамучыўся. Найперш таму, што здалёк чуваць было, як дзяўчаты сьпявалі песьні. Не савецкую ерунду, а свае. Я ляжаў, слухаў і ўяўляў гэтых дзяўчат.

Па-другое – даймалі блохі. На вуліцы пясок, лета, цёпла, куры, каты, сабакі – блохам раздольле. Слухаючы чароўныя сьпевы, я ўспамінаў прачытанае, як закаханы рыцар Арчыбальд фон Вогемут гаварыў пра каханьне Клатыльдзе, як уздымаліся ад хваляваньня яе грудзі і як рыцар Арчыбальд ня мог адвесьці погляд ад мілых чырвоных плямак на яе пяшчотнай шыйцы – сьляды ад пакусаньня блох.

Але нешта я ня памятаю, каб нашых вялікіх рыцараў кусалі блохі, ці, скажам, Соньку Гальшанскую. Ну, вядома, думаю, Вялікі Вітаўт, Ягайла, Альгерд жылі ў высокай

вежы і блохі туды да іх не даскоквалі. Але і сярэдняе рыцарства спала не на саломе, як той Арчыбальд. Але любоў не ху-ху – палюбіш і блаху. Так і той небарака. Гэта яны на турнірах перад дзеўкамі былі пеўні-гусакі, а як на вайне, дык адразу ў драпакі. Рвалі ад Давыда Гарадзенскага, толькі падковы блішчэлі.

Ці во, Альгерд, думаю. Гэта ж які рыцар! Бухнулі перад ім маскоўцы на калені – ён і дараваў. А ў іх гэтая прывычка яшчэ ад манголаў засталася. Жыць хацелася, дык жонкамі адкупляліся, а тады перад ханскім канём ракам на калені стаць, каб хан паступіўся і на каня сеў.

„Памятайце, – кажа Альгерд, – што маё кап'ё было пад маскоўскай сьцяной."

Ага, надта ім трэба было памятаць. Яны думалі, што абхітрылі рыцара, што „он де прост, как дерево, а наш брат хитер".

Рыцарства, – думаю сабе, – гэта абавязкі роўных. Золата перад сьвіньнямі ня кідаюць. Варварам не даруюць, бо яны таго дараваньня не разумеюць. Маскву трэба было спаліць і ўсіх пасадзіць на кол. Ня мелі б праблем.

Гэтак я ў думках сваіх рашуча выпраўляў памылкі гісторыі, змагаючыся з блохамі.

Словам, блохі – гэта ня жарты. Я нават занепакоіўся, ці ні сажруць яны мяне тут да раніцы.

– Бабо, бабо, там пляшка за шафай е, дак Вася сказаў, што трэба дат, – пачуўся малады хлапечы голас у кухні.

– Ціхо, чоловэк спыць!

– Які чоловэк?

– Хлапэц прыіхаў.

– Дык пойдымо на сэло.

– Выцька, нэ йды! Спыць, кажу.



*276. Даярка з Альшанаў. (Зьнята ў 1969 г. Рэпрадукцыя з аўтарскай кнігі «Глёрыя Патрыя».)*

У дзьверы прасунулася галава Віцькі. Убачыўшы, што я ня сплю і гляджу на яго, Віцька заўсьміхаўся, падышоў да мяне і павітаўся.

– Шчэ нэ спыце?

– Ня сплю, але заўтра рана ўстаю, – намякнуў я, каб Віцька зьнік.

– А табе сколько?

– Двацацаць.

– То ж і мне двацацаць. Я адразу пазнаў, што свой чоловэк. А бабо кажэ – спыць. Слухай, пашлі на сэло. Хлопцы е, дзеўкі.

– Дзякуй, Віцька, – кажу, – ведаеш, прыехаў бяз задніх ног, ледзь жывы, спаць хачу, ну якое там сэло? – прыфарбаваў я крыху сваё становішча. Віцька ўзяў пляшку і пайшоў.

Мне трэба было знайсьці тут выхады гранітных парод (гранітнай мантыі Зямлі) на паверхню Палесься, недзе ў балоце (дзе – ніхто толкам у арганізацыйнай групе музэя ня ведаў) і на рэчцы Убарць, апісаць і сфатаграфаваць гэта для будучай экспэдыцыі. Мапы мне ніякай не далі (бо ня мелі і нічога ня ведалі; у „орггрупе" было поўна „недалэнгаў", якіх сур'ёзна нічога не цікавіла). Едучы зь Лельчыц, я бачыў кавалак Убарці. Паўнаводная рака ў тунэлі над дубамі. Першазданная прырода.

У пяць раніцы я ўжо тупаў праз балота ў лес, бо недзе там за лесам цякла тая Убарць з каменнымі пародамі.

Ішоў пару гадзінаў, а лесу таму канца няма, толькі гусьцейшы робіцца. І рэчкай „ня пахне". Стаў я азірацца. Бачу ўдалечыні паміж дрэваў нейкая постаць маячыць. Падыходжу бліжэй – жанчына ягады чарніцы зьбірае. Думаю, каб яшчэ ні спалохалася. Адвярнуўся я ад яе і пачаў далонямі, нібы пыл з адзеньня зьбіваць, па калашыне пляскаць. Потым паўзіраўся перад сабой і спакойна гэтак адварочваюся ў яе бок, нібы я толькі што яе тут заўважаю.

Кабета разглядала мяне, стараючыся пазнаць. На выгляд ёй было гадоў трыццаць пяць-сорак.




*277. Зь дзецьмі. (1994 г. Паездкі дэпутатаў БНФ па Беларусі).*

– Ня бойцеся, свой, – кажу я здалёк.

Кабета яўна зьдзівілася, убачыўшы тыпа, увешанага фотаапаратамі.

– А дзе тут Убраць цячэ?

– Там, – махнула рукой маладзіца.

– Далёка?

– Кіломэтр мо будэ.

– Ці там дзе якое каменьне у рэчцы е? – пытаю, – так, каб вада бурліла.

– Можэ дэ й е. Я нэ ўзыралэса.

Я пакруціў галавой, аглядаючыся па лесе, а маладзіца, як ні ў чым ні бывала, нагнулася і зноў сабе ягады зьбірае.

– На продаж зьбіраеце? – пытаю.

– На продаж. З буякоў і жывэм.

– А куды возіце? У Лельчыцы?

– У Лельчыцы.

Я ўявіў, і мне стала не па сабе, як людзі выжываюць. Вясной, летам і восеньню транспарт у Глушкавічы рэдка ходзіць альбо ня ходзіць зусім. Дарога (калі тое, па чым я ехаў, можна назваць дарогай) робіцца непраязной.

Калі я ўжо ў другой палове дня вяртаўся з пошукаў (граніты я ўсё ж знайшоў), то дагнаў на дарозе яшчэ двух стомленых маладзіц зь вялізнымі кашамі за плячыма (і яшчэ несьлі ў руках). Гэта яны йшлі зь лесу, ягадаў назьбіралі.

На невялікім выгане ў канцы сяла поўна дзяцей. Узяўшыся за ручкі, водзяць харавод і сьпяваюць. Я прыслухаўся: „А я жыта ня жала, А я жыта ня жала, А я жыта ня жала – у баразёнцы ляжала...” – Бавяцца адны дзяўчынкі.

Я прыпыніўся і кажу:

– От добра, вы так хораша сьпяваеце. А дзе хлопчыкі?

– А яны з намі ня бавяцца, – адказвае старэйшая. – У іх свае гульні.

На другі канец вялікага сяла я дайсьці яшчэ не пасьпеў, як з поўдня дагнала мяне цёмная, як ноч, дажджавая хмара, што бліскатала маланкамі, пачаўся дождж. Нейкая жанчына, ратуючыся, ляцела наўскасяк да крайняй хаты, ускочыла ў дзьверы, азірнулася, убачыла мяне на дарозе і крычыць у дзвярах:

– Хавайсэ, дзядзько!

Я ўбег усьлед за ёй у хату, добра такі перамоклы. А маладзіца сьмяецца:

– От даў, дак даў ужэ! Навалніца. Сядайце во, пэрэчэкайтэ.

Я сеў на табурэтку, аддыхаўся і скзаў ёй хто я і адкуль.

– О шчэ доўга будэ, – кажа кабета, – раздзягайтэся, пасушэць адзежу. – А потым памаўчала і гаворыць: – Гарачая капуста е, мо’ б дзядзько зьеў.

Я згадзіўся і шчыра кажу, што цэлы дзень ня еў. Кабету звалі Хвядора. Разгаварыліся пра начальства. Старшыня сельсавета «свой» сказала Хвядора, а старшыня калгаса прысланы нейкі «рускі».

– А чаму думаеце, што рускі? – Пытаюся.

– Таму што гад, – кажа Хвядора.

– А чаму гад?

– Гад ён і е гад. У нас така Хоўра е. Дак яму ў вочы кажэ: дурань ты, я цябе не баюса.

– Дык а што ён зрабіў?

– Дак жэ вышыванкі бабам не дазволіў насыць. Кажэ цыганы вы. Якія ж мы цыганы, мы ж біларусы.

Цікава, што я ўжо другі раз ў розных месцах пачуў дакладна такую гісторыю (першы раз у Веткаўскім раёне).

Магчыма была нейкая «руководящая установка». Я спытаў, ці магла б Хвядора мне паказаць свае вышыванкі. Жанчына паадчыняла куфры і я ўбачыў цэлы скарб: кашулі жаночыя, мужчынскія, намiткі, ручнікі, андаракі, паясы, жычкі, сурвэты, посьцілкі... Цуд хараства. «Лявона Баразну б сюды», – падумаў я.

– І гэта ўсё сама Хвядора выткала, вышыла? – Пытаюся.

– Сама, шчэ дзеўкай была. Гэта што? Вунь у мае суседкі Волі – я такога не маю. Яна і цяпер тчэ.

Неўзабаве Хвядора выбегла і прывяла Волю. Потым я фатаграфаваў іх у квяцістых строях, нахвальваючы іхняе адзеньне. Жанчыны развесяліліся, гледзячы на маё завіханьне, і кажуць, што можа б я ім іхніх дзетак зьняў.

– З зодовольненьнем, – кажу. Вышаў на двор і аслупянеў: цэлы двор дзетвары – адзін пад адным.

– Чые гэта? – Пытаюся.

– То ж нашы, – сьмяюцца жанчыны, – і шчэ не ўсі.

– Як не ўсі?

– Ну, шчэ будуць. Тадзе ўжэ усі.

– А чалавекі дзе?

– На зарабатках. Кажнэ лето.

Я ведаў, што гэта звычайная зьява на Палесьсі. Людзі выжываюць як могуць. Мужчыны па паўгода жонак ня бачаць. Асабліва на Століншчыне, дзе зямлі мала. Як, зрэшты, і ў Глушкавічах. Ды й калгасы ўсюды.

Крыху пазьней, калі мне было 23, я прыехаў у Браслаў (дакладней, прыляцеў на „кукурузьніку” – гадзіна лёту) здымаць фотаальбом „Браслаўшчына”. Шмат там было спатканьняў з цікавымі людзьмі ды розных гісторый, якія і цяпер грэюць сэрца. І асабліва памятаюцца гісторыі зь дзецьмі. Нейкі дзівосны сьвет – гэтая Браслаўшчына.

Я прыйшоў у гасьцініцу (мураваную двухпаверхавую) і прашу пакой на другім паверсе. „Нічога няма”, – кажа мне жанчынка за шкляным вакенцам (на выгляд гадоў пад сорак). Гэта звыклая была справа за саветамі, куды б ні паехаў – у гасьцініцах месцаў няма. Гасьцініц проста не хапала, а для начальства – заўсёды „бронь”.

– Я хацеў бы даведацца ўсё ж пра адну вельмі важную справу, – кажу я далей і раблю паўзу. Маладзіца глядзіць і маўчыць. – Дзе б тут у вас можна б было патанцаваць?

– А во тут якраз недалёка, перад кінатэатрам танцпляцоўка ў парку. Танцы ў 7 вечара. – (Ведаў я пра гэтую «пляцоўку».)

– От табе й на, – кажу, – танцы ёсьць, а танцаваць тут немагчыма. Немагчыма тут танцаваць.

– Чаму немагчыма – ідзіце і танцуйце сабе.

– Тут ніхто ня пойдзе са мной танцаваць.

– Ну, чаму ня пойдзе? Паспрабуйце.

– Ну вось я спрабую. Уявіце. На танцпляцоўку прыходзіць тып у бэрэце, штармоўцы і з чамаданам у левай руцэ, купляе талончык, падходзіць да дзяўчыны, ставіць чамадан на падлогу, кланяецца і запрашае яе на вальс. Усе глядзяць. Гэта ж кіно! Фантамас. Вы пайшлі б танцаваць з Фантамасам?

Маладзіца ўсьміхнулася.

– Ну, чамадан можна пакінуць.



*278. Сьцяна мураванага млына ў Зараччы (каля Браслава). Фота 1968 г. «Салют» 6 х 6.*

– Але пакінуць можна толькі на другім паверсе. Інакш ён уцячэ.

– На другім не атрымаецца. Хіба што на першым.

Так я засяліўся ў гасьцініцу на першы паверх. Адміністратарку звалі Яніна. Яна была вельмі стрыманай, нешматслоўнай, але сэрца мела проста мацярынскае. Пазьней, калі я прыязджаў у Браслаў, яна бывала зноў кажа: „Месцаў няма”. Тады я клаў руку на сэрца і казаў: „Яніна, паглядзіце на мяне. Ну, я ж свой!”

Яніна зноў моўчкі стрымана ўсьміхалася і сяліла мяне ў добры пакой.

Назаўтра я пайшоў у дзіцячы сад. Для альбома хацеў зьняць дзяцей. Прадставіўся і папрасіў старэйшую групу. Выхавацелькі паставіліся да мяне вельмі прыязна і дапамагалі ва ўсім, што я прасіў.

Спачатку мы ўсе танцавалі, потым сьпявалі. Дзеткі па камандзе выхавацелек цягнулі нейкую рускую гуму. Тады я пачаў зь імі сьпяваць і развучваць сваю песьню:

Як паехаў я ў сваты,
Сказалі мне сесьці,
Далі бульбу з мундзірамі
Ды сказалі есьці.
Я й на тую бараболю
Скрыва пазіраю.
Ляжыць сала на паліцы,
На яго міргаю.

Пры гэтым узяўшы двух жвавых хлопчыкаў за рукі, я яшчэ падтанцоўваў у рытм песьні (гэтакія „бугі-вугі”). Песьня спадабалася і вывучылі імгненна.

Потым мы гулялі ў ручны мяч. Я стаяў у брамцы, а дзеці кідалі мне. Усе мы поўзалі, качаліся, лёталі – вэрхал, крык. Выхавацелькі толькі супакойвалі.

Потым па маёй просьбе выхавацелькі павялі іх на шпацыр на вяршыню Браслаўскага замчышча (там я заплянаваў здымку). Па дарозе я дзеля жарту навучыў хлопчыка, які

прыстаў да мяне, як хвосьцік, новай дзіцячай песьні, якую, я ведаю, старэйшыя хлопцы ў Вільні некалі навучылі майго малога пяцігадовага бацьку, і ён яе публічна недзе там выканаў (пад рогат слухачоў). Гэта такі марш:

Цыпулы, цыпулы
Харошая баба:
Цыцкі ёсьць,
Лыткі ёсьць –
Чаго табе нада?

Хлопчык аказаўся кемлівым, адразу запомніў і ўжо пачаў выконваць, так што прышлося адцягваць яго ўвагу (каб ня выявілі рэжысёра).

На замчышчы стала так весела, што дзеці перасталі слухаць каманды выхавацелькі (толькі мае). Прышлося іх назад у садок таксама мне адводзіць. А як разьвіталіся, усе махалі ручкамі і крычалі хорам – кожны сваё.

Але самае кур'ёзнае здарылася праз тры-чатары дні. Я ішоў па цэнтральнай вуліцы Браслава. Наперадзе ідзе маладая інтэлігентная з выгляду жанчынка і вядзе за ручку дзьвюх дзяўчынак, гадоў 5-6-ці. Не даходзячы мэтраў дзесяць да мяне, дзяўчынкі вырываюцца ад маткі і з радаснымі крыкамі „дзядзя-дзядзя" бягуць да мяне, хапаюць і абымаюць за ногі. Я падхопліваю і бяру іх на рукі. Дзяўчынкі пішчаць ад радасьці.

Тут трэба было бачыць іхнюю маму. Выгляд, які быў у гэтай кабеты, у народзе трапна абазначаюць словамі „ступар", „стаўбун", „параліч" і г. д., а цяпер модным слоўцам „шок". А ўвогуле, яна хутка апамяталася: „А-а, усё, я зразумела. Гэта вы былі ў садку. Вось табе і раз. Яны мне вушы пра вас пражужэлі..." і г. д. Словам, я стаў папулярнай асобай сярод дзетак дашкольнага ўзросту.

Наступны раз я прыехаў у Браслаў у сярэдзіне траўня. Стукнуў ў грудзі перад Янінай, сказаўшы, што я „свой". Яніна ўсьміхнулася мне сваёй мацярынскай загадкавай усьмешкай і пасяліла ў пакой на першым паверсе.

Адзін раз я прышоў у пакой і ўбачыў на стале ля вакна букет бэзу. Я паставіў бэз у вазу і спытаў пакаёўку, хто прынёс. Пакаёўка ня мела паняцьця. Яна не прыносіла.

Праз дзень, калі я прышоў у пакой, то ўбачыў іншы сьвежы букет бэзу на тым жа месцы. Пах стаяў у пакоі. Пакаёўка зноў нічога ня ведала. Тут, праўда, узьніклі тады ў мяне знаёмствы зь некалькімі прыстойнымі дзяўчатамі, але такога нельга было спадзявацца. (Хаця жанчына – гэта таямніца.)

Пасьля трэцяга букета я вырашыў прыпільнаваць. Зайшоў незаўважна днём у гатэль, лёг на ложак і чытаю. Раптам – шамялёх! І на стол падае букет бэзу. Укінулі праз фортку. Я да вакна – пуста.

Прыпільнаваў наступным разам. Кінуўся да вакна і ўбачыў, як за вугал дома ўцякалі дзеці. Я выскачыў з гатэлю. Купка дзетак гадкоў па 8 перабягала вуліцу.

„А-а-а, – кажу, – во якія вы харошыя! Але ж вы і спрытныя. І ніяк я вас ня мог заўважыць. Я думаў, можа гэта якія невідзімкі."

Дзеткі (чатырох хлопчыкаў і адна дзяўчынка) былі вельмі зьбянтэжаныя, усьміхаліся сарамліва і ўсё маўчалі. „Вы тут пабудзьце, – кажу, – пагуляйце, а я зараз вярнуўся." Я пайшоў у краму, накупляў цукерак, але дзеці зьніклі. Потым я адшукаў аднаго хлопчыка:

– А цябе як завуць?

– Віцька.

– Во, гэта цукеркі, Віцька, на ўсіх дзяцей. Падзяліліся з усімі, бо ты ж рыцар, а рыцары, сам ведаеш, гэта людзі гонару, яны з усімі дзеляцца.

Віцька ўзяў цукеркі і ўжо быў пабег, але спыніўся і кажа:

–Спасіба.

– Не „спасіба", а дзякуй, рыцары кажуць – дзякуй.

– Дзякуй, – паўтарыў Віцька і пабег.

Здымаючы азёры і людзей, я дамовіўся ўжо ў канцы жніўня з адной турыстычнай групай і паплыў зь імі на лодках у бок Плюсаў і Друі па ланцугу азёр і пераплываў. Па пляну я недзе за кілёмэтраў 9-10 мусіў бы выйсьці на бераг і здымаць ваколіцы, ідучы ў бок Браслава. Мапы я ня меў, бо пры саветах падрабязных мапаў не было (усё засакрэчана). Сам арыентаваўся і складаў мапы. Ды й не праблема, я хадзіў па 30-40 км у дзень і ніколі не блудзіў. Ёсьць сонца, зоры і компас. Але тут я патрапіў у сытуацыю надзвычайную. Па дарозе нас дагнала велізарная чорная хмара. Бліскала і грымела, і больш за дзьве гадзіны ліў такі лівень, што здавалася пачаўся патоп. Мяне ратаваў доўгі кляёнчаты плашч.

Калі сьціхла ўлева, быў ужо вечар. Надвор'е зьмянілася, неба стала моцна хмарным, пачало хутка цямнець. Лодкі прысталі да берагу, я выйшаў, разьвітаўся з турыстамі і стаў адразу разглядацца, дзе я апынуўся. Мясьціна незнаёмая, я тут яшчэ не хадзіў. Першым чынам я вызначыў, у якім баку Браслаў і пайшоў хутка шукаць дарогу, пакуль не сьцямнела зусім. Інакш прышлося б недзе сядзець да раніцы (і агонь не раскладзеш у такой макрэчы).

Дарогу грунтовую я знайшоў, калі яшчэ ліпеў паўзмрок, і хутка пайшоў. Стала, як заўсёды пасьля вячэрняга дажджу, вельмі ціха. Недзе збоку была сядзіба і чуваць было, як даілі карову („Стой, каб цябе, стой!"). Неўзабаве апусьцілася ноч. Цемра стала такой густой, такой ліпкай, што я, ідучы, выстаўляў наперад руку, каб на што ні натыкнуцца. І натыкаўся – то на кусты, то на галіны, то на дрэва. Найгорш было, калі дарога паварочвала. Знайсьці яе можна было толькі навобмацак. Я ўжо не кажу, колькі разоў я плюхаўся ў дажджавыя лужы. Рэдка мне прыходзілася трапляць у такую цемру. Але я заўважыў, што заўсёды гэта было зьвязана з дажджавымі хмарамі.

Ратавала тое, што далёка наперадзе і крыху справа відаць быў ледзь прыкметны падсьвет неба. Гэта сьвятло ад агнёў далёкага Браслава адбівалася ў атмасфэры.

Раптам у правальнай цемры і цішыні пачуліся далёкія галасы. Яны набліжаліся. Неўзабаве я пачуў тарахценьне калёс і храп каня. Я распазнаў тры жаночыя галасы, але ўражаньне, што іх было больш. Яны гучна і весела гаварылі і сьмяяліся час ад часу. Калі галасы сталі побач (анічога ж ня бачна – ну і ноч!), я і кажу са сваёй цемры:

– А куды гэта шаноўныя пані едуць?

Галасы імгненна сьціхлі. Цішыня.

– А хто там пан такі ёсьць? – азваўся грудны жаночы альт.

– Я свой.

– Ну, дык і мы свае.
– Я ў Браслаў іду.
– О, не, мы тут на Струсту павернем.
– Цікава, – кажу, – нічога ж не відаць, як вы дарогу бачыце? А яшчэ і паварочваць зьбіраецеся?
– А й праўда! – кажа другі жаночы голас.
– Дык жа конь вязе, – пачуўся мужчынскі бас, – конь ведае.
– О, і пан ёсьць. А я думаў, адны дзеўкі.
– Дарма думаў, – засакаталі галасы, – нас тут шмат.
– Шкада толькі, што цёмна. Ня бачу, якія вы харошыя.
– Прыходзь заўтра, паглядзіш, – данеслася ўжо здалёку і жанчыны зарагаталі. Галасы аддаляліся, слоў не разабраць, толькі гукі, нібы вечарам каўкі на касьцельнай вежы – дзівосная музыка гэтай зямлі. І прамаўляе яна жаночымі галасамі.
Па адчуваньнях, здаецца, я вышаў на адкрытую прастору. Сьветлае зарыва павялічвалася, набліжалася.
Позьняй ноччу, неверагодна стомлены, у гумовых ботах, у кляёначным зялёным плашчы, увешаны сумкамі з-пад апаратуры, галодны цэлы дзень, я ўрэшце дацягнуўся да Браслава. Было ўжо нешта каля 12-й ночы. Браслаўскі рэстаран ужо зачыніўся, але яшчэ гарэла сьвятло, і я ўваліўся ў залю. За сталамі сядзела яшчэ пару п'яніц, афіцыянткі парадкавалі сталы, здымалі сурвэты, падымалі крэслы.
Не распранаючыся, я плюхнуўся ў крэсла і сядзеў. Ногі гарэлі ад доўгай хадзьбы ў гумовых ботах. Падыйшла высокая мажная жанчына і неяк па-мацярынску паглядзела на мяне.
– Што-небудзь хацелі?
– Калі яшчэ што ёсьць.
– Толькі гарачая капуста і рыба.
Я моўчкі кіўнуў. Яна мне прынесла вялізную, налітую да краёў талерку гарачай капусты, такую ж талерку рыбы і амаль паўбуханкі хлеба. Я з удзячнасьцю паглядзеў на яе. Жанчына ўсьміхнулася і кажа: „Калі ласка, ешце на здароўе".
Гэтая капуста мне запомнілася надоўга. Такой смачнай я ня еў ніколі. Уражаньне было такое моцнае ад усяго перажытага, зрэшты, простага і любімага, што потым я напісаў нават вершык у стылі фатаграфіі:

Без дарог, праз палі,
па дажджы
Дацягнуўся да Браслава
ўноч.
О, гарачая капуста!
Лыжка ў руцэ дрыжыць.

Па асацыяцыі ўспомнілася, як у час адной з такіх вандровак я зайшоў у Опсу (мястэчка за 15 км ад Браслава) і вырашыў паабедаць. У местачковай сталовай у гэты час не было нікога. Жанчыны нешта весела абмяркоўвалі, калі я ўвайшоў. Яны таксама прынесьлі мне да краёў налітую талерку і такую ж талерку смажонкі.
Я тады заупарціўся:
– Вы што, жанчынкі, паненкі, я столькі ня зьем.
– А што тут есьці для мужчыны? На адзін зуб, – загаварыла весела тая, што прынесла. – Ешце на здароўе. Хіба бо ня смачна? – хітравата спытала яна. Я пакаштаваў і кажу:
– Ніколі такога смачнага ня еў (і гэта праўда). Дайце мне якую там кнігу запісаў, напішу падзяку.
– А няма тут у нас ніякай кнігі. От як зьясьцё, дык і падзяка.
– Ну то ж тады пахвалю вас дырэктару. Дзе дырэктар?
– А я і ёсьць дырэктар, – кажа тая, што прынесла абед.
– І повар таксама, – дадае іншая, і ўсе сьмяюцца.
Беларусы, ведама, ня тыя людзі, што аб'ядаюцца, але, па маіх назіраньнях, паесьці любяць, шануюць застольле (гэта ад шляхты пайшло) і ўвогуле з пустымі рукамі далёка ня ходзяць. Хто носіць з сабой у дарогу пісталет, хто нож, хто грошы, а беларус дык ссабойку. І выходзіць, што ён якраз самы незалежны.
Неяк я сядзеў на траўцы перад касьцёлам у Слабодцы, чакаў аўтобуса з Друі на Браслаў. Тут гэтак адпачывала ўжо каля дзясятка падарожнікаў.
Дзьве жанчыны гадоў пад пяцьдзесят разаслалі ручнік на траве і пачалі падмацоўвацца сваімі прыпасамі. Тут жа збоку сядзіць старэйшы дзядзька (можа, гадоў пад семдзесят) і пачынае зь іх голасна (каб усе чулі) паджартоўваць. Жанчыны спакойна ядуць сабе, нават не глядзяць на дзядзьку, і гэтак жа голасна ў тон яму нешта адказваюць. Пачынаецца імправізаваны спэктакль: перакідваюцца жарцікамі і нешта ўдаюць (прыдумваюць дачыненьні). У гэтым выпадку дзядзька ўдае, што шукае жонку і прыглядаецца да кабет. Жанчыны даюць ганьбу шукальніку. Тут ніякіх эмоцый, прагаворваецца толькі тэкст, імітуюцца намеры. Слухачы слухаюць, глядзяць і ўсьміхаюцца. Усе разумеюць правілы прадстаўленьня.
– Так, як паўзіраешся, дык файныя дзеўкі, адно дзела. Але ж ядуць во, брат ты мой, га? Такую кілбасу цісьне. Ну вазьмі такую за жонку, дык яна ж гаспадарку праесьць. А-га-га, – вохкае дзядзька, – гэта ж во як есьць. А зубы, як у шчупака.
– Ідзі, ідзі, – адказваюць цёткі, жуючы і ня гледзячы на дзядзьку, – у нас па дарозе не такія мальцы былі.
Спэктакль працягваецца.
Такое я бачыў толькі ў Беларусі. І часта. Асабліва, калі зьбіраюцца простыя людзі, найперш сяляне, калі ўсім добра і ў запасе ёсьць час. Беларус па прыродзе ня злы, не агрэсіўны, але асьцярожны. У сваім асяроддзі яму хочацца пажартаваць. Гумар яго вельмі своеасаблівы і лагодны. У ім няма злой іроніі і сатыры – адна камэдыя.
Часам сьмешна, калі беларус нават не жартуе. У Браславе я пазнаёміўся з двумя дзесяцікласьніцамі-выпускніцамі. Я іх сфатаграфаваў (яны ёсьць у мяне ў альбоме). Праз год-паўтары, будучы ў Браславе, я зайшоў у кіно на „Фантамаса". У фае са мной павіталася адна зь іх – лагодная поўненькая дзяўчына з блакітнымі вачыма. Побач зь ёй сядзеў нейкі маўклівы хлапец, заняты сваімі думкамі. Я распытаў пра яе жыццё пасьля школы, тое ды сёе. Дзяўчына была такая мілая, прыязная і па-даросламу разважлівая.
– А гэта ж во, хлапец мой, – павярнулася яна да маўклівага хлапца. Той ніяк не зрэагаваў, толькі трохі галавой крутнуў.

– Ну, спакойны во, – працягвала таўстушка, узіраючыся на хлапца, – але свой, – і так глядзіць на яго, як старэйшая, ды ўсьміхаецца. Хлапец – нуль увагі. Паглядзеў у вакно і далей маўчыць.

Мне як чалавеку, які меў дачыненьні да тэатра, надта цікава было такія сцэны назіраць. Гэта тонкая камэдыя, прытым тыпова беларуская і просіцца на сцэну.

Яна яшчэ трохі расказала пра свайго хлапца ў яго прысутнасьці (прытым ён, здаецца, нават ня слухаў) і мы разышліся ў залю. Пачаўся „Фантамас".

Тады я зьбіраўся яшчэ зьезьдзіць у Невель і Себеж, але не атрымалася. Цікаўнасьць узбуджаў ня столькі Ян Баршчэўскі сваім „Шляхціцам Завальняй", колькі тое, што і там у мяне зьявіліся сваякі (праўда, не па крыві, а набытыя). Мой стрыечны віленскі дзядзька Стась па матчынай лініі ўзяў жонку зь Невеля. Яе маці („Пятроўна", як яе называлі) лічыла сваю Марусю лепшай за майго дзядзьку, і мне ўвесь час наводзіла крытыку на яго. (Мне, бо я ўвогуле любіў пагаварыць са старэйшымі людзьмі і паслухаць).

„Прыйшоў такей п'янэй-п'янэй, – чыхвосьціла яна свайго зяця і майго дзядзьку. – А шціблецікі на ём лядашчыя. Нічога ня есьць, толькі п'ець. Устанець, дзе якой картошкі два разы кляўнець і далей п'ець. Ах ты, думаю, радзімец цябе бяры!"

Пра дзядзьку, вядома, поўнае глупства (хоць дзядзька пры аказіі выпіць і не адмаўляўся). Ён быў кіраўніком ў дызельным дэпо і паважаным чалавекам. Але смаленская гаворка Пятроўны гучэла для мяне, як музыка.

– Пятроўна, мы хто?

– А хто ты такей?

– Я беларус.

– Якей ты беларус? Ты паляк.

– Ну якей жа я паляк – гаворым па-беларуску.

– А ў касьцёл ходзіш, якей ты беларус? Ты паляк. А мы, беларусы, у царкву ходзім.

Словам, старая песьня, якую за сто гадоў рускія папы ў Расеі загналі людзям пад скуру. Яшчэ дзіва, як там ад беларусаў не адракліся. Кінуты народ. Але на Смаленшчыне ён ці ні найлепшы. Мой дзядзька Ясь, што загінуў у 1945-м (згарэў у танку), у 1941-м трапіў на Смаленшчыне ў акружэньне разам з разьбітымі часткамі Чырвонай арміі. Прабіваліся доўга. Іх перахоўвалі смаленскія беларусы. Пазьней дзядзька пісаў у лістах, што лепшых людзей, як на Смаленшчыне, не спатыкаў нідзе.

Што да папоў. На Віленшчыне яшчэ ў 60-х-70-х было звычайна – гаворыш са старэйшым чалавекам па-беларуску, а ён пры гэтым пераказаны, што гаворым па-польску, толькі „проста". Польскія ксяндзы тут (асабліва ў 20-30-х) „папрацавалі" яшчэ мацней, чым папы на ўсходзе – у косьці ўсё залезла. Толькі цяпер, ужо ў XXI-м стагоддзі, новае пакаленьне віленчукоў пачало крыху разьбірацца, што да чаго.

Другі мой віленскі дзядзька Рысь (Рычард, значыць, прозьвішчы зьмененыя) жаніўся таксама на сваёй, але мясцовай з-пад Вільні, на такой Верцы Пяскоўскай. Вэрця дэманстравала сваю «польскасьць,» была агрэсіўнай атэісткай і мела халерычны (каб не сказаць «халерны») тэмпэрамэнт. Дзядзька на рыся быў не падобны, хутчэй на авечку, але быў філосаф і мудрэц. Ён займаў важную пасаду ў міністэрстве, а Верка, скончыўшы унівэрсітэт, была вядомым лекарам. Але натура ёсьць натура. Бывае Вэрця як разыйдзецца на дзядзьку Рыся (супраць рэлігіі ці чаго-небудзь) – тра-та-та, аж маланкі па хаце лётаюць і шкло зьвініць. А дзядзька ў гэты час сабе пазяхае і газэту чытае. І раптам:

– Ха-ха! Вось гэта гумар! Чуеш, аказваецца гэты балван Гіндзюль у партыю ўступіў. Ўжо на «Эльце» камандуе.

Вэрця зсякаецца.

– Які Гіндзюль?

Пачынаецца высьвятленьне «які гэта Гіндзюль» і фантан філіпікаў паступова малее, зьнікае і ўсё ідзе ў іншы бок. Тут дзядзька быў майстра. Ніколі нават голасу не павышаў.

Аднойчы выпадкова, вельмі коратка (на хаду) я заехаў разам з Пяскоўскай ў мястэчка пад Вільняй, дзе жылі яе бацькі. Матка (мажная кабета) сядзела ў крэсьле і гаварыла па-беларуску. Верка да яе па-польску, а матка па-беларуску (ёй, відаць, так лягчэй было). Я нават трохі пагаварыў зь ёй. А потым выходзім, я і кажу Пяскоўскай.

– Беларусь – гэта моц. Ваша мама так хораша па-беларуску гаворыць.

–Не, па-польску! Она муві по-польску, по-польску! – Раптам ўспыхнула і аж затрэслася Вэрця. Мне здалося, што яна мяне зараз падрапае.

Сакрэт Палішынэля перад ёй быў раскрыты і Вэрця мяне ціха не ўзлюбіла (як я падумаў ужо на ўсё жыцьцё). Але, як потым аказалася, я моцна перацаніў яе «прынцыпы», якія аказаліся даволі прагматычнымі.

У пачатку 90-х (сама быў на вышыні «Саюдзіс») я быў ў Вільні на пахаваньні дзядзькі Стася. Вэрцю я ня бачыў гадоў пяць, а тут спаткаў. Яна ўжо не атэістка, стала хадзіць у касьцёл, нешта там рабіла ў структурах «Саюдзіса» і размаўляла найбольш па-летувіску.

Ідзем з маім школьным земляком Язэпам (Юзафам) Русакевічам па Майшаголе (каля Вільні). Спатыкаем суседа. Пачынаем гаварыць. Юзаф і кажа яму, ківаючы на мяне: "Гэта свой, з-пад Дзявенішак". І праўда, мы свае, і гаворым па-свойску, па-беларуску. Толькі сусед думае, што ён і я палякі, а я мяркую, што ён і я беларусы.

І ўсё добра, пакуль рэчы не называюцца сваімі імёнамі. Вайной беларусы, якія думалі, што яны палякі, забівалі беларусаў, якія думалі, што яны беларусы. Нават сьпіскі складалі на вынішчэньне.

Гэтак у іхныя сьпіскі трапіў мой дзед Яўхім. «Белыя» арганізаваліся неяк у 1943-м. Аднойчы група іх сабралася ў доме Пашкоўскіх. Старая Ганна Пашкоўская – родная цётка дзеда Яўхіма па маці. Гэта быў заможны род. Ганна займалася дабрачыннай справай. Нават трымала асобную хату, дзе давала начлег бедным і варыла абеды для жабракоў. Яна была разумнай жанчынай, з добрым сэрцам, карысталася найвялікшым аўтарытэтам у касьцёле і ваколіцах.

Як нарадзілася мая маці ў 1922 годзе, яе назвалі ў гонар бабы Пашкоўшчыхі Ганнай. Яна была ў нечым і падобная зьнешне на бабу, і сэрца яе пераняла балеснае. Але любімцам Пашкоўшчыхі быў пляменьнік Яўхім. Гэтая Пашкоўшчыха

(мая прабаба) была хворай на сэрца і казала: „Ой, калі Яхімачку заб'юць, то я ўжо не перажыву – памру".

І вось гэтая група, у якую ўваходзіла яе дачка Ядзя, прыняла рашэньне забіць беларуса Яўхіма (сваяка, дарэчы). Але Ядзя і яе брат Франук так любілі матку, што вырашылі яе ратаваць (бо сапраўды баяліся, што Яўхімавай сьмерці яна не перажыве). Вечарам Франук прыляцеў да нас і кажа:

– Яўхімка, схавайся, заўтра цябе забіваць прыдуць.

Дзед Яўхім пайшоў хавацца да брата Адвардага ў Сурвілішкі.

І праўда, прышлі забіваць. Увайшло трох. Двох незнаёмых гаварылі па-польску, а трэці ў кажушку (нейкі мясцовы лапаць, „дзямук", як мама казала) маўчаў і ўсё твар засланяў каўняром, каб не пазналі.

Маці паставілі да сьцяны. Яна была на пятым месяцы цяжарнасьці мной. Незнаёмец паставіў ёй пісталет у жывот і ўсё крычаў казьліным голасам:

– Гдзе ойцец? Гдзе ойцец, пся крэв!? Мув! Забіе це!

Маці мне расказвала, што яна ўвесь час думала пра мяне, малілася і не спалохалася. Верыла, што Бог пачуе і яе са мной не заб'юць. Экзэкутары пастралялі ў столь і пайшлі.

Так я з маці застаўся жыць і неўзабаве нарадзіўся. А гэта вось выпадак, калі адчуваньне сваіх аказалася мацнейшым ад таго, хто што пра сябе думаў.

Увогуле, „сваё" – гэта першаснае. (Так я і адчуваю.) Толькі як пазбыцца разладу ў свойскай беларускай душы, у якую стагоддзямі, як дурань у студню, плявала розная дрэнь? Часам я не задаю нават пытаньняў, ведаючы, што „сваё" ёсьць аснова. Хоць, на жаль, толькі аснова.

У 1996-м, у канцы сакавіка, я быў ва Унечы на Браншчыне. Я выязджаў зь Беларусі на Украіну. Са мной ехала Галіна Навумчык, жонка Сяргея Навумчыка (які быў ужо ў Кіеве). Мы ў розных месцах чакалі рухаўскую машыну, якую выслаў па мяне ва Ўнечу Вячаслаў Чарнавіл. Тут да мяне падышла з выгляду сельская кабета гадоў пяцідзесяці і пачала на беларускай мове пытаць, калі будзе аўтобус на Сураж, бо ёй трэба ехаць. Мы трохі пагаварылі і я кажу, што можа варта спытаць на вакзале, ці іншага каго, бо я то ня еду ў Сураж. А жанчына й кажа:

– Вой шкода, а я думаю – свой чалавек, дык і едзем разам. Баюся тут не заблукаць.

– І мне шкада, – кажу, – што ня змог вам дапамагчы. А чаму думаеце, што я свой?

– Дык жа гаворыце, як мы, па-нашаму. Ва Унечы дак усі па-руску.

У 50-х гадах, калі бальшавікі адабралі ў людзей коней, настала суцэльная раварызацыя насельніцтва ў мястэчках і вёсках. Практычна, ровар меў кожны. Вясковыя хлопцы зьбіраліся ў групы і езьдзілі ў суботу-нядзелю па вёсках на вечарынкі. Танцавалі, заводзілі знаёмствы з дзеўкамі, зналіся з хлопцамі, часам біліся між сабой, бо заўсёды знаходзіўся нейкі неўраўнаважаны, якому хацелася пабіцца. А паколькі асноўныя шляхі зносінаў былі праз Суботнікі, то вясковыя хлопцы часта праязджалі праз мястэчка і нават сутыкаліся. Местакоўцы ніколі ня ўмешваліся.

Аднойчы я бачыў, як сутыкнуліся роварныя групы і адзін п'янаваты ўсё лез і заводзіў іншых. Тады, памятаю, зьлез з ровара мажны высокі хлапец (здаецца, Грынюк з Лаўкенік) і кажа да заляшанскага авантурыста (вёска Залеш):

– Чаго вы хлопцы? Усе ж свае. Чэсь, падымі галаву, паглядзі – гэта ж свае хлопцы. Ну? Во ж Юзік з Дабраўлянаў. Ты што, не пазнаў?

Авантурыст пачаў супакойвацца, бачачы перад сабой чалавека-гару, з рукамі, як у мядзьведзя.

– Ну, парадак, усё добра, хлопцы. Свае. Усё – свае.

– Во, другое дзела, – кажа лаўкеніцкі. – Хлопцы, абымемся і паедзем.

П'янаватыя хлопцы пачалі між сабой абымацца, пляскаць адзін аднаго па плячах. Толькі і чулася: „Свае, хлопцы, свае. Усё – дружым. Усё – едзем" і г. д.

Суботніцкія назіралі і толькі ціха пасьмейваліся, ведаючы, што гэты мір крохкі і замірэньне ня доўгае. Але ж свае.

Цяпер шмат што вяртаецца з памяці, на што раней не зьвяртаў увагі, бо было штодзённым і звыклым. У 90-х гадах я вяртаўся ў Менск ноччу зімой з дальняй паездкі. Матор увесь час барахліў. Часта спыняліся. Каля Бакштаў на трасе матор заглох канчаткова. Зіма, мароз, дзьве гадзіны ночы, руху на дарозе няма. Трэба кавалак дроту і паяльная лямпа, каб разабрацца з сістэмай запальваньня. Да Бакштаў амаль кілёмэтр. Ні аднаго агня ў вакне. Усе сьпяць. Юзік, кіроўца, йдзе ў Бакшты, стукае наўгад у нейкую хату, будзіць гаспадара і кажа пра сваю праблему. Чалавек (гадоў сарака) устаў, апрануўся, знайшоў усё, што трэба, і разам зь Юзікам прышоў да нашай машыны дапамагчы. (Юзік не сказаў, хто едзе ў машыне, не назваў маё імя). Чалавек дапамог. Нават адмовіўся, каб мы яго адвезьлі да хаты, маўляў, недалёка, дайду сам.

– Вось, свой чалавек, – кажа Юзік, – а то кукавалі б на марозе.

Шмат ведаю падобных здарэньняў, але толькі цяпер думаю над гэтым усім. Нідзе на Захадзе нішто падобнае немагчыма. Наколькі наш просты сярэдні беларус ёсьць па-чалавечаму вышэйшым, разумнейшым і лепшым, чым усё тое, што мне наканаваў лёс убачыць на гэтым Захадзе за апошнія амаль два дзясяткі гдоў. І як жа мы часта ня цэнім сябе, нашае і сваё, якога нідзе на сьвеце няма, толькі ў нас.

Так і хочацца ўсклікнуць:

– О, Беларусь! О, Вялікае Княства! Ты ўжо за гарой!

Восеньню 1988 года на раніцы мне пазванілі ў дзьверы менскай кватэры.

– Хто?

– Свае. Міша, сусед.

На парозе паўстае сусед Міша, выбачаецца і просіць пазычыць пяць рублёў. Міша любіць часам ня ў меру выпіць алкаголю і, калі грошы канчаюцца, пазычае. Міша перажывае, што яму хочацца выпіць і просіць, каб не казаў жонцы (што гучыць сьмешна, бо жонка ж убачыць).

Міша пайшоў. Усё спакойна. Ён свой чалавек і жонка яго малайчына.

Назаўтра, раніцай восеньню 1988 года, мне зноў пазванілі ў менскую кватэру.

– Хто?

– Откройте!

– Хто?
– Откройте! Милиция.
– Чыя міліцыя?
– Советская.
– Няма такой міліцыі.
– Милиция Первомайского района.
– Тут Заводзкі.
– Правонарушение савершено в Первомайском.
– Едзьце туды.
– Откройте, вам русским языком говорят!
– Мне трэба казаць беларускай мовай.
– У нас русский язык.
– Гэта ў вас, а ў нас не.
– Откройте, вам говорят!
– Каму гэта „гаварат”?
– Пазьняку Зенону Станиславовичу. Предписание доставить в райотдел.
– Дастаўляйце, а сюды чаго ламаецеся? – Паўза.
– Здесь живет Пазьняк. Открывайте!
– З чаго вы ўзялі, што тут жыве Пазьняк? – Паўза.
– А кто?
– А той самы.
– Кто такой?
– Вы што, няведаеце куды стукаецеся? Ідзіце спачатку даведайцеся. Няма чаго савецкіх людзей турбаваць.
– Вы что – издеваетесь? Ладно. Разберёмся. Вернёмся – тем хуже для вас.

Боты пагрукалі да ліфта, чуваць было, што зайшлі, і ліфт паехаў. Тады мы ўсе былі сьмелыя, грамадзтва нас падтрымлівала.

Гэта камуністы мяне цягалі за вядомыя падзеі 30-га кастрычніка ў Менску на Дзяды. Прызначылі суд. Я прышоў з адвакатам. Але ля суда сабралася блізу тысячы чалавек і ўсё прыбывалі. Натоўп роў. Суддзі перапужаліся. Пачаліся званкі. Нарэшце, аб’явілі, што суд адкладваецца, бо быццам бы пракуратура раптам запатрабавала справу на дасьледваньне. У натоўпе пачалі рагатаць і крычаць „Вандэя! Вандэя! Прэч” Прэч!”

Тады быў іншы стан грамадзтва. Відаць, меней было „рабоў”. Людзі былі на ўздыме, а камуністы трацілі ўпэўненасьць. Цяпер бы пры фашыстоўска-гэбоўскім рэжыме і акупацыі прыслалі б дывізію спэцназу, усіх пабілі б, паламалі б рэбры і пасадзілі б за тое, што „нецэнзурна” выказваліся. Астатнія маўчалі б.

Калі б уявіць, што нешта падобнае, як цяпер, адбылося б тады, то на гэтым бы і скончылася ў Менску „савецкая ўласьць”. Яе разьнесьлі б. Камуністы тое адчувалі. Але мяне ганялі, як сабакі. Надта ім хацелася уесьці. Не атрымалася.

Галоўнае было – да іх ня трапіць. Я хутка сабраўся, і акольнымі шляхамі паехаў на таемную кватэру да знаёмых, якіх ніхто ня ведаў.

Ехаў і думаў, што калі на двары чужыя, то мой дом – не мая крэпасьць. Мая крэпасьць там, дзе свае.

Ідучы па дарозе
Праз лес
У халодную цёмную ноч,
Я прыйшоў у свой дом,
Якога няма.
На руінах стаялі
Маркотныя людзі.
– Вы тут хто?
– Мы свае.
– Дык пайшлі,
Бо ёсьць шлях,
Бо йшчэ мусім ісьці
Да свабоды.

*6 лютага 2013 г.*



*279.*

# СЯМ'Я

Прыступаючы да пісаньня дэфініцыі пра сям'ю, хацелася б мне напісаць пра сярэднявечную беларускую (ліцьвінскую) сям'ю ў Вялікім Княстве Літоўскім, асабліва пра сялянскую. Гэта была на той час увогуле адметная зьява ў хрысьціянскім сьвеце – школа дабрыні, працы, маральнасьці і выхаваньня. Пра беларускую сям'ю пакінулі запіскі шмат якія падарожнікі, пачынаючы з XVI стагоддзя, даючы ёй высокую ацэнку і не хаваючы ўражаньняў. Невыпадкова, што (пачынаючы са старажытнасьці і аж да канца XIX стагоддзя) існаваў звычай, калі беларускія паны, шляхта аддавалі сваіх дзяцей у сялянскія сем'і на дзядзькаваньне, каб навучыліся шанаваць працу людзей і традыцыі.

Але гэта тэма спэцыяльнага разгляду і не для слоўнікавага азначэньня.

Сям'я і дзяржава гэта ёсьць найвышэйшыя цывілізацыйныя супольнасьці, створаныя людзьмі ў працэсе гістарычнага разьвіцьця чалавецтва.

Сям'я зьяўляецца інстытутам працягу роду чалавечага, крыніцай гарманічнага выхаваньня і разьвіцьця асобы, інструмэнтам натуральнай перадачы культуры.

Калі дзяржава – гэта форма цывілізацыі, то сям'я зьяўляецца яе асновай.

Сям'я гэта ёсьць маленькая царква з усімі падобнымі атрыбутамі: каханьнем паміж мужам і жонкай, любовяй, дабрынёй і пашанай паміж усімі сямейнікамі, павагай да старэйшых і да гаспадара сям'і, клопатам аб дзецях – замілаваньнем да малых і выхаваньнем падрастаючых і падлеткаў.

Сям'я трымалася традыцыяў і агульных маральных каштоўнасьцяў, якія перадаваліся з пакаленьня ў пакаленьне. Такой была беларуская сям'я, якую я памятаю ў дзяцінстве і маладосьці нават яшчэ за савецкім часам.

Мэнтальна і маральна беларуская нацыя ў часе акупацыяў і выпрабаваньняў трымалася на сям'і. Сям'я была ў той час інстытутам, важнейшым за дзяржаву. Бо дзяржава тады была не свая, чужая, нават варожая, а сям'я – свая.

Савецкі акупацыйны камунізм адабраў прыватную ўласнасьць і падарваў матэрыяльныя асновы сям'і сваім правілам „сацыялізму" „ад кожнага па здольнасьцях, кожнаму – па працы". Кожны мог зарабіць толькі на сябе. Сям'я не прымалася пад увагу. Гэта адмоўна адбілася перш за ўсё на выхаваньні і на колькасьці дзяцей.

Другой прычынай дэфармацыі і зьмяншэньня сям'і (найперш у гарадах) была жорстка абмежаваная і строга рэглямэнтаваная палітыка жыльлёвага будаўніцтва. Людзям проста не было дзе жыць у рэпрадуктыўным узросьце.

Тым ня менш ні бальшавіцкая палітыка, ні сістэма прапаганды не былі накіраваныя на разбурэньне сям'і як інстытута супольнасьці. Наадварот, рабіліся касмэтычныя захады па яе нібыта ўмацаваньні. Камуністы не адмаўлялі каштоўнасьці сям'і (за выключэньнем першых гадоў савецкай улады і асобных вывертаў).

Тым часам левалібэральныя ідэі і праявы скасабочанай рэчаіснасьці як на Захадзе, так і ў Расеі і іншых краінах накіраваныя якраз на ліквідацыю інстытута сям'і і замену яе „свабоднымі партнёрскімі адносінамі" мужчыны і жанчыны, дзе зьместам „адносінаў" зьяўляецца не любоў і абавязкі перад дзецьмі, а палавы акт. Вакол палавога акту („сэксу") круціцца і ўся лібэральная гаворка пра дачыненьні „партнёраў".

У барацьбе супраць хрысьціянскай сям'і створаныя нават сацыяльныя хімеры – рэгістрацыя сумеснага жыцьця палавых збачэнцаў аднаго полу (пэдэрастаў і лесбаў), якім прызначаны сацыяльныя льготы і выплаты (за кошт нармальных людзей) і права на адаптацыю чужых дзяцей.

Мне прыходзілася ўжо ня раз зьвяртаць увагу на тое, што з усіх левардыкальных маргінальных ідэй і ідэалёгій пры ўвасабленьні іх у структуры грамадзтва і палітыку найбольш разбуральным для цывілізацыі (поруч з камунізмам) зьяўляецца левы лібэралізм. Камунізм абмяжоўвае, запалохвае і фізічна зьнішчае асобу (генацыд, тэрор). Лібэралізм разбурае саму Боскую, прыродную і культурную сутнасьць чалавека, ператвараючы яго дух у неадэкватную люмпэнізаваную сьведамасьць, няздольную да стваральнага існаваньня.

У краінах з антынароднымі рэжымамі (Расея, Беларусь, Украіна і інш.) афіцыйна не падтрымліваюцца лібэральныя збачэнствы і прапаганда супраць прыроды чалавека (прымаюцца нават адпаведныя законы), аднак на справе (інфармацыя, Сеціва, мас-культура, друк) гэтая прапаганда ня спынена, а так званая афіцыйная крытыка мае бессаромны характар, бо самы начальнікі рэжыму публічна дэманструюць сваю амаральнасьць, непавагу да сям'і і прыстойнасьці.

Гаворачы пра абарону і падтрымку сям'і, мы думаем адначасна і аб адраджэньні Беларусі. Інстытут сям'і – гэта наш вялікі гуманітарны і нацыянальны скарб, якасна роўнага якому не было ні ў Эўропе, ні ў Расеі. Адраджэньне, падтрымка і разьвіцьцё гэтага інстытуту ёсьць грамадзкая задача нацыі, яна ў інтарэсах людзей Беларусі.

Будучыня нашай краіны ня можа базавацца на паняцьцях заходняга індывідуалізму, на прымітыўнай дактрыне прыярытэту правоў чалавека і рэлятывісцкай аргумэнтацыі сумніўных каштоўнасьцяў, бо мы ёсьць іншымі, наш гістарычны дэмакратычны вопыт ёсьць старэйшы, а каштоўнасьці лепшыя ў чалавечым вымярэньні.

Найперш нагадаю, што не правы чалавека цяпер галоўныя для беларусаў, а незалежнасьць і свабода, бо няма правоў чалавека пад акупацыяй (пад антыбеларускім рэжымам).

Дзеля гарманічнага разьвіцьця нашага грамадзтва патрэбнае забесьпячэньне яго галоўных каштоўнасьцяў, дасканала адлюстраванае ў заканадаўстве. У будучай сьветлай, нармальнай, дэмакратычнай Беларусі правы сям'і, правы народа (нацыі, дзяржавы) і правы чалавека будуць (не сумняваюся) грунтоўна забясьпечаны, распрацаваныя ўсе прыярытэты і парытэты дачыненьняў ў грамадзтве.

Праўнае вызначэньне правоў і абавязкаў на аснове вызначэньняў парытэту і прыярытэтаў павінна будзе зроблена ў дачыненьні трыяды: дзяржава – сям'я – асоба. Мы бачым у гэтым юрыдычным і сацыяльна-палітычным полі сям'ю як асноўную каштоўнасьць грамадзтва. У сямейных дачыненьнях прыярытэт мае сям'я. Дзяржава ня можа ўмешвацца ў сямейнае выхаваньне дзяцей. Па сям'і мусіць быць распрацавана новае асобнае заканадаўства, якое прадугледжвала б абарону сям'і, яе нармальнае функцыянаваньне і разьвіцьцё, яе правы, абавязкі і магчымасьці. Асноўныя сродкі будуць укладвацца не ў „спэцназ" і КГБ, а ў сям'ю і адукацыю. Будуць перагледжаны падаткі і стандарты будаўніцтва жыльля, сістэма адукацыі і дашкольнага выхаваньня з улікам магчымасьцяў і інтарэсаў сям'і, а таксама пэнсійнае заканадаўства (бо задача аднавіць вялікую, здаровую сям'ю, у якой робіцца ўсё лягчэй, асабліва выхаваньне дзяцей). Інтарэсы сям'і будуць улічаны ва ўсіх структурах грамадзтва: у медыцыне, на транспарце, у сістэме абслугоўваньня і адпачынку.

Мусіць быць створаны нацыянальны навукова-дасьледчы інстытут сям'і, сямейнай этыкі і выхаваньня. Прапаганда супраць існаваньня сям'і павінна разглядацца як крымінальнае злачынства, нароўні з пагрозай сьмерці асобе, дзеяньнямі на шкоду абароназдольнасьці краіны і т. п.

Узвышэньне і адраджэньне здаровай сям'і і падтрымка сямейных дачыненьняў адпавядае ўяўленьням беларуса аб шчасьці ў грамадстве. Беларусы часта кажуць: „Шчасьце – гэта калі добра ажаніцца і жонка (муж) ды дзеці – харошыя".

Нашую сьветлую дарагую Бацькаўшчыну мусім будаваць дзеля шчасьця ўсіх людзей.

*3 ліпеня 2013 г.*

# БОГ

З усяго, што ёсьць у жыцьці найвялікшым дабром, ёсьць усьведамленьне таго, што існуе Бог – найвышэйшая, вечная, трансцэндэнтная стваральная сіла Сусьвету і ўсяго існага, якая адначасова была, ёсьць і будзе. Ужо само гэтае ўсьведамленьне па веры дае сэнс існаваньня тым, хто яго шукае і хто над ім задумваецца.

Разуменьне, што ёсьць Бог, робіць чалавека ўнутрана свабодным (бо ёсьць спадзяваньне на вышэйшую справядлівасьць) і маральна адказным за свае ўчынкі (бо ёсьць вера ў ацэнку жыцьця пасьля сьмерці).

Чалавек, які жыве бяз Бога, толькі рацыё і толькі зьнешнім матэрыяльным сьветам, будуе свае паводзіны, улічваючы законы, грамадства, традыцыі і культуру. Яму, аднак, лягчэй ігнараваць гэтыя чыньнікі, калі ёсьць магчымасьць і жаданьне пазьбегнуць адказнасьці, бо ўсьведамленьне адказнасьці перад Богам адсутнічае. Але, калі можна парушыць сьвецкі (дзяржаўны) закон і пазьбегнуць пакараньня, то адказнасьці перад Богам пазьбегнуць немагчыма.

Адчуваньне вышэйшай стваральнай сілы і прыняцьце існаваньня Бога зьяўляецца адначасна маральным рэгулятарам у разьвіцьці асобы.

Адносіны да Бога і дачыненьні з Богам рэгулююцца рэлігійнай арганізацыяй (Касьцёлам, Царквой і г. д.), але кожны чалавек мае свой рахунак дачыненьняў з Тварцом усяго існага і будучы вольным, робіць сьведамы ці нясьведамы выбар.

Хрысьціянства пабудавана на дасканалай свабодзе выбару. Чалавек, які прымае Бога нават толькі ў традыцыі, усяроўна прыглядаецца, думае, аналізуе, слухае сваё сэрца і прыходзіць да высновы, што існуе, ёсьць Бог, і гэты Бог – Ісус Хрыстос, бо ўсё, што зьвязана зь ім, – праўда.

Тут выбар свабоднай волі, якой Бог адчыніў дзьверы, калі ў іх стукаліся.

Але калі б існаваў рацыянальны, факталагічны доказ існаваньня Бога, калі б, скажам, Яго ўсе разам маглі хоць раз у жыцьці бачыць, і ўсе б бачылі і ведалі: вось гэта ёсьць Бог, – то выбару ўжо няма. І веры няма. Ёсьць парадак, які, хочаш–ня хочаш, трэба ўспрымаць як рэальнасьць.

Такое становішча (калі вера замянялася б ведай) рэзка абмяжоўвала б духоўнае разьвіцьцё чалавека і прымітызавала б якасны падзел людзей.

Гістарызм існаваньня Ісуса Хрыста даказаны лепш, чым існаваньне самых рымскіх гісторыкаў, якія пра гэта пісалі, і імпэратараў разам узятых. Але доказнасьць Яго Боскай прыроды аспрэчваецца і, мяркую, ніколі ня будзе даказана бясспрэчна, як навуковы факт, бо ў гэтым няма патрэбы. Зьявы духоўнага кшталту ня могуць быць дакладна дасьледаваны ніякай навуковай мэтодыкай, бо яна абаперта на законах існаваньня фізічнага сьвету. Духоўны сьвет пазнаецца праз веру, дзеля ўмацаваньня якой існуюць яго прыкметы, знакі, зьявы і сымвалы быцьця.

Таму рацыянальная доказнасьць існаваньня Бога заўсёды адносная і можа паслужыць пункцірам Веры, але не яе аргумэнтам. Сцьвярджэньне „Веру, што ёсьць Бог" не патрабуе аргумэнтаў. Яно магутнае само па сабе, бо зьвязана з сэнсам існаваньня.

*2 ліпеня 2013 г.*

# ДЭМАКРАТЫЯ

Дэмакратыя – гэта форма ўлады, структуру якой фармуе ўвесь народ альбо асобная яго група шляхам выбараў альбо дэлегаваньня прадстаўнікоў.

Дэмакратычная форма ўлады спрыяе індывідуальнай рэалізацыі асобы і разьвіцьцю грамадзкай супольнасьці, прадугледжвае свабоду і вольнасьць грамадзяніна.

Дэмакратыя дала магчымасьць у некаторых краінах стварыць якаснае сацыяльнае забесьпячэньне і забясьпечаную старасьць, падтрымаць інвалідаў, адукацыю і творчасьць, яна стымулявала здаровую канкурэнцыю вытворчасьці і разьвіцьцё эфэктыўнай сельскай гаспадаркі.

Адначасна дэмакратычная форма ўлады спрыяе павелічэньню энтрапіі, разбурэньню грамадзкага парадку, прыводзіць да страты кантролю над антыграмадзкімі, дэградуючымі працэсамі, пры крызісных абставінах вядзе да аслабленьня і разбурэньня дзяржавы (Рэч Паспалітая, Вялікае Княства Літоўскае, Ноўгарад, Грэцыя, Рым).

Дэмакратыя зьвязана з грамадзкімі ідэямі, з пануючай формай уласнасьці і формай грамадзкай вытворчасьці. Рынкавая эканоміка і дачыненьні найлепш рэалізуюцца ў палітычнай сістэме дэмакратыі.

Вяршыні дэмакратыі пэрыяду капіталізма і нацыянальных дзяржаў – гэта амэрыканская дэмакратыя, заснаваная на ідэі асабістай свабоды асобы і на рынкавай эканоміцы, і эўрапейская дэмакратыя, заснаваная на ідэі народнай свабоды, роўнасьці, братэрства і на рынкавай эканоміцы.

У выбарчай сістэме ўсеагульнай дэмакратыі, якая не прадугледжвае абмежаваньняў і выбарчых цэнзаў, закладзена сістэмная магчымасьць маральнай дэградацыі грамадства і ўлады. Гэта ёсьць ахілесавая пята дэмакратыі і зьвязана яна з прынцыпамі дэмакратычнага змаганьня за ўладу ў час выбараў. Змагаючыся

за галасы выбаршчыкаў, прэтэндэнты на ўладу (у залежнасьці ад асабістага ўзроўню і характару) могуць апэляваць да маргінальных і антыграмадзкіх групаў людзей, абяцаючы ім падтрымку, каб атрымаць галасы. Такім чынам у сістэме выбарнай дэмакратыі закладзены магчымасьці, якія легалізуюць дэструктыўныя, адсталыя, збочаныя, паразітныя і зусім нікчэмныя зьявы грамадзтва – адкіды разьвіцьця, уводзяць іх у сістэму ўлады, у інфармацыйныя інстытуты, якія ўплываюць на ўсё грамадзтва, у сістэму асьветы і інш., падтрымліваюць прыняцьцем дэструктыўных (часта антыграмадзкіх) законаў і палажэньняў.

Пачынаючы з 1960-х гадоў мінулага стагоддзя, і амэрыканская, і эўрапейская дэмакратыі зьмянілі ідэалёгію і ўступілі ў паласу сістэмнага і родавага крызісу як дэмакратыя левага лібэралізму альбо левалібэральная дэмакратыя.

Левалібэральная дэмакратыя заснавана на касмапалітычнай ідэі прыярытэту правоў чалавека, на касмапалітычнай ідэі мультыкультурнага фармаваньня грамадзтва і на лібэральных прынцыпах эканомікі, якія прадугледжваюць прыярытэт эканомікі перад дзяржаўнай уладай.

Лібэральная дэмакратыя ў цэлым як крызісны этап дэмакратыі, павязаная з новымі формамі інфармацыі, выклікае каласальнае павелічэньне энтрапіі за кошт стварэньня сістэмы лібэральных антыкаштоўнасьцяў, галоўнымі зь якіх ёсьць антыхрысьціянства і рэлятывізм, які сьцірае межы паміж дабром і злом, зманам і ісьцінай, дэградацыяй і разьвіцьцём, прыродай і хімерай.

Левалібэральная дэмакратыя сфармавалася ў выніку спалучэньня маргінальных левых ідэй з прынцыпамі дэмакратыі і рынкавай эканомікі.

У левалібэральнай дэмакратыі эканамічным таварам становяцца не высокія таленты асобы, а нізкія заганы, злачынствы і збачэнствы, не харавство, а брыдота. Нават дурнота шырока прадаецца і набывае свой рынак.Назіраецца люмпэнізацыя насельніцтва. У выніку адбываецца рэзкі ўпадак культуры. Незапатрабаваным робіцца мастацтва, зьнікаюць яго віды, дэградуе мараль, прымітывізуецца асоба.

Усё гэта – складнікі глыбокага духоўнага крызісу, хуткага выхаду зь якога, практычна, не бывае, калі будзе пяройдзена мяжа невяртаньня. Становішча абцяжарана тым больш тлеючым глабальным крызісам насычэньня сусьветнага таварнага рынку, выйсьця зь якога таксама яшчэ не відаць.

Павелічэньне энтрапіі правакуе сама рынкавая эканоміка, але пры левалібэралізме ідэалогія псэўдадэмакратыі разьвіваецца сама па сабе і ўплывае на паступовую дэзарганізацыю грамадзтва.

У апошнія 25 гадоў (з уваходам вытворчасьці ў электронную эру) істотным чыньнікам энтрапіі стала рэзкае павелічэньне хуткасьці перамен. Дынаміка вытворчасьці зраўнялася з пэрыядам засваеньня новых тэхналёгій і стала пераганяць спажывецкія магчымасьці. Тэндэнцыя разьвіваецца як усеагульны працэс.

У сфэры транспарту (лакамоцыі) рэзкае павелічэньне хуткасьці прывяло да новага (малакантралюемага) адчуваньня прасторы і часу. У сфэры інфармацыі вытворчасьць яе перадачы шматкроць перабольшыла магчымасьць успрыняцьця. У сацыяльна-культурнай сфэры (у выніку паскарэньня дэмадынамікі) разрыў паміж пакаленьнямі у межах адной сям'і дасягнуў крытычнай мяжы. Перадача культуры абцяжарваецца і, практычна, спыняецца нават ў дачыненьнях бацькоў і дзяцей. Траціцца адчуваньне (і разуменьне) гістарызму культуры. Усё паглынае цяпершчына, за якой чалавек ужо не пасьпявае. Такую дэмадынаміку як меру хуткасьці перамен трэба разглядаць як асобную катэгорыю працэсаў, выкліканых рынкавай эканомікай і лібэральным спосабам спажываньня.

Далей аб пэрспэктыве сусьветнай дэмакратыі можна казаць толькі ўмоўна

Практычна, працэс спаўзаньня ў дэмакратычным сьвеце магло б спыніць духоўнае нацыянальнае адраджэньне як агульнацывілізацыйнае рушэньне. На сёньняшні дзень альтэрнатывай крызісу і рэгрэсу ёсьць толькі ідэя адраджэньня Хрысьціянства.

Фармальна спаўзаньне да маральнай катастрофы магла б часова прытармазіць (але не ўратаваць) такая хірургічная апэрацыя лібэральнай дэмакратыі, як шырока ўвасобленая дыктатура, дыктатарская сістэма ўлады. (Гэтым карыстаўся Рым, хоць тое яго і не ўратавала.) Зразумела, што сэнс тут у тым, каб пасьля дыктатуры і санацыі пачалося новае духоўнае дэмакратычнае адраджэньне, а ня люмпэнская дэмакратыя.

І трэці варыянт – катасрафічны. Гэта глабальная вайна, па маштабу – кшталту 2-й Сусьветнай. Магчымасьць такога варыянту павялічваецца якраз тады, калі пераход мяжы невяртаньня адбудзецца, і новы сусьветны тавар ня зьявіцца. Тады ўсе працэсы будуць „працаваць” на катастрофу. І яна мусіла б стаць.

*8 ліпеня 2013 г.*

# ДЫКТАТУРА

Дыктатура – гэта абсалютная ўлада адной асобы альбо групы асобаў, якія абапіраюцца на права ўлады і самы гэтае права сцьвярджаюць і фармулююць у законах, дзеяньнях і распараджэньнях. Дыктатура – гэта ня выверт, ня збочанасьць палітыкі, а сістэма ўлады, легітымнай альбо нелегітымнай, якая мае выбраную апору ў грамадзтве і абслугоўвае сама сябе і пэўныя грамадзка-эканамічныя і палітычныя групы ўнутры краіны, альбо за яе межамі.

Дыктатура можа набываць санацыйныя функцыі. Яе зьяўленьне можа адбыцца ў любым месцы, дзе ёсьць крызіс улады, а грамадзтва перажывае эканамічныя цяжкасьці альбо заведзена ў тупік. Дыктатура тады выступае ў ролі выратавальніка народа і пэўны час можа такой нават здавацца (хоць і не абавязкова), бо дыктатура падтрымлівае сама сябе, і галоўны інстынкт дыктатуры – захаваньне сваёй улады.

Фармаваньне дыктатуры ў сучасным сьвеце адбываецца, як правіла, з выкарыстаньнем мэханізму дэмакратыі, дзеля легітымізацыі аднаасобнай (групавой) улады.

Дыктатура бывае партыйная, мафійная (карпаратыўная), нацыянальная і акупацыйная. Пры гэтым яна заўсёды аўтарытарная. Партыйная дыктатура – гэта тады, калі ўладу ў краіне захоплівае адна партыя, якая зьнішчае ўсе астатнія партыі, а ўладу ў гэтай партыі захоплівае група партыі, якая вылучае дыктатара. Гэта схема камуна-фашысцкіх дыктатур.

Мафійная дыктатура – гэта калі абсалютную ўладу захоплівае мафійная (карпаратыўная) група, якая вылучае дыктатара. Такая дыктатура небясьпечная для народа і дзяржавы, паколькі выкарыстоўвае іх як прыватную ўласнасьць.

суверэнітэту краіны, а таксама патэнцыйная пагроза нацыі на выпадак ваеннага канфлікту. У любы час ваенная сіла расейскай базы можа быць скарыстана супраць народа Беларусі.

Стварэньне кітайскага тэхнапарку ў Беларусі па сваёй фінансава-эканамічнай сутнасьці выглядае афёрай, якая павесіць мільярдныя даўгі на плечы беларусаў. Кітайцы ня ў стане асвоіць высокія тэхналёгіі, зрабіць якасныя тавары, якія на высокім узроўні маглі б канкураваць на рынку. Тут ёсьць глыбокія ўнутраныя прычыны. Стыхія кітайскай вытворчасьці – няякасны тандэт за кошт таннай рабсілы.

Але палітычная сутнасьць авантуры з кітайскім тэхнапаркам не ў тэхналёгіі і не ў эканоміцы, а ў перасяленьні вялікай колькасьці кітайцаў у Беларусь (па пляну – каля мільёна). У вайне зь беларускай нацыяй да гэтага не дадумаліся ні цар, ні бальшавікі. Тым часам маскоўскі гэбізм, абапіраючыся на вырадка беларускага народа, ужо прыступіў да ўвасабленьня сваёй задумы.

Беларусы ня ведаюць, што ёсьць такое кітайцы і, магчыма, не ўяўляюць, што ім пагражае. Якраз ведаючы гэта, зь вялікім узрушэньнем кажу, што калі вырадкам народа ўдасца іхны плян і сотні тысячаў кітайцаў будуць пераселены ў Беларусь, то на працягу вельмі кароткага часу беларуская нацыя зьнікне з твару зямлі. Беларусы ня змогуць абсалютна нічым супроцьстаяць кітайцам, у іх няма ніякай зброі дзеля супраціўленьня. Перад кітайцамі мы ўжо ня нацыя, не грамадзтва і не культура, а бязладны натоўп. Гэта перад расейцамі мы яшчэ культура і гістарычная сіла. Перад кітайцамі – як кажуць – забудзьце пра будучыню, як на няшчасьце, забыліся многія пра сваю мову.

Гісторыя імпэрскага вынішчэньня народаў пакінула шэраг фактаў антычалавечнага варварства і злачынства, калі, нішчачы народ, падрывалі яго эканоміку, пазбаўлялі людзей працы і харчаваньня. Выразныя прыклады – Ірляндыя, Украіна, Камбоджа (Кампучыя), Абхазія і г. д.

У 1840-х гадах (у час эўрапейскай вясны народаў) брытанцы выклікалі масавую хваробу бульбы (асноўнага прадукта) у Ірляндыі. Адначасна яны вывезьлі з Ірляндыі ўсё збожжа і іншыя прадукты. На востраве пачаўся жахлівы голад. Памерла два мільёны ірляндцаў. Чатыры мільёны эміґравалі ў Амэрыку. З васьмі мільёнаў народа на востраве засталося толькі два. Сёньня ў Ірляндыі чатыры мільёны жыхароў. (Падрабязьней пра гэта гл. публікацыі Валеры Буйвала.)

Ірляндзкую нацыю ўратавалі ад захопу брытанцамі каталіцызм, які зьяднаў ірляндцаў у барацьбе з брытанцамі, і вастраўнае разьмяшчэньне краіны.

У 1930-х гадах аналягічную палітыку праводзілі расейскія бальшавікі на Украіне: вывезьлі збожжа, прадукты, паставілі энкавэдзісцкія кардоны і выклікалі жахлівы галадамор. (вымерла, па падліках украінцаў, 10 мільёнаў людзей).

Камуністычны генацыд «чырвоных кхмераў» у Кампучыі таксама выкарыстоўваў мэтодыку забароны есьці. (Забівалі тады, калі была парушана забарона.)

Аналягічным чынам (як брытанцы) рускія ў XIX стагоддзі выпхнулі абхазаў у Турцыю, заняўшы іхныя землі. (Сёньняшнія абхазы – гэта народ, які вярнуўся з эксодуса на сваю зямлю.)

Прыкладаў шмат, і XXI стагоддзе для некаторых народаў (паўночныя карэйцы, напрыклад) нічым не адрозьніваецца ад самага панурага азіяцкага сярэднявечча.

Кароткі гістарычны агляд я зрабіў тут дзеля таго, каб лягчэй было зразумець, што за вайну і якімі мэтадамі вядзе Расея супроць Беларусі.

Тое, што афрыканская сьвіная чума завезена ў Беларусь з Расеі, вымкнулася адразу, але потым інфармацыю прыдушылі і пра пытаньне адкуль што ўзялося як бы і не гавораць. А «ўзялося» яно з Расеі разам з усімі тымі зьявамі, пра якія я тут пішу.

У Расеі яшчэ з савецкіх часоў сьвінагадоўля была разьвітая вельмі слаба. Амаль ўвесь СССР мясам забясьпечвала Беларусь, якая выробляла яго на душу насельніцтва больш, чым у Злучаных Штатах Амэрыкі. Афрыканская сьвіная чума ў Расеі існуе ўжо гадоў шэсьць. Але паколькі гэты сэктар жывёлагадоўлі там невялікі, то і катастрафічных вынікаў у расейскай эканоміцы эпідэмія ня выклікала. Тым часам у Беларусі галоўныя прадукты жывёлагадоўлі і асноўныя сродкі харчовага існаваньня насельніцтва – гэта сьвінагадоўля, буйное рагатае быдла (каровы) і галоўная культура – бульба. Падрыў аднаго з гэтых асноўных складнікаў ёсьць удар па ўсім народзе.

Цяпер гэты ўдар ужо нанесены – ціха, хітра і падступна. У сельскай мясцовасьці зараз ужо ня кожны можа ўтрымаць карову. Статак прыватных кароў зьменшаў. Але парсюка выгадаваць і ўтрымліваць лягчэй – можа нават кожны адзінокі пэнсіянер. Зараз усе гэтыя людзі асуджаныя на беднае, нішчымнае існаванне, а сьвінагадоўля ў краіне можа быць увогуле зьнішчана як гаспадарчая вытворчасьць. Тое, што ўсё ідзе да гэтага, сьведчаць варварскія татальныя мэтады зьнішчэньня хворых і здаровых (!) жывёл і пляны рэжымнай улады забараніць беларусам увогуле трымаць і гадаваць сьвіней.

Я ўжо не кажу пра праблему зь дзікамі ў беларускіх лясах. Але тут зраблю дэгрэсію, каб паказаць якая ланцуговая рэакцыя гэтай расейскай чумы разгортваецца ў палітыцы. Выявілася, што шмат якія беларусы аказваецца ня ведаюць, што гадоў 6-7 таму па мяжы Віленшчыны зь Беларусяй летувісы за грошы Эўразьвязу ціхенька паставілі мэталёвы нержавейны трохмэтровы плот. Але гэтага мала (ўсяроўна страшна). Цяпер, у сувязі з расейска-афрыканскай чумой, яны зноў тармосяць Брussэль. Ім хочацца ўжо зрабіць на мяжы магутную стальную непрабіўную сцьяну, каб адгарадзіць Віленшчыну надзейна. Вось такая паліткамэдыя і рэальнасьць. Дарэчы, летувісы (Палецкіс etc.) зьяўляюцца галоўнымі лабістамі лукашысцкага рэжыму ў Эўрапарляманце. Такія метамарфозы. Цікава назіраць, успамінаючы, як ў 80-90-х мы, Народны Фронт, пасьлядоўна падтрымлівалі суверэнітэт і свабоду Летувы.

Але вернемся да чумы. Не хацелася б нядобра прадказваць, але па логіцы былых «малочных» і «мясных» войнаў, трэба чакаць беларусам наступнага ўдару з боку Расеі ўжо па гадоўлі кароў (з бульбай таксама маем праблемы). Арда ня спыніцца ніколі, калі яе саму не спыніць.

Закон аб абмежаваньні гандлю на грмадзкіх рынках яшчэ рэжымам не прыняты, але сама пастаноўка пытаньня аб тым, каб людзям дазволіць гандляваць на рынках толькі садавінай ды гароднінай, набліжае становішча да паняцьцяў «чырвоных кхмераў». Сумяшчэньне такіх накірункаў вынішчальнай палітыкі як абмежаваньне гандлю на грмадзкіх рынках плюс распаўсюджваньне афрыканскай сьвіной чумы паказвае на злавесную тэндэнцыю, накіраваную на зьбядненьне і безвыходнасьць жыцьця беларускага насельніцтва ў сваёй краіне, на выштурхоўваньне беларусаў за мяжу (у Расею) і адначасна засяленьне краіны іншымі людзьмі, найперш – кітайцамі.

Назіраючы рэжым, не ўзьнікае ніякіх «невядомых» ў сістэме ураўненьняў акупацыйных падзей. Антыбеларуская антынацыянальная палітыка відочная, грубая і наўпраставая, як кій. Можна ўзяць любы год цёмнага рэжыму, паралічыць яго палітычныя

дзеяньні, і яны самы укладваюцца ў радок антыбеларускай накіраванасьці. Застаецца толькі просты фармальны аналіз. У 2006 годзе на афіцыёзным так званым «усебеларускім сходзе» начальнік рэжыму адкрыта сказаў, што сэнс ягонага праўленьня – **зрабіць так, каб нічога ўжо ня можна было вярнуць назад.** Гэта формула разбурэньня выказаная цынічна і тупа. Але уражвае ня тое, што вырадак кажа адкрыта: я вас зьнішчу. Уражвае, што беларуская эліта грамадзтва не разумее, што ён кажа. Ёй здаецца, што ідзе дождж, калі плююць ў твар. Толькі сумяшчэньне гэтых двух зьяў дазваляе ўбачыць сапраўдны сэнс нашай нацыянальнай небясьпекі і нашай нацыянальнай ганьбы.

Тут няма нічога выпадковага (любое псіхічнае адхіленьне лагічна абгрунтаванае, тым больш палітыка). Зноў пачаліся нападкі на касьцёл, на навуку, на значных асоб, на чарзе будуць творчыя калектывы і людзі, беларуская гісторыя, унівэрсітэцкая адукацыя і г. д. Пачынаецца новая хваля зачысткі нацыі, дзе нават павышэньне платы за вучобу ў ВНУ наўпрост паяднана з апэрацыяй «сьвіная чума» (шмат студэнтаў матэрыяльна зьвязаныя зь вёскай, вучыцца ім стане немагчыма).

У гэтым годзе Беларусь уступіла ў новы этап пагібелі народа – матэрыяльны. Перад гэтым (пра што мне прыходзілася шмат пісаць) быў пэрыяд разбурэньня духоўнага і палітычнага (разбурэньне нацыянальных каштоўнасьцяў), які пачаўся са зьнішчэньня нацыянальна-дзяржаўных беларускіх сымвалаў і ўвядзеньнем акупацыйнай мовы ў якасьці дзяржаўнай. Потым былі зьнішчаны беларускія падручнікі, кнігі, газэты, дзіцячыя часопісы, выдавецтвы, беларуская школа, беларускае тэлебачаньне і радыё, беларускія архівы радыё і тэлебачаньня, літаратура, грамадзянская супольнасьць, сфальсіфікаваная і абпляваная беларуская гісторыя і г. д.

Асноўныя каштоўнасьці, дэкляраваныя хунтай для людзей вёскі, працоўных і пэнсійных масаў, на якія абапіраўся рэжым, былі рэгулярная пэнсія, «чарка і скварка». Цяпер скваркі ўжо ня будзе. Але рэжым набраў такую кандыцыю, што цалкам можа існаваць без народа: усе сістэмы функцыянуюць самастойна.

Апошні трэці этап, які можа надыйсьці (бо ўжо было) – гэта этап фізічны (фізічнае вынішчэньня былых беларусаў). Пра гэта можна па-рознаму думаць і нават зусім ня думаць, але ўсё, што пісалася, казалася і папярэджвалася 15-20 гадоў таму (і пра што некаторыя не хацелі слухаць), адбылося потым ва ўсіх на вачах і працягвае адбывацца.

Акупацыйны рэжым і акупацыйная палітыка выяўляюцца перш за ўсё ў адносінах да насельніцтва. Акупаванае насельніцтва бяспраўнае. Людзі, экспэрты, навукоўцы, працаўнікі і творцы могуць пісаць скаргі, зьвяртацца, зьбіраць подпісы, нават мітынгаваць, каб не будавалі ім, напрыклад, пад носам чужы шкодны хімзавод, каб не зганялі іх з сваёй зямлі дзеля кітайцаў, расейцаў і г. д. Але ўсё яно дарма. Чхаў акупацыйны рэжым на ўсе гэтыя рабскія пэтыцыі. Хімзавод пабудуюць на носе, згоняць са сваёй зямлі беларусаў, паселяць кітайцаў і пасадзяць на карак атамную электрастанцыю. А калі вёска будзе замінаць, прыгоняць бульдозеры, зруйнуюць дамы, усё спаляць і паедуць далей. Такая рэчаіснасьць. І калі яна каму незразумелая, то толькі па віне таго, хто не разумее, нават калі па яго ўжо прыйдуць.

Аб'ектыўнае становішча цяпер такое, што адкрытыя грамадзкія пратэсты, практычна, ня маюць выніку, трацiцца іх сэнс. Тут амаль тое самае, калі б у 1943 годзе ў Менску выйсьці з плякатамі супраць Гітлера за правы чалавека. Канцлягер забясьпечаны. Таму змагаліся іншымі спосабамі.

Але рэчаіснасьць такая, што кожны дзень існаваньня антыбеларускага рэжыму і мельцяшэньне вырадка – гэта крок да народнай сьмерці. Пэрспэктыва ў рэжыма – толькі сьмерць. Яна ўжо дыхае ў патыліцу нацыі.

Аб'ектыўна беларускае грамадзтва стаіць перад неабходнасьцю – як толькі магчыма ліквідаваць антыбеларускі рэжым і дыктатуру дзеля свайго нацыянальнага ацаленьня. Але ажыцьцявіць тое яно ня ў стане, бо за гады ўнутранай акупацыі нацыя духоўна зламалася (яе зламалі). Пералом адбыўся даўно, і арганізавацца на змаганьне яна пакуль не гатовая.

Каб змагацца з вынішчэньнем народа, трэба абараняць сваё. Тым часам люмпэнізацыя беларускіх масаў дасягнула крытычнай рысы. Ім няма чаго абараняць. У іх няма зямлі і прыватнай уласнасьці, няма мовы, культуры, гісторыі. Ад іх гэта альбо адабралі, альбо яны самы адмовіліся пад прымусам. У іх ужо няма нічога свайго, і таму, фактычна, няма Айчыны, якую яны лёгка могуць аддаць, не разумеючы яе каштоўнасьці. («У пролетаріата нет отечества» – Ленін)

Становішча амаль трагічнае. Асабліва ўлічваючы, што разгромленыя нацыянальныя палітычныя сілы. Тым ня менш ліквідацыя рэжыму – гэта неабходнасьць.

Трэба цьвяроза ўсьведамляць на ўзроўні адказнасьці за будучыню нацыі (ня слухаць розных пустых і купленых дэмакратычных балаболаў), што пасьля ліквідацыі рэжыму на доўгі час (пакуль ня станем на ногі і ня створым моцны ўнутраны рынак) шлях ў Эўразьвяз для нас павінен быць зачынены (тут табу). Інакш мы імгненна страцім палову працаздольнага насельніцтва, ато і больш. Яно выедзе з краіны. Тым больш, што ў часы пераменаў эканамічныя цяжкасьці і пагаршэньне жыцьця непазьбежныя (і мы ведаем, што гэта за цяжкасьці і хто можа прыехаць замест сваіх). Не выпадкова часам чуюцца здавалася б дзіўныя заявы на Захадзе, што пасьля ліквідацыі рэжыму Беларусь, маўляў, могуць хутка прыняць ў Эўразьвяз. Мы ведаем цану такіх спадзяваньняў і ведаем, каму выгадны свабодны рух капіталаў і рабочай сілы ў той час, калі мы, зьнясіленыя рэжымам і яго даўгамі, будзем ляжаць. Аддток «мазгоў» (галоўнай цяпер вытворчай сілы) і вынікі гэтага адтоку мы адчуваем ўжо зараз і ўвесь час. Я не кажу ўжо пра амаральнасьць агрэсіўнай лявацкай ідэалёгіі Эўразьвязу, накіраванай на разбурэньне Хрысьціянства, сям'і, маральнай сутнасьці чалавека.

Альтэрнатывай антыбеларускаму рэжыму і нацыянальнай сьмерці ёсьць добрая будучыня людзей. Дзеля добрай будучыні варта змагацца. Добрая будучыня – гэта вольны чалавек, гарантаваная праца, забясьпечаная старасьць. Гэта адсутнасьць трывогі за заўтрашні дзень. Добрая будучыня – гэта павага да чалавека і да ўсіх людзей. Гэта сьвет, дзе ўлада не крычыць, не хаміць, не зьневажае, не плюе на народ, на культуру і мову. Гэта сьвет, дзе беларускі грамадзянін можа вольна рабіць, купляць і прадаваць. Гэта сьвет, дзе шануюць сям'ю і працу, дзе ўлада выконвае свае законы, і ўсе роўныя перад законам. Гэта сьвет, дзе шануецца жыльлё чалавека, яго перапіска і ўнутраны сьвет. Гэта грамадзтва, дзе ветлівая паліцыя дапамагае людзям, дзе дзяржаўная медыцына ёсьць домам здароўя, а ня сродкам нажывы, дзе высокі ўзровень адукацыі ў школе, дзе людзкае тэлебачаньне без брыдоты і хлусьні. Гэта сьвет, які радуецца і ўсьміхаецца, які сьпявае і гаворыць па-беларуску. Гэта сьвет, дзе жыве сьветлая Беларусь.

Гісторыя паказвае, што лёсам дзяржаваў, краінаў займалася і клапацілася невялікая колькасьць людзей – эліта грамадзтва. Ад іх, перш за ўсё, залежыць будучыня народа, на падтрымку якога яны разьлічваюць. Тут павінна стварацца, перш за ўсё, беларускае гуртаваньне і беларуская пэрспэктыва. І калі тут тое будзе – людзі падтрымаюць. Адсюль павінна зыходзіць разумная беларуская праца, асьвета, арганізацыя і змаганьне.

*5 жніўня 2013 г.*

# КАНЦЭРТ ДЛЯ АНАЛЬФАБЭТА З АРКЕСТРАМ

Антыбеларускі рэжым (выказваньне Лукашэнкі) прапанаваў скасаваць датацыі і перавесьці на камэрцыйнае існаваньне беларускі нацыянальны тэатр. На справе тут агучаны плян яго ліквідацыі. Дзяржаўныя нацыянальныя тэатры без датацыяў не існуюць. Тут намер хуткага разбурэньня беларускага тэатра з наступным абплёўваньнем і паклёпам, маўляў „сам памёр" (як казалі спраўцы пасьля зьнішчэньня Васіля Быкава).

Ня будзем казаць пра знаўцаў мастацтва. Кожнаму культурнаму чалавеку вядома, што мастацтва (і асабліва тэатр) патрабуе датацыі, матэрыяльнай падтрымкі. Само сябе мастацтва не акупае. Гэта сфэра культуры, якая патрэбная ўсяму грамадзтву, і грамадзтва ідзе на выдаткі дзеля культуры. Грамадзтва, якое не датуе культуру (альбо не разумее, што гэтак трэба рабіць), знаходзіцца на нізкім узроўні разьвіцьця.

Мастацтва спрыяе гуманітарнаму ўзвышэньню асобы і грамадзтва. Яно зьяўляецца люстэркам нацыі ў яе жыцьцёвых, духоўных, творчых і гістарычных памкненьнях.

Камэрцыйнае мастацтва (якое выжывае ў бізнэсе) належыць да мас-культуры і накіраванае на пазаэстэтычнае, неадэкватнае і спажывецкае задавальненьне, бытавых, псіхалагічных патрэбаў, комплексаў, неразьвітых і збочаных уяўленьяў людзей. Яно не імкнецца ўзвысіць людзей да высокіх ідэй, эстэтыкі і красы, а само апускаецца да ўзроўню спажыўца. Роля яго атупляючая, узьдзеяньне на культурны ўзровень грамадзтва – дэградуючае.

На гэтым я скончу тут пераказ агульнавядомага і спынюся на небясьпечных ілюзіях, якія (па логіцы абсурду) пэрманэнтна жывуць у нашым грамадзтве.

Пачуўшы публічную дэманстрацыю неадукаванасьці публічнага чалавека, людзі пачынаюць сьмяяцца, думаючы, відаць, што асоба засаромеецца, выправіцца, і натуральны парадак рэчаў застанецца на месцы, бо інакш ня можа быць.

Тым часам „неадукаваная асоба" не саромеецца, не выпраўляецца, і натуральны парадак рэчаў замяняецца абсурдам. Тады людзі пачынаюць лавіць ротам паветра і хапацца за галаву, пакуль іншыя ня скажуць ім з гары, што абсурд якраз і ёсьць тым парадкам, які павінен быць.

Пра гэты „ілюзіён" мне прыходзіцца пісаць пастаянна вось ужо скора 20 гадоў, толькі ў іншай форме, ужываючы непрыемныя азначэньні, кшталту „тэхналёгія зла", „лёгіка ўнутранай акупацыі", „канцэпцыя ліквідацыі беларускай культуры", „стратэгія вынішчэньня беларускай нацыі", „тактыка антыбеларускай палітыкі", „палітыка лінгвацыду" і г. д.

Ілюзіі не зьнікаюць. І мы разумеем, чаму. Таму паўтараць гэтую тэму трэба.

Нядаўна начальнік рэжыму, магчыма, першы раз у жыцьці трапіўшы ў тэатр, у чарговы раз напалохаў культурную грамадзкасьць, заявіўшы, што перавядзе нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы на самаакупальнасьць. Маўляў, хай акторы, што заробяць, тое і падзеляць, а за начальнікам рэжыму застанецца толькі ідэалягічны кантроль.

Культурная эліта, ведаючы магчымасьці начальніка, перажыла сапраўдны шок. Кожны разумее, што гэта ёсьць ліквідацыя нацыянальнага тэатра. Але і на гэты раз бадай што ўсе зноў падумалі: такога ня можа быць. Не разумее начальнік – малапісьменны, некультурны – трэба яму растлумачыць. Некаторыя і пачалі тлумачыць, некаторыя сталі зьедліва крытыкаваць, іншыя – рагатаць. 19 гадоў – адна і тая ж рэакцыя. Абсурд даўно стаў рэальнасьцю, а яны ўсё ня вераць, што такое можа быць.

Прычына ілюзіяў вядомая – яна ў штучнай затрымцы нацыянальнага разьвіцьця, у недасьпеласьці нацыянальнай сьведамасьці, калі грамадзтва, мову і культуру якога зьнішчаюць, не адчувае пагрозы сабе. Такое грамадзтва можа забіць нават малая варожая групоўка, захапіўшы ўладу, бо ніякія падзеі вынішчэньня не ўплываюць на адсутнасьць кансалідаванай сьведамасьці і не выклікаюць контрдзеяньня. Акупацыйны рэжым напоўніцу выкарыстоўвае такі стан людзей, актывізуе дзеяньні па нацыянальнаму атупленьню асобы ў грамадзтве. Разбурэньне робіцца сістэмна і пасьлядоўна, прытым не адразу, а пачаргова, з паступовым насіленьнем і пранікненьнем ў дробныя справы, ва ўсю яшчэ слаба сфармаваную макраструктуру нацыянальных дачыненьняў.

Так была ліквідавана беларуская школа і адукацыя. Так быў ліквідаваны Беларускі ліцэй імя Якуба Коласа, а памяшканьне забрана дзеля патрэбаў рэжыму. (Ніхто ня мог паверыць, што такое станецца. Абсурд. Навошта? Але такое сталася.)

Так быў ліквідаваны Літфонд і выкінуты на вуліцу знакаміты Саюз беларускіх пісьменьнікаў, а будынак – забраны дзеля патрэбаў рэжыму. (Такога ніхто ня мог уявіць – сталася.) Так быў расколаты Саюз пісьменьнікаў. (Навошта? – Сталася.) Так былі ліквідаваныя беларускія дзіцячыя часопісы – знакамітая „Бярозка" і інш. (Навошта? – Сталася.) Так было ліквідаванае беларускае выдавецтва для моладзі „Юнацтва". (Навошта? – Сталася.) Так была зьнішчана рэдакцыя Беларускай энцыкляпэдыі, разбурана акадэмічная сістэма Акадэміі Навук, ліквідаваны Інстытут Беларускай літаратуры. (Як такое можа быць? – Можа. Сталася.) Так былі ліквідаваныя беларускія радыёстанцыі і зьнішчана беларускае тэлебачаньне. (Сталася!) Так былі спаленыя беларускія падручнікі для школаў. (Ня можа быць? Аўтадафэ? – Можа. Сталася.) Так быў складзены чорны сьпіс забароненых беларускіх музычных ансамбляў, музыкаў і сьпевакоў, некаторых выштурхнулі за мяжу. (Нельга паверыць. Навошта? – Можна паверыць! Сталася.) Так выганяюць з Горадзенскага ўнівэрсітэту беларускую прафэсуру за напісаньне кнігі пра гісторыю Гародні. (Але ж тое незаконна, гэта ненармальнасьць! – Гэта рэальнасьць. Сталася.). Так задушылі беларускі часопіс „Архэ". Як гэта? – А так гэта. Сталася!)

Зрэшты, каб пералічыць усе злачынствы антыбеларускага рэжыму перад беларускай культурай, мне спатрэбіліся б дзясяткі старонак тэксту. А калі да гэтага дадаць яшчэ палітыку, эканоміку, фінансавую і судовую сфэры, адносіны да людзей, – то сотні старонак.

Сістэма вынішчэньня вялікага беларускага (ліцьвінскага) народа была распрацавана ў Расеі даўно і ўжывалася на практыцы. Апошнія лубянскія распрацоўкі зьнішчэньня беларускай нацыі былі зробленыя пры саветах у 1980-х гадах і пазьней перанятыя пры Ельцыне ў 1995 г. (Сакрэтныя тэксты, аднак, друкаваліся на Украіне і ў нас.)

Беларускі Народны Фронт быў знаёмы і з гэтымі маскоўскімі плянамі, і з падыходамі, і ведаў, як супрацьстаяць антыбеларускай палітыцы.

Самы галоўны тэзіс расейскай тэхналёгіі захопу, выкладзенай у 1980-х гадах, заключаўся ў абавязковым зьнішчэньні нацыянальных каштоўнасьцяў, ведаў і ўяўленьняў пра такія каштоўнасьці ў народа, які трапіў пад маскоўскую акупацыйную распрацоўку. Абавязкова мусіла быць ліквідавана нацыянальная мова (цераз асіміляцыйную адукацыю) і веды пра мінулае (найперш пра гісторыю). Народ, пазбаўлены сваёй мовы і ўяўленьня пра нацыянальныя

каштоўнасьці, губляў здольнасьць да кансалідацыі, супраціўленьня і разьвіцьця. Ім можна было лёгка маніпуляваць і выкарыстаць для самаліквідацыі.

Ад ліпеня 1994 года пачалася інспіраваная з Масквы ўнутраная акупацыя Беларусі цераз унутраны легальны захоп улады з выкарыстаньнем выбарчых дэмакратычных працэдур. Пачалася антыбеларуская акупацыйная палітыка. Пра гэта мной ужо шмат сказана і напісана, пачынаючы з 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Паўтару тут толькі адно важнае палажэньне, без усьведамленьня якога нашае грамадзтва ня здолее супраціўляцца катастрофе. Гэтае палажэньне – веданьне пра палітычную мэту антыбеларускай палітыкі акупацыйнага рэжыму і пра шлях яе дасягненьня.

Мэта – (канцовая мэта) уключэньне тэрыторыі Беларусі ў склад Расеі з поўнай (праз русіфікацыю) заменай карэннага насельніцтва. Шлях дасягненьня – пакрокавы наступ, які ніколі не спыняецца. Гэта тыповая расейская палітыка з дзяржаўным ведамствам агрэсіі, разьлічаная – на ўвесь час для дасягненьня іхнай мэты. Гэта абазначае, што такая палітыка ня спыніцца ніколі, пакуль ня будзе дасягнута канцовая мэта. (Каб разумець гэта – памятаем запавет Каліноўскага.)

Крок за крокам ліквідуюцца беларускія асяродкі, газэты, выдавецтвы, арганізацыі, паступова, год за годам запаўняюцца агентурай установы, людзкія дачыненьні абстаўляюцца антычалавечым заканадаўствам, асобамі, функцыянерамі. Сёньня бураць адно, каб заўтра зваліць другое. Дзеля гэтага скарыстоўваюць ўнутраныя рэсурсы грамадзтва, што стварае ілюзію натуральнага існаваньня. Але потым ліквідуюць і гэтыя рэсурсы і заменяць чыньнікі ды структуры. Тут тыповая мэтадалёгія гэбізму – дзейнасьць супраць ворага за кошт рэсурсаў ворага. (Агентура ў псэўдаапазыцыі, напрыклад, дзейнічае і корміцца за кошт грантаў і грошай бесталковай Эўропы, а не за кошт рэжымнага бюджэту.) Крок за крокам абмяжоўваецца магчымасьць палітычнае дзейнасьці, арганізацыйнай справы, свабоды чалавека ў творчасьці, у прадпрыймальніцтве і гандлі і г. д. Антыбеларуская ўлада ўсё больш набліжаецца да этнічнай, канфэсійнай, вызнанёвай, адукацыйнай, сацыяльнай сутнасьці асобы, бо ў канцовай дыстанцыі ўсё, што ня роднаснае рэжыму і ягонай мэце, павінна зьнікнуць.

Калі цяпер так званым „беларускім" бізнэсмэнам, што суіснуюць з рэжымам, сказаць, што ў канцовым адрэзку вынішчэньня Беларусі яны будуць ліквідаваныя разам са сваім бізнэсам ня тое што па этнічнай, але нават па мясцовай (тэрытарыяльнай) прыкмеце, то яны б, пэўна, пасьмяяліся з разумным выглядам: маўляў, якая ерунда! („Чушь!") Але гэтая „чушь" такога самага роду, як ліквідацыя Беларускага ліцэя імя Якуба Коласа, як „аграгарадкі", як аўтастрада праз Курапаты, як „лінія Сталіна" (якой не было), як камэрцыялізацыя нацыянальнага тэатра. Гэта „чушь", якая робіцца абсурднай рэальнасьцю рэжыма, дзе цемра і неадукаванасьць выкарыстоўваюцца як тактычны сродак нацыянальнага разбурэньня. (Цемры тут ужо ніхто не саромеецца. Яна легалізавана.)

„Тэатр – гэта нацыя", – трапна сказаў расейскі драматург А. Астроўскі. Гісторыя ж (ня толькі беларуская) паказвае, што нацыя пачынаецца з тэатра. Нехта, відаць, расказаў пра гэта Лукашэнку, і над нацыянальным тэатрам навісла пагроза ліквідацыі.

Для правядзеньня акупацыйнай палітыкі Масква скарыстала тыпова падыходзячую кандыдатуру з комплексам антынацыянальнага беларусафобства мясцовага паходжаньня. Апошняя акалічнасьць выклікала спэцыфічнае вынішчэньне нацыянальнага грамадзтва, нешта кшталту палітычнай анкалёгіі, дзе самым сьмяртэльным ворагам чалавека становіцца яго ўласная ракавая клетка, якая перарадзілася.

Увогуле, тая шкода, што натварыла гэтая істота для Беларускай нацыі і культуры, ня можа быць кампэнсавана ніякім судовым прысудам (хоць тысячу гадоў турмы). Але недзе ж (магчыма) вісіць тая кропля, што перапоўніць чашу цярпеньня.

*Сакавік 2013 г.*

# БАЛАБОНЬСТВА, ЯКОЕ НАДАКУЧЫЛА

Гадоў праз 10-12 пасьля прыняцьця Дэкларацыі аб суверэнітэце БССР Станіслаў Шушкевіч пачаў рэгулярна хіхікаць наконт дэманстратыўнага выхаду Дэпутатаў Апазыцыі БНФ з залі парляманту перад галасаваньнем за Дэкларацыю, якую яны, практычна, самы напісалі і абаранілі на Сэсіі. Праўда, тады яму (які трымаўся разам з камуністамі) было ня сьмешна. Магчыма, ён гэтак жа, як потым некаторыя намэнклятуршчыкі, інтуітыўна зразумеў псіхалягічную моц гэтага нечаканага ходу з боку БНФ, які вырашыў вынік галасаваньня (хаця наўрад ці ён тое зразумеў), але цяпер, калі падрасло новае лукашысцкае пакаленьне, якое нічога ня ведае, спадар Шушкевіч сьпявае салаўём, як гогалеўскі Хлестакоў пра сорак тысяч кур'ераў: гэта, маўляў, аказваецца ён усё зрабіў, ўсё напісаў, ўсіх зьдзівіў, а БНФ – гэта „жарт", гэта „курёз" і г.д.

Дружба з КГБ, якой сп. Шушкевіч так выхваляецца, пачынаючы са справы Освальда, да дабра не даводзіць. Каб рэгулярна, як птушка джунгляў, паўтараць лухту, трэба, відаць, заслужыць моцную інтэлектуальную падпорку з асяроддзя перадавога атрада новай стабільнасьці, для якога кляпаньне на БНФ ёсьць справа прафэсійнага абавязку.

Вось цытата, словы С. Шушкевіча: „было створана дзве камісіі, якія дапрацоўвалі прапанову Дэкларацыі. Я ачольваў камісію, якая дапрацоўвала палітычны бок. Другая камісія займалася агульнымі пытаннямі. У выніку мы распрацавалі фактычна новую Дэкларацыю. Яна складалася з 12 артыкулаў. І менавіта гэтую Дэкларацыю прыняў Вярхоўны Савет". *(„Народная Воля", 26 ліпеня 2013 г., Серыва .)*

Дык вось. Не было створана „дзьве камісіі", і не „ачольваў" С. Шушкевіч ніякай камісіі. І не займаўся ён ўвогуле Дэкларацыяй. Для яго Незалежнасьць Беларусі называлася „гэта жарт". Была адна камісія, якую ўзначальваў Леанід Козік, які ня ведаў, што рабіць, бо ніхто з намэнклятурных членаў камісіі і ніхто з камуністаў не хацелі працаваць над Дэкларацыяй. Справа ішла да правалу працы камісіі, і тады Л. Козік у роспачы зьвярнуўся за дапамогай ў Апазыцыю БНФ (тады яшчэ Дэпутацкая група БНФ). Мы прынялі рашэньне ўсім пайсьці ў камісію Козіка і распрацаваць неабходны для Незалежнасьці тэкст. Гэта было зроблена.

На Сэсіі 26-га ліпеня 1990 г. Старшыня Камісіі Л. Козік, які прадстаўляў праект, заявіў, што тэкст падрыхтаваны Камісіяй з ўдзелам Дэпутацкай групы БНФ, а таму ён прапануе, каб праект Дэкларацыі (акрамя старшыні Камісіі) прадстаўляў на Сэсіі таксама кіраўнік Дэпутацкай групы БНФ. Прапанова была прынята Вярхоўным Саветам і я, як кіраўнік Дэпутацкай групы Фронту,

гэты тэкст Праекта Дэкларацыі прадстаўляў папераменна разам з Л. Козікам.

Усё гэта, пра што я тут вышэй пішу, адлюстравана ў стэнаграме Сэсіі. І хопіць хлусіць спадару Шушкевічу. Надакучыла гэта слухаць. Ён даў дарогу Лукашэнку з-за сваёй бесталковасьці і цяпер не сунімаецца супроць Народнага Фронта (які вывеў яго ў палітыку, дарэчы).

Тут яшчэ крыху прадоўжу пра Дэкларацыю. Ў канцы дня (26-га ліпеня), калі было ўжо прынята 10 артыкулаў з 12-ці, сярод часткі бэтоннай намэнклятуры пачалася паніка. Мой сусед па сэктары ў залі, камуніст Селівончык (намесьнік дырэктара МАЗа), крычаў у залю пра намэнклятуру: „Да оні с ума сошлі! Товарішчі коммуністы! Что это делается – Пазьняк павёл за собой Верховный Совет, а коммуністы не знают, за что голосуют!“

Вось гэты агрэсіўны настрой „бэтону“ быў вельмі небясьпечны. Дэпутаты-намэнклятура з абласьцей жылі ў гасьцініцах, і я быў больш чым ўпэўнены, што за ноч, сабраўшыся за бутэлькай, ім могуць „уставіць мазгі“ і ўсё перайграць, прымусіць рэвізаваць прынятыя палажэньні (так было ня раз). Раніца наступнага дня магла стацца для нас фатальнай. Дэкларацыю трэба было прыняць за адзін дзень (26-га), але тое не ўдалося. Таму назаўтра, паназіраўшы за настроем камуністаў і не чакаючы пачатку паседжаньня, я прапанаваў дэпутатам Фронту радыкальны псіхалягічны ход: раззлаваць камуністаў, і ў знак нязгоды з палажэньнем аб захаваньні СССР (якое мы прайгравалі пры любым раскладзе) пакінуць залю. Дэкларацыю яны прымуць на хвалі абурэньня ў піку нам, забыўшыся пра рэвізію. Бальшыня зь іх найчасьцей галасавала „ад адваротнага“ (гэта значыць, насуперак БНФ). Увогуле, дамагчыся нечага ў парляманце, дзе камуністаў было амаль 90 адсоткаў, можна было толькі іхнымі галасамі, таму наша тактыка была не стандартнай і, што самае важнае,– незразумелай для камуністаў.

Амаль палова нашых дэпутатаў сумнявалася і баялася ісьці на рызыку (надта ж вялікую цану маглі заплаціць). І тут я вельмі ўдзячны ім, што абавязак палітычнай дысцыпліны дазволіў нам правесьці гэтую акцыю бездакорна.

Што адбывалася ў залі пасьля нашага выхаду, падрабязна апісаў ў сваёй кнізе і артыкулах Сяргей Навумчык, які па дамоўленасьці застаўся ў залі разам зь яшчэ некалькімі дэпутатамі БНФ.

*27 ліпеня 2013 г.*

# СПАДАРЫНЯ РАІСА

У суботу, 4-га траўня 2002 года, вярнуўшыся зь беларускай дэманстрацыі, якую мы наладзілі на 1-й эвэню перад гмахам Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў, я патэлефанаваў спадарыні Раісе Жук-Грышкевіч у Канаду, каб выказаць свае меркаваньні пра яе ўспаміны аб стварэньні 50 гадоў таму Беларускага радыё *Вызваленьне – Свабода*.

Спадарыня Раіса да 1999 года была нязьменным сакратаром Рады БНР.

– Як шкода, – кажу я, – што той беларускі змагарны дух і тыя ідэалы Адраджэньня, на грунце якіх пачыналася беларускае радыё *Свабода*, зьніклі цяпер. Гэта ўжо ня радыё „Вызваленьне". Заступаюць людзі свайго інтэрасу, што ня стануць бараніць Беларусь.

– Ведаеце, я гэтаму ўжо не дзіўлюся, – адказвае спадарыня Раіса. – Я нічаму больш не дзіўлюся і не асуджаю, бо калі паглядзець, якое вынішчэньне, якую навалу перажыў (і перажывае зноў) наш народ, то можна толькі зьдзівіцца, што ён яшчэ жыве. Зьнішчэньне было ня толькі фізічнае, але і духовае, забіваньне Боскага, беларускага ў чалавеку.

Тут, у Канадзе, ёсьць цяперашнія людзі зь Беларусі. Яны іншыя. Яны зусім іншыя, чым мы. Я ўжо старая. Мне ўжо стала ўсё вельмі цяжка. Сэрца. Валіцца стары адзінокі дом. Надыходзіць Вялікдзень. У Вялікую Пятніцу ў Беларускай царкве вялікая служба, сьвяты абрад – вынас Плашчаніцы. А я ня маю сілы рухацца. Не, думаю, я мушу паехаць у Таронта, каб нават сваёй прысутнасьцю і памяцьцю пра сьвятое падтрымаць Беларусь. Я паехала і была ў нашай Беларускай царкве. Мне прыйшлося ў Таронта пераначаваць. Я толькі вярнулася і надта змучаная, але жыве мая душа.

(„Гэтыя паводзіны і словы духоўна жывых людзей, – падумаў я. – Яны харошыя і глыбокія. Толькі як растлумачыць іншым – мёртвым духоўна, – што такое жыццё?!")

– Усё трымаецца на духова вялікіх людзях, – прадаўжала спадарыня Раіса. – Калі ў 1921 годзе Беларусь падзялілі і нішчылі ў паасобку, то ў Заходняй Беларусі беларусам было ўсё ж такі крышачку свабадней. Хоць практыкавалася дыскрымінацыя беларусаў, але нас, прынамсі, хоць не расстрэльвалі, не адбіралі маёмасьць. Існавалі свабодныя прафэсіі. І вось нават у такіх умовах узгадаваліся гэтакія вялікія беларусы, як ***Адам Станкевіч***, ***Вітаўт Тумаш***, ***Антон Адамовіч***, ***Вінцэнт Гадлеўскі***, ***Мікола Абрамчык***. Яны павялі. Яны давялі беларускую сьвятую ідэю іншым, маладым і прагнучым ведаў. Да гэтых людзей належыў і мой муж.



*280. Раіса Жук-Грышкевіч. (Зьнята ў 1997 г.)*

Гэтак жыла Беларусь у экзылі, і гэтак у вялікіх ідэях яна вярнулася на Радзіму. Яны, нашыя змагары, стварылі тут моцную беларускую літаратуру, паэзію, арганізавалі выданьне беларускіх кніг. Уся расейская тайная служба змагалася тут супраць нас, шмат напсавалі, але нічога ў іх не атрымалася. Вось што значыць – *„наш беларускі вольны дух"*.

Голас спадарыні Раісы гучэў так узьнёсла. Па тэмбру і манеры, ён вельмі нагадвае мне голас ***Стэфаніі Станюты*** – легенды беларускага тэатра. Спадарыня Раіса таксама – легенда. Легенда любові да Беларусі і вернасьці беларускай справе. Я думаю, што Старшыні Рады БНР ***Вінцэнту Жук-Грышкевічу*** вельмі пашанцавала, маючы такую ўзвышаную і энэргічную жонку, як спадарыня Раіса. Пэўна, каб не яна, то ці меў бы ён і палову цяперашняй сваёй вядомасьці. Бо бальшыня людзей лянівая да пісаньня.

Спадарыня Раіса гаварыла доўга, нібы сьпяшаючыся як найбольш сказаць. Голас яе, крыху ўсхваляваны, там, на другім баку, у Канадзе, неяк самотна гучэў у цішыні. І я раптам адчуў гэтую цішыню ў эфіры, і гэты стары самотны дом у горадзе Бэры, дзе я ніколі ня быў, і вячэрні змрок у пустых пакоях, і меркнучае сьвятло за сьцямнелым вакном, на фоне чужога вясеньняга неба...

– Але жыла Беларусь і будзе жыць, – пачуў я ізноў, схамянуўшыся, далёкі голас. – Нішто не зламае наш дух і наш народ. Народзяцца лепшыя, узгадуюцца моцныя.

Гэтак мы гаварылі ва ўнісон, нібы падбадзёрваючы самых сябе. Хоць і тут, у Нью-Ёрку, побач з акіянам, – чужое неба за чужым вакном, і вечаровы шэры змрок запаўзае ў цьмяныя шыбы.

*Нью-Ёрк, 4 траўня 2002 г.*

# ЧЫТАЮЧЫ, ЗАДУМАЎСЯ

Гартаючы Сеціва, я натыкнуўся на ўспаміны Дануты Бічэль пра Аляксея Карпюка і Васіля Быкава, і адразу ж прачытаў фразу: „Васіль (Быкаў) аднойчы ў цемры, каб я ня ўскочыла ў лужыну, паклікаў:

– Хадзі на мой голас...

Я пайшла. Доўга йшла я на ягоны голас, пакуль ён ня ўцёк у Менск і ад сям'і, і ад нас усіх".

Просьценькая фраза пра вялікага Быкава, але штосьці такі сум напаў на мяне. Ну чаму мы такія прымітыўныя, недалёкія, чаму ня можам узьняцца высока і глянуць далёка? Сумна яшчэ і таму, што нават расейцы, літаратуру якіх я не люблю за яе шавінізм і перанасычанасьць злом, нават яны выглядалі высакародна ў дачыненьні да сваёй літаратуры, пісьменьнікаў і Айчыны.

Аляксандар Пушкін, талент якога цанілі сучасьнікі, вылучаўся нязносным успыльчывым характарам, пастаянна выклікаў нейкага на дуэль і забываўся прыйсьці, але сучасьнікі, ставячы яго высока ў рускай літаратуры, гатовыя былі нават ахвяравацца сабой. Аднойчы Пушкін пасьля нейкай сваёй чарговай выхадкі і непаразуменьня з жонкай выклікаў на дуэль пісьменьніка Ўладзімера Салагуба. (Салагуб пазьней лічыўся добрым пісьменьнікам.) „Што будзем рабіць?" – пытаюць у Салагуба сябры. „А нічога, – кажа Салагуб, – я выстралю ўверх". „А калі Сашка стрэльць у цябе?" – пытаюць. „Пушкін важней для рускай літаратуры", – адказаў Салагуб. (Дарэчы, Пушкін на тую дуэль не зьявіўся.)

Сумна ўсё гэта ўспамінаць, начытанае ў іншых, сустракаючыся з дрымучым правінцыялізмам нашых, які не забудзе, не даруе нічога й нікому: ні крыўды, ні стрэмачкі, ні няўвагі. І цяжка аказваецца зразумець, спазнаць веліч асобы вялікага нацыянальнага пісьменьніка – аднаго зь нямногіх, што прыйшоў у Беларускае Адраджэньне і паклаў сваю вядомасьць на алтар Беларусі. Ягоным духам і такімі, як ён, жыве беларуская вечнасьць.

*7 чэрвеня 2008 г.*

# ТАТАРЫ

Крымскія татары, што здаўна пасяліліся на Беларусі, адыгралі станоўчую ролю ў беларускай гісторыі і культуры. Па-першае, яны ваявалі за Беларусь, а некаторыя нават атрымлівалі за гэтую сваю службу і адданасьць шляхецкія прывілеі і гэрбы. Таксама беларускія татары – добрыя агароднікі і шмат паспрыялі ўкараненьню на Беларусі такіх цеплалюбівых культураў, як памідоры і агуркі.

Аднак найбольш беларусы ўдзячныя ім за спрыяньне беларускай мове ў часы ліхалецьця. Татарскія Аль-Кітабы, напісаныя ў XVII-м стагоддзі па-беларуску арабскімі літарамі, данесьлі водар беларускай мовы таго часу. Татары пісалі тады па-беларуску, зыходзячы не з кніжнай традыцыі, а з гутарковай беларускай мовы і ейнага гучаньня. Аль-Кітабы паказалі, што беларуская гутарковая мова XVII-га стагоддзя не адрозьнівалася ад цяперашняй. Ёсьць і аканьне, і дзеканьне, і цеканьне і г. д. Увогуле, усё гэта было ў беларускай мове спрадвеку, яшчэ з дапісьмовых часоў. Аднак паколькі расейска-савецкае каляніяльнае мовазнаўства прыдумала антынавуковы тэзіс аб нібыта „ўтварэньні" і разьвіцьці беларускай мовы ў позьнім сярэднявеччы, то Аль-Кітабы якраз давалі добрыя аргуманты ў барацьбе з саветамі супраць іхняе прымітыўнае „навукі", якая абслугоўвала палітычныя інтарэсы расейскага каляніялізму.

* * *

Беларускіх татараў я крыху ведаю, бо ў юнацтве жыў зь імі побач у Івейскім раёне, быў у мячэці, на татарскіх памінках і ў татарскім асяроддзі, маю да іх сантымэнты, добрыя ўспаміны і прыязныя адносіны.

Памятаю, у 1984 годзе я праводзіў археалягічныя раскопкі на Івейшчыне. Атмасфэра тады, што ў вялікім Менску, што ў мізэрным Іўі, была невыносная. Духата. Удушша. Чад. Духоўнае калецтва, інтэлектуальны дэбілізм. Ніякіх людзкіх паняцьцяў пра Беларусь, пра беларускі народ, пра культуру, нацыю і беларускія інтарэсы, пра незалежнасьць і свабоду. Цёмная ноч, расейскія п'яныя песьні, вясковая буфетчыца ў Іўі пытае: „Пачэму разгаварываеце па-беларускі?" і раіць класьці „буракі асобенна, а маркоў – асобенна".

І вось тады я йшоў у Татарскі Канец (вуліца ў Іўі, дзе жывуць татары). Там не чуваць было ні ламанай расейшчыны, ні рускай лаянкі, ні „слыш, мужык, дай закурыць". Іншы сьвет. Там я чуў чыстую беларускую мову і нармальную гаворку. Там, як і ўсюды, свае беды, свае веды, свае праблемы і свае цяжкасьці, але пытаньне мовы не падважвалася. „У нас мяшанцаў нямашака, – кажа татарка Галія, – наш усенькі род спрадвеку быў. Мы чыстыя татары."

„Мы молімся і за гэтых, і за тыхсьветных,– тлумачыць мне Муста (Мустафа, значыць). – Мы на Беларусі здаўна жывём, яшчэ як кароль Вітаўт крулявоў.”

Беларускія татары лічылі беларускую зямлю сваёй Бацькаўшчынай і адносіліся да яе як да роднай. Беларуская дзяржава ад пачатку ня ставіла задачы асіміляваць палонных татараў, навярнуць іх на хрысьціянства і г.д. Ім далі зямлю, правы, гарантавалі рэлігійную і культурную свабоду, ня ўмешваліся ва ўнутраныя справы.

Гэты грунт нармальных дачыненьняў, закладзены здаўна, дапамог татарам (хоць і зь велізарнымі стратамі) вытрымаць і расейскі забор, і бальшавіцкі камунізм. У 60-х гадах цяперашняга стагоддзя іх было на Беларусі (па афіцыйных зьвестках) каля васьмі тысячаў, існавала адна дзейная мячэць (у Іўі).

У нас склаліся дабразычлівыя традыцыі, ёсьць добрыя пэрспэктывы дачыненьняў зь беларускімі татарамі ў незалежнай дэмакратычнай Беларусі. Беларускія татары – гэта наш народ, і яны засьведчылі гэта гістарычна. У адрозьненьне ад іншых меншыняў, у іх няма цяпер другой Бацькаўшчыны, акрамя Беларусі. Беларуская дзяржава павінна дапамагчы беларускім татарам аднаўляць страчанае ў пэрыяд камунізму, бо страты былі агульныя.

Але дзеля гэтага мы павінны ўмацаваць нашу беларускую дзяржаву і незалежнасьць, аднавіць дэмакратыю і права.

Я ўвогуле лічу, што дапамагчы беларускім татарам ёсьць наш маральны і грамадзкі беларускі абавязак. Жыцьцё засьведчыла, што ў часы ліхалецьця ў дачыненьні да беларушчыны беларускія татары часта аказваліся больш вернымі і пасьлядоўнымі, чым самы беларусы.

Разбуральныя працэсы глябалізацыі і найперш – аднаўленьне рускага імпэрыялізму і каляніяльнай палітыкі – навалілiся ня толькі на Беларусь і паўночны Каўказ, але закранулі ўсіх, нават такую нешматлікую групу народа, як беларускія татары.

У канцы жніўня гэтага года, напрыклад, выступіў па радыё *„Свабода”* муфцій мусульманаў Беларусі **Ізмаіл Александровіч** і сказаў: „Службы і казаньні ў мячэцях Беларусі раней чыталіся на арабскай мове. Цяпер мы стараемся казаньні перавесьці на знаёмую для большасьці вернікаў рускую мову. У Беларусі мусульмане – гэта ня толькі карэнныя татары, але прыехаўшыя азэрбайджанцы, узбэкі, таджыкі, афганцы, чачэнцы і інш.”

Калі б уявіць, што русіфікацыя мячэці на Беларусі адбудзецца, то можна з абсалютнай упэўненасьцю сказаць: на гэтым скончацца беларускія татары на Беларусі. Не ўяўляю, каб нешта падобнае пра рускую мову ў мячэцях мог сказаць муфцій у Таджыкістане ці ў Афганістане, чые вернікі прыехалі ў Менск. Але сутнасьць у іншым. І тэзіс, і аргумэнтацыя ёсьць руцінна-расейскія і руцінна-каляніяльныя, якія вось ўжо 200 гадоў гучаць у вуснах рускага імпэрскага афіцыёзу. Кожны сакратар партарганізацыі КПСС у Беларусі быў вывучыўшы назубок аргумант аб адзінай рускай мове дзеля „прыехаўшых”.

***Рэанімацыя імпэрскіх аргумантаў ёсьць наступства антыбеларускага акупацыйнага рэжыму Лукашэнкі, вынік агульнага наступу і агрэсіі рускага імпэрыялізму. Тут адна хвароба і адна палітыка. Не разумна было б думаць, што калі зьнішчаецца беларуская дзяржава, беларуская нацыя, беларуская культура, гісторыя, беларуская школа і беларуская мова, то застанецца нейкая іншая гісторыя, школа, народ, культура ці мова, акрамя расейскай.***

* * *

Памятаю, калі першы раз прышоў у мячэць і зьбіраліся перад службай вернікі ды сядалі на падлозе, я зь вялікім задавальненьнем слухаў мэлёдыю беларускай мовы, як разважна-павольна размаўлялі з выгляду стопрацэнтныя беларускія сяляне Ібрагім ды Муста, Язэп (Ізмаіл) ды Ях’я.

– Ну дык пара ўжо й пачынаць, пэўня,– кажа нехта.

– Але. Дык хто ж палезе?

– Дык хто – Муста, во.

– Ат, нешта лянуюся, увесь час лажу. Хай Ібрагім.”

Ібрагім нясьпешна пачаў падымацца па лесьвіцы на гару, а сяляне-агароднікі з гэтакай беларускай, як мне здавалася, самавітасьцю паселі ў радок і падрыхтаваліся да малітвы.

І раптам з гары рэзкім і гарлавым голасам па-чужому залемантаваў Ібрагім. Мячэць перамянілася ў імгненьне вока, зьніклі мужычкі-беларусы. Азія, незразумелая і таемная, малілася гарлавымі гукамі. Прарэзьлівы голас малны*, ад якога трымцела, здавалася, шкло, чужыя словы, значэньня якіх ня ведаў ніхто, пранікалі ў душу, як самум, як гарачы вецер пустыні... Лавіна татарскай коньніцы.

Я быў агаломшаны, уражаны да глыбіні душы. Я ўбачыў у рэальнасьці, адчуў па мурашках на скуры містычную магутнасьць мовы. Тады я зразумеў, што гук, мэлёдыя мовы для душы чалавека важнейшыя за значэньне слоў. Для розуму – зьмест, мэлёдыя – для сэрца.

Скончылася маленьне. Зноў зьявіліся мужычкі, беларусы-агароднікі, стоўпіліся перад выхадам, дзяліліся булачкамі, раздавалі гальму,** жартавалі ды нясьпешна выходзілі за дзьверы ў ліпеньскі змрок, дзе пахла мальвамі і кропам. І дробненькі дождж шапацеў аб бульбоўнік.

---

* мула

** рытуальная яда

# ДАРОГА Ў ВІЛЬНЮ

Калі ехаць альбо ісьці па дарозе, заўсёды некуды трапіш. Я вельмі люблю дарогі, асабліва ў нас, у Беларусі. Я гляджу на іх, як на творы мастацтва, вечным удзельнікам якога я зьяўляюся сам, калі проста іду па дарозе, узіраючыся перад сабой. Яна ўцягвае, як вір, як магніт, калі імкнешся ўбачыць, што там, за паваротам, за лесам, за блізкай гарой, за далячынньню і небаспадам. І душа шчыміць.

Тут дарога, як сымвал пазнаньня, якое вядзе да мэты. Можна, вядома, пазнаць сьвет, не выходзячы са двара, аглядаючы і раздумляючы аб пераменах. Але дарога пашырае гарызонт у бясконцасьць і ўздымае дух, бо рухацца заўсёды прыемна.

На Віленскіх горах,
На ўзвышшах Ашмянскіх,
Між палёў, у дарозе
Не сьпяшаю.
Павольна іду.
Прысяду на камень-валун,

Адпачну.
Аблокі ўсплываюць
З-за сіняга йльну.
Маўчу.
Нідзе не спаткаў я такое красы.
На дзесяць кілёмэтраў – жыта з гары
Гайдаецца морам,
Шумяць каласы.
О, мілы прастор дарагой Стараны!
Ня хочацца верыць,
Што некалі ўмру
І болей Цябе не убачу.
Прысяду на камень-валун,
Адпачну.
Бязгучна ад радасьці плачу. *1981 г.*

У маладосьці было безьліч дарог, па якіх я любіў хадзіць. Але была сярод іх адна рытуальная дарога, якая спараджала шчымлівую мэдытацыю і сьветлую радасьць душы, – гэта дарога ў Вільню, у горад гарадоў, у горад-сон, які ўсплываў пад аблокамі, набліжаўся з-за сініх пагоркаў, нібы казка, і пасяляўся ў маім жыцьці.

О, Вільня, як жывіш Ты маё сэрца.
У час спатканьня іду на пляц.
Вось мур,
Дзе апошні позірк Каліноўскага.
Доўга гляджу,
Каб панесьці з сабой у душы. *1986 г.*

Сюды, на месца забойства Каліноўскага, я прыходзіў заўсёды, як прыяздждаў у Вільню, браў кветкі на вакзале і йшоў пехатой. Непадалёк стаялі груваcткія лавы з чыгунным ліцьцём. На іх ня раз прыходзілася сядзець, назіраючы, як над вежамі Дамініканскага касьцёла Піліпа й Якуба кружацца каўкі ў асеньняй імгле. Гэта Вільня.

І вось я тут ізноў
На імгненьне вярнуўся з чужыны.
Як жывецца мне Вільняй!
Сонца заходзіць за сьветлы касьцёл,
Арганы, імша,
Птушак зграй.
Каўкі лятуць
з-пад шыбеніцы
Кастуся... *2001 г.*

Непадалёк ад дома, дзе некалі, перад вайной, жыў мой бацька, дзед і бабуля, знаходзяцца муры, у якіх Каліноўскі перад сьмерцю пражыў апошнія дні... Тут пісалася „Марыська чарнаброва, галубка мая...”

Нішто не зрабіла тады на мяне такога вялікага ўражаньня, як пісаньне вершаў перад наканаванай сьмерцю, якія гучаць цяпер, нібы звон. Так мог паводзіць сябе чалавек, які жыў вечнасьцю.

Так яно і было. Людзі, што змагаліся за долю і волю ўсяго народа, сапраўды рабіліся часткай вечнасьці, бо ахвяраваліся будучыні. І шмат хто ўсьведамляў гэта сам.

Перад домам на былой *Людвісарскай,9* я і цяпер спыняюся даўжэй і часта пазіраю на вокны. Але нікога я ўжо там ня ўбачу. На верхнім паверсе жыў мой дзед ***Ян Пазьняк*** з сям’ёй. Тут жа рабілася і выдавалася ***„Беларуская Крыніца”*** – самая вядомая і папулярная беларуская газэта на Віленшчыне. Тут жа, унізе, у прыбудове, у друкарні, гэтая газэта і друкавалася; Ян Пазьняк, адзін з кіраўнікоў Беларускай Хрысьціянскай дэмакратыі, быў яе нязьменным рэдактарам у міжваенны час.

Пачатак дарогі сюды завязваўся з Суботнікаў праз Шадзюны, Дзявенішкі, Вялікія і Малыя Салечнікі, Яшуны, часта з заездам у Тургелі, Паўлава ды Рудоміна. Кожны год у час студэнцкіх канікулаў я мусіў па ёй праехаць летам, калі красуе жыта, буяе прырода і воблакі над дарогай. Мінаюць мястэчкі з касьцёламі, лясы і сосны, хутары з адрынамі і гонтам, прысады з тапалёў і сіні брук бяжыць пад колы, як стужка шчасьця, бо ўсё гэта было перажываньнем Радзімы, адчуваньнем Бацькаўшчыны найпрыгажэйшай. З Бацькаўшчынай, як з каханай, добра быць разам,ісьці па яе дарогах, ляцець, каб убачыць усю.

Цяпер шмат што перамянілася. Паўтарыць той шлях мне ўжо немагчыма, але ўбачыць яго фрагмэнты – можна, бо ўсё яшчэ жыве.

Мне рэдка прыходзілася бываць тут у лістападзе, у чорную восень і змрочны час, калі кароткія цёмныя дні, дажджы і імжа, голае сучча і пустыя палі. Можа, каму ўсё здасца непрыемным, панурым і шэрым, а мне – дык і нічога: я люблю гэтую зямлю нават у цёмную ноч. Тады яна сьвеціцца адзінокімі агнямі, пахне прэлай травой і скапаным бульбяным полем, а ў цемры і цішыні булькоча самотная Солча і Мерач і коціцца плыньню Вяльля.

Дык паедзем зь Вільні дарогай наадварот.

Першы наш прыпынак – мястэчка **Яшуны**. Паселішча разьмешчанае на ўскрайку **Рудніцкай пушчы**, вядомае з самага пачатку XV-га стагоддзя, родавая сядзіба ***Радзівілаў***, было падвіленскім месцам збору вялікакняскага паляваньня. У 1811 годзе Яшуны купіў у Радзівілаў полацкі шляхціч ***Ігнат Балінскі***, бацька шырока вядомага беларуска-польскага гісторыка і дасьледчыка ***Міхала Ігнатавіча Балінскага***.

Міхал Балінскі ператварыў Яшуны ў цэнтар краёвай культуры. Тут бываў ***Адам Міцкевіч***, тройчы прыяздждаў ***Юльюш Славацкі***, гасьцявалі вучоныя браты ***Сьнядэцкія***, ***Тамаш Зан***, ***Антон-Эдвард Адынец***, ***Мяноўскі***, ***Ваўжынец Путкамэр*** з **Бальцэнік**, князь ***Павел Брастоўскі*** з **Тургеляў**, ***Яўхім Лялевель*** і іншыя асобы. Тут ладзіліся дыспуты і літаратурныя вечары.

У 1828 годзе Балінскі разам са Сьнядэцкімі пабудавалі тут мураваны палац і засадзілі вакол вялікі парк з сажалкай і гаспадарчымі пабудовамі. У якім стане цяпер існуе гэты палац, мы бачым. Мярзота запусьценьня.

Удакладню, што саветы тут ні пры чым. За саветамі палац выкарыстоўвалі для адміністрацыйных патрэбаў, і ён так не разбураўся. Тое, што бачым цяпер, ёсьць вынік маразму апошніх 20 гадоў. Усё гэта – чужая гісторыя для тых, ад каго залежыць яе захаваньне.

Балінскія ўдзельнічалі ў паўстаньні 1830-31 гадоў, выцерпелі высылку ў Сібір, пакінулі пасьля сябе ў Яшунах прыватныя родавыя могілкі Балінскіх-Сьнядэцкіх (Балінскі быў жанаты на Зоф’і Сьнядэцкай. Яны былі сваякамі.) Гэтыя могілкі захаваліся і дагледжаныя вернікамі Яшунскага касьцёла.

Якраз каля гэтага касьцёла едзем далей на **Малыя Салечнікі**. Мінаем прыгожую рэчку Мерачанку, правы прыток Нёмана, і коцімся наперад.

Малыя Салечнікі ад пачатку XVI стагоддзя належылі ***Глябовічам***, потым аж да канца XVIII-га імі валодалі ***Хадкевічы***, затым паселішча адкупў ***Мікалай Мяноўскі*** – вядомы віленскі лекар і прафэсар унівэрсітэту.

У 1834 годзе Мяноўскі пабудаваў тут драўляны касьцёл, каля якога на могілках знайшоў свой вечны супачынак.

Наш шлях ляжыць у **Вялікія Салечнікі**. Цяпер гэта горад і цэнтар раёна. Паселішча, вядомае з 1311 года, належыла Глябовічам, шмат разоў было спалена ў войнах. У 1939 годзе, пасьля пачатку 2-й Сусьветнай вайны, разам з **Друскенікамі** і іншай часткай **Віленшчыны** было далучана і ўзьяднана зь Беларускай ССР. Аднак праз год, восеньню 1940 года, у выніку сталінскай камбінацыі і ўваходу Летувы ў СССР, Салечнікі перадалі Летувіскай ССР. Так яны там і засталіся зь Вільняй і ўсёй Віленшчынай.

На ўезьдзе ў Салечнікі з боку Вільні нас спатыкае вядомая на ўсю ваколіцу ***капліца Маткі Боскай***. Гэта помнік малой архітэктуры канца XVIII стагоддзя аўтарства архітэктара ***Ваўжынца Гуцэвіча***. Капліца перажыла ўсе войны, паўстаньні і акупацыі і да сёньня вітае ўсіх на дарозе.

Далей на ўскрайку Салечнік мы бачым новы касьцёл, пабудаваны нядаўна, а побач – вялікія могілкі. Яны існавалі тут ужо ў XVIII стагоддзі. У 1821 годзе ўвосень тут гасьцяваў у мясцовага ксяндза ***Адам Міцкевіч*** і якраз у гэты час на гэтых могілках назіраў беларускі абрад Дзядоў. Абрад зрабіў на паэта вялікае ўражаньне і паслужыў штуршком да напісаньня знакамітых міцкевічаўскіх „Дзядоў”.

Ёсьць у Салечніках і помнік Міцкевічу, праўда, арыгінальны хіба што поўным мастацкім няўмельствам.

Затое значна лепш і на добрым узроўні выглядае помнік ***Кастусю Каліноўскаму*** і паўстанцам 1863 года, аўтарства ***Валерыяна Янушкевіча***, пастаўлены па ініцыятыве Беларускага цэнтру культуры ў Салечніках.

Едзем у **Дзявенішкі**. Гэта мястэчка, ля якога пачынаецца Гаўя; рака, што ўплыла ў маё жыцьцё. У XVI стагоддзі тут жыў і тварыў вядомы беларускі пісьменьнік і паэт ***Андрэй Рымша***, заснавальнік панегерыстычнай паэзіі. У 1580-х гадах ён выдаў вядомую „Храналёгію”. Гэта, фактычна, своеасаблівы каляндар у старабеларускай мове.

Як і ва ўсіх мястэчках, тут гандлёвая плошча, касьцёл са званіцай і брамай, крыжы і капліцы на пачатку дарог. Касьцёл існуе з XVIII стагоддзя, перабудаваны ў XIX-м, а ў 1903-м пабудавана званіца.

У кожным мястэчку ёсьць шмат цікавага, але нас кліча дарога. Імчым у **Тургелі**. Гэтае мястэчка некалі называлася **Малы Мерач**, бо стаіць на прыгожай рацэ **Мерачанцы**, якая таксама некалі называлася Мерач. Касьцёл Маткі Божай, што віднеецца з усіх дарог, фундаваны быў яшчэ ў 1511 годзе панамі-шляхтай ***Мангірдовічам***, ***Габрыяловічам*** і ***Міхневічам*** (каларытныя прозьвішчы). Мураваны выгляд яго з 1837 года і апошняя дабудова ў 1897-1909 гадах. Будынак магутны, пануе над навакольлем.

З 1932 па 1950 гады тут працаваў вядомы ў ваколіцы ксёндз ***Юзаф Абрэмскі***. Ён і цяпер жыве ў **Майшаголе** ва ўзросьце **106** гадоў. Мне здарылася размаўляць з гэтым разумным чалавекам. У 30-я гады ён сябраваў зь легендарным генэралам ***Люцыянам Жалігоўскім***, які ў той час жыў непадалёк у маёнтку **Аляксандрава**. Па расповядах ксяндза, знакаміты беларускі шляхціч з-пад **Ашмян** Люцыян Жалігоўскі ў дзяцінстве пасьвіў авечак. Ягоных бацькоў за ўдзел у паўстаньні 1863 г. саслалі ў Сібір, і даглядала сірату цётка. Жыў ён у беднасьці, і калі надумаў вучыцца на ваеннага, то прышоў у Вільню пехам і босы, амаль зусім ня ўмеў размаўляць ні па-руску, ні па-польску. І што ж, дзякуючы сваёй волі, характару і здольнасьцям, прабіўся, стаў афіцэрам, удзельнічаў у руска-японскай вайне, быў тварцом дзяржаўнасьці так званай „Сярэдняй Літвы” (Віленшчыны вакол Вільні), разам з другім легендарным генэралам-беларусам ***Станіславам Булак-Балаховічам*** Жалігоўскі сказаў рашаючае слова ў перамозе над бальшавікамі пад Варшавай у 1920 годзе – у бітве, якая ўратавала Эўропу ад камунізму.

У 1825 годзе ў Тургелях нарадзіўся таксама вядомы беларускі мастак ***Эдвард Паўловіч***. Але, відаць, найбольш арыгінальнай гістарычнай фігурай Тургеляў быў князь ***Павел Брастоўскі***.

Каб расказаць пра яго, спусьцімся на кілёмэтр-два ўніз па Яшунскай дарозе. Зьлева і справа мы бачым руіны муроў. Гэта **Паўлава**, рэшткі маёнтка, брамаў і пабудоваў Паўлаўскай рэспублікі Брастоўскага.

Гісторыя яе такая. У 1767 годзе Павел Брастоўскі купіў занядбаны маёнтак Мерач каля Тургеляў. Праз пару гадоў ён давёў яго да квітнеючага стану, правёўшы неверагодныя на той час рэформы.

Найперш ён зьнёс прыгоннае падданства для сваіх сялян. Потым увесь свой маёнтак з землямі і насельніцтвам аб’явіў Рэспублікай, асобнай дзяржавай. Напісаў і зацьвердзіў Канстытуцыю сваёй „Паўлаўскай Рэспублікі”, якой кіраваў выбраны прэзыдэнт (ён жа, Брастоўскі). У рэспубліцы быў абраны і дзейнічаў Сойм з грамадзян рэспублікі, існаваў суд, народная міліцыя, было створана войска, на ўзбраеньні якога былі нават гарматы. У рэспубліцы былі свае грошы, Гэрб і Сьцяг, дзяржаўная школа, дзяржаўны лекар і Канстытуцыя.

Сяляне, адчуўшы волю, выгаду і парадак, сталі лепш працаваць і рупіцца пра зямлю. Справы пайшлі ў гару, народ зажыў, і ў 1791 годзе Сойм Вялікага Княства і Польшчы (гэта значыць Рэчы Паспалітай) прызнаў і зацьвердзіў Канстытуцыю Паўлаўскай Рэспублікі.

Якраз неўзабаве выбухнула паўстаньне пад кіраўніцтвам ***Андрэя Касьцюшкі***. Паўлаўская міліцыя і войска добра ваявалі ў аддзелах паўстанцаў.

Такая ёсьць гісторыя гэтага месца і дзейнасьці слаўнага князя Паўла.

Цяпер мы бачым тут рэшткі прэзыдэнцкага палацу, руіны брамаў і пабудоў, бяспамяцтва і запусьценьне. Тут гэтак жа, як і ў Яшунах і іншых месцах, нікога з цяперашніх уладальнікаў гэтай зямлі не цікавіць чужая гісторыя, памяць якой зарастае травой.

Вяртаемся ў Вільню апусьцелым шляхам глыбокае восені. Раздумляючы над Паўлаўскай Рэспублікай, Радзівіламі, Балінскімі, Глябовічамі, Мангірдовічамі ды Солтанамі, праймаюся тым, што разумею і бачу: дзьвесьце гадоў генетычнае вынішчэньне нашага вялікага народа мела характар масавых экзэкуцыяў, характар ліквідацыі роду. Асабліва вызначыліся ў гэтым бальшавікі. Тут, відаць, найглыбейшая страта. Пазбаўленьне ад лепшых стварае грамадзтва эгалітарнай інэрцыі з замкнутым цыклам самазьнішчэньня. Выйсьце з гэтага цыклу запатрабуе надзвычайных высілкаў асьветы і чыну, і часу.

Уязджаем у Вільню ўжо прыцемкам праз **Вострую Браму**. Гэта сакральнае месца нашых уяўленьняў і ўсёй беларускай гісторыі. У капліцы найсьвяцейшы абраз **Маці Божай Вострабрамскай**, які належыць гісторыі і ўсім хрысьціянам Беларусі, і, як лічыць традыцыя, – гэта вобраз нябеснай заступніцы нашай Краіны.

А на самой браме ёсьць легендарны барэльеф Пагоні, бессьмяротна ўслаўлены ***Багдановічам***. Пры саветах верш Багдановіча быў забаронены, бо ведалі непрыяцелі, што гісторыя вяртаецца тым, у каго пасяляецца ў сэрцы.

Дзе ні глянь –
Разьлягаецца наша
Вялікае Княства.
Ад замку да замку
Сьпяшае мой конь.

З паднятай прылобіцай
Рыцар імкне,
Аружжа блішчыць:
– Слава Хрысту!
– На векі вякоў
векавечная слава!
Ніхто не разбурыць
наш радасны сьвет.
Ніхто не парушыць спакою.
Ад мора да мора наш рай.
На самым краі Баганоснай зямлі,
Як вецер,
Імчацца пагоні,
І пыл
асядае
на конях. *2005 г.*

*8 лістапада 2010 г.*

# СЭНТЭНЦЫІ

## ВЕРШ ГЕНІЯ

У часіны, калі аднадумцы зьбіраюцца разам і іншыя гатовыя іх пачуць, трэба, як я лічу, заўсёды і абавязкова паўтараць і ўспамінаць словы Вялікіх беларусаў пра Вялікую Беларускую Мову. Бо няма нічога вышэйшага для нацыі, чым яе мова. Гэта каштоўнасьць „нумар адзін”, угрунтаваная натуральным правам.

Пра мову народа гэтак жа, як і пра каштоўнасьць жыцьця, не дыскутуюць, бо іхняя існасьць і патрэбнасьць неаспрэчныя і несумненныя. Іх шануюць.

Шмат хто на сьвеце гаварыў пра сваю мову: філосафы і паэты, навукоўцы і мысьляры. Але ніводзін філосаф і ніводзін паэт ня выказаўся глыбей, чым наш вялікі *БАГУШЭВІЧ*: ***„Шануйце мову нашу беларускую, каб ня ўмёрлі”***.

Услухаемся і задумаемся. Гэтыя словы ёсьць наймудрэйшы, найкарацейшы і найпрыгажэйшы верш генія. Ніхто на сьвеце пра мову не напісаў лепш.

## БЫКАЎ

Васіль Быкаў ёсьць у поўным сэнсе нацыянальны пісьменьнік. Гэта значыць, што ён адлюстроўваў у вобразах нацыянальны тып характару і духа беларуса.

І ў лёсе гэтых яго нацыянальных вобразаў адбіўся лёс народа. Быкаў – быў. Ён панаваў на гэтай вышыні. Для мяне важна, што ён падняў беларуса над усім сьветам, і паказаў яго такім, які ён ёсьць. І ў велічы, і ў слабіне. Чытач-беларус бачыць сябе, і робіць свае высновы. Тут яшчэ зазначу: Быкаў-пісьменьнік сусьветнага ўзроўню, які стаяў вышэй над усімі сучаснымі пісьменьнікамі. Іншым гэта цяжка зразумець, таму што Быкаў – беларускі пісьменьнік, а беларуская нацыя – у заняпадзе. 200 гадоў яна існавала пад акупацыяй, і іншым людзям (а яшчэ больш і сваім) цяжка перамагчы стэрэатып невядомасьці народа і незнаёмства зь яго культурай. Я лічу, што Быкаў недасягальны для глыбокага зразуменьня ў заходнім грамадстве. Ён для іх занадта самабытны, занадта здаровы і занадта вялікі.

## ПАПА

Папа Ян Павал Другі – гэта найвялікшы чалавек 20-ага стагодзьдзя. І ня толькі 20-ага. Гэта – знакавая асоба хрысьціянскай эпохі.

Гэта быў сапраўды Павал другі на Зямлі. У ім было нешта апостальскае і Боскае. Ён яднаў вобраз Зямлі і Неба. Ягоная асоба, ягоны вобраз у белым адзначаны ў прароцтвах Фацімскай Божай Маці. У прароцтвах, якія збыліся. Ягонае жыцьцё і навучаньне – гэта прыклад, сьветач і выхад для сучаснага чалавецтва, якое апускаецца ў гразь бязбожжа і распусты. Ягоная дзейнасьць адчыніла новую эпоху ў гісторыі – разваліўся камунізм.

Пасьля сьмерці Яна Паўла Другога пачнецца, я думаю, новы паварот у гісторыі Зямлі. Мяркую, што ўзмоцніцца наступ цемры. Але адначасна, як і 400 гадоў таму, зьявіцца асэнсаванае змаганьне са злом.

## „ХУДОЖНІК” І ВАСЯ

Калі Пуцін заявіў пра пляны анэксіі Беларусі, прамаскоўская „Белорусская газета”* спытала ў „народного художніка СССР” Міхаіла Савіцкага („спэцыяліста” па ўсіх пытаньнях): „А вам нашу Радзіму шкода?”

„Абсалютна не, – адказаў Савіцкі. – А куды Беларусь дзенецца, зьнікне, ці што? Справа ў тым, што залежнасьць Беларусі ад Расеі была вечнай, таму наша краіна не валодае прыроднымі багацьцямі, без якіх немагчымае сучаснае разьвіцьцё эканомікі. Таму нам усёроўна не абысьціся без саюзу.”

Тады ў віна-водачнай краме ў менскім мікрараёне „Малінаўка” спыталі пра тое ж аднаго пастаяннага наведвальніка, „проста Васю”. Проста Вася сказаў гэтак: „...Мы будзем абараняцца. І тады вайна з Чачэніяй можа здацца Расеі дзіцячым лепятаньнем”.

Вось як бывае, братове. У гісторыі Бацькаўшчыны ўзьнікаюць часам такія павароты, што абараняць яе гатовы п’яны Вялікі Вася, пасьля таго, як без шкадаваньня абплюе і здасьць яе „художнік”.

Няма лішніх беларусаў. І калі ўбачыце, што ляжыць Вялікі Вася – падайце яму руку.

* Белорусская газета, – 2002, 19 жніўня

# СТВАРЭНЬНЕ І ЗНАЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

***(Да 25-годдзя ўтварэньня)***

Беларускі Народны Фронт – гэта народны рух і палітычная арганізацыя адначасна, якая змагалася ў Беларусі з камунізмам за дэмакратыю і незалежнасьць краіны. Аргкамітэт Фронту быў утвораны 19 кастрычніка 1988 года. 23-24 чэрвеня 1989 года ў Вільні адбыўся Першы ўстаноўчы Зьезд БНФ. 25 жніўня 1991 года Народны Фронт дамогся рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і спыніў дзейнасьць КПСС-КПБ. Упершыню за 200 гадоў расейскай акупацыі Беларусь рэальна стала незалежнай дзяржавай. Камунізм як палітычная сістэма і ідэалёгія быў ліквідаваны. Але ўся структура дзяржаўнай улады засталася ў руках старой камуністычнай, і што істотна – прамаскоўскай каланіяльнай адміністрацыі. Гэта прадвызначыла далейшы ход падзей. Сілы былі несувымерныя, а грамадзкі ўздым пасьля фармальнай ліквідацыі КПСС пайшоў на спад.

Сытуацыя вымагае тлумачэньня для сучаснага малаінфармаванага чалавека, чаму ў 1991 годзе пасьля краху КПСС у Эстоніі, Латвіі і Летуве ўладу лёгка перанялі нацыянальныя сілы, а ў Беларусі і на Ўкраіне засталіся старыя каланіяльныя ўлады.

Адказ просты: таму што ў Прыбалтыйскіх савецкіх рэспубліках нацыянальныя сілы былі ва ўладзе пры камунізме, а ў Беларусі і на Ўкраіне – не.

У савецкай Беларусі нацыянальная адміністрацыя была вынішчана ў выніку рэпрэсіяў яшчэ ў 30-х гадах, усе беларускія школы ў гарадах зачыненыя, нацыянальная ідэя аб’яўлена буржуазнай і антысавецкай, а беларуская мова ў публічным ужываньні – праявай антысавецкага нацыяналізму.

У Беларусі не было нацыянал-камуністаў. На месца забітых прысылалі кадры з Расеі. Яны плюс кіроўныя партызаны НКВД, якія вайной вынішчалі беларусаў, а пасьля вайны перанялі ўсю ўладу ў Беларусі, стварылі тут атмасфэру нянавісьці да ўсяго беларускага. Уся камуністычна-савецкая адміністрацыя ў БССР была антынацыянальнай.

Менавіта правячая камуністычная партыя БССР была першым і галоўным ворагам беларускай незалежнасьці, мовы і культуры. Менавіта зь мясцовай камуністычнай адміністрацыяй найперш змагаўся не на жыцьцё, а на сьмерць за незалежнасьць, дэмакратыю і суверэнітэт Беларусі Беларускі Народны Фронт.

Кіруючыя камуністычныя партыі Прыбалтыйскіх савецкіх рэспублік не выступалі супраць суверэнітэту сваіх краінаў, далі магчымасьць вольна дзейнічаць Народным Франтам і шмат у чым нават спрыялі іхняе дзейнасьці. Незалежнасьць там не зьяўлялася унутраннай грамадзкай праблемай, а толькі пытаньнем часу.

Для таго каб нацыя рэалізавалася цалкам як культурная і дзяржаўна-гістарычная агульнасьць людзей, патрэбны пэрыяд яе дзяржаўна-культурнага станаўленьня. Гэта ў сярэднім 20 гадоў – адно пакаленьне. Пэрыяд дзяржаўнага незалежнага станаўленьня мелі ўсе нацыі, якія стварыліся ў XIX-XX стагоддзях. 22 гады прыбалтыйскай нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці зрабілі гэтыя нацыі незьнішчальнымі. Сталінскія рэпрэсіі не падрэзалі іхняе нацыянальнае выжываньне, бо сьведамым быў ужо ня толькі нацыянальны авангард, але ўвесь народ, усё пакаленьне. Нацыянальнае прарастала натуральна нават у камуністычнай форме.

Беларусь ня мела пэрыяду незалежна-дзяржаўнага нацыянальнага станаўленьня. БНР была задушана ў зародку. Пад савецкай акупацыяй вырасла пакаленьне няпомнячых і няведаючых. І вось у такіх умовах нешматлікая нацыянальная эліта – Беларускі Народны Фронт – распачала барацьбу з камунізмам за волю і незалежнасьць краіны.

(У ацэнках зазначу, чаму я лічу Лукашэнку самым вялікім палітычным злачынцам у Беларускай гісторыі. Ён сьведама скалечыў маладосьць нацыі, сьведама ня даў ёй нацыянальна-культурна рэалізавацца ў дзяржаве, вырасьці, стаць на ногі. Каб направіць калецтва, спатрэбіцца яшчэ мінімум адно пакаленьне ў вольнай нацыянальнай Беларусі, а ў рэчаіснасьці – два).

Стварэньне і дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту стала сапраўды ўнікальнай і адметнай старонкай у барацьбе за свабоду на ўсім абшары СССР.

Нагадаю становішча. У 1980-х гадах Савецкі Саюз зайшоў у фінансавы і эканамічны тупік. Крах быў непазьбежны. Ратуючыся, камуністы аб’явілі пра перабудову сістэмы, зьмякчылі цэнзуру і абвясьцілі галоснасьць, магчымасьць людзям удзельнічаць у выбарах. Грамадзтва прышло ў рух. У 1988 годзе ў Эстоніі ў асяроддзі нацыянальнай камуністычнай і творчай інтэлігенцыі ўзьнікла ідэя стварэньня Народнага Фронту – руху за дэмакратыю, свабоду і суверэнітэт.

Пасьля Эстоніі наступны Народны Фронт быў створаны ў Латвіі, потым у Летуве і, нарэшце, нечакана для Масквы і мясцовых камуністаў – у Беларусі.

Усе сілы каланіяльна-камуністычнай сістэмы ў Беларусі былі кінутыя на недапушчэньне зьяўленьня Народнага Фронту. Кіраўнікі КПБ урачыста паабяцалі ў Маскве, што ў Беларусі Народнага Фронту ня будзе. Выношваліся нават планы стварыць свой „народны фронт” зь ліку камуністаў, каб забегчы наперад і скампрамэтаваць ідэю.

Усё прышло ў рух пасьля адкрыцьця Курапатаў. Падзея перавярнула сьведамасьць грамадзтва, узьняла людзей да актыўнай пазыцыі. Беларускі народ засьведчыў, што ён духоўна жывы і яму не абыякавы лёс свайго мінулага і будучыні краіны.

Адкрыцьцё Курапатаў паўздзейнічала на становішча ва ўсім СССР. У Курапатах упершыню былі выяўлены рэальныя ўлікі генацыду беларускага народа, улікі, якія маглі стаць доказам у судзе над камунізмам. Камуністы ўспалашыліся, мабілізавалі свае сілы і… ўпершыню прайгралі. Нічога ім не дапамагло. Вымушаны былі прызнаць факт расстрэлаў нявінных людзей органамі НКВД. Гэта быў удар, ад якога КПСС ужо не паднялася, і першы цьвік у труну расейскага камунізму.

Пасьля адкрыцьця Курапатаў ідэя Народнага Фронту вісела ў паветры. Але арганізаваць яго фармальна было вельмі цяжка. Камуністы і агентура, як кажуць, сядзелі ў кожнага на карку. Небясьпеку ўяўлялі таксама розныя актыўныя балбатуны, якія пачалі зьбірацца ў розныя клубы, кшталту „Современник” і выступаць паруску пра дэмакратыю ды эканоміку, абмяркоўваючы прачытанае ды пачутае, ды шкадуючы, што няма ў Беларусі яшчэ народнага фронта. Калі б такая дэмакратычна-касмапалітычная тусоўка выскачыла б, раптам, з заявай пра стварэньне народнага фронту, то ідэя была б спрафанаваная, а грамадзтва дэзарыентаванае.

Народны Фронт (як паказалі падзеі ў Прыбалтыцы) – гэта перш за ўсё нацыянальна-дэмакратычны рух за суверэнітэт і

незалежнасьць краіны. Толькі на нацыянальнай ідэі можна было аб'яднаць нацыю на змаганьне за ідэалы свабоды і незалежнасьці. Любая прафанацыя (асабліва ў беларускіх умовах) магла б фатальна пашкодзіць справе.

Усё гэта змусіла прысьпешваць працу. Летам 1988 года ў Менску пад уплывам адкрыцьця Курапатаў была створана арганізацыйная група „Камітэт 58", якая пачала рыхтаваць дакументы і канфэрэнцыю па стварэньні арганізацыі „Мартыралог Беларусі". Тут рыхтаваўся той траянскі конь, на якім можна было ўехаць у Беларускі Народны Фронт. У „Камітэце 58", аднак, пра гэта ня ведаў ніхто. Інакш ідэя магла б не ажыцьцявіцца.

У кастрычніку мы (арганізацыйная група «Камітэту-58) рэзка прысьпешылі скліканьне ўстаноўчай канфэрэнцыі Мартыралога, бо была засьцярога, каб камуністы не скарысталі маргінальных дэмакратаў і не справакавалі прафанацыі ідэі Фронту.

Камуністы былі супраць арганізацыі Мартыралога. Нас падтрымаў Саюз Кінематаграфістаў і дазволіў правесьці канфэрэнцыю ў Доме Кіно (будынак касьцёла сьвятых Сымона і Алены, так званы „Чырвоны Касьцёл"). На сход мы запрасілі прадстаўнікоў Менгарсавета, Пракуратуры БССР, Міністэрства Ўнутраных Справаў і іншыя ўлады. Усе яны прышлі, каб даць нам бой. І далі бой, але прайгралі, бо нас было больш. Людзі зьехаліся з усёй Беларусі і прагаласавалі за Мартыралог.

І тут камуністычныя ўлады трапілі ў фатальную пастку, што выклікала потым паніку ў шэрагах іхняга начальства. Пасьля таго, як мяне абралі на старшыню Мартыралога, я паставіў пытаньне аб стварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту і аб ператварэньні дэлегатаў канфэрэнцыі ў арганізацыйны сход па стварэньні БНФ. Заля ўзарвалася ад воплескаў і грому энтузіязма. Прытым кожны меў права галасаваць (у тым ліку і запрошаныя камуністычныя начальнікі). Трэба было бачыць іхнія фізіяноміі. Яны ў большасьці не галасавалі, альбо галасавалі супраць і такім чынам супраць волі ўдзельнічалі ў стварэньні БНФ. Начальства і агентуры было больш за сто асобаў. Але гэта менш 1/3 дэлегатаў, і камуністы не маглі ўжо сарваць стварэньне БНФ, а іхны ўдзел засьведчыў унікальны дэмакратызм сходу, калі ў стварэньні Фронту вымушана прынялі ўдзел нават яго ворагі (паўтаруся, хоць і супраць сваёй волі).

Праз два тыдні, 30-га кастрычніка 1988 года, у час масавага сьвяткаваньня „Дзядоў", камуністы вырашылі адпомсьціць Фронту за ганьбу і разгромнае паражэньне. Рыхтавалі крывавую лазьню кшталту Алма-Аты 1986 года з задумкай зваліць віну на Фронт і, абазваўшы ўсіх франтаўцаў фашыстамі, расправіцца і разграміць народны рух. Тады ўпершыню ўлады выкарысталі сьлезацечны газ, зьбілі шмат людзей. Але мы разгадалі злавесную задумку камуністаў. Пра гэта намі было гучна аб'яўлена з просьбай не паддавацца на правакацыю. І ніхто не паддаўся. Творчая інтэлігенцыя пасьля гэтых падзей адвярнулася ад камуністаў. Правакацыя ганеба правалілася, а водгульле яе пракацілася па ўсім СССР і мела вырашальнае значэньне для далейшых падзей у Савецкім Саюзе.

30-га кастрычніка 1988 года Беларускі Народны Фронт засьведчыў для ўсёй савецкай імпэрыі, што грубую камуністычную сілу можна перамагчы розумам і вытрымкай. Гэтая маральна-палітычная перамога БНФ была вызначальнай. Фронт стаў пашырацца па ўсёй Беларусі хуткімі крокамі.

Калі б жа беларусы не зразумелі тады планаў правакатараў і ўвязаліся ў бойку (унутраным войскам, як потым высьветлілася, былі раздадзеныя баявыя патроны), то камуністы патапілі б Менск у крыві, і кроў палілася б па ўсёй савецкай імпэрыі.

26 лютага 1990 года Беларускі Народны Фронт зноў паказаў прыклад змаганьня ўсяму Савецкаму Саюзу. На плошчы Незалежнасьці (тады – Леніна) БНФ сабраў масавы мітынг, больш за сто тысячаў людзей. На мітынгу было прынята рашэньне ісьці да будынка тэлебачаньня, браць будынак і выступіць у адкрытым эфіры з крытыкай камуністаў і зваротам да народу падтрымліваць Народны Фронт. Усё так і было зроблена спакойна, без штурханьня і зьняваг. Тэлебачаньне і ахова проста капітулявалі перад народам. 15 хвілін мы казалі ў эфір тое, што лічылі патрэбным казаць.

Дзьве гадзіны пасьля нашага эфіру вісела на экране нерухомая застаўка. Потым яна адчынілася і на экране ўсе ўбачылі членаў бюро ЦК КПБ, сакратароў ЦК, міністраў і т.п. – усіх 11 асобаў, якія сядзелі з разгубленымі тварамі і мямлілі свой камуністычны „адлуп".

У гэтым жа годзе 7-га лістапада Беларускі Народны Фронт арганізаваў і правёў першую ў СССР масавую антыкамуністычную дэманстрацыю. Трыццаць-сорак тысячаў дэманстрантаў ішлі па праспэкту і скандавалі „Далоў камунізм", а на плошчы Леніна скінулі пад ногі помніка галоўнаму злачынцу атрыбуты ленінскага камунізма.

У камуністаў БССР пасьля гэтага была зацяжная гістэрыка, а ў маскоўскіх уладаў ціхі стаўбун. Камунізм трашчэў. Беларускі Народны Фронт быў на вастрыі змаганьня з камунізмам ва ўсім СССР.

У Прыбалтыцы ў гэты час адбываліся масавыя акцыі Народных Франтоў за сувэрэнітэт без канфліктаў і сутыкненьняў, а ў Беларусі – пік антыкамуністычнай барацьбы. Тут кожны з нас разумеў, што не ліквідаваўшы антыбеларускі прарасейскі камунізм, аб незалежнасьці Беларусі ня можа быць і гаворкі. Камунізм і правячыя тут камуністы былі галоўнымі ворагамі незалежнасьці Беларусі.

Беларускаму Народнаму Фронту ўдалося зрабіць у Беларусі амаль што немагчымае – ліквідаваць камунізм і дамагчыся незалежнасьці краіны. Таму я часта паўтараю, што палітыка – гэта ёсьць мастацтва немагчымага.

Тыя надзвычаныя хвалюючыя дні змаганьня, асабліва, калі ў жніўні 1991-га мы дасягнулі Незалежнасьці, нібы сёньня стаяць у маіх вачах. І спадзяюся, у памяці маіх сяброў, якія яшчэ засталіся жыць. Кожны з нас тады адчуў і перажыў хвіліны незвычайнага шчасьця, якое ні з чым нельга параўнаць. І напэўна шмат хто з нас сабе падумаў, што дзеля гэтага, дзеля шчасьця дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі варта было жыць на сьвеце, якім бы цяжкім не сталася тое жыцьцё.

Мінула 25 гадоў калі быў створаны Беларускі Народны Фронт і запаліўся агонь свабоды. Іскры гэтага агню гараць і сьвецяць па сёньняшні дзень. І настане новы дзень, і прыдзе такі вызначальны час, калі з іскры Адраджэньня зноў узгарыцца полымя Волі і зашугае да неба. Набліжайма гэты дзень.

Жыве Беларусь! Слава героям!

*19 кастрычніка 2013 года.*

# ФАЮМСКІ ПАРТРЭТ

Некалькі слоў пра фаюмскі партрэт. На гэтую тэму шмат напісана. Зьява ў жывапісе надзвычайная. Тут, у гэтым кароткім эсэ, я хацеў бы занатаваць свае пачуцьці і развагі.

З усяго сусьветнага жывапісу, які мне прыходзілася бачыць у ілюстрацыях і арыгінале, найбольшае ўражаньне на мяне робіць фаюмскі партрэт. Тут такое моцнае эстэтычнае ўстрасеньне, як ад старой даўняй фатаграфіі – узьнікае шчымленьне душы. Бальшыня партрэтаў напісаныя ў дзівоснай рэалістычнай манеры. Яны выяўляюць такую выразнасьць індывідуальнага вобраза, якую сапраўды можна параўнаць толькі з фатаграфіяй. Гледзячы на гэтыя партрэты, увесь эўрапейскі партрэтны жывапіс, уключаючы рэнесанс і ўсе клясычныя стылі, здаецца калі ня мёртвым, то нейкім прыдуманым, штучным.

Падкрэсьлю два аспэкты, якія выклікаюць захапленьне гэтымі партрэтамі. Найперш усе вобразы (якія надзвычай разнастайныя) добра пазнавальныя як тыпажы і цалкам псіхалагічна зразумелыя – узьнікае такое пачуцьцё поўнай адкрытасьці, здаецца, чуеш іх галасы і бачыш знаёмыя манеры. Са зьдзіўленьнем усьведамляеш, што гэта цяперашнія людзі, нашыя сучасьнікі, толькі жылі яны амаль дзьве тысячы гадоў таму. Гэта проста шакуе сьвядомасьць, настолькі максымальна набліжаныя да нас гэтыя людзі. Многіх зь іх я бачу на вуліцах Нью-Ёрка, сустракаў ў Варшаве і Менску.

Па вопыту ведаю, што блізкі і зразумелы нам зьнешні воблік чалавека, як правіла, абманлівы, калі маем справу з асобай іншай цывілізацыі, культуры і іншай сістэмы каштоўнасьцяў. У адносінах зь імі паступова выяўляецца поўны „некантакт”, бо там, дзе ім сьмешна, нам прыкра, тое, што мы шануем, яны не заўважаюць, тое, што для іх важна, для нас здаецца мізэрным і нават нікчэмным. Але аблічча такога чалавека падобнае, як у нас: аднолькавыя ўсе рэакцыі і пачуцьці, якія на ім адбіваюцца. Мы падобныя, але ўяўленьні і каштоўнасьці ў нас іншыя.

Не сумняваюся, што так ёсьць і з асобамі, адлюстраванымі ў фаюмскіх партрэтах. Але ўражаньне сучаснасьці іхных абліччаў, зразумеласьць іхнай натуры і душэўнай сутнасьці такія моцныя, што рацыянальна пазбавіцца ад гэтага ўражаньня немагчыма. Як і ў старой фатаграфіі, тут адчуваньне трансцэндэнтнага вобразу і спрэсаванага часу, дакладней – адзінства часу, успрыняцьце яго толькі як сучаснасьці (гэта значыць вечнасьці).

Такому адчуваньню часу як вечнай сучаснасьці спрыяюць, на мой погляд, некалькі чыньнікаў.

1. Псіхалагічны чыньнік – усьведамленьне, што гэта рытуальныя пасьмертныя партрэты, мэта якіх – перадача падабенства і сутнасьці памерлага. (Функцыя, якую раней выконвала зьлепак-маска.)

2. Тэхналагічна-эстэтычны чыньнік – партрэты (бальшыня зь іх) напісаны ў тэхніцы энкаўстыкі, якая выяўляе аб’ёмнасьць жывапісу і мазка. (Потым стала ўжывацца тэмпера, але эстэтычныя падыходы засталіся тыя ж.)

3. Вобразна-эстэтычны чыньнік уключае ў сабе глыбока распрацаваную традыцыю жывапісу, накіраваную на раскрыцьцё ўнутранай сутнасьці кожнага індывідуальнага чалавека праз зьнешняе падабенства.

Характэрнасьць гэтай традыцыі – спалучэньне рэалістычных (натуралістычных) і ўмоўных прыёмаў пісьма ў адным вобразе.

Другая характэрнасьць: стварэньне выразнасьці вобраза праз акцэнтацыю базавых канструкцый партрэта (складнікаў аблічча). Гэта найперш – вочы. У меншай ступені – губы і нос. Астатняе (прычоска, валасы, вейкі, складкі, маршчыны і інш.) можа передавацца альбо рэалістычна, альбо ўмоўна, нават схематычна і графічна. Жывасьць і выразнасьць аблічча ад гэтага не зьнікае, а наадварот, – узмацняецца.

Заўважу, што ў такой манеры жывапіснай традыцыі закладзены асновы множнасьці стыляў, фактычна, неабмежаваныя магчымасьці творчасьці без адыходу ад базавай асновы традыцыі.

І тут я адзначаю другі аспэкт захапленьня ва ўспрыняцьці фаюмскага жывапісу.

У гэтых партрэтах і ў такой манеры пісьма закладзены асновы і пачаткі ўсіх гістарычных стыляў жывапіснага партрэту, якія існавалі потым у сусьветным жывапісе на працягу двух тысячаў гадоў разьвіцьця мастацтва. Тут бачны стылёвыя прадпасылкі партрэтаў сьпелага рэалізму, рамантызму, акадэмізму, падыходаў клясыцызму, барока і ракако, імпрэсіянізму, экспрэсіянізму, мадэрну і г. д.

Мастацтвазнаўцы ўжо даўно адзначылі, што візантыйскае іконапісаньне самым непасрэдным чынам зьвязана з стылістыкай і манерай фаюмскага жывапісу. Гэта відаць з першага погляду, асабліва ў трактоўцы вачэй і мадуляцыі аблічча. Сувязь з далейшай гісторыяй жывапісу яскрава вынікае пасьля прагляду вялікай колькасьці гэтых старажытных твораў.

Я пазнаёміўся з фаюмскім партрэтам у інстытуце (цяпер Акадэмія мастацтваў), праглядаючы альбомы жывапісу і слухаючы лекцыі. Рэпрадукцыі твораў выклікалі ў мяне здуменьне – адкуль такі дзіўны жывапіс у Эгіпце часоў Ісуса Хрыста? Потым я прышоў да думкі, што ў Эгіпце, дзе жывапісная культура мастацтва існавала ўжо шэсьць тысячаў гадоў, тут якраз усё і сфармавалася і пачалося, – усе асноўныя жывапісныя падыходы, прыёмы і азначэньні. І гэта нягледзячы на вельмі строгія правілы ў жывапіснай традыцыі, якая рэгламентавалася рэлігійным культам.

Усё даўно ўмелі эгіпецкія мастакі, усё маглі, але гэтае ўменьне вольна выявілася толькі ў фаюмскім партрэце на пераломе тысячагоддзяў, калі ў пахавальным абрадзе адбыліся зьмены і зьявіліся новыя рэалістычныя адэкватныя патрабаваньні да мэмарыяльнага жывапісу.

Дзесьці ў канцы 90-х гадоў я незаплянавана наведаў Мэтраполітэн Музэй у Нью-Ёрку, каб зьняць муляжы рыцараў на канях. Там якраз адбывалася выстава фаюмскага партрэта з розных музэяў і калекцыяў. Выстаўлена было каля сотні партрэтаў. Я патрапіў на гэтую выставу і быў ашаломлены.

Я ўбачыў тое, пра што тут пішу: зародак партрэтнага мастацтва двух тысячагоддзяў Эўропы. Сама атмасфэра ў залях выклікала трымценьне.

Найперш, тут былі арыгіналы. Кожная карціна зьмешчана ў чорнай урне за шклом, мела індывідуальнае асьвятленьне слабым сьвятлом ад звычайнай лямпы накальваньня.

Фатаграфаваць было забаронена, але я ў гэтым паўзмроку незаўважна трохі ўсё ж паздымаў на чорна-белую стужку. Тое і засталося.

Цяпер, праз пятнаццаць гадоў, сытуацыя непазнавальна зьмянілася. У Сеціве поўна каляровых рэпрадукцый з фаюмскіх партрэтаў. Можна мець даволі адэкватнае ўяўленьне. Мастацтвазнаўцы падлічылі, што ўжо вядома каля тысячы такіх пахавальных партрэтаў з Эгіпту. Цэлы сьвет глядзіць адтуль у вечнасьць жывымі вялікімі вачыма, у якіх адбіваюцца душы пакаленьняў мінулых людзей, і аблічы іх прыгожыя. Мне здаецца, нават лепшыя, чым у сучаснага сапсаванага сьвету.

*17 чэрвеня 2013 г.*



*281. Фаюмскі партрэт (фрагмэнт).*

# ФАТАГРАФІІ

1. Фота 1996 г.
2. Дождж.
3. Акацыя.
4. Чарот.
5. Дажджлівы дзень над вадой.
6. Сонечны дзень.
7. Жоўтыя кветкі.
8. Вясновы першацьвет.
9. Ружа.
10. Нарцызы.
11. Асеньнія дрэвы.
12. Жоўтыя галінкі.
13. Чырвонае лісьце (Нью-Джэрзі)
14. Апалыя лісты.
15. Асеньні эцюд.
16. Зімовы вечар.
17. Жоўтыя воблакі над сінім морам.
18. Блакітная далячынь.
19. Блакітны дзень.
20. Спакой над акіянам.
21. Прыбой.
22. Хмара над акіянам.
23. Прасьвет над вадой у дажджлівы дзень.
24. Серабрыстыя хвалі.
25. Белая ноч над залівам.
26. Карабель, асьветлены сонцам з-за хмар.
27. Вечар над залівам.
28. Сьвітаньне над акіянам.
29. Начны круіз.
30. Паходка.
31. Пірс-1.
32. Пірс-2.
33. Пірс-3.
34. Погляд з Пірса.
35. Адліў.
36. Далёка на гарызонце.
37. Самотная чайка.
38. Воблакі па дарозе ў Вільню.
39. Воблакі над Аўгустоўшчынай.
40. Боскае неба.
41. «Сьвінцовыя хмары».

42. Барвяны захад.
43. Нізкія воблакі над акіянам.
44. Першая квадра. (Зьнята: кмпкт Sony DSC-HX100V; ½,3).
45. Марская ракавіна на пяску, асьветленая сонцам.
46. Месяц між хмар.
47. Платан, асьветлены Месяцам.
48. Пыркі прыбою.
49. Поўня.
50. Ракавіна.
51. Поўня сьвеціць у вакно.
52. Сьвятло ў вакне.
53. Перакулены Месяц.
54. Чайкі на беразе.
55. Чайкі лунаюць.
56. Кармараны золкім днём.
57. Чайка над вадой.
58. Крыльлі Анёла.
59. Узьлятае галуб.
60. 60-61 Чайкі лятаюць.
61. Чайкі лятаюць.
62. Палёт гусей.
63. Гусі над вячэрняй вадой.
64. Лебедзі на вадзе.
65. Буравесьнік.
66. Палёт над кадрам.
67. Чайка ў фас.
68. Галуб наўпрост.
69. Партрэт галубкі.
70. Партрэт галуба.
71. Чайка нізка ляціць.
72. Драпежная чайка ляціць на фоне воблакаў.
73. Чайка пікіруе.
74. Чайка узьлятае.
75. Чайка апускаецца.
76. Чайка ў павароце.
77. Чайка лунае.
78. Качка на люстранай вадзе.
79. Качкі ў горадзе зімой.
80. Віленскі верабей.
81. Кроплі на шкле.
82. У засені дрэў.
83. Старасьвецкая студня ў Браславе. (Псэўдасалярызацыя. Зьнята ў 1968 годзе. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Браслаўшчына»).
84. Абразок Айчыны.
85. Дождж над вячэрняй сажалкай.
86. Памятны камень у Залесьсі. (1994 г.).
87. Брамка ў Малых Салечніках. (2012 г.).
88. Бледны месяц над касьцёлам. (Вільня, 2012 г.).
89. Ганна і Бэрнардынец. (Вільня, 2012 г.).
90. Брама ў Дзявенішках. (2012 г.).

91. Нарвілішкі. Позірк на замак.
92. Рэчка Мерачанка каля Паўлава. (2012 г.).
93. Краявід на Віленшчыне.
94. Высокая трава пад Дзявенішкамі. (2012 г.).
95. Хутар пад Вільняй. (2009 г.).
96. Пад Вільняй ля Віленкі. (2008 г.).
97. Першы сьнег на хутары пад Вільняй. (2009 г.).
98. Вільня надвячоркам. Катэдральны пляц. (2012 г.).
99. На Завальнай. (Вільня, 2012 г.).
100. Уваход у закрыстыю.
101. Панарама Тургеляў. (2012 г.)
102. Брамка і касьцёл у Каменцы. (2012 г.).
103. Брама касьцёла ў Тургелях (2009 г.).
104. Партальны фасад касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы. (Вільня, 2009 г.).
105. Вежа касьцёла сьвятога Яна. (Вільня, 2012 г.).
106. Дзьверы касьцёла Увазнясеньня Гасподняга і кляштару місіянераў. (18 ст. Вільня, фота 2012 г.).
107. Асеньні хутар на Валожыншчыне. (Зьнята ў пач. 1970-х гг., «Іскра» 6х6).
108. Акно ў Брукліне. (2008 г.).
109. Дом часовага пражываньня. (2010 г., Бруклін).
110. Прадметы амэрыканскага быту. (2010 г.).
111. Бруклінскі бадзяжны кот.
112. Вакно на «Ошэн эвеню».
113. Асеньняя Гаўя ў Куце. (Зьнята ў пач. 1970-х гг.).
114. Укрыжаваньне са збору Габсбургаў. (Зьнята ў музэі ў Вене. 2010 г.)
115. Касьцёл ў Еленяй Гуры (Гіршбэрг). Зьнята ў 2008 г.
116. Скульптура перад уваходам у Францішканскі касьцёл у Новым Ёрку. (Зьнята ў 2012 г.)
117. Галоўны нэф сабора сьвятога Патрыка ў Нью-Ёрку. (Зьнята ў 2005 г.)
118. Інтэр’ер касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы ў Вільні. (Зьнята ў 2008 г.)
119. Галоўны алтар драўлянага касьцёла вікінгаў XII-XIII ст. (Карпач каля Еленяй Гуры. Польшча. Зьнята ў 2008 г.)
120. Кніга, уратаваная з агню.
121. Летні заліў.
122. Вясеньняе ворыва на Сакольшчыне (зьнята ў 2010 г.).
123. Чырвоная зямля. Сувальшчына. (2010 г.).
124. Зімовае поле на Сакольшчыне. (2008 г.).
125. Поле перад заходам сонца каля Ломжы.
126. Ворыва на Сакольшчыне.
127. Вясеньні эцюд пад Аўгустовым. (2008 г.).
128. Нарвілішкі. Не было тут ніколі мяжы. (2008 г.).
129. Азёрны чарот.
130. Платаны ў горадзе.
131. Вясеньняя панарама з голым дрэвам.
132. Сукаватае дрэва.
133. Вясеньні, шэры, мокры дзень. (Беласточчына, 2003 г.).
134. Гэта не насарог, гэта жырафа.
135. Драўляная скульптура каля касьцёла Дзевы Марыі на Зьвярынцы. Вільня 2008 г.
136. Успамін пра Вялікае Княства.
137. Стравус.
138. Вакно ў сад.
139. Крапіва пад ветрам і сьнегам.

140. Жаночы торс (фотаграма, 1965 г.).

141. Фантастычны кот. (Беларускае мастацкае шкло. Зьнята ў 1968 г.)

142, 143, 144. Трыпціх «Брама» (Святар, Прамень, Анёл). 2012 г.

145. Рабаценьне вады пад Мірскім замкам. (1969 г.).

146. Старая шафа.

147. Зімовая вёска на Валожыншчыне. (1995 г.).

148. Хаты пад сьнегам. (1995 г.).

149. Зіма ў вёсцы. (1995 г.).

150. Зімовы задворак. (1995 г.).

151. Сьнежная зіма. (1995 г.).

152. Вербы пасьля сьнегападу.

153. Зімовая дарога. (1995 г.).

154. Сівы конік у Залесьсі (1995 г.).

155. Вяскоўцы ідуць па дарозе зімой на прыпынак аўтобуса. (1995 г. Ашмяншчына).

156. Пульхны сьнег на кустах.

157. Дамок пад сьнегам ноччу ў менскай Грушаўцы. (1995 г.).

158. Сьнег ў сасновым лесе.

159. Ўздоўж дарогі мільгаюць зімовыя дрэвы.

160. Цьвітуць мірабэлькі.

161. Зімовае гольле.

162. Белы цьвет.

163. Сьнегапад у Амэрыцы. (1997 г.).

164. Засьнежаны падлесак на Смаргоншчыне. (1995 г.).

165. Вярбовае лісьце.

166. Кусты ў сьнезе.

167. Цьвітучы куст.

168. Балтыйскае мора раньняй вясной. (2008 г.).

169. Трава на пяшчаным марскім беразе.

170. Летняе ўзьбярэжжа Балтыйскага мора. (2008 г.)

171. Сасновы лес на пяшчаных выдмах.

172. Сосны на выдмах. (2008 г.).

173. «Сёрф эвеню» ў Брукліне (2012 г.).

174. Мангэттан з вышыні. (1998 г.).

174-а. Чалавек з сабакам (Новы Ёрк).

175. «Брайтан Біч эвеню» летнім днём (Бруклін).

176. Чарга на міжгародні аўтобус ноччу ля аўтобуснага вакзала (Новы Ёрк, 1996 г.).

177. Афраамэрыканец у вагоне мэтро. (Новы Ёрк, 1997 г.).

178. Стылёва дагледжаная спадарыня вывучае мэню ў рэстаране. (Новы Ёрк, 1996 г.).

179. Спадарыня ў краме, адвярнуўшыся, зазірае ў сашэтку з грашыма. (Новы Ёрк, 1996 г.).

180. Афраамэрыканскі тыпаж ў мэтро з характэрным напружаным позіркам. (Новы Ёрк, 1996 г.).

181. Тыпаж ў кепцы. (Новы Ёрк, 1996 г.).

182. Два габрэі каля крамы ў Нью-Ёрку. (1996 г.).

183. Спадарыня з пластмасавай ёмкасьцю ў краме выбірае тавар. (Нью-Ёрк).

184. Арабская жанчына пераходзіць вуліцу. (З цыклу «Арабы», Нью-Ёрк, 2012 г.).

185. Юначка прыехала ў горад Нью-Ёрк. (1996 г.).

186. Сярэдні Мангэттан. (1997 г.).

187. На 8-й звэню ў Мангэттане. (1996 г.).

188. Паліцэйскі ў дзень выпуску паліцэйскай школы ў Мангэттане. (1997 г.).

189. Фрагмэнт касьцёла на Брадвэі. (Нэавіктарыянскі стыль, XIX ст., архітэктар Джэймс Рэнвік. Зьнята ў 1997 г.).

190. На беразе заліва ў Новым Ёрку я бачыў некалькі рэдкіх прыродных зьяў. Аднойчы, у пачатку восені цёплым верасьнем, прыплыло з-над акіяна белае воблака і, даплыўшы да берага, на вачах апусьцілася ў горад. Я назіраў гэта з вышыні і пасьпеў сфатаграфаваць за тыя некалькі хвілін, калі яно клубілася між дамоў і дахаў прыбярэжных вуліц. Пацямнела, схавалася сонца і людзі думалі, што гэта туман.

191. Вячэрні Пазнань. Польшча. (1997 г.).

192. Вячэрняя Прага. Чэхія. (1998 г.).

193. Віленская катэдра; фрагмэнт фасаду. (Зьнята ў 2011 г.).

194. Касьцёл сьвятой Кацярыны ў Вільні на фоне воблакаў. (Зьнята ў 2010 г.).

195. Будынак Віленскага палацу прафсаюзаў, у якім 24-25 чэрвеня 1989 г. адбыўся Першы (установчы) Зьезд Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». (Зьнята ў 2012 г.).

196, 197. Варшаўскія Атланты. (Зьнята ў 2012 г.).

198. Старая Варшава, класіцызм. (Зьнята ў 2012 г.).

199. Стары Талін. Гарадзкая сьцяна знутры. (Зьнята ў 2008 г.).

200. Стары Талін. Гарадзкая сьцяна з вонку. (Зьнята ў 2008 г.).

201. Старая галерэя. Польшча. Еленя Гура (Гіршбэрг). Зьнята ў 2008 г.

202. Старая галерэя. Чэхія, Прага. (Зьнята ў 2008 г.).

203. Від на вячэрні Сігейт (Бруклін). Зьнята ў 2012 г. (Sigma SD14, RAW).

204. Рэкляма ў Мангэттэне. (2011 г.).

205. Дзелавыя людзі, якія сьпяшаюць. (Нью- Ёрк, 2010 г.).

206. Людзі, якія сьпяшаюць без патрэбы. (Бруклін, 2011 г.).

207. На выхадзе з мэтро. (Бруклін, 2012 г.).

208. Вулічны кірмаш. Гандаль афрыканскім мастацтвам. Бруклін, 2009 г.).

209. Танцы ў Вільні. (2010 г.).

210. Танцы ў Брукліне. (2010 г.).

211. Верасьнёвым вечарам натоўп прагульваецца ўздоўж надбярэжнай ў раёне Бэнсангёрст ў Брукліне. Зьнята ў 2010 г.

212. Двох спадароў у кароткіх портачках і белых шкарпэтах спускаюцца ў мэтро. (Нью-Ёрк, 2011 г.).

213. «Сёрф эвэню» ў раёне «луна-парку» (Бруклін, 2012 г.).

214. Афрыканская прыгажуня ідзе па вуліцы (Нью-Ёрк, 2012 г.).

215. Гэта жанчына. (Варшава, 2012 г.).

216. Афрыканская прыгажуня ў мэтро чакае цягніка. (Нью-Ёрк, 2012 г.).

217. Стылёва апранутая жанчына ў мяшчанскім гусьце «постмадэрн». (Нью-Ёрк, 2012 г.).

218. Сакура ў Нью-Ёрку. (2012 г.).

219. Жанчына з СССР, якая курыць (Нью-Ёрк).

220. Нью-Ёрк у пач. XX-га ст. Зьнята з павялічанага фота на сьцяне гаража ў Мангэттане.

221. П’яны Томас. (З цыклу «Стары Талін», 2008 г.).

222. «Тоўстая Маргарыта» (зьлева). З цыклу «Стары Талін», 2008 г.

223. Зялёны краявід з бацяном. Сакольшчына на Падляшшы. (Зьнята ў 2010 г.).

224. Краявід з хутарам на Верхнім Падляшшы. (Фота 2010 г.).

225. Далёкі хутар. Краявід на Верхнім Падляшшы.

226. Сакольшчына. Краявід.

227. Краявід з Падляшша з каровамі.

228. Краявід з Падляшша з коньмі.

229. Сядзіба на Аўгустоўшчыне.

230. Азёры на Аўгустоўшчыне.

231. Аўтапартрэт з сябрам. (Зьнята ў 1958 г. Super Ikonta 4,5 x 6).

232. Сьветлая дзяўчына. (Менск, 1964 г. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Мінск»).

233. Браслаўскі рыбак дзед Ваявода (97 гадоў, Браслаў, 1968 г.). «Салют» 6 x 6. Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Браслаўшчына»).

234. Партрэт Аляксандра Міцкевіча пляменьніка Якуба Коласа. Новы Ёрк, 2008 г.

235. Партрэт Маці Міхася Чарняўскага Марылі. (Фота 1969 г.).

236. Унук і баба. З цыклу «Арабы» (Новы Ёрк, 2012 г.).

237. Замілаваньне на бруклінскай звэню. (Бруклін, 2012 г.).

238. Максім Танк з маці. (Фота сярэдзіны 1960-х гадоў. «Любіцель» 6 х 6. Здымак узяты з Сеціва з малым дазволам. Нэгатыў недаступны.)

239. Фрагмэнт вуліцы Няміга ў Менску. (Зьнята ў 1965 г. «Іскра» 6 х 6.)

240. Вуліца Няміга ў Менску. (Фота 1963 г.).
Тысячы здымкаў старога Менска, які я здымаў у 1960-1980-х гадах, -- недаступныя. Тут зьмяшчаю тры фота і некалькі рэпрадукцыяў з кніг і фотаалббомаў, выдадзеных мной раней. Стары Менск, вынішчаны пасьля вайны, варты пашаны і адзначэньня.

241. Плошча Свабоды ў Менску. 1970-я гады. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)

242. Від на забудову вуліцы Няміга з вышыні. 1965 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)

243. Від на забудову вуліцы Ракаўскай (Астроўскага) з вышыні. 1965 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)

244. Касьцёл сьв. Сымона і Алены ў Менску і плябаня. (Фота 1992 г.)

245. Від на пл. Свабоды ў Менску зь вежы былога касьцёла Бернардынак. 1977 г. (Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)

246. Густы сьнегапад у Менску. 1962 г. (Рэпрадукцыя з аўтарскага фотаальбома «Мінск».)

247. Менскі астрог «Пішчалаўскі замак». (фота 1981 г. «Зеніт», МТО-500. Рэпрадукцыя з кнігі аўтара «Рэха даўняга часу».)

248. Сьлёзы дажджу замерзлыя на шкле. (Фота 1996 г.).

249. Вясновая мроя.

250. Від з вакна на Суботніцкі касьцёл. 1996 г.

251. Дым. (Фота 1996 г.).

252. Ракаўскія мясьціны. Рэчка Яршоўка пры ўпадзеньні ў Іслач.

253. Апошні здымак на Радзіме. Калёны спэцвойска ідуць усьлед за людзьмі пасьля дэманстрацыі. Зьлева ў кадры Сяргей Навумчык. (Фота 24 сакавіка 1996 года. Кмпкт «Алімпус». Нег. Фота-250).

254. Зімовы эцюд ля дома. 1996 г.

255. Чорны кот.

256. ---

257. Кухня.

258. Прасёлак.

259. Вадаспад ля млына на Віленцы.

260. ---

261. Местачковая сям’я зь Ліпнішак перад вайной. (Фота з Інтэрнэт-старонкі «Радзіма».)

262. Віленшчына. Удалечыні вёска Кальвэлі. (2009 г.)

262-а, 263. ---

263-а. Давыд-Гарадоцкі крыж. (Фота 1969 г.)

264, 265. ---

266. Ускраіна Дзявенішак. (2012 г.), 266-а, 266-б

267. Цыганы. (Зьнята ў Давыд-Гарадку ў 1969 г. Справа курыць люлюку цыганскі барон. «Салют» 6 х 6), 267-а

268. Лявон Баразна ў 1950-х гадах.

269. Смаргонскі ансамбаль імя Міхала Клёфаса Агінскага. Сцэнічныя касьцюмы Лявона Баразны. (Зьнята ў 1964 г. «Масква-4» 6 х 9.)

270. Горадзенскі ансамбль «Нёман». Сцэнічныя касьцюмы Лявона Баразны. (Зьнята ў 1964 г.), 270-а

271. Аўтапартрэт. 1964 г.

272. ---

273. Пётра Шашкель у шэсьці на Дзяды. (2008 г.).

274. Саматужная беларуская паштоўка часоў другой нямецкай акупацыі.

275. Рака Гарынь цячэ праз Альшаны. (Фота 1969 г. «Салют» 6 х 6).

276. Даярка з Альшанаў. (Зьнята ў 1969 г. Рэпрадукцыя з аўтарскай кнігі «Глёрыя Патрыя».)

277. Зь дзецьмі. (1994 г. Паездкі дэпутатаў БНФ па Беларусі).

278. Сьцяна мураванага млына ў Зараччы (каля Браслава). Фота 1968 г. «Салют» 6 х 6.

279. ---

280. Раіса Жук-Грышкевіч. (Зьнята ў 1997 г.)

281. Фаюмскі партрэт (фрагмэнт)

# ЗЬМЕСТ

## «НАРОДНАЯ ФІЛАСОФІЯ»

***(Дэфініцыі, артыкулы, нарысы)***

# КНІГІ, ЯКІЯ ВЫШЛІ Ў ВЫДАНЬНІ «БЕЛАРУСКІЯ ВЕДАМАСЬЦІ»

1. Зянон Пазьняк. Новае стагоддзе. – Варшава, 2002 г.
2. Зянон Пазьняк. Гутаркі з Антонам Шукелойцем. – Варшава, 2003 г.
3. Зянон Пазьняк. Вялікае Княства. – Нью-Ёрк, 2005 г.
4. Зянон Пазьняк. Вялікае Княства (2-е выданьне). – Варшава, 2005 г.
5. Зянон Пазьняк. Беларуска-Расейская вайна. Belarus is easten outpost. – Варшава, 2005 г.
6. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі. – Нью-Ёрк, 2005 г.
7. Зянон Пазьняк. Прамаскоўскі рэжым альбо як адбываецца разбурэньне Беларусі (2-е выданьне). – Варшава, 2005 г.
8. Сяргей Навумчык. Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988 – 1995). – Варшава, 2006 г.
9. Галіна Пазьняк. Беларусь у сэрцы. – Варшава, 2007 г.
10. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2007 г. (Містыфікацыя. Выдадзена ў Беларусі, 1/16 д.а., 60 с.).
11. Зянон Пазьняк. Дарога. – Варшава, 2007 г.
12. Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 1, артыкулы і матэр'ялы (1990—III.1996). – Варшава, 2007 г.
13. Парсіваль (2-е выданьне). – Варшава, 2009 г.
14. Зянон Пазьняк. Нацыянальныя каштоўнасьці. – Варшава, 2009 г. (1/32 д.а., 192 с.)
15. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 2, артыкулы і матэр'ялы (IV.1996—2002). – Варшава, 2010 г.
16. Зянон Пазьняк. Цяжкі час. Працяг. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня, кн 3, артыкулы і матэр'ялы (2003–2010). – Варшава, 2010 г.
17. Сяргей Навумчык – Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. – Варшава, 2010 г.
18. Зянон Пазьняк. Дэклярацыя – першы крок да Незалежнасьці. – Варшава, 2010 г.
19. Зянон Пазьняк. Сэсія Незалежнасьці. – Варшава, 2011 г.
20. Зянон Пазьняк. Незалежнасьць Беларусі. 20 гадоў. – Варшава, 2011 г.
21. Зянон Пазьняк, Валеры Буйвал. Абарона Курапатаў. Народны Мэмарыял. – Варшава, 2012 г.
22. Зянон Пазьняк. Добрая фатаграфія. – Варшава, 2012 г.
23. Галіна Пазьняк. Менскі гарсавет у пэрыяд нацыянальнай рэвалюцыі (1990-1991). – Варшава, 2012 г.
24. Зянон Пазьняк. Тэрра Дэй. – Варшава, 2014 г.

***Зянон Пазьняк.*** Беларускі палітык, навуковец, публіцыст і паэт (год нараджэньня 1944). Кандыдат мастацтвазнаўства. Займаўся гісторыяй мастацтва і археалёгіяй. У 1988 годзе адкрыў і археалягічна дасьледваў Курапаты пад Менскам – месца камуна-расейскага генацыду і масавых расстрэлаў беларускага насельніцтва ў 1937-1941 гг. Заснавальнік і адзін з арганізатараў Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" (БНФ, 1988 г.) З 1989 г. – старшыня БНФ. У 1990-96 гг. – дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня (парляманту), караўнік парляманцкай Апазацыі БНФ. Вылучыў канцэпцыю незалежнасьці Беларусі. Пад яго кіраўніцтвам Народны Фронт і дэпутацкая Апазыцыя БНФ у жніўні 1991 г. дамагліся незалежнасьці краіны. Стварыў і ўзначаліў Ценявы Кабінэт, куды ўвайшлі лепшыя вучоныя, палітыкі і грамадзкія дзеячы Беларусі. У 1994 г. – кандыдат у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь. Пасьля ўсталяваньня прамаскоўскага аўтарытарнага рэжыму Лукашэнкі кіраваў Народным Фронтам і знаходзіўся ў апазыцыі да рэжыму. У 1996 г., пазьбягаючы арышту і запляванага забойства з боку антыдэмакратычнага рэжыму, вымушаны быў пакінуць Беларусь.

Аўтар шматлікіх кніг па палітыцы і канцэпцыі Беларускага нацыянальнага Адраджэньня, па мастацтву, архітэктуры і фатаграфіі. Выдаў некалькі зборнікаў паэзіі і фотаальбомаў, сябра Беларускага ПЭН-цэнтру. Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі – БНФ (КХП—БНФ), Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". З 1996 г. знаходзіцца ў палітычнай эміграцыі (адкуль ажыцьцяўляе агульнае палітычнае кіраўніцтва Партыяй і рухам)

*(Інфармацыя КХП—БНФ)*

***Zianon Pazniak***. TThe Belarusian politician, scientist, publicist and poet (born 1944). Doctor of the art history. He researched the art history and carried out the archeological excavations. 1988 he has revealed Kurapaty near Minsk – a place of the communist Russian genocide against the Belarusian people and mass killings of the Belarusian population in 1937-41 and carried out the archeological excavations in this place. 1988 he was the founder and one of the organizers of the Belarusian Popular Front "Adradzennie" (the BPF). Since 1989 he is the Chairman of the BPF. In 1990-96 he was MP of the Supreme Soviet of Belarus of the 12th convocation and acted as the leader of the parliamentary opposition of the BPF. He has elaborated and presented the conception of the independence of Belarus. The Belarusian Popular Front and the parliamentary opposition of the BPF under his leadership achieved the proclamation of the independence of Belarus in August 1991. He has formed the Shadow Cabinet with the best scientists, politicians and public figures of Belarus as members and acted as its leader. 1994 he was nominated a candidate on the presidential elections. After the pro-Moscow authoritarian Lukashenka regime has been established in Belarus he acted as the Chairman of the Belarusian Popular Front in the opposition to the regime. 1996 he was forced to leave Belarus in order to escape the arrest and because the regime has planned to kill him.

He is author of many books on the politics and the conception of the Belarusian national Rebirth, art history, architecture and photo. He has published some collected poetries and photo albums. He is member of the PEN-center. Now he is the Chairman of the Conservative Christian Party – BPF and the Belarusian Popular Front "Adradzennie". Since 1996 he is acting in the political emigration and leading the political activity of the Party and the BPF.

*(The information of the Conservative Christian Party – BPF)*

